# МАЛАДОСЦЬ

падпісныя індэксы
індывідуальны - 74957
ведамасны - 749572
льготны - 00731
льготны
для настаўнікаў - 00592

ISSN 0131 2308
04/2017

04

Маладосць 04/2017

Таму, хто думае

у нумары:

**Юрка Міцкевіч, сын Коласа**
Да 100-годдзя з дня нараджэння

**Фантастычная рэальнасць — тэма нумара**
Джон Рональд Руэл Толкін і нашы

**Прыкметы дзівацтва**
Спіс, які можна пашырыць або палічыць сатырай

**Статут ВКЛ як кніга**
Ад кантэксту ўзнікнення да мастацкага аздаблення

Пяць стагоддзяў беларускага кнігадрукавання за адзін «маладосцеўскі» год

У кожным нумары 2017-га

Хрэстаматыйнае і малавядомае

Ад Скарыны да...

Спецыяльны праект

# «Варштат»






04

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(761) КРАСАВІК, 2017**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар

**Святлана Дзмітрыеўна**

**ВОЦІНАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ**
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп’ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*

Падпісана да друку 17.04.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк.15,33. Тыраж 1350 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

Змест

## ПУБЛІЦЫСТЫКА, КРЫТЫКА



## ПАЭЗІЯ



## ПРОЗА



## ТОЛКІН і К°



## ПЕРАКЛАДЫ



## ПРАЕКТ «ВАРШТАТ» *Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*



## З БОГАМ



**Яна Мусвідас**

## Мары здзяйсняюцца

«Беражыся сваіх жаданняў», — пад такім слоганам прайшоў мой люты, а наступствы праследвалі да самага сакавіка.

Усё дзяцінства я марыла жыць адна. Мроіла, як буду прыходзіць пасля працоўнага дня ў ціхую ўтульную кватэру, і майму адпачынку ніхто не будзе перашкаджаць. Магчыма, такое жаданне справакавана тым, што я з сям'і музыкаў, пры гэтым мая любімая мелодыя — цішыня. У бацькоўскім доме гэтага матыву — «поўнага спакою» — мне і не хапала. То сярэдні брат трэніруе новы эцюд на фартэпіяна, то тата рэпеціруе чарговую кампазіцыю, то малодшы весела падпявае мультфільму, або мама творыць «свежую песню», то наш памеранскі шпіц Бэль працуе над дыяпазонам свайго брэху. Адна я выбіваюся з сямейнага аркестра тым, што вырабляю толькі цішыню, максімальны выходны ад мяне гук — пстрыканне клавіш ноўтбука падчас напісання чарговага матэрыялу.

Вядома, я таксама была важным элементам аркестра: на працягу васьмі гадоў спрабавала асвоіць скрыпку. Гатовая паспрачацца, на той момант мой «шум» (інакш сваю «авангардную» ігру не магу назваць) быў самым непрыемным. Але пасля атрымання атэстата аб заканчэнні музычнай школы інструмент я ў рукі не брала.

Не падумайце, што я не люблю мастацтва, а ў прыватнасці, музыку. Я захапляюся ёй, але ў філармоніі, плэеры, опернай зале ці нават у кінатэатры, а не ў сваёй кватэры. Дома мне патрэбна цішыня, гадзіна музычнага канала па ТБ раніцай — гэта максімум.

Ужо больш за паўгода я жыву пад адным дахам са сваім маладым чалавекам. У нашай кватэры цішыні столькі, што я магу выдаваць яе ў крэдыт. І толькі мне падалося, што гармонія дасягнута, як мая палавінка вырашыла прамяняць наш спакой на камандзіроўку ў Штаты.

Мара дзяцінства здзейснілася: я жыву адна. Паўтара месяца пустэльніцтва дапамаглі мне зрабіць шэраг высноў.

Выявілася, цішыню я люблю, але аддаю перавагу ёй, разбаўленай шумам любімага аркестра, — увесь гэты час сям'ю я наведвала ледзь не праз дзень. Многія, праўда, чакалі, што я і начаваць буду ў бацькоўскай хаце, але любоў да цішыні аказалася мацнейшай.

Адзінокай за гэты месяц я сябе не адчувала ні разу, але ўсё ж вырашыла завесці сабаку. Пра шчанюка я даўно марыла, і ад'езд маладога чалавека стаў выдатнай падставай для ажыццяўлення жадання. Да хатніх жывёл стаўленне ў мяне сфармавана даўно: не бачу сэнсу ў радавітых, наадварот, заўсёды хацелася прыгрэць нейкую жывёлу «з асаблівасцю». Але так склалася, што сабака маіх бацькоў пародзісты, і люблю я яго ад гэтага не менш, таму, калі ў яго з'явіліся такія ж адборныя дзеткі, аб «абяздоленых» я ўжо не думала. Але чалавек мяркуе, а размяркоўваюць у вышэйшых інстанцыях. Таму склалася усё ў лепшых традыцыях кінафільма «Траса 60»: шчанюк, якога я выбрала, зламаў лапу, не паспеўшы апынуцца ў мяне дома. І адбылося гэта «ў маю змену».

Вось так і заканчваўся мой люты: жыву адна, лячу лапку свайго беднага сабакі Леапольда.

Мае жаданні не прынеслі мне няшчасця, але яны прымусілі мяне сур'ёзна задумацца. Я марыла пра гармонію і душэўнае цяпло, а не пра тое, каб мой любімы чалавек паляцеў за 10 000 км, а шчанюк зламаў лапу. Магчыма, пасля ўсяго таго, што адбылося, каханне да першага і любоў да другога стануць мацнейшыя, але думаю, што я б абышлася і без гэтых прыгод.



**Ігар Палынскі,**
**журналіст, лідар рок-гурту «Sumarok»**

## віруюць думкі

**у сметніцы блішчыць сінім пластыкам бутэлька ад «Дынаміту». не памятаю, калі апошні раз спаў болей чым па пяць гадзін дзве ночы запар. жыццё віруе і цягне ў гэты свой вір. не супраціўляюся — бясконцы дзвіж мне даспадобы. вось толькі са сном трэба разрулiцца.**

Наогул, пачынаў пісаць першы абзац — меў у галаве адну тэму, як дайшоў да гэтага — з'явілася яшчэ з дзясятак. вырашыў, што сёння буду пра ўсё, на што хопіць знакаў.

літаральна ўчора для мяне стала вялікім адкрыццём, што выраз «добрай раніцы!» не ўласцівы беларускай мове. чалавек, які пра гэта распавёў, спасылаўся на філолагаў, мовазнаўцаў і іншыя аўтарытэтныя пасады. ну, такое насамрэч. не перастаць жа з-за акадэмічных трызненняў жадаць людзям добрай раніцы:)

яшчэ білі ўчора па шматпакутных «чаю» і «гарбаце». некалькі год таму, памятаю, ледзь не перасварылася беларускамоўнае спадарства з-за гэтых слоў! адны лічылі, што чай — менавіта форма звыклага напою, а гарбата — тыя расліны, з якіх чай робіцца. нехта спрашчаў: калі чорны — то чай, калі зялёная — то гарбата.

сябры!.. мову мы з вамі фарміруем. мова — яна жывая. акадэмічная мова малюецца ў кніжках менавіта пад уплывам таго, хто як кажа. і бачу блізкім той час, калі ў слоўніках гарбата і чай будуць падавацца як абсалютныя сінонімы. (нехта з вас ужо сабраўся надаваць мне па шыі?..)

за вокнамі катаюцца машынкі, і я пачаў было ўжо пісаць пра тое, як люблю ездзіць за стырном, як хачу набыць маленькую «Фіесту» года так 95-га, ды грошай няма… але ў думкі зноў уварваўся гэты праклятый радок. ужо колькі дзён не адпускае, але нічога не магу з ім зрабіць. нават ведаю, як яго распець, ведаю далейшы сюжэт — такая клёвая песня атрымалася б. але не, далей не ідзе. «рыба-а-а-а гніе з галавы…» — і ступар. ох(

калега, радыёвядучы і шоумэн Ілля Нячаеў заляцеў учора ў кабінет: «усталюй гульню сабе на тэлефон!..». я і паставіў. там з труб вылятаюць круглыя бошкі, падобныя як былі ў Pac-Man, толькі рознакаляровыя. трэба лавіць гэтыя бошкі, калі яны падаюць, трубамі адпаведнага ім колеру. і ведаеце, замест таго, каб выбегчы на вуліцу папаліць, хапаюся за тэлефон і спрабую пабіць рэкорд самога аўтара — адзін раз ужо атрымалася, ды праз паўгадзіны Іллюха даслаў скрыншот з яшчэ большай лічбай. паспрачаліся на смачняшку, што я пераб'ю!.. нат не ведаю, што меней шкодна для здароўя: выпаліць цыгарэту ці пазаліпаць хвілін дзесяць у тэлефон.

…вось Ілля ні з таго ні з сяго вырашыў стаць геймдывелаперам: ужо прыдумвае праект сваёй другой «забівалкі часу». а я, акром як тэксты журналісцкія пісаць ды песні спяваць, больш нічога не ўмею.

(і тут жонка з-за пляча: «ага, толькі добрая палова сапраўды цікавых ініцыятыў у Полацку ад цябе сыходзіць». ох, як жа прыемна, калі цябе нехта падтрымлівае. нават дужкі закрываць перадумаў, бо гэта ж, натуральна, тытульная рэч у жыцці: калі блізкім не напляваць.

яшчэ павінен пахваліцца, што Sumarok перастае быць гуртам аднаго чалавека і зноў становіцца калектывам!.. яшчэ па восені мы перасекліся з даўнім знаёмым, неверагодна таленавітым музыкам Яўгенам «Куртам» Елісеенка ды вырашылі паспрабаваць нешта разам запісаць. дык так зайшло, што зрабілі некалькі дэмак, падрыхтавалі акустычную праграму, адыгралі разам некалькі канцэртаў і працуем (нарэшце!) над нармальным альбомам! выйшлі на перакур на мясцовым канцэрце, называецца. не-е, паліць не заўсёды шкодна :)

…а што ўсім гэтым хачу сказаць? калі ў цябе няма часу спаць, значыць, у цябе вельмі шмат спраў. калі ў цябе вельмі шмат спраў, значыць — тое, што ты робіш, камусьці сапраўды трэба. а рабіць нешта добрае для людзей — неверагодна прыемна.



## Дзмітрый Шулюк

# Дзе ты, мая рэальнасць?

Ці ёсць месца ў рэальнасці для фантастыкі? Ці ёсць месца ў фантастыцы для рэальнасці? Ці былі фантастамі Кафка, Ёнэска, Купала? Дзе праходзіць страшная мяжа, на адным баку якой сядзіць Анарэ дэ Бальзак, а на другім — Айзек Азімаў?

Спытайце ў звычайнага, самага рэальнага чалавека, што такое фантастыка. Ён паглядзіць на вас сваімі рэальнымі вачыма і рэальнымі словамі прамямліць: «*Ну, гэта тое, што выдумалі*». Альбо яшчэ адзін: «*Ну, гэта так не бывае проста*». А як бывае? Ці бывае *працэс*? Ці бывае, што цябе павінны судзіць, а ты не ведаеш, за што? Ці бывае, што вакол незнаёмыя людзі спачуваюць табе, але нічога не тлумачаць, быццам усё правільна? Ці рэальнасць гэта? Ці фантастыка?

Музыка Б'ёрк — гэта фантастычная рэальнасць? Ці рэальная фантастыка? Ці гэта і ёсць тая самая мяжа?

«*Гэта ж кіно*». Часам кажуць людзі, гледзячы нейкі фільм. Нават звычайную банальную драму, дзе ўсё прыбліжана да нашага сапраўднага жыцця. Але ж не настолькі прыбліжана, каб не адрозніць. У фільмах, кажуць людзі, вельмі шмат розных супадзенняў. Падзея ідзе за падзеяй адначасова нечакана і лагічна. Любы фільм — ужо фантазія, а ад фантазіі да фантастыкі рукой падаць.

Я раскажу гісторыю, якая не магла здарыцца. Якую я прыдумаў. Зразумела, прыдумаў. Бо яна была б нядрэнным апавяданнем. А апавяданні — гэта няпраўда.

Была зіма. Люты. Чамусьці я быў дома. У бацькоў. Мне *патэлефанавала лепшы сябар*. Папрасіла дапамагчы. Даць нейкую параду. Я не памятаю сутнасць. Памятаю, што расклаў карты Таро. Дастаў іх з патаемнага месца. Адтуль, дзе яны ўжо колькі ляжалі без працы. Я не памятаю, што сказалі карты. Я не памятаю, што я прачытаў. Гэта не галоўнае ў маёй гісторыі. Галоўным было парушэнне правіла. Кверэнт (той, хто пытае) павінен заплаціць за паслугу. Звычайна я браў гарбату і печыва, але ў той дзень мой лепшы *сябар была* далёка. А я проста хацеў дапамагчы.

Праз некалькі хвілін я сабраўся ў краму. Па дарозе зайшоў да бабулі і дзеда. Спытаў, ці трэба ім што. Дзед папрасіў паглядзець, ці ёсць чарга ў цырульню, і папярэдзіць, што ён прыйдзе. Чаргі не было. Вяртаючыся дадому, я сказаў гэта дзеду, і ён пайшоў стрыгчыся.

Наступны кавалачак гісторыі я ведаю толькі са слоў бабулі. Дзед пастрыгся. Сустрэў знаёмых. Тыя прапанавалі выпіць. Выпілі. Няшмат. Магчыма, я б і не ведаў пра гэта, але з дзедам здарыўся інсульт.

Прыйшоўшы з крамы, я займаўся нейкімі сваімі справамі. Патэлефанавала бабуля. Сказала, што з дзедам штосьці дрэннае. Адразу рука перастала працаваць, а зараз ён зваліўся і ўвогуле не можа нічога зрабіць. Толькі трасецца. Папрасіла, каб я падбег і дапамог. Не. Папрасіла, каб хто-небудзь падбег і дапамог. Тата сказаў, каб бег я. На той час тата не піў і крыўдаваў на свайго бацьку за яго нецвярозы лад жыцця. За тое, што ён не чуў словы сына. А калі і чуў, не мог сказаць пра гэта ўголас.

Дзеду было вельмі дрэнна. Ён быў цяжкі і цвёрды. Чамусьці моцна ўхапіўся за ножку ложка і трымаўся за яе, бы за жыццё. Мы не маглі нічым дапамагчы. Выклікалі «хуткую», хоць працаўнікі «хуткай» не адчуваюць асаблівага жадання ехаць да людзей, якія знаходзяцца пад уздзеяннем алкаголю. Патэлефаналі яшчэ раз тату. Каб абавязкова прыйшоў.

Тата прыйшоў. «Хуткая» прыехала. Дзеда забралі. А назаўтра раніцай я пачуў голас у слухаўцы. Голас сказаў, што дзед памёр.

Калі б гэта была рэальнасць, то мне б растлумачылі, што парушэнне правіл супрацоўніцтва з Таро не мае дачыненне да дзедавай смерці. Растлумачылі б, што гэта не я забіў яго, калі сказаў, што ў цырульні няма чаргі. І тое, што я быў адзін дома, калі патэлефанавалі з бальніцы, — выпадковасць.

Але ж гэта нерэальнасць. Гэта проста тэкст. Нават не вельмі якасны. Без асаблівых мастацкіх прыёмаў. Гэта проста тэкст. Вы ведаеце гэта, і я гэта ведаю. Калі штосьці вядома загадзя, то прасцей гэта ведаць. Калі я слухаю Бьёрк, я разумею яе велічыню. Яе геніяльнасць. Яе фантастычную недасяжнасць. Калі яе чуюць мае бацькі, то просяць выключыць гэтыя бяздумныя хаатычныя шумы. Калі я ведаю, што кніга толькі кніга, а фільм толькі фільм, то я не здзіўляюся. Я разумею, што гэта толькі фантазія. А ад фантазіі да фантастыкі рукой падаць.

У рэальнасці людзі не ператвараюцца ў таўстаскурых сляпых насарогаў і не бегаюць натоўпам па горадзе. У рэальнасці старыя не баяць час са сваімі ўспамінамі, не прапаноўваюць сваім успамінам зэдлік, гарбату.

Яшчэ адзін выпадак, якога не было ў рэальнасці. Не магло быць. Гэта ж нейкі абсурд. Гэта ж гратэск. Гэта ж зусім абы-што. Гэта ж нейкае «раскіданае гняздо». Адзін грае, другі плача, трэці за сякеру хапаецца, чацвёрты павесіўся.

Я ўжо згадваў, што пэўны час працаваў у школе. Быў класным кіраўніком на той час дзявятага класа. І студэнтам на той час другога курса. Неяк аднойчы прыехаў я з сесіі і даведаўся, што на наступны дзень мяне разам з маім вучнем і яго бацькам чакае інспектар па справах непаўналетніх. Бо мой вучань паспеў за час маёй адсутнасці выбіць акно настаўніцы англійскай мовы. Што рабіць — паехалі. Інспектар быў не адзін і неспакойны. Пачаў да мяне даносіць, наколькі я дрэнна працую. Што я не маю права называцца настаўнікам. Што я павінен сачыць за сваімі вучнямі на працягу дваццаці чатырох гадзін у суткі. Што дзяржава даверыла мне, а я здраднік. Бо інакш як здрадай дзяржаве нельга назваць маю безадказнасць. Дзе я быў у той час калі?.. На сесіі? У Мінску? Гэта не апраўданне. Адлегласць не можа быць апраўданнем у такой справе, як выкананне свайго абавязку перад Радзімай.

Побач стаяў вучань і ўсміхаўся. Яго ні ў чым не вінавацілі. Ён быў малайчына. Побач стаяў бацька вучня і мужна слухаў. Яго ні ў чым не вінавацілі. Ён выконваў усе абавязкі. Ён выканаў усё, што патрабавалася.

Адразу бачна, што гэта гісторыя — толькі мая фантазія і нічога больш. Што тут і не пахне рэалізмам. Усё гіпербалізавана, даведзена да нейкай камедыі. *Такога не бывае*.

Бьёрк таксама не існуе. Я яе выдумаў. Каб яна існавала ў маёй рэальнасці, як, памятаеце, выдумаў адно возера з дзяцінства. Выдумаў, як група падлеткаў сунулася праз кусты, па нейкіх ручайках, балотах. Гэтыя кусты зусім нечакана расступіліся. Адкрылі цуд. Фантастычную фантастычнасць рэчаіснасці. Люстэрка для нябёсаў. Усе берагі былі ў норах невядомых і нябачаных жывёл. А на мяжы возера знаходзілася бабровая плаціна. Я выдумаў, што група падлеткаў доўга глядзела туды, дзе пачынае існаваць казка. Выдумаў, што адзін з іх праз шмат гадоў вярнуўся і не знайшоў гэтага возера. Нават следу ад яго. Выдумаў. Як кожную гісторыю з маіх рубінавых радкоў. Як аўтара гэтай калонкі. Як свае ўчора, сёння і заўтра.

Дзе ты, мая рэальнасць? Мая сляпая танцорка, якая не ведае, навошта бачыць, калі ўсё і так бачна. Дзе ты, мая мяжа між вар'яцтвам і фантазіямі, між ненармальнасцю і абсурдам? Дзе ты пачынаешся, мая фантастыка, і ці ёсць сутнасць у тым, каб разрываць цябе на гукі, акорды, мелодыі? Ці ёсць сутнасць у тым, каб адмываць рэальнасць ад усіх гіпербал, ад эмацыйнасці, суб'ектыўнасці? Дзе ты, мая рэальнасць? Я тут. Я чакаю цябе.

*Бьёрк — маленькая фея.*



**Кацярына Захарэвіч**

# Талент

Маленькая Касечка заўсёды хацела мець талент. Пашка з чатырох гадоў умеў чытаць і вучыўся граць на гармоніку (ці баяне?). Оля хадзіла на танцы і выступала на гарадскіх і школьных канцэртах. Крысцінка была прыгожая і добра вучылася. А Касечка была Касечка. Нават баян ад гармоніка не магла адрозніць. Яна толькі сябравала з Пашкам, Оляй, Крысцінкай — дакладней, хадзіла за імі следам і глядзела з захапленнем. Знізу ўверх — нягледзячы на Касечкін рост.

А так хацелася, каб прыходзіш куды-небудзь — у школу раніцай ці да мамы на працу пасля заняткаў (больш у Касечкіным горадзе хадзіць асабліва не было куды) і ўсе адразу бачаць: талент! І рэхам падхопліваюць поўны замілавання шэпт: «Ох! Ах! Талент! Творчая асоба!».

Касечцы хацелася спяваць і танцаваць. Расчоскі і пульт ад тэлевізара ператвараліся ў мікрафоны. Пад любую музыку імгненна прыдумляўся небагаты на разнастайнасць рухаў танец, які адразу ж павінны былі пабачыць усе, хто знаходзіўся ў межах дасяжнасці. А нават калі слухачоў і гледачоў не было, Касечка ўсё адно ўяўляла, што яна — на Вялікай сцэне!

Шлях на Вялікую сцэну для Касі-спявачкі закрыўся, калі ёй было дзесяць. Настаўніца выбірала дзяцей для школьнага гуртка. Кожны павінен быў праспяваць па чарзе два радкі песні. Касечка зразумела: вось ён, шанец, зараз загарыцца-заззяе зорка яе славы! Чым менш заставалася чалавек да яе, тым больш паветра ўдыхала Касечка. Зараз праспявае свае радкі Ленка, потым Наста, а за ёй… Кася зрабіла чарговы — самы глыбокі — уздых і… Падавілася паветрам, закашлялася, расчырванелася, паліліся з вачэй слёзы. Перхаючы, ледзь праспявала свае два радкі. Канешне, пра тое, каб трапіць у рытм і ў склад школьнага гуртка, размовы ўжо не вялося. А што трэба яшчэ ў нейкія ноты трапляць, Касечка тады ўвогуле не ведала.

Заставаўся яшчэ шанец стаць зоркай танцпола. Кася вельмі любіла дыскатэкі. Не прапускала ні адной школьнай ці гарадской. Заўсёды ў яркай вопратцы дзесьці паблізу ад цэнтра пляцоўкі, пачаўшы з простага ператоптвання з нагі на нагу, на трэцяй песні адчувала сябе сапраўднай каралевай залы і школы, нягледзячы на прыродную сціпласць і ўсе з'едзеныя за гады жыцця булачкі. І вось поўныя захаплення вочы ўсіх прысутных глядзяць на яе, не хапае толькі святла пражэктараў, якое б вылучала з натоўпу максімальна эфектна…

Адным разам нешта пайшло не так. Ці то Кася праўда была не ў форме, ці то занадта старанна ўглядалася ў твары, імкнучыся злавіць выразы захаплення, але пабачыла, як Олька і Танька сядзяць. Сапраўды на яе глядзяць. Перашэптваюцца і смяюцца — наўрад ці ўхваляюць. Гэта была першая датэрмінова скончаная Касіна дыскатэка. І апошні танец.

Шукала Касечка, да чаго душа ляжыць, у чым бы яшчэ творчыя схільнасці праявіць. Пракладала душы шлях да малявання — схадзіла два разы на занятак гуртка па выяўленчым мастацтве, намалявала нават вежу Мірскага замка (пад лінейку) і Карлсана (з цыркулем). І ўсё было добра, пакуль не спатрэбілася фарбамі размалёўваць, — там стала незразумела, дзе вежа, а дзе Карлсан. Расчаравалася Кася ў творчасці. Калі кожны можа пляму намаляваць і сказаць, што гэта Карлсан, то дзе ж тут мастацтва?

Прыглядаецца Кацярынка па баках: тут малююць, там фатаграфуюць, недзе фатаграфуюцца, на суседняй вуліцы вершы пішуць, на гітары граюць, відэаблогі здымаюць, стартапы прыдумляюць, і ўсе, як адзін, творчыя. І Кацярынка вырашыла быць звычайнай: звычайных мала — іх берагчы і падтрымліваць трэба.

# Фантастычныя будынкі з крыжыкамі



Вітаю цябе, істота з бессмяротнай душой і агнём розуму на экране тэлевізара. Гэты нумар «Маладосці» фантастычны. Таму буду пісаць пра фантастычнае, бо хто ж я такі, каб ісці супраць тэмы. Я ўвогуле мала агульнага маю з дзеясловам «ісці». У мяне няма доўгіх прыгожых ног, пакрытых паверх скуры панчохамі ці шкарпэткамі і дадатковым слоем чужой скуры. У мяне няма гэтых чароўных прыстасаванняў, якія патрэбны, каб ціснуць імі на педалькі «газ-тормаз» ці перамешваць у рабочы/вучэбны час паветра пад сталом. Яшчэ нагамі можна біць: скураную сферу, ката, зубы. Чароўная рэч — ногі. Фантастычная.

Часам гэтыя фантастычныя ногі прыводзяць сваіх фантастычных уладальнікаў у фантастычныя месцы. У будынкі пад знакам крыжа. Людзі прыходзяць у гэтыя будынкі, калі яны хворыя. Хворыя сваім тленным целам ці сваёй бессмяротнай душой. Хворыя розумам таксама прыходзяць сюды, але сёння ў нас фантастычны тэкст. Таму давайце ўявім, што імбецылаў, амёб і іншых прадстаўнікоў віда гома псеўдасапіенс не існуе. Не існуе ні ў маім небе, ні на вашай зямлі.

Колькі ж гэтых чароўных будынкаў з крыжыкамі! Яны такія вялікія, такія каменныя, такія з крыжыкамі. А за агромністымі дзвярыма маленькія стварэнні стаяць каленямі на халоднай цвёрдай падлозе і лечацца. Лечацца. Не ведаю як, не ведаю чаму, але ім гэта дапамагае. Яны выходзяць на паветра і адчуваюць сябе значна лепш. Значна больш жывымі. Значна больш бессмяротнымі. Гэта фантастыка. Я таксама хачу заляцець у нутро гэтага фантастычнага аб'екта. Што там пад лаўкамі? Што там у закутках? Хто хаваецца за іконамі? Чым там кормяць і пояць? Якія рэчы, якія песні, якія рухі? Што? Чаму? Як?

Думаеце, я смяюся? Не. Некалі сапраўдны гома сапіенс з прозвішчам Кант пакінуў у сваёй філасофскай сістэме месца для веры. Хто я такі, каб выступаць супраць Канта? Я лепш пасмяюся з іншых. Бо ў маім чароўным начным фантастычным горадзе ёсць яшчэ будынкі з крыжыкамі. Паглядзіце ўважліва. Яны вакол. Яны паўсюль. Яны захапілі вуліцы. Іх куды больш, чым храмаў. Гэта аптэкі. Гэта ж фантастыка. Паўсюль аптэкі. Месцы, дзе прадаюць лекі. Прадаюць жыццё і здароўе. Можна аддаць увесь заробак — і не давядзецца стаяць мяккімі каленямі на цвёрдай халоднай падлозе. Аддаць увесь заробак на бясплатную медыцыну, каб здолець выжыць і працаваць на новыя бясплатныя лекі, на новыя бясплатныя працэдуры.

Людзі — істоты з бессмяротнай душой — злуюць на царкву за тое, што яна рэкламуе выратаванне бессмяротнай душы. Людзі моўчкі глядзяць на рэкламы выратавальнікаў іх цела. Купі дзве баначкі пігулак і атрымай у падарунак мазь. Купі сіроп ад кашлю і атрымай зніжку на клізму. Але лепш купляй тое, што адобрана замежнымі спецыялістамі. Замежны прадукт палегчыць самаадчуванне і гаманец.

А я лячу сярод аблокаў. Лячу. Лячу. Я — лётчык ці лекар. Я далёка адстаў ад фантастычна развітага чалавека. Які зарабляе сабе жыццё, крадучы жыццё іншых. Я лячу. Лячу. Лячу. Над будынкамі з пазалочанымі і зялёнымі крыжыкамі. Я бачу паток тленных цел з бессмяротнымі душамі. Яны крочаць кудысьці сваімі фантастычнымі нагамі. Доўгімі. Прыгожымі. На…чамі. Ад крыжыка да крыжыка. Ад скрыжавання да скрыжавання. Пазалочанымі, зялёнымі і мёртвымі чорнымі бліскучымі скрыжаваннямі дарог. ■




Канстанцін Касяк

## Узор, варты пераймання

Неяк так выходзіць, што пакуль у маёй калонцы вельмі шмат Львова, болей, чым астатніх гарадоў, дзе мне даводзілася бываць. І нічога не зробіш, калі так атрымліваецца, — бо ёсць пра што пісаць.

Але гэтым разам тэкст будзе датычны гэтага горада толькі ўскосна. Справа ў тым, што ў красавіку 1932 года ў польскім тады Львове выйшла газета-аднадзёнка «Беларускае жыцьцё». У той час няпольскім выданням было складана выходзіць праз цэнзуру, таму самым папулярным відам перыёдыкі з'яўляліся менавіта газеты-аднадзёнкі. Цяжкасці ўзнікалі не толькі з кантэнтам, але і з месцам друкавання: выдаць легальную газету па-беларуску ў Вільні (тады — нефармальны цэнтр Заходняй Беларусі), было больш складана, чым у далёкім Львове. Там беларусаў было зусім няшмат, адпаведна і запатрабаванасць у падобных выданнях была невысокай.

Газеты-аднадзёнкі — гэта, па-сутнасці, улёткі, толькі больш змястоўныя, пашыранага, так бы мовіць, фармату. Прыкладна такой і была газета «Беларускае жыцьцё», якая надрукавала верш «Заштрайкавалі гіганты-коміны», падпісаны псеўданімам Максім Танк. За ім хаваўся нікому яшчэ невядомы ў той час малады паэт Яўген Скурко. Гэта быў пачатак ягонага творчага шляху.

> Мы неяк прызвычаіліся, што ў беларускай паэзіі толькі адзін Максім — Багдановіч, зусім забываючыся на тое, што быў яшчэ і Танк

Яму пашэнціла ўжо з самага пачатку — нарадзіўся 17 верасня 1912 года. З'явіцца зоркай на небасхіле беларускай літаратуры ды яшчэ нарадзіцца ў Дзень уз'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі — выглядае як абсалютная невыпадковасць.

Мы неяк прызвычаіліся, што ў беларускай паэзіі толькі адзін Максім — Багдановіч, зусім забываючыся на тое, што быў яшчэ і Танк. Апошні пражыў яркае і вельмі насычанае жыццё, магчыма, адно з лепшых у беларускай літаратуры. Яго гісторыя — гэта гісторыя простага хлопца з вёскі, які дзякуючы таленту і ўласным высілкам стаў вядомым і паважаным чалавекам. Па яго біяграфіі ў прынцыпе можна напісаць матывацыйную кнігу ў стылі «Як дамагчыся поспеху», або кшталту таго.

Трапна заўважае ў сваёй кнізе «Партрэты» Адам Глобус пра рыфму ў адным з вершаў паэта: *«З усіх танкаўскіх самая танкаўская рыфма «рэвалюцыі-рэзалюцыі». З палымянага віленскага камунара Жэніка Максім Танк зрабіўся партнаменклатурным чыноўнікам Яўгенам Іванавічам. Менавіта такая дыялектыка і адлюстроўваецца ў згаданай рыфме, таму і гучыць яна ў вершы «Як многа гаворым і нудна…» арганічна. З'яўленне гэтай жа рыфмы ў іншых беларускіх паэтаў выклікала ў мяне неразуменне і нават агіду»*.

Любім мы ўздыхаць па Вільні. Але зусім не звяртаемся да літаратурнай спадчыны, напісанай пра *гэты горад* у *гэтым горадзе*. «Лісткі календара» — празаічная кніга Максіма Танка, дзённік, у якім аўтар распавядае пра сваё жыццё ў сярэдзіне 30-х. Пэўна, не памылюся, калі скажу, што гэта лепшая кніга, напісаная беларусам

для беларусаў пра «крыўскую Мекку». Шмат пазнавальных месцаў, шмат вядомых асоб, шмат цікавых падзей. І ў нас была, аказваецца, свая вялікая эпоха!

Танкавы «Лісткі календара» пераклікаюцца з іншай кнігай, у якой аповед вядзецца пра чалавека, які ў савецка-польскай вайне пачатку 1920-х быў на баку палякаў, а пасля яе заканчэння апынуўся выкінутым на ўзбочыну жыцця. Гаворка — пра раман Сяргея Пясецкага «Жыццё раззброенага чалавека», вядомага польскага пісьменніка, які паходзіць з нашых Ляхавіч. У кнізе расказваецца гісторыя дэмабілізаванага салдата, які ў мірны час аказаўся зусім не патрэбны дзяржаве, за якую ваяваў, грамадству, якое абараняў, здаецца, нават сабе самому. У такім адчайным становішчы ён вымушаны ісці на злачынствы, наўпрост, каб выжыць. Цікава чытаць пра адны і тыя ж мясціны, але такія розныя лёсы.

Гісторыя Танка іншая — гэта гісторыя маладога паэта, што жыве ў дзяржаве, якую не лічыць сваёй. Не лічыць сябе ён і палякам, больш за тое — не хоча мірыцца з тым, што яго родную мову і культуру прыніжаюць. Каб змяніць пануючы стан рэчаў, ён далучаецца да заходнебеларускіх камуністаў, якія вядуць барацьбу за нацыянальную і сацыяльную справядлівасць. Асабіста я не маю сантыментаў да камуністычнай ідэалогіі, але разам з гэтым трэба правільна расстаўляць акцэнты — у Заходняй Беларусі КПЗБ была якраз адной з тых арганізацый, якія змагаліся за правы беларусаў.

«Лісткі календара» — гэта кніга і пра адзіноту. Малады паэт, хоць і акружаны ўвагай, мае сяброў і таварышаў, шукае сваё месца ў гэтым свеце. Часта галодны, ён ці не штодня нешта чытае, адзначае, занатоўвае, вывучае. Пашырае ўласны кругагляд. Такому ірвенню можна толькі пазайздросціць. У нечым гэты твор пераклікаецца з «Голадам» Кнута Гамсуна. Там таксама малады літаратар, які пакутуе ад голаду, але ўпэўнены ва ўласным поспеху, вырашае ісці да канца. А мог жа і лёгка зламацца, здацца, закінуць усё і проста быць, як усе. Максім Танк не зламаўся.

Максім Танк — гэта яшчэ і пра каштоўнасці. Чытаючы ягоныя дзённікі (9-ы і 10-ы тамы ў поўным зборы твораў паэта), дзіву даешся, як ён *вытрымаў усё* і не зламаўся. Не піў, не паліў, з маладых гадоў быў у шлюбе з адной жанчынай, пра якую пісаў, шмат вандраваў, не зламала яго і партыйна-бюракратычная праца. Да канца свайго жыцця ён заставаўся рэвалюцыянерам ва ўсіх сэнсах гэтага слова. Не толькі, як у маладосці, у палітычным сэнсе, але і ў паэтычнай справе.

Па яго біяграфіі ў прынцыпе можна напісаць матывацыйную кнігу ў стылі «Як дамагчыся поспеху», або кшталту таго

Як бы гэта дзіўна ні гучала, але Максіма Танка я ўпершыню прачытаў па-руску. Знайшоў выпадкова шмат гадоў таму ў матчынай бібліятэцы два ягоныя вершы ў двухтомным зборніку прозы і паэзіі «Юность. Избранное 1955—1975». Памятаю, мяне тады вельмі ўразіў верш «Прачытай і перадай другому». З таго часу я пакрысе пачаў збіраць не толькі кнігі аўтара, але і творы пра яго. Чытаць і перадаваць іншым.

Не так даўно хлопец, з якім я разам хаджу ў трэнажорку, папрасіў прынесці пачытаць штонебудзь з Максіма Танка. «Што несці? Прозу, паэзію, дзённікі?» — пытаюся ў яго. «Нясі і тое, і тое, і ўсё, што не шкада. Буду чытаць уперэмешку, бо надта цікава ты пра яго распавядаеш!».

Максіма Танка варта чытаць. І не толькі вершы, але прамовы, апавяданні і, канешне ж, дзённікі. Не толькі таму, што ён выдатны паэт, выбітны дзяржаўны дзеяч, але і таму, што ён — узор, варты пераймання. У яго, безумоўна, ёсць чаму павучыцца. ■

Любім мы ўздыхаць па Вільні. Але зусім не звяртаемся да літаратурнай спадчыны, напісанай пра гэты горад у гэтым горадзе. «Лісткі календара» — празаічная кніга Максіма Танка, ягоны дзённік, у якой аўтар распавядае пра сваё жыццё ў сярэдзіне 30-х



Анхела Эспіноса Руіз

## Прыкметы, што ў вас расце маленькі дзівак

Прачытала ў адной вядомай сацсетцы рэкламны допіс пра кнігу «Времена немецкого глагола». Як вы думаеце, пра што кніга? Шмат у ёй герояў ці адзін пратаганіст і ўнутраны дыялог?

Натуральна, дзяцей у мяне няма[1], таму прэтэндаваць на жыццёвы вопыт і агромністыя веды сапраўдных мам я не магу, не хачу і, такім чынам, не буду. Затое магу падарыць вам ~~свежую перспектыву з боку~~ пункт гледжання той самой дзівачкі, якая гадавалася (амаль) 24 гады не-зусім-на-радасць бацькам[2]. Без далейшых затрымак, якія ж прыкметы могуць нам падказаць, што дзіця расце дзіўнаватым?

1. Дзіця не слухаецца і не слухаецца ў самых нечаканых выпадках. Возьмем прыклад з майго жыцця, дзеля простасці: я навучылася чытаць і пісаць насуперак матчынаму жаданню пачакаць з гэтым да школы[3]. Мне яшчэ трох гадоў не было, а я ўжо была дзівачкай. Бацька памятае, як я клікала яго гуляць са мной у пакой, а ён ляжаў на канапе, ленаваўся. Праз нейкі час ён зайшоў да мяне і знайшоў на падлозе паперку, на якой быў напісаны дзіцячым почыркам гнеўны сказ *тата ніпрішоу*[4]. Ну, навучылася і навучылася, нічога не зробіш. Толькі арфаграфію і сінтаксіс падцягнеш, мабыць.

2. Дзіця незвычайна/неадэкватна рэагуе на навакольны свет: напрыклад, калі я пайшла ў школу, як маці і прадказала, мне было сумна, бо я ўжо любіла чытаць кнігі, а большасць групы не пазнавала яшчэ літары (мы ідзём у школу ў тры гады). Іншыя дзеці адразу зразумелі, што я дзівачка[5], і амаль ніхто не хацеў са мной гуляць. Гэта была яшчэ адна прычына заставацца ў класе падчас вялікага перапынку і чытаць кнігі. Аднойчы настаўніца падышла да мяне і спытала: «Анхела, чаго ты тут адна такая самотная? Можа, ідзі пагуляй з іншымі?», на што я ёй адразу выдала: «Самотная? Я ж не самотная. Вы бачыце, колькі тут кніг?»[6] Маму выклікалі, вядома. А калі яна паспрабавала пагутарыць са мной пра гэты выпадак, я ёй сказала: «Ой, мама, сапраўды так! Дзеці маёй групы не чытаюць кнігі! Як шкада, праўда?»[7]

3. Дзіця дрэнна разумее моўную інфармацыю, якую атрымоўвае: гэты сімптом назіраецца на працягу ўсяго жыцця дзівака (дзівачкі)[8]. Літаральна некалькі дзён таму я прачытала ў адной вядомай сацсетцы рэкламны допіс пра кнігу

[1] Паводле, э-э-м-м, Паскаля, факт, што нічыё выхаванне не залежыць ад асобы, павялічвае шанцы, што Бог існуе, на цэлыя 10 %. Можаце падзякаваць Яму за гэта. Богу, не Паскалю.

[2] Дыягназ маецца, але ў часопісе «Маладосць» яму не месца.

[3] Трэба заўважыць, што я навучылася чытаць і пісаць тады толькі і выключна па-іспанску. Гэтая інфармацыя будзе рэлевантная ў далейшых пунктах спіса.

[4] Насамрэч яго эквівалент па-іспанску, паўтару.

[5] Паводле ўсіх магчымых псіхалагічных даследаванняў дзеці больш эфектыўна выяўляюць гэтую праблему і адразу пачынаюць змагацца з ёй па меры магчымасці.

[6] Лагічна, паколькі я чытала толькі па-іспанску, як казала ўжо двойчы, я не пераказвала Максіма Багдановіча, а прыдумала адказ сама.

[7] На гэтым этапе развіцця дзівацтва, як гэта не супярэчыць здароваму сэнсу, яшчэ не позна вылячыць дзівака.

[8] Прабачце, уключылася раптам паліткарэктнасць. Я больш не буду.

«Времена немецкого глагола». Як вы думаеце, пра што кніга? Шмат у ёй герояў ці адзін пратаганіст і ўнутраны дыялог? Калі вы не дзівак, напэўна, вы ўсё ж падумалі пра граматычны дапаможнік[9]. А я некалькі хвілін абдумвала нейкую незразумелую дзеяслоўную метафару ў кнізе пра цяжкую эпоху (бо *времена*), верагодна, падчас Другой сусветнай вайны (адтуль і гэтае *немецких*). І было так заўсёды. Яшчэ пара прыкладаў.

Выпадак 3(А): пэўнага ранку мне сказалі апрануцца вельмі хутка, бо прыедзе маляр[10]. У іспанскай мове існуе толькі адно слова на два паняцці: што маляр, што мастак — усё адно. Адпаведна я праз некалькі хвілін вышла з пакоя прыбраная ў самае прыгожае (на мой тагачасны густ) сваё адзенне, бо «праўда, у нас будзе сямейны партрэт?»

Выпадак 3(Б): мой бацька працуе ў страхавой фірме. Дык вось, аднойчы я чула, як ён распавядае пра замаўленне вянкоў для пахавання. Тут я некалькі месяцаў (!) была перакананая, што замаўляюць санеты ў паэтаў, каб чытаць іх падчас развітання з блізкімі.

4. Дзіця верыць вам і слухаецца, але робіць гэта таксама тады, калі не варта: мае бацькі заўсёды паўтаралі нам з братам[11]: «Дзеці, у жыцці вы можаце стаць, кім толькі захочаце. Не бойцеся марыць». Я паверыла ў гэтыя словы да такой ступені, што не толькі паступіла на славянскую філалогію ў суседнім горадзе, але яшчэ захацела стаць беларускім літаратарам[12] і літаратуразнаўцам. Самае кепскае: усё большменш атрымалася. Гэта высокі ўзровень дзівацтва.

5. Дзіця аналізуе, думае, тлумачыць — гэта кепскі знак. Мой настаўнік музыкі пашкадаваў мяне таму, што я люблю карыстацца сваім абсалютным слыхам[13], каб аналізаваць гармоніі, мелодыі, прагрэсіі акордаў замест таго, каб слухаць песні спакойна. Абсалютны слых да таго ж не дазваляе слухаць фальш. Настаўнік меў такое меркаванне, што мой слых не дае мне нармальна

[9] Spoiler alert: маеце рацыю, там адны дзеясловы.
[10] Яшчэ раз, гэта здарылася на іспанскай мове.
[11] Яго завуць Нікалас, ён вучыцца на матэматыка-фізіка, таксама дзівак. Дапускаем варыянт, што гэта генетычна перадаецца.
[12] Пры тым, што я не нарадзілася беларускай (ні літаратаркай).
[13] Абсалютны слых — рэдкая чалавечая здольнасць, калі чалавек можа пазнаць танальнасці проста так альбо праспяваць названыя танальнасці. Так, нарэшце рэлевантная інфармацыя. Здзівіліся?

Мае бацькі заўсёды паўтаралі нам з братам: “Дзеці, у жыцці вы можаце стаць кім толькі захочаце. Не бойцеся марыць”. Я паверыла ў гэтыя словы да такой ступені, што не толькі паступіла на славянскую філалогію у суседнім горадзе, але яшчэ захацела стаць беларускім літаратарам

захапляцца музыкай, губляцца ў яе таямніцах. А мне так падабаецца разбіраць фугі[14]! Такая ж праблема была і з літаратурнымі творамі: не проста так пайшла я вучыцца на літаратуразнаўца.

Тое, што я вам сёння прадставіла, — усяго толькі першая пяцёрка прыкмет дзівацтва ў дзяцінстве і падлеткавым узросце. Вопыт бацькоў кожнага дзівака адрозны, але гэты спіс, верагодна, дапаможа вам пазнаць дзівака ў дзіцяці ў выпадку, што гэта так і ёсць. Будзем удзячныя, калі дашляце апісанні іншых прыкмет гэтай жа праблемы ў рэдакцыю нашага часопіса (правілы афармлення публікацыі можна знайсці на нашым сайце). Таксама абяцаем грунтоўнае абмеркаванне таго, як належыць паступіць з дзецьмі-дзівакамі ў сям'і. Нас цікавіць меркаванне нашых чытачоў: ці варта падтрымліваць дзіця, нягледзя-чы на яго дзівацтва? Можна забіць дзівака ў дзіцяці? А калі так, дык як? Пагаворым пра магчымыя адказы на гэта пытанне ў наступным нумары. Мо. Альбо ніколі, бо гэта псеўданавуковая сатыра, напісаная дзівачкай. Дзякую за ўвагу.

Адзін мой настаўнік музыкі пашкадаваў мяне таму, што я люблю карыстацца сваім абсалютным слыхам, каб аналізаваць гармоніі, мелодыі, прагрэсіі акордаў замест таго каб слухаць песні спакойна

[14] Фуга — твор, заснаваны на паслядоўным паўтарэнні адной музычнай тэмы некалькімі галасамі.



Кацярына Нарваткіна

**нарадзілася 27 сакавіка 1993 года ў Баранавічах. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў па спецыяльнасці «Бібліятэкар-бібліёграф» і вярнулася на малую радзіму, дзе працуе ў дзіцячай бібліятэцы. Вершы поўнілі жыццё Кацярыны яшчэ задоўга да ўласнага паэтычнага вопыту. Яе ж дзіцячае захапленне вершамі, якія вучыла на памяць, дэкламавала сама сабе і па дарозе ў школу, і пасля заняткаў, знайшло свой працяг у дарослым жыцці: паэзія не пакідае сваю верную прыхільніцу.**

# Верасовы звон

Снежань спыніўся надоўга у зоне рызыкі,
На скрыжаванні складанаскарочанай восені.
Ведаеш, гэтай зімою ўсе твае рысы і
Кожны асобны твой позірк гуляюць з просінню.

Не пашкадуе завея празрыстай постаці,
Замацаванай на папялішчы ідалам…
Не далучай да мяне сусветы так проста ці
Са свайго шматімённага спісу мяне выдалі.

Зноў стопяцьсотным піксельна-чорным смайлікам
Я адсылаю ліст да тваёй адмоўнасці.
Вечарам дрэнны настрой зімы замінае нам
Замацавацца ў снежна-каляднай роўнасці…

***

Стары гадзіннік на тваёй сцяне
Так сумна і павольна мерыць час!
Мой любы, ты не ведаеш мяне,
І сеціва пад вечар супраць нас…

Сціхае дзень у зоркавым святле —
Яму нядоўга засталося жыць…
Мой любы, ты не думай пра мяне:
Яшчэ не час адзін аднога сніць.

Аднойчы я вярну табе спакой.
І мне ўсё роўна, што там супраць нас, —
Мой любы, ты сустрэнешся са мной!
...Стары гадзіннік ціха мерыць час.

***

Раніца без паветра, стрэлкі спынілі бег,
Цягнуцца па асфальце кавалкі неба.
Ведае толькі кватэра: ёй, акрамя цябе,
У гэтым гаркавым дні нічога не трэба.

Яна на Каляды зноў застанецца адна...
Пахне паўсюль памаранцамі і карыцай.
Ведае толькі кватэра: ёй ужо тыдні з два
Ніхто, акрамя цябе, па начах не сніцца.

Суседзі за сценкай зноў заспяваюць «…бэллс»,
Здаецца, у прыпеве нехта фальшывіць «джынгл».
Ведае толькі кватэра: у нябёсах дзесь
Ёй пра цябе складаюцца сны-сняжынкі.

Вечар, бы птушка, спыніцца ля акна
І ледзьве чутна будзе на свет спускацца.
Ведае толькі кватэра: штоноч яна́
Сніцца табе, і ты марыш не прачынацца…

***

Я разгарнула кнігу тваіх нябёсаў,
Бачу ў ёй адзіноту драпежнага звера.
Мне пачынае здавацца, што нашы лёсы
Сплецены, быццам вяроўкай, адзінай верай.

Я выкідаю ў фортку свае надзеі,
Што пастарэлі і сталі жалобным ветрам,
Ён абдымае мяне, пакрысе сівее,
Ты ў гэты час ваюеш з пустым сусветам.

Я забываю, што абяцалі зоркі.
Зноў у душы маёй уваскрослай пуста.
Ад невыноснай смагі ў роце горка,
Ды уратуе дотык гарачых вуснаў…

***

Апоўначы твае рухі бясконца нясмелыя,
А словы нязменна трывожна-балючыя…
Абдымкі — ажурна-шкляныя сцены,
Нібыта капліца ў памяць святой Лючыі…
Апоўначы вецер мяняе свой накірунак,
Я знікну на парасоне, нібы чараўніца Мэры…
Каб зразумець цябе, я раскладаю руны,
Каб зразумець сябе — знішчаю шляхі веры.
Апоўначы памяць губляе адценне белі,
Каб мы не шукалі таго, што недзе забылі.
Я пачынаю гайдаць дажджавыя арэлі
Пад дахам капліцы ў памяць святой Лючыі.

***

Спынілася і адпусціла час.
Як лёгка дыхаць у цішы спакою!
Я ўдзячна лёсу, што сустрэла вас,
А Вам — што зберaглі мяне ад болю.

Я ўдзячная, што бачыла ўзыход
Маіх надзей і першага кахання,
Што Вы, узяўшы пару сціплых нот,
Мне падарылі музыку світання!

І я плыву ў бязмежнай цішыні,
Душа мая спазнала радасць веры!
Вы — мой маяк, маіх надзей агні
Імкнуць да вас на новы, светлы бераг.

Не трэба слоў — у іх жыве падман,
Давайце душы аддадзім нябёсам!
Вы — мой маяк, і Вы ж — мой капітан.
Кіруйце і жыццём маім, і лёсам!



Ілюстрацыя Надзеі Савельевай.

***

Досыць! Мне смутак даўно замяніў і спакой, і сон!
Смехам дзіцячым чуецца спрэс верасовы звон…
Цяжкай пакутай буяе на ўсходзе чырвоны май.
Там, дзе сустрэліся некалі сонцы, жыве «Бывай…»

Вусны з крышталю волю змалолі, нібыта млын.
Страціўшы веру, ружай крывавай цвіце палын.
Крылы — на поўнач, да першых самотных зімовых дзён.
Новая шыльда на тым жа сэрцы: «Адзіны — ён!»

Лесвіца ў цемру — загублены вечнасцю Млечны шлях.
Што твае вочы зведалі? Ціхі пякельны жах…
Восеньскай плыні апошняе самае «Mon amour!»
Вочы твае — смарагдавы блік, а душа — мармур.

***

Што вашы рукі? ВЫпрабаванне…
ВЫратаванне і ВЫнішчэнне.
Самае яркае летняе ранне,
Шэрасці дзён пяцьдзясят адценняў…

Што вашы рукі? Бязлюдны востраў.
Тут я спынюся і звар'яцею…
Я забываю на час — і проста
Ў вашы рукі кладуся ценем…

Таццяна Казановіч



**нарадзілася 16 сакавіка 1995 года ў Мінску. Студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, выкладчыца акцёрскага майстэрства ў дзіцячай тэатральнай школе. Вершы і песні піша з дзяцінства. У «М» дэбютуе з прозай.**

## Дзяўчынка і воблака

Перад вачыма ўсё яшчэ стаяў вобраз бацькі з апухлым тварам і непаголенай барадой. З яго рота зноў пахла быццам дзядуліным адэкалонам, і час ад часу ён выдыхаў цыгарэтны дым, нібыта хворы дракон.

Толькі што ён сказаў сваё сямігадовай дачцэ Дашы, што ў яго зноў моцна баліць галава і ёй прыйдзецца пагуляць адной. Самотная Даша, з паніклай галавой і слёзкамі на шчаках, нетаропка пайшла па дарозе да поля.

Стаяў водар апошніх дзён лета. Вясковае поле было ўсыпана стагамі сена, якія ўзвышаліся на пажоўклай траве. Даша села на траўку, падабрала каласок і сціснула яго ў вуснах, нібы цыгарэту. Зусім, як бацька.

— Не хачу быць дзіцёнкам, хутчэй бы стаць дарослай, — з горыччу сказала дзяўчынка ўголас.

Даша паглядзела ў неба, усыпанае разнастайнымі бялюткімі аблокамі. Раней яна любіла разам з мамай доўга глядзець на іх, але два гады таму мама з'ехала ў далёкае-далёкае падарожжа. Так сказаў ёй бацька.

Нешта глыбока ўнутры падказвала Дашы, што маці ніколі не вернецца. Ад гэтых думак дзяўчынка заплакала яшчэ больш горка.

Раптам з неба пачало апускацца маленькае воблачка. Яно прызямлілася, распрасталася і стала падобнае да беласнежнага дыванка. І вось гэты дыванок падхапіў напалоханую Дашу і пачаў уздымаць яе ўверх.

Поле змяншалася ў памерах і хутка стала нагадваць зялёную мапу, а стагі сена здаваліся жоўтымі кропачкамі на ёй. Даша ляцела ў небе на сваім чароўным воблачку, але замест страху адчувала бязмежную радасць.

Вось каля яе праплыў вушасты зайка, а за ім следам пагналася пашча цмока. Тут воблака падобна да сэрца, тут — кіт з крывой усмешкай, певень з маленькім клювам. А гэта — нейкая рагатая, д'ябальская істота.

Даша глядзела на аблокі, як на даўно знаёмых сяброў, і час ад часу пазірала ўніз, каб палюбавацца краявідамі з вышыні птушынага палёту.

Ілюстрацыя Надзеі Савельевай.

Шмат часу прайшло, пачало цямнець — воблачка павярнула назад.

Тым часам па полю хадзіў усхваляваны бацька, клікаў Дашу, зазіраючы ў пошуках дачкі за кожны стог сена.

Чароўнае воблачка прызямлілася акурат у тое самае месца, дзе падхапіла дзяўчынку. Шчаслівая, яна падбегла да бацькі.

— Дзе ты была? — з трывогай спытаў ён.

— Татачка, я каталася на воблачку, уяўляеш?

Бацька не паверыў, але моцна абняў.

— Прабач, мая даражэнькая. Гэта мая віна. Заўтра паедзем у горад, пойдзем у цырк, у заапарк. Хочаш?..

Гэта быў самы шчаслівы дзень за апошнія два гады.

Бацька і Даша ішлі дамоў, дзе іх чакала кніга казак.

Даша паглядзела ў неба, і маленькае воблачка падміргнула ёй.

Ці гэта проста ёй так падалося?





Зміцер Крэс

**нарадзіўся 23 ліпеня 1988 года ў Мінску. Працуе ўрачом-ангіяхірургам. Скончыў Белдзяржмедунівесітэт (2012) і інтэрнатуру па спецыяльнасці «Хірургія» (2013) Любімыя паэты — М. Багдановіч, У. Жылка, Р. Барадулін. Цікавіцца беларускай гісторыяй, уласным радаводам. Дзякуючы намаганням бацькі, Віктара Крэса, па некаторых галінах ён складзены да XVI стагоддзя. Марыць пра аднаўленне культурнай спадчыны шляхетнага саслоўя на Беларусі.**

## Вялесава племя

***

Чуеш? Сівер люта свішча,
Ветах злы ў карунках блішча,
Мілажальным ў гэтку пору
Месца не стае.

Енк ягнячы горай рову,
З чортам выкрыта дамова,
Працай ціхай кроснаў ліха
Гора хворым тчэ.

Лыч дзіка ў акно глядзіцца —
Госць ткачысе прыгадзіцца!
Шоргат, рогат, вой нястрымны!
Хмель нячысцік ссе…

Ды, каб грэх не ўзяў залішне,
Певень зранку з-пад гарышча
Баль нячысцікаў да крэсу
Крыкам давядзе.

***

Вільготны вецер шэры брук казыча,
Стрэл кропляў б'е чаргой маркотны ліст,
Як хорт здзічэлы, вецер прэ, скавыча,
І коміны усмоктваюць той свіст.

Карузлай медзі пазалота гіне,
Пад ёй пагляд каменны ў сне патух,
У муры рэшта сэрца марна стыне
З надзеяю ператрываць нядуг.

Ў чаканні бруднай ласкі вусны вулак —
Бруіцца іхным рэчышчам вада,
І харастврм, і вышынёю думак
Красуе стромкіх гмахаў чарада.

Хрысціцель-дождж узрушаным напевам
Змывае з месца грэх нечыстаты,
Раўняючы, хай бы на міг, з Эдэмам
Журлівы сад славутай басаты.


Ілюстрацыя Надзеі Савельевай.

***

Надзьміце хмары ветразем,
Вятры самотных высяў!
Дзе груганом заціх пазем,
Вы перуном хапіце!

Вас не шкадуе Гаспадар,
Жане да смагі, болю,
Адчуйце ж вы свабоды шал,
Йдучы на скон ардою.

Дзе сонца высакі магніт,
Спыніцеся, спачніце:
Блакітам вабіць космас-кіт —
То ж сілы беражыце.

Няздольныя займець майно,
Вам спадчына — чужая,
Ды імя вашае чутно
Ад краю і да краю.

Задзьміце, як апошні раз,
Развейцеся у промнях!
У іншым свеце ў іншы час
Мы ваш парыў успомнім.

**Наследаванне футурыстам**

Сыход гармоніі
З палічкі свету
Палохае
Чарговаю вайной.
Свабоды
Выпешчаны
Строй
Руйнуецца за часткай частка.
Гэй-Вой!
Адгэтуль лёс паэтаў —
Сыход гармоніі
З палічкі свету,
Дзе звычкі
Шчыляцца
Груваcтка.
Руйнуецца
За часткай частка,
Свабоды
Выпешчаны
Строй.

## Спадарожнік

Калі Космас адчыніць вокны й дзверы,
Табе больш не прыйдзецца прасіць натхнення,
Укленчваць міласціны
Й чакаць на надвор’е.
Мёртвы пыл і вятрыска ўдараць у скроні,
І шоргат распатланых пасмаў
Стварацьме ўначы апошнія гукі.
Калі агортвае невымерная самота,
Самота ў вечнасць адлегласці,
За згаслым святлом
Настае разуменне,
Як шчыльна туліліся мы адзін да аднаго
На скутым імгненнем лапічку
І як безнадзейна трымала нас вера,
Што ніводны з нас паасобку
Не выправіцца за межы скляпенняў.
І сумна, і крыўдна таму,
І жудасна страшна
Адчуць адзіноту,
Суразмерную
Хіба што адзіноце Бога ў бязмежжы,
І ўпарта народзіцца думка пра сон,
Кепскі сон,
І адчай — яе адзіны спадарожнік.

***

Я загаіў душу маўчаннем.
Я сцішыў гоман мітусні —
І прывід з’едлівай хлусні
Адвагай шчырасці пазбыты,
Як сон, вадою ўранні змыты.
Я загаіў душу маўчаннем —
Так грэх слязой бывае біты
І, калі шлях дабру адкрыты,
З карэннем выдзерты з душы.

## Навяртанне

Зыбкаросыя грыўкі шурпатых вяршынь,
Падарожжа стазорага ростань,
Юным крокам кіруе дамоў пілігрым,
Удыхаючы неба удосталь.

Месяц дзёгаць ажынавы, нібы грахі,
Ў смалакурні старанна змывае —
І пагоркі-хаціны, бы гонту страхі,
Рудаценнаю цвіллю ўсцілае.

Да залому ракі напраскті мкне хадар,
Мапай сэрца кіруецца спрытна.
Паміж гурбаў жытнёвых укленчыць трава,
Шлях умые слязою блакітнай.

Зблізку чуецца гоман залужаных вод,
Святаяннік вартуе затоку.
Дзе ў прадонні бясхмарным хаваецца брод,
Позірк скіне гадзін павалоку.

Цела ў хвалі ўбярэцца — як шостага дня,
Разняволіцца боскаю плынню,
Цёплай тванню плацэнты атуліць зямля,
Ахіне фіміямам палыну.

Гучны лямант падыме з прыгорка пастух,
Быццам гада адчуўшы на вуснах,
Ды прахопіцца шыбка і здзівіцца сну,
І лядашчы свой статак распусціць.

Потым ляжа з вандроўцам, рахманы душой,
Ўскрай ракі, што гады шліхавала,
І скаштуе хлябоў, і прыгубіць напой,
І навек Імя ўславіць Спадара.



Юлія Кісель

**нарадзілася 17 студзеня 1987 года ў Наваполацку. Жыве ў Пружанах. Гадуе дачку. У сваіх пачынаннях атрымлівае натхненне ад мужа. Захапляецца сярэдневяковымі замкамі і прыгажосцю некранутай прыроды, цікавіцца сусветнай гісторыяй, міфалогіяй і фальклорам.**

## Знічка

*Фантастычнае апавяданне*

Буйны зараснік дзіўных раслін на невядомай планеце — вось дзе даследніцкаму касмаплану «Джампер-9» было наканавана знайсці свой апошні прытулак. «Джампер-9» упаў ля балота, дзівам абмінуўшы скалы, аб якія ён, напэўна, разбіўся б ушчэнт. Уцалелыя даследчыкі мусілі заснаваць паселішча недалёка ад знявечанага карабля. Іх маленькі лагер туліўся да вугальна-чорнай скалы, аплеценай бурымі ліянамі.

Скала ўзвышалася над чырвона-фіялетавым лесам, нібы вялізная драпежная істота. Лес ужо часткова загаіў свае раны, па якіх спачатку лёгка было прасачыць шлях падзення касмічнага судна. І цяпер, здавалася, прынюхваўся да чужынцаў, з шумам выдыхаючы гарачае вільготнае паветра, прыслухоўваўся, глядзеў з цемры пільнымі вачыма, цягнуў да іх шчупальцы і толькі на кароткі момант замарудзіўся перад тым, як праглынуць нечаканых гасцей, выцягнуць з іх жыццё, зрабіць іх часткай сваіх вячыстых сцяблін.

Душны чорны вечар агарнуў прастору. Зоркі здаваліся срэбнымі парушынкамі. Два спадарожнікі планеты пралівалі злавеснае, крывавага адцення, святло на абнесеныя крывабокім тынам могілкі побач з паселішчам. Сярод леташніх магіл, ужо парослых жоўтымі, ліловымі і агатавымі лішайнікамі, траплялiся і новыя, бы нямы напамін, што нягоды яшчэ не скончыліся, што галоўныя выпрабаванні чакаюць вандроўнікаў наперадзе, калі выйдуць запасы медыкаментаў, зброі і правіянту.

Рэшткі каманды сышліся на вячэру да вогнішча. Большасць людзей па ўжо ўсталяванаму звычаю сабралася вакол Шона — памочніка механіка, асмуглага каржакаватага мужчыны з рудымі валасамі і яркімі карымі вачыма. Шон пераказваў чарговую байку.

— «Найвялікшы магчымы вугал нахілу, — кажа ён, — трыццаць градусаў. І тут нехта пытае: «А градусаў па Цэльсію ці па Фарэнгейту?» Лектар наш падумаў-падумаў і адказвае: «Пішыце, што па Фарэнгейту…»

Калі ўсе засмяяліся, адзін мужчына моўчкі адышоў убок і знік у начной цемры. Праз некаторы час за ім шмыгнула, аддзяліўшыся ад агульнага гурту, дзяўчына. Ніхто, здавалася, не звярнуў на іх ніякай увагі. У гэтай маленькай суполцы склаўся няпісаны закон, які патрабаваў рабіць выгляд, што не бачыш таго, чаго не павінен бачыць. Але насамрэч усе добра зразумелі, што адбылося: самы малодшы з мужчын, задуменны і дзіклівы Рой Браўн хацеў у адзіноце аддацца маркотным думкам, а закаханая ў яго Эліс Лайт кінулася ўслед у марным спадзяванні суцешыць яго тугу.

Эліс убачыла Браўна там, дзе і разлічвала: на могілках. Рой пазіраў у неабсяжную далячынь космасу.

Асцярожна наблізіўшыся, Эліс стала побач і некаторы час моўчкі ўглядалася ў неба, а потым перавяла позірк на твар каханага.

— Я толькі што бачыў агнявы шлейф, — сказаў Рой. — Нешта прайшло праз атмасферу і ўпала ў балота. Далёка, але можна дайсці пры жаданні.

— Рой, прашу, не крыўдуй на Шона, — перабіла Эліс. Браўн абыякава зірнуў на дзяўчыну, і яна, засмучаная, апусціла вочы. Але ж працягнула: — Ён проста хоча падбадзёрыць усіх. Мы, як і ты, шануем памяць памерлых. Але ж неабходна трымацца. Калі мы дазволім адчаю перамагчы нас, то нам канец. Наша місія патрабуе, каб мы захавалі адзінства і пазітыўны настрой… — Эліс асеклася, бо цяпер Браўн глядзеў на яе раздражнёна.

— Адчапіся,— прамовіў ён.— Не хачу я больш нічога чуць пра нашу так званую місію! Ці ты яшчэ не зразумела, што ўсё гэта проста падман? Стронг зрабіла памылку ў разліках, мы збіліся з кірунку, мы прыляцелі невядома куды! Мы нават самі не ведаем, дзе апынуліся, і адно толькі можна ўпэўнена сказаць: мы тут быць не павінны!

— Але ж мы адкрылі новую планету з біясферай! Гэта надзвычайны поспех! Мы ўсе цяпер атрымаем узнагароды! Падумай, планета яшчэ нікім не даследавана. Тут такая прастора для дысертацый! Таму зараз трэба карыстацца магчымасцю, працаваць, збіраць даныя.

— Не будзе ніякай узнагароды, бо нас ніколі не адшукаюць. Ніхто не атрымлівае нашы паведамленні, ты сама добра ведаеш, што перадатчык не працуе. Уся гэтая мітусня са зборам даных, усе гэтыя размовы пра місію — проста хітры манеўр, каб заняць вашы думкі, бо інакш вы пачняце задумвацца і прымусіце Стронг адказваць за яе памылкі!

— Ну, а калі нават яна і памылілася? Што Лінда зараз можа зрабіць, Рой? Нам лепш прабачыць усё адзін аднаму і трымацца разам!

— Што яна можа зрабіць, ты пытаеш? Не гнаіць нас ў гэтай дрыгве, а пастарацца выкараскацца, знайсці лепшы куток, каб выжыць! Не могуць па ўсёй планеце быць адны балоты! Я не хачу больш заставацца тут і марнець у гэтым прапашчым месцы!

— Рой, — мякка адказала Эліс, — ты ж ведаеш, што мы не можам пакінуць касмаплан! На ім перадатчык, на ім лабараторыя. Кінуць яго — значыць канчаткова адмовіцца ад вяртання. Да таго ж прайсці праз дрыгву не так проста. Невядома, на што там можна натрапіць ці нават на каго. Трэба застацца тут, чакаць і працаваць. Мы здолеем вытрываць, калі будзем верыць! Вось я — веру!

— Ты верыш, бо ты проста дура!— рэзка кінуў ёй Браўн, затым крутануўся і пашыбаваў прэч, пакінуўшы Эліс ледзь чутна ўсхліпваць і выціраць непаслухмяныя слёзы. У лагер яна вярталася позна ноччу, спадзеючыся нікога не сустрэць.

***

Праз дзве гадзіны пасля ўзыходу тутэйшага сонца камандзір экіпажа Лінда Стронг, зрабіўшы ранішнюю размінку і абліўшыся халоднай вадой, ужо сядзела перад маніторам і праглядала бясконцыя радкі лічбаў і разнастайныя графікі. Яна была задаволена: нягледзячы на складаныя ўмовы, каманда працавала сумленна і вельмі плённа. Дзень абяцаў быць ясным, і Лінда ў добрым настроі ўзялася за сняданак, нягучна напяваючы адну са сваіх любімых песень, складзеную Шонам МакКласкі. Яе нечакана перапыніў афіцэр Станіслаў Кавальскі — зазірнуў у намёт і спытаў:

— Камандзір Стронг, дазвольце звярнуцца!

— Дакладвайце, Кавальскі.

— У нас надзвычайны выпадак. Ноччу нехта напаў на Стэна, нашага санітара з медсанчасці. У яго паранена галава, ён ляжыць зараз непрытомны ў шпіталі. Скрадзена частка лекаў. Акрамя таго, двое зніклі з лагера.

— Хто? — спытала Стронг, бо Кавальскі раптам нерашуча змоўк.

— Гэта Рой Браўн і, — Кавальскі ўздыхнуў, — Шон МакКласкі, камандзір.

Ліндзе падалося, быццам зямля паплыла пад нагамі.

Усе яны разумелі, які лёс абіраюць. Большасць з іх здагадвалася, што раней ці пазней адбудзецца пералёт у адзін бок. Таму, калі апаратура касмічнага карабля пачала даваць збой, панікі не было. Паслядоўнасць дзеянняў у выпадку крушэння была спланавана ў штабе загадзя і адпрацавана па кроках. Лінда Стронг не мела падставы для нараканняў, бо з моманту аварыі экіпаж рухаўся, бы адзіны механізм: спрытна, хутка, рашуча. Зладжана працавалі і падчас падзення, і падчас эвакуацыі, калі выносілі параненых, і пазней, калі разбівалі лагер, ратавалі абсталяванне, тушылі пажар на караблі. Цяжкасці пачаліся пазней, бо загадзя спланаваць і распісаць наперад жыццё на незнаёмай планеце немагчыма.

Хутка высветлілася, што адрамантаваць судна не атрымаецца. Само па сабе гэта не было трагедыяй, бо ў такіх выпадках за пацярпелымі накіроўвалі каманду выратавальнікаў. Складанасць была, па-першае, у тым, што лакацыйная сістэма касмічнага карабля выйшла са строю яшчэ ў палёце, і таму Лінда Стронг не ведала дакладнага месцазнаходжання адкрытай імі планеты. Па-другое, перадатчык таксама быў выведзены са строю. Па загадзе Лінды сувязісты бесперапынна адсылалі на касмічную базу сігналы SOS і інфармацыю пра планету, але адказам была цішыня. Таму немагчыма было з упэўненасцю сказаць, ці чуюць іх увогуле і дзе іх шукаюць.

Час ішоў, чаканне і няўпэўненасць рабілі сваю справу, і праз некалькі месяцаў, праведзеных на бязлюднай планеце, лагер паступова апанавала туга. Стронг бачыла, што некаторыя члены экіпажа насілу трымаюць сябе ў руках. На Зямлі пры адборы касманаўтаў праводзілася пільная праверка на ўстойлівасць да стрэсаў, і камандзір была ўпэўнена, што рабілася яна як мае быць. Але чалавечая натура складаная і непрадказальная, і ніякі камп'ютар не здольны дасканала пралічыць яе сваёй машыннай логікай.

Праз некаторы час змянілася надвор'е: узмацнілася спёка, і вільгаць зрабілася амаль невыноснай. Вецер пачаў дзьмуць з боку балот і неўзабаве прынёс у лагер хваробу. Маладыя і загартаваныя людзі сталі марнець на вачах: адрузлі цягліцы, твары зрабіліся шэрыя, вочы запалі, праз аднаго задыхаліся ад кашлю. Потым пачаліся смерці. Некалькі чалавек тады прыйшло да Лінды з прапановай паспрабаваць прадзерціся скрозь гушчар і дрыгву і пашукаць больш сухое і бяспечнае месца для паселішча. Але камандзір мусіла ў першую чаргу пячыся аб справе: ім нельга было кідаць касмаплан, бо без лабараторыі немагчыма праводзіць аналізы, без радыёўстановак немагчыма адсылаць інфармацыю, без сонечных акумулятараў яны ўвогуле засталіся б без электрычнай энергіі. Таму Стронг загадала застацца і працягваць працу. Агульны настрой тым часам

пагаршаўся, напружанасць пакрысе нарастала і пагражала неўзабаве выбухнуць мяцяжом.

І тады нечакана праявіў сябе Шон МакКласкі. Ён пачаў складаць і пець па вечарах песні пра новую планету, пра значнасць іх місіі, пра тое, як іх чакаюць сем'і і шукаюць надзейныя сябры. Песні запаміналі і пелі разам, іх можна было пачуць і ў намётах, і ў шпіталі, і нават у лабараторыі, калі лабаранты думалі, што Лінда не чуе. Але Лінда чула і свядома не перашкаджала гэтаму парушэнню рэгламенту. Бо імпэт, з якім людзі спявалі, бляск у вачах, адказнасць, з якой зноў узяліся за працу, вартыя былі невялікага адыходу ад штабных інструкцый. Не было канца вясёлым жартам, байкам і гісторыям, якімі Шон весяліў і займаў сяброў падчас адпачынку.

Згуртаваўшы вакол сябе каманду, абудзіўшы ў людзях веру ў агульныя сілы, натхніўшы да працы, МакКласкі стаў для Лінды Стронг выратавальнай саломінкай. Шон зрабіўся сапраўдным духоўным стрыжнем каманды, і Лінда наракала сама сабе за тое, што перад вылетам падавала прашэнне аб выключэнні МакКласкі з экіпажа па выніках асобных тэстаў. Без яго дапамогі яна не здолела б столькі часу трымаць сітуацыю пад кантролем, ён быў яе апошняй апорай, і зараз Лінда адчувала, што стаіць у адным кроку ад катастрофы.

— Рыхтуйце пошукавы атрад, — загадала Стронг. — Іх неабходна знайсці. Яшчэ ёсць надзея, што яны жывыя.

***

У першы дзень пошукі не мелі поспеху, і накіраваная ў лес група мусіла адвячоркам вяртацца на базу ні з чым. Лінда Стронг была вельмі занепакоеная і пільна сачыла падчас вячэры за сваімі падначаленымі. Але тыя звонку трымаліся няблага. Хутка паеўшы, спелі напісаны Шонам гімн і разышліся па намётах адпачываць. Увечары, калі лагер і навакольны лес агарнула цішыня, Лінда запрасіла да сябе ўрача Рональда Стэмпла.

— Дзе зараз Стэн, доктар? Ён апрытомнеў? — першым парадкам спытала Лінда.

— Ляжыць у шпіталі. Апрытомнеў, і пагрозы жыццю няма. Але ўсё ж такі ўдар быў моцны. Праз траўму апошнія падзеі сцерліся з яго памяці, і нічога пэўнага ён згадаць не можа.

— Ну, штосьці ж ён павінен памятаць!

— Кажа, што пачуў шорах у адсеку з медыкаментамі. Вырашыў, што туды трапіла насякомае. Вы ж ведаеце гэтых мясцовых: здаравенныя і нахабныя, бы пацукі. Стэн пайшоў паглядзець. Далей — рэзкае святло. Больш нічога не памятае.

— Што знікла з медыкаментаў?

— Зараз высвятляем. Справа ў тым, што за ўлік адказваў менавіта Стэн. Цяпер, калі пачалі правяраць, я заўважыў, што запісы ў яго журнале не адпавядаюць маім пазнакам, зробленым падчас прыёму хворых.

— Гэта значыць, раней вы не сачылі за тым, як ён адпускае лекі?

— Неяк не хапала часу. Шмат працы, бо, як вам вядома, мы шукаем сродак для барацьбы з мясцовай ліхаманкай.

— То бок, Стэн без вашага ведама раздаваў лекі ад ліхаманкі?

— Не ад ліхаманкі, як ні дзіўна. Нехта доўгі час таемна браў лекі ад галаўнога болю. Мы пакуль не ведаем, ці звязана гэта з нападам. Магчыма, той, хто рыхтаваў уцёкі, хацеў скрасці запас медыкаментаў, але не здолеў, бо трапіў на Стэна. А галава баліць у кагосьці іншага.

— У любым выпадку неабходна апытаць і абследаваць усіх. Вы кажаце, нехта з экіпажа пакутуе ад галаўнога болю, які старанна хавае. Мне гэта не падабаецца.

Пасля гутаркі з Рональдам Стэмплам Лінда загадала прывесці Эліс. Дзяўчына, разгубленая і збянтэжаная, здаецца, з цяжкасцю ўтрымлівалася ад таго, каб не расплакацца перад камандзірам.

— Эліс, калі ты бачыла Роя апошні раз?



Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

— Учора, падчас вячэры, — адказала Лайт, апусціўшы вочы.

— Ёсць сведкі, якія бачылі, як пасля вячэры ты накіравалася за ім у бок могілак.

— Яны памыляюцца.

— Эліс, ты вярнулася ў лагер позна. Гэта могуць пацвердзіць. Падумай яшчэ раз, перш чым адказаць. Дзе ты была ноччу? Ты была з Роем? Ты бачыла, як ён напаў на Стэна?

Некаторы час Эліс маўчала. А потым адказала з рашучасцю:

— Прабачце, камандзір, але вы не маеце права так казаць. Проста вы не любілі Роя, таму зараз і ўпэўніліся, што ён злачынца, хоць для гэтага і няма сапраўдных падстаў.

Лінда, уважліва гледзячы на Эліс, спытала:

— Ці не хочаш ты сказаць, што падазраеш у нападзе Шона?

Твар Эліс пачырванеў, бы півоня. Кароткі ўсплёск рашучасці зноў змяніўся разгубленасцю, і яна адказала:

— Не, што вы, канечне, не падазраю. Я паважаю Шона, як і ўсе мы, і хвалююся за яго. Але ж і віна Роя не даказана.

Выцягнуўшы з Эліс прызнанне ў тым, што яна палову ночы праплакала на могілках пасля таго, як Браўн груба з ёй абышоўся, Лінда Стронг дазволіла дзяўчыне ісці. Застаўшыся адна, камандзір задумалася.

Яна разумела, што Эліс мае рацыю. Але, з іншага боку, гэта была закаханая дзяўчына, якая не хацела мірыцца з расчараваннем у каханым. «Сітуацыя ідавочная, — вырашыла ўрэшце Лінда. — Рой ніколі не хаваў сваю непрыязнасць да Шона, трымаўся заўсёды асобна, кпіў з заўзятасці і запалу астатніх. Да таго ж я добра памятаю яго заклікі да мяцяжу. А Эліс можна толькі паспачуваць». Уздыхнуўшы, Лінда накіравалася ў свой намёт. «Заўтра зноў будзем шукаць», — вырашыла яна.

***

Безвыніковыя пошукі доўжыліся два дні. А напрыканцы трэцяга ў лагер з вялікай пашанай прынеслі напалову згарэлую акрываўленую вопратку і асабісты значок Шона МакКласкі. Жудасная знаходка трапілася атраду далёка ад лагера сярод балот. Забойца, атрымлівалася, скіраваўся далей праз дрыгву, а палоннага мусіў забіць, каб не замінаў.

Больш за ўсіх пакутавала Эліс. Яна адчувала сябе нейкім чынам датычнай да гэтага злачынства. Ёй здавалася, што менавіта праз яе недарэчнае каханне Рой раззлаваўся і вырашыў пайсці з лагера. Дзяўчына не магла паверыць, што Браўн быў здольны на подлае забойства. Яна спадзявалася, што смерць Шона — вынік якога-небудзь няшчаснага выпадку. Але часам сама сабе прызнавалася, што гэта самападман.

Умоўнае пахаванне МакКласкі было ўладкавана з усёй магчымай урачыстасцю. Стронг дазволіла нават наладзіць невялікі салют у яго гонар, нягледзячы на тое, што боепрыпасы былі ў дэфіцыце. Урну з рэшткамі формы і значком суправаджала ганаровая варта ў парадней форме. Закідваючы магілу, сябры спявалі лепшыя з песень, напісаных Шонам.

Падчас цырымоніі Лінда выглядала вельмі стомленай. Пасля таго, як прыспусцілі сцяг і даспявалі апошнюю песню, яна падышла да Рональда Стэмпла, нешта ціха яму сказала, і твар доктара адразу зрабіўся заклапочаным і ўстрывожаным. Ён таксама ціха нешта ёй адказаў, і камандзір накіравалася ў свой намёт. Праз дзве гадзіны непрытомную Лінду перанеслі ў шпіталь.

Пазбаўлены адразу двух лідэраў, афіцыйнага і нефармальнага, лагер мусіў тым не менш працягваць жыць, працаваць і настойліва адсылаць у глуханямую пустэчу сігналы няшчасця. Хтосьці абавязаны быў вырашаць, што рабіць далей. І, нават не спрачаючыся, гэты крыж усклалі на плечы Станіслава Кавальскага. Прынамсі, менавіта яму ноччу пасля пахавання было дакладзена, што не далічыліся Эліс Лайт. Ніхто ні на хвіліну не ўсумніўся, што гэтая падзея, так ці інакш, звязана са знікненнем МакКласкі і Браўна. Пошукавы атрад вырашылі збіраць неадкладна, не чакаючы раніцы.

Узброеная паходнямі і бластарамі група накіравалася ў лес. Рыхтаваліся да шматдзённых пошукаў, але нечакана знайшлі Эліс недалёка ад лагера. Дзяўчына хавалася ў густым калючым хмызняку. Валасы яе былі ўскудлачаныя, скура падрапаная, вопратка запылілася. Эліс глядзела на ўсіх ашалелымі вачыма і нікога не пазнавала. Вялікімі намаганнямі яе здолелі супакоіць і прывесці да доктара Рональда ў і без таго перапоўнены шпіталь.

Ноч у доктара абяцала быць цяжкай. Дзяўчына трызніла, крычала, што хутка ўсе памруць, што нябожчыкі ўжо блукаюць начамі па могілках, выбіраючы наступную ахвяру. У лагеры амаль да ранку абмяркоўвалі здарэнне, і пагадзіўшыся на тым, што Эліс звар'яцела, не стрываўшы ўдараў лёсу, спагадліва паўздыхалі і разышліся па сваіх намётах.

***

Доктар Рональд Стэмпл сядзеў за сталом, трымаючы ў руцэ колбу з напаўпразрыстай яскрава-фіялетавай вадкасцю. Вадкасць пералівалася рознымі адценнямі і ўвесь час рухалася, бы жывая.

Доктар назіраў за гульнёй святла ў колбе, не маючы сілы адвесці вочы ад гіпнатычнага відовішча. Змесціва было вынікам шматдзённай бесперапыннай працы вучонага і ягоных паплечнікаў. Выцяжка з лістоты мясцовай расліны, перапрацаваная калоніяй мікраарганізмаў з Зямлі. Стэмпл спадзяваўся, што гэтая вадкасць пакладзе канец смерцям ад балотнай ліхаманкі. Але ці меў ён права выпрабоўваць сродак наЛіндзе Стронг, доктар не ведаў.

Да таго ж Стэмпла вельмі непакоілі зніклыя прэпараты. Па выніках праверкі не хапала значнай часткі лекаў ад галаўнога болю, і, што яшчэ горш, часткі псіхатропных рэчываў. Напрошвалася думка, што нехта ў лагеры доўгі час марна намагаўся пазбавіцца ад мігрэні, а потым высветліў, што

наркотык дапамагае лепш. Атрымлівалася, пад самым носам Стэмпла нехта трапіў у наркатычную залежнасць, а ён нічога не заўважыў. Доктар папікаў сябе тым, што меў нядбайнасць забыцца пра іншыя праблемы лагера, поўнасцю засяродзіўшыся на ліхаманцы.

«Вынікае, — разважаў доктар, — што Браўн, якому спатрэбіўся наркотык, пайшоў па яго і, трапіўшы на Стэна і МакКласкі, напаў на аднаго, а другога ўзяў у палон. Але ж, усё роўна, як я мог гэта дапусціць? І да таго ж, што цяпер рабіць са Стронг?»

Раніцай Стэмпл усё яшчэ сядзеў за сваім сталом, вагаючыся, і ў каторы раз пераглядаў вынікі аналізаў камандзіра. Раптам нешта ў гэтых аналізах прымусіла доктара адкласці колбу ўбок і пасунуцца бліжэй да ліхтара. Затым ён моцна пляснуў сябе па лбе.

— Рональд Стэмпл, ты стары дурань, — усклікнуў доктар. — Няма ў яе ніякай ліхаманкі!

І ў гэты момант пачуўся крык дзяжурнага, які азначаў, што зноў адбылося нешта надзвычайнае. Доктар схапіў торбу з медыкаментамі і пабег на крык. Дзяжурны кагосьці цягнуў у бок шпіталя, але Стэмпл ніяк не мог зразумець, каго.

***

Рой Браўн прадзіраўся скрозь бясконцую дрыгву, зарослую фіялетавай цінай і чырвоным багавіннем. Знясілены і змарнелы, ён ледзьве переастаўляў ногі, якія раз-пораз загразалі ў барвовай жыжцы па самыя сцёгны. Вада, якую ён назапасіў у дарогу, скончылася, яго даймала смага, але з неба не ўпала за гэтыя дні ні кроплі. Браўн здагадваўся, што згубіў шлях, бо разлічваў прайсці не больш за пяцьдзесят кіламетраў, а блукаў ужо трэці дзень.

Можна было б вярнуцца, але з таго часу, як на яго вачах небасхіл прарэзаў агнявы шлейф, Браўн ні хвіліны не меў спакою. Нейкая шалёная надзея не адпускала яго, хоць Рой і не мог дакладна патлумачыць нават сам сабе, на што менавіта ён спадзяваўся. Ён кінуўся шукаць сваю мрою, сваю знічку, на якую загадаў жаданне, і цяпер хацеў знайсці яе, чаго б яму гэта не каштавала.

На чацвёртую ноч ісці стала зусім цяжка, але сухое месца, годнае для адпачынку, так і не трапілася. Чырвонымі вачыма глядзелі на яго з неба дзве поўні. Варожа шапацела багавінне, чвякала пад нагамі чорна-чырвоная калатуша. Гулі і цвыркалі ў цемры невядомыя іншапланетныя казуркі.

Перад самым світаннем Рой праваліўся ў твань. Падалося, што знайшоў роўнае месца, дзе можна будзе паспаць. Ступіў — і ўвайшоў па самыя плечы. Спрабаваў выкараскацца, але любы рух толькі пагаршаў становішча: яго адразу зацягвала глыбей. Рой ухапіўся за нейкую расліну, каб канчаткова не пайсці пад ваду. А затым пацягнуліся марудныя гадзіны чакання непазбежнага.

Днём стала спякотна. Ад вады ішоў цяжкі гніласны пах. Браўн баяўся страціць прытомнасць і мімаволі адпусціць сцябло. А часам, наадварот, спадзяваўся, што захлынецца непрытомны і пазбегне перадсмяротных пакут.

Не, не так ён уяўляў сабе смерць, калі марыў стаць даследчыкам невядомых галактык. Ён рыхтаваў сябе да катастрафічнага крушэння карабля, да замярзання ў адкрытым космасе, да гераічнай смерці ў баях з іншапланецянамі. Але каб вось так — недарэчна, бязглузда загразнуць у дрыгве — не, такога фіналу ён не чакаў.

Рой заплюшчыў вочы. Рэчаіснасць блыталася з трызненнем. Яму раптам падалося, што ён, пакараны, сядзіць у пекле па горла ў крыві. А недзе ў недасягальнай чысціні нябёсаў аб ім плача маці і бы добры анёл кліча яго да сябе: «Рой! Рой!»

— Гэй, Рой, чуеш ты мяне? Прачынайся, д'ябал, ты ж зараз патонеш!

Браўн расплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабой брудны твар пад шапкай ускалмачаных валасоў.

— Ты хто?

— Гэта я, МакКласкі, ты што, не пазнаў?

— МакКласкі? Адкуль ты ўзяўся? І чаму ты такі брудны і калматы?

— Ну, ты, сябра, не лепей, шчыра кажучы.

— Насамрэч? Ведаеш, я нешта не разумею, дзе мы. Мы што, памерлі?

— Ага. Дакладна так. Памерлі, — сумна ўсміхнуўся МакКласкі. — Мяне нават ужо пахаваць паспелі. О, братка, каб ты бачыў, што гэта было за пахаванне!— Шон нават летуценна зажмурыўся. — Ніколі не чакаў ад іх такой пашаны. Нават ад *яе*.

— Ад каго?

— Ад Лінды, зразумела. Яна загадала наладзіць салют у мой гонар, уяўляеш?

— Памерлі… Пахавалі… МакКласкі, ў цябе ёсць вада? Ніколі не думаў, што памерлыя хочуць піць. Але ж, калі мы ў пекле, то зразумела.

— У пекле? Лепш і не скажаш! Не, вады ў мяне, на жаль, няма. Гэй, не варушыся, ты так патонеш! Пачакай, падумаю, як цябе выцягнуць.

Шон стаў на калені і працягнуў Браўну руку.

— А ну, хапайся за мяне, толькі асцярожна!

МакКласкі цягнуў на ўсе жылы. Але ўсё было марна. На ім таксама адбіліся чатыры дні без ежы і вады. Праз паўгадзіны ён здаўся.

— Прабач, відаць, аднаму мне не здолець, — выдыхнуў урэшце Шон. — А пакуль за дапамогай пайду, дык ты зноў знепрытомнееш. Што ж рабіць?

— Не варта клапаціцца, — голас Браўна гучаў абыякава.— Я ўжо скарыўся. Усё адно ліхаманка з'есць. Шкада толькі, не знайшоў я знічку.

— Якую яшчэ знічку? Ты пра метэарыт? Тут ён, недалёка. Ты крыху абмінуў яго.

— Метэарыт… — расчаравана працягнуў Рой. — Ты яго бачыў? Ты ўпэўнены?

— Цалкам! Нічога ў ім цікавага, звычайны камень. Дык ты яго шукаў? Я, шчыра кажучы, думаў, што мяне. Але ж мяне ўжо пахавалі, а ты ўсё не вяртаўся. Пайшоў тады я сам цябе шукаць, ажно гляджу, тонеш…

— Не разумею. Калі я сыходзіў з лагера, ты, здаецца, быў у пашане, пеў свае песні ля вогнішча. Няўжо пагналі?

— Не, не пагналі. Хаця, напэўна, варта было б. Значыць, ты нічога не ведаеш? О, братка! Ну, слухай. Я ўжо не першы раз ў космасе. І калі перад вылетам раптам сказалі, што нешта не тое з маімі сасудамі, вельмі здзівіўся, бо раней пытанняў не ўзнікала. Але не занадта хваляваўся, бо быў упэўнены: усё роўна дазволяць палёт. Спецыялісты майго профілю ў космасе на вагу золата.

Насуперак маім чаканням Стронг занатурылася. Пачала пісаць рапарты, адмаўлялася ад мяне. Мусіў я нават звяртацца да генерала: ён добра мяне ведае. Загадалі ёй. Ну, я і паляцеў. Толькі не механікам, а памочнікам. Але і таму ўжо рады быў. А там, уяві, яшчэ ў палёце пачаліся такія мігрэні, што хоць вый. Да ўрача ісці — сорам. Так набіваўся, да генерала дайшоў і потым прызнаць, што не варта было ляцець? Ганьба!

Пашчасціла, Стэн выратаваў. Даўні мой сябар. Даў лекі. У палёце яны мне добра дапамагалі. Але як пачалі падаць, то бяда. Галава раскалваецца, у вачах цёмна, у вушах званы б'юць. Ледзь жывы. А мне працаваць трэба, кеміць, рухацца. Я зноўку да Стэна. Сітуацыя крытычная была, не ведалі, ці не апошні дзень жывём. Таму не да разважанняў было. Даў мне Стэн пілюлю, але папярэдзіў, што яна толькі на крайні выпадак. Я пасля гэтай пілюлі працаваў як заведзены. Скуль і сілы ўзяліся!

Ну, выратаваліся мы, значыцца. Зноў перайшоў я на звычайныя парашкі. Але ці то звычка да іх з'явілася, ці з-за таго, што ціск на гэтай планеце іншы, але зусім пераcталі яны мне дапамагаць. Стэн усё ўпіраўся, не хацеў чароўныя пілюлі даваць. Але ж то так, то гэтак угаворваў я яго. Тады і песні пачаў пісаць, і вершы. О, як яны мяне адразу ўсе палюбілі праз гэтыя вершы!

Той ноччу, як звычайна, пайшоў я ў медсанчасць па свае «лекі». А Стэн раптам нешта зусім занаравіўся. Не дам, кажа, бо самому не хапае. Пасварыліся. Стэн параніў мяне нажом. Я трэснуў яго па галаве каменем. Ён упаў, а я кінуўся на ўцёкі. Прыхапіў толькі свае пілюлі, крыху бінтоў, каб кроў спыніць, і вопратку, каб пераапрануцца. Акрываўленую вырашыў спаліць. А яны, бач ты, пахавалі яе. Дзівакі! Слухай, я толькі зараз зразумеў. Яны ж, напэўна, лічаць цябе маім забойцам…

— Нічога. Гэта ўжо не важна. Нарэшце, ніхто па мне плакаць не будзе.

— Дарма ты так. Эліс вельмі па табе смуткавала. Дарэчы, я мімаволі напалохаў яе мінулай ноччу на могілках. Вельмі хацелася мне бліжэй паглядзець на сваю магілу. Яны, бач ты, камень на ёй паставілі і напісалі на ім нешта. Я вырашыў ноччу незаўважна пракрасціся да яе, каб прачытаць надпіс. І знянацку натрапіў у цемры на Эліс. Яна мяне ўбачыла ды як закрычыць, ды як кінецца наўцёкі! Я і сам напалохаўся, пабег адтуль. Але потым усё роўна вярнуўся, так мне карцела даведацца, што там напісана…

— Ну, і што там было?

— «Сябар, ты быў для нас прыкладам». Эх, ведалі б яны…

Некаторы час яны маўчалі. Потым Шон страпянуўся, быццам вынырнуў з віру думак.

— Ну, годзе, — рашуча сказаў ён. — Давай зноў руку. Трэба неяк выбірацца.

На досвітку МакКласкі на плячах прыцягнуў Браўна да лагера.

— Усё, далей сам, братка.

— Як? А ты?

— А мне нельга. Яны верылі ў мяне, разумееш? «Ты быў для нас прыкладам…» Ці можна разбіваць веру? Скажаш, што я разам з табой хадзіў шукаць знічку. Параніўся ў зарасніку, пераапрануўся, пайшоў далей. А потым — патануў.

— Ды мне ж ніхто не паверыць.

— Наконт гэтага не клапаціся. Зараз я перагавару яшчэ з адным чалавекам. Тады пытанняў не ўзнікне.

І Шон асцярожна накіраваўся да намёта Стэна.

**Эпілог**

Пасля гэтага выпадку Рой яшчэ некалькі разоў сыходзіў з лагера і па некалькі дзён блукаў па балотах. Потым заўсёды вяртаўся. Куды хадзіў, чаго шукаў — нікому не тлумачыў.

Стэн сказаў, што наркотык браў для сябе, а напад прыдумаў, каб растлумачыць недахоп лекаў. Яго ўрэшце прабачылі, але адхілілі ад працы ў медсанчасці.

Эліс, праляжаўшы ноч у шпіталі, ачуняла. Урэшце рэшт яна скарылася і перастала даймаць Роя сваім каханнем.

Доктар Рональд з асістэнтамі здолелі перамагчы балотную ліхаманку. Але наперадзе іх чакалі новыя невядомыя хваробы.

Лінда Стронг праз шэсць месяцаў пасля свайго загадкавага недамагання нарадзіла рудавалосага хлопчыка з карымі вачыма.

Чакаць выратавальнай экспедыцыі экіпажу касмаплана «Джампер-9» давялося яшчэ доўгіх сем гадоў.

Шона МакКласкі ніхто з іх больш не бачыў.





## Галіна Зыранава

**нарадзілася 6 чэрвеня 1982 года ў вёсцы Крывошын Ляхавіцкага раёна. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка, працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Накіроўвае ледзь не ўсе свае творчыя сілы на вынаходніцтва ровара на квадратных колах. Любіць аматараў жыцця і панд, а таксама зефір у шакаладзе.**

# Белая ціша паперы

***

Я бываю, да сораму, розная:
Ад п'янкога прызнання цвярозай,
Ад суворых вымоў захмялелай,
Напрадвесні па-восеньску спелай,
Ў родным гурце авечкай прыблуднай
І нямком у пустэльні бязлюднай,
У цішы ваяўніча-трывожнай,
Жаўруком над заснежанай пожняй
Ці маўчаннем, адлітым ў радкі...
Як жа добра, што ты не такі!

Не барвяны, як шчыт ваяроў,
Не зіхоткі, як німб ліхтароў,
Не спатольны, як прага вайны,
Не бяздонны, як пространь віны,
Не салодкі, як помста вякоў,
Не чужы між людзей і ваўкоў,
Не размыты, як бераг ракі...
Вельмі добра, што ты не такі.

Ды калісьці надарыцца дзень —
Мы сустрэнемся тут, на вадзе,
Пакаёўка і Вечны Кароль,
Разгадаўшы складаны пароль
З мноства сімвалаў, у якім
Я такая, а ты не такі.

Разнасцежацца вочы у дым —
Ты развучышся быць маладым,
Ты запрагнеш быць сталым і розным:
Ад п'янкога прызнання цвярозым,
Ад суворых вымоў захмялелым,
Каласком між снягоў пераспелым,
Абнадзееным ўласнаю стратай
На руінах палаца за хатай...
А пакуль ты яшчэ не такі,
Мы ў абдымках нябачнай ракі.

***

Твар знаёмы шукаю даўно на спусцелым пероне,
А надзея — па рэйках клубочкам на спеў цягніка...
Быццам хтосьці чакае, што сонца загіне ў неоне, —
І я сэрца сваё раскідаю па чорных цвіках,

Каб расквеціць, што макам, цагляна-каменныя сцены,
А пасля да адной з іх сцяблом назаўжды прырасці,
Каб не рушыла кветка парадак ад веку нязменны,
І каб птушка не мроіла больш ні ляцець, ні плысці.

Хтосьці хоча упэўніцца — ён гаспадар свайго мора.
Той, хто ў хвалі штодня высыпае чаўны камянёў.
Той, хто цягнецца вуснамі не да святла, а да зорак.
Той, хто страшыцца больш, чым агню, цеплыні прамянёў.

Я стаю на бястварым пероне з аскепачкам сотаў.
Вецер шалу ўрываецца ў цішу жывым цягніком,
І той хтосьці, хто ўласнае мора вартуе, употай
Марыць стаць у мядовых руках маіх вольным радком.

Ён не супраць аддаць мне і мора, і човен з каронай.
Ён не супраць клубкамі надзей апавіць цягнікі.
Марыць, прагне... Ды толькі чакае яго — усё роўна —
Што перш сэрца маё атрымаюць пустыя цвікі.

***

Я буду травой шчыраваць на бяствара-разлеглай раўніне,
У моры пяску, між парэпаных спінаў рудых камянёў.
Я буду травой — дзень пры дні адміраць, каб жывы не загінуў,
Зялёнаю зоркай знікаць уначы, каб на раніцу зноў
Танюткія парасткі выпусціць птушкамі з клетак карэння
Насустрач вятрам, прамяням, да чыіхсьці знясіленых ног.
Я буду травой, што не ведае стомы, знямогі, старэння,
Зялёнай надзеяю на скрыжаванні здзічэлых дарог.
Я буду травой, што жыццё зберагае пад тоўшчаю снегу,
Каб спёцы аддаць апасля разам з фарбай лісцін,
Я буду травой, што сілкуецца сокам падземнага бегу,
Нязломнай травою, што ўмее нябачна расці і цвісці.
Я буду травою, хоць мне не стае яшчэ сілы і веры.
Бо ходзікаў стрэлкі па коле Любові ад веку ідуць.
Я буду травою, каб сталі травянымі Чорныя Дзверы.
Ты толькі жыві, Маё Сонца, гары і заўжды дзесьці будзь...

***

Я стаю ля вады, падабранай падманлівым лёдам:
Так шукала люстэрка, і вось табе маеш — зіма!
У сняжынкі глядзецца, напэўна, была б яшчэ згодна,
А ў крышталікі лёду... не стану: мяне там няма.
Бо раздроблена Сонца ў салюце агністых ільдзінак.
Лепш даверыцца ветру тады — хай пляце мне касу.
Хоць ад дыху яго пагубляе пясчынкі гадзіннік,
Хай! Праменнем напоўню я шкло і далей панясу:
Да другога люстэрка — у аправе гарачых крыніцаў.
Хоць пад мантру лавіны не проста ісці да сябе,
Ды Анёл на марозе не дасць мне прыснуць ці спыніцца:
Не дажынкі яшчэ — час ўзыходзіць азімай сяўбе.

***

Я згубіла ключык ад аблокаў...
Пашукаеш, можа, на сваім стале?
Я б сама, ды толькі стол далёка...
Ёсць і іншыя бясспрэчныя «але».
З акуляраў лінза вось прапала —
Закацілася няведама куды.
Ці шукала я? А то ж, шукала...
Ды знайшла хіба птушыныя сляды:
Дробненькія, з пузікам травяным
Лістаношы ўпадабалі мой пакой,
Ў кветак дывановых прыхаваны,
Прыцярушаны рамонкавай мукой.
Кажаш, папытаць у іх пра ключык?
Можа, змёў каторы са стала крылом?
Ты з аблокаў, а такі калючы...
Кпіш. Губляю. Як заўжды — жывём.

***

Белая ціша паперы —
Ні воддыху, ні душы.
Ўспамінаў саляных кар'еры —
Не вычарпаць, не зашыць.
Танюткаю сіняю ніткай —
Паўз вейкі жывая вада.
Я буду бязважкай і хісткай,
Я буду вучыцца гадаць
На картах без д'ябальскіх знакаў,
На снезе без кроплі крыві,
Я буду смяяцца і плакаць,
Я здолею сэрца прывіць
Вакцынай глыбокае скрухі
Ад полымя лёткіх надзей.
Мне вольна ў маўчанні і рухах,
Прасторна ў сабе, як нідзе.
Даўно ці забыўся: я птушка,
Што неба нясе на крылах —
Магу ахінуць і загушкаць,
Магу спарадзіць цемру-страх...
Будзь песняй маёю і казкай!
Будзь целам вятраным зямлі,
Яе паўнаводдзем і ласкай,
Каб мне не згарэць, не змыліць
Між сініх вяршынь на паперы,
Над белай вясёлкай ўначы.
Будзь казкай маёю... і верай.
Будзь спевам маім... і маўчы.

Заснежаны аркуш стала,
Бяссонная даўкая ціша.
Зіма лістапад замяла....
Мы побач. Нас двое. Мы пішам.

***

Баваўняныя сны мае...
У іх сонца жыве над возерам
І, як толькі з пярыны ўстае, —
Плюх! — на хвалю, касматае, босае,
Разбіваючы люстра зямлі
На расінкі, крышталікі інею,
З-пад якіх на далонь матылі
Высыпаюць валошкамі сінімі
І трапечуцца крыламі слоў,
Баваўняна-падатлівай песняю
Пра жыццё, што не клеіцца зноў
Ці па швах разыходзіцца месцамі,
Пра вайну з ветракамі у стынь,
Пра надзеі і здрады з адпомстамі,
Пра агонь, што знішчае масты,
І пра ўсё геніяльнае-простае.
Сонца ведае справу сваю:
Дзень пры дні на зямлю з неба коціцца.
Я ж вярбою ў люстэрку стаю,
Матылі на галінкі ўсё мосцяцца...



Кацярына Мядзведзева

**нарадзілася 10 чэрвеня 1980 года ў Брэсце. Філолаг, казачніца, мама маленькага хлапчука. Не ўяўляе жыцця без духмянай гарбаты з бергамотам, чытае кнігі адну за адной, вядзе блог, калекцыяніруе навагоднія паштоўкі ды шчаслівыя імгненні жыцця.**

## Агеньчык

*Яне Кандавай*

— Цішш, — сказала Янка. — Глядзі, якая кучаравая. Думаеш, для супу падыдзе?

Яна прыдзірліва круціла ў руцэ пучок пятрушкі. З пятрушкі струменіў дзівосны пах. А з зяленіўшчыцы струменіў страх, такі відавочны, што яе было нават не шкада.

— Мы гэта бяром, — заключыла Янка і вынула кашалёк. — Колькі?

Гандлярка пралапатала кошт. Страх яе, відавочна, узмацніўся.

Цішш скаланулася. Ад чужых эмоцый ёй увесь час станавілася не па сабе. Потым дома яна доўга мылася ледзяной вадой, змываючы ліпкі страх, чорную зайздрасць, калючую атрутную нянавісць — усё тое, што, як сажа, асядала на іх з Янкай, пакуль яны блукалі па гарадскім рынку.

Што тут зробіш, людзі ў горадзе адчувалі да Янкі ўсё, што заўгодна, акрамя любові. Заадно даставалася і Цішш.

Яна зграбла зеляніну ў кошык і паспяшалася за Янкай, якая ўжо ў іншым раду прыцэньвалася да хурмы.

— Мяккая, — незадаволена сказала яна. — Дайце мне цвёрдую. Цвёрдую!

Гандлярка дрыжачымі рукамі перабірала плады на прылаўку. Ад яе таксама несла страхам. Цішш уздыхнула. Добра, хоць гандлярцы хапае розуму маўчаць. А значыць, яшчэ пажыве на гэтым свеце.

По дарозе дахаты Янка насвіствала песеньку. Цішш цягнула па цяжкім кошыку ў кожнай руцэ, але яны не заміналі ёй раздумваць пра ўсё патрошку.

Вось была калісьці на рынку зяленіўшчыца Міна. Сварлівая, гучная. Цішш страшэнна яе баялася — але заўсёды брала зеляніну толькі ў яе. Лепшы шпінат, сакавіты латук, найсвяжэйшая крэс-салата! Але потым Янка панадзілася хадзіць на рынак разам з Цішш — і ўжо, вядома, Міна накрычала на яе. «Што ты мне салату камечыш, купляй ці правальвай!» — штосьці такое са свайго звычайнага рэпертуару.

Янка нічога не адказала, не. Моўчкі шпульнула зеляніну на прылавак і сышла. Вось толькі наступнай раніцай Міну знайшлі ў яе гародзе з пучком шчаўя ў роце. Мёртвую. Цяпер, мусіць, з яе цела ўжо трава прарасла.

Потым быў стары Якаб. Ён прадаваў смажаныя каштаны. Калі Янка папрасіла насыпаць ёй мяшочак, але толькі не самых гарэлых, ён буркнуў, маўляў, прыгаркі — гэта ж самы смак, што ты разумееш, дурніца рудахвостая… Янка нічога не адказала, не, яна ветлівая, ды і не вельмі любіць з незнаёмымі размаўляць. Вось толькі ўначы згарэла ў Якаба хата, і сам стары ляжаў асмалены, як той прыгарэлы пірог, і наўрад ці ён зараз сказаў бы, што скарыначка — гэта самы смак, паколькі сам гэтай скарыначкай пакрыўся.

Гэтыя два выпадкі спачатку ніхто не звязаў з Янкай. Бо не адну ж яе за дзень абхаміла Міна ды Якаб дурніцай назваў. Рынак — такая справа, там з табой не цырымоняцца.

А вось калі здарыўся «зефірны» скандал, тады ўжо ў Янкі не атрымалася ў цені застацца. Ды яна і не збіралася, шчыра кажучы.

Цішш уздыхнула. Пячэш, пячэш пірагі ды штрудзелі, а Янка ўсё адно не-не ды й купіць на рынку якую-небудзь салодкую дрэнь. І не любіць жа салодкае! З цікаўнасці ці што, яна тады купіла той яблычны зефір? Цішш уздыхнула зноў. Кандытар бажыўся, што зефір самы свежы, растае ў роце. Янка папрасіла узважыць ёй паўкіло. Той узважыў, узяў у яе грошы, працягнуў пакунак. А потым раздаўся гучны грук. Гэта Янка стукнула зефірам аб прылавак. А прылавак вазьмі ды трэсні…

Дадзены людзям голас — а на што яны марнуюць яго? Кажуць гідкія словы, крычаць, лаюцца, скандаляць. Таму кандытару папрасіць бы прабачэння ціхутка, грошы Янцы вярнуць ды зацукраванага імбіру падарыць, каб не сердавала. А ён, дурань, замест гэтага крычаць пачаў, што яна прылавак яму зламала. Збегся натоўп, шум падняўся на ўвесь свет, Цішш тады так разгубілася, што ледзь не заплакала.

А Янка — гэта Янка. «Ды задушыся ты сваім зефірам», — сказала ціха, кінула пакунак на зямлю і сышла. І ўсе б забылі пра той скандал — бо які дзень абыходзіцца на рынку без хлусні ды ашуканства? — калі б назаўтра не знайшлі кандытара мёртвым, з вырачанымі вачыма і, вядома ж, з кавалкам яблычнага зефіру ў горле. Тады вось і ўспомнілі рудую пакупніцу з ліхім позіркам.

І зяленіўшчыцу Міну ўспомнілі, і старога Якаба, і адразу неяк адно з другім сплялося і стыкавалася, лепш не прыдумаеш. Тады і зразумелі гараджане, што ў старым замку на ўзгорку пасялілася ведзьма….

Цішш усміхнулася. Людзі такія пацешныя. Яны не бачаць відавочнага, затое здатныя прыдумляць розныя небыліцы. Неяк яна прыйшла на рынак адна, без гаспадыні, і тут жа некалькі гандлярак абступіла яе, і твары іх былі фальшыва-ласкавыя.

— Паслухай, дзяўчынка, ці праўда, што гаспадыня твая — ведзьма? — шапталі яны і совалі ёй у кішэні і ў кошык хто жменю ледзянцоў, хто яблык, хто пярэстую хустачку. — Ці праўда, што гэта яна звяла са свету старую Міну і напусціла агонь на хату Якаба? Ты скажы нам, папярэдзь, бо ўсе мы простыя людзі, як і ты, і павінны дапамагаць адзін аднаму.

Яны доўга дапякалі яе рознымі смешнымі пытаннямі, пакуль каўбасніца Ханна не сцяміла нарэшце:

— Бабанькі, ды яна ж нямая!

Сумесь страху і жалю праступіла на тварах, і Цішш пакінулі ў спакоі. Яна развяла рукамі і пайшла за пакупкамі, а па горадзе папаўзлі чуткі, што ведзьма з узгорка адрэзала сваёй служцы язык. Каб не балбатала лішняга.

Цішш высунула язык і паказала яго свайму адлюстраванню ў начышчаным рондалі. Адрэзаць язык. Вось прыдумаюць жа! І зусім Янка не такая злая, як пра яе кажуць. Яна і не біла Цішш ні разу, і грубых слоў не казала. Навошта ёй грубіяніць, яна і ласкавым тонам можа такое сказаць, што потым паўночы будзеш не спаць, уздрыгваць, глытаць слёзы. Так, з людзьмі Янка не ладзіла, затое словы былі яе лепшымі сябрамі.

Цішш выпадкова выявіла гэтую таямніцу. Наогул, яна проста хацела выцерці пыл. У кабінеце Янкі заўсёды шмат пылу — дзіўнага чорнага пылу, які нагадвае попел ад гарэлай паперы, але Цішш ніколі не заўважала, каб Янка штосьці паліла. Вось так і атрымалася, што тады яна ўвайшла і ўбачыла на стале скрутак і неяк машынальна ўзяла яго і стала чытаць…

«*…і прыйшлі страшныя карлікі, і ўзялі старога Томаса за рукі, і накінулі яму на шыю вяроўку, і падвесілі яго пад столлю. Стары захрыпеў і заторгаўся, але ніхто не мог яму дапамагчы, і толькі гадзіннік абыякава цікаў, адлічваючы апошнія секунды яго жыцця…*».

Цішш у страху выпусціла скрутак, ён зваліўся на падлогу, успыхнуў чорным полымем — і згарэў, пакінуўшы пасля сябе маленькую жменьку чорнага пылу…

Калі ранкам яна прыйшла на рынак, усе толькі і гаманілі, што пра здарэнне ў хаце Томаса. Павесіўся стары, не пакінуўшы ні завяшчання, ні цыдулкі. Пляткаркі разважалі: каму ж адыдзе знакамітая калекцыя гадзіннікаў, што цікала, стукала і спявала, не даючы заснуць яго суседзям?

Цішш памятала гэтага старога. Тыдзень назад ён узяўся паправіць старадаўні марскі хранометр, які Янка выпадкова адшукала ў куфры старызніка. Ды відаць, штучка была занадта рэдкая: калекцыянер не стрымаўся, прысвоіў, а Янцы заявіў, што выкінуў гэтую лухту ў смецце, бо яго ўжо не адрамантаваць. Зараз вось і яго самога выкінуць у смецце, то бок, на могілкі. І пакрыецца пылам яго калекцыя, адзін за адным спыняцца маятнікі, замруць стрэлкі, усё цішэй і цішэй будзе станавіцца ў хаце, дзе памірае сам час…

Цішш доўга не магла зразумець, адкуль Янка даведалася пра самагубства старога. Няўжо яна ўмее прадбачыць будучыню?

Але ўсё аказалася значна прасцей — і значна страшней.

Неяк увечары Янка засядзелася ў сваім кабінеце. Цішш прынесла глінтвейн, і Янка загадала ёй застацца.

— Як ты лічыш, што горш, — абыякава спытала яна, — пазнаць, што каханая дзяўчына табе здрадзіла з тваім братам, ці што яна смяротна хворая?

Цішш пацiснула плячыма. Сапраўды, ну як тут абярэш?

— Так, — сказала Янка, спрабуючы віно. — Калі нявеста яму здрадзіць, жанішок сам ад шчырага сэрца пажадае ёй пякельных пакут, імгненна пра каханне сваё забудзецца. А вось калі адданая яму дзяўчына апынецца на смяротным ложку, тады гэты дурыла будзе гараваць і «ўсё, што заўгодна» аддасць — на словах, вядома, — за яе выратаванне. Смешныя людзі. Ён лепш сам, сваімі рукамі, пахавае нявесту і будзе кожны панядзелак лілеі насіць на магілу, чым дапусціць, каб дзяўчына была жывая-здаровая, але ў абдымках іншага.

Цішш узяла пусты куфаль і хацела сысці, але Янка спыніла яе.

— Ты думаеш, я злая? Не, я проста справядлівая. Добра, магілку яму пакінем. Дзяўчыну гэтую мне не шкада, яна пыхлівая, ганарыстая. Ды і гандляру кветкамі трэба дапамагчы, зусім у яго продаж не ідзе. Пышнае пахаванне паправіць яго справы.

Наступнага дня на рынку Цішш пачула, што дачка гарадскога галавы смяротна захварэла, а жыццё яе лічыцца на гадзіны.

Тады яна і зразумела, што Янка не адгадвае і не заказвае ўсе гэтыя нягоды і беды. Яна іх проста стварае. Выдумляе сваёй рудой галавой, папіваючы гарачае віно і круцячы паміж пальцаў белае гусінае пяро. Яна часцяком забаўлялася так вечарамі і выходзіла з кабінета толькі тады, калі з'яўляўся Цім.

Цім заўсёды з'яўляўся нечакана. Проста стукаўся ў дзверы, Цішш упускала яго і бегла да Янкі паведаміць — а тая ўжо быццам адчувала штосьці і збягала ўніз па прыступках босая, шчаслівая, у прыгожай сукенцы. Цім абдымаў яе, і яны ішлі наверх, і надыходзіла тая асаблівая цішыня, якую Цішш было невыносна слухаць.

Да Янкі і раней прыходзілі мужчыны. Розныя яны былі — галантны кавалер з ружай у пятліцы, асмуглы цыган з голым торсам, анёлападобны бялявы юнак — але нікога з іх яна не сустракала на сходах, нікога так не чакала, як Ціма. Толькі потым Цішш даведалася, у чым была розніца. Усе гэтыя анёлы, кавалеры і піраты з цыганамі былі несапраўдныя. Янка сама выдумляла іх, і яны грукалі ў дзверы. Каб паводзіць сябе адпаведна таму, што яна напісала. Каб казаць тое, што яна хоча пачуць, і цалаваць так, як ёй падабаецца. Гэта было прыемна — і невыносна сумна.

Бо сапраўднае каханне тым і добрае, што нечаканае…

Цішш памятала той дзень, калі яны ўпершыню ўбачылі Ціма.

Усё там жа, на рынку, яны павольна ішлі сярод кветкавых радоў. Янка шукала нейкія асаблівыя кветкі. Не ружы, не лілеі, не львіны зеў, не архідэі, якія ўжо надакучылі… Яна сама не ведала, чаго хацела, і ці за кветкамі прыйшла на рынак, і калі яна раптам замерла насупраць Ціма і яго кветак, Цішш зразумела — вось яно. Вось навошта Янка ў такі пякучы душны поўдзень не заленавалася спусціцца з узгорка. Не за кветкамі, не. За прадаўцом кветак.

Хоць трэба аддаць належнае — і кветкі ў Ціма былі ўнікальныя.

— Ты ведаеш, як яны завуцца? — спыталася Янка.

— Не ведаю, — адказаў ён. — Там, дзе яны растуць, няма ніводнай душы, і мне няма ў каго спытаць.

— Што ж ты робіш там, дзе няма ніводнай душы?

— Я там жыву.

Увесь гэты час яны глядзелі адзін аднаму ў вочы, а Цішш — на іх абодвух і адчувала, як становіцца мокрай ад поту яе цёмная сукенка. А Янцы было ўсё хоць бы што, яна любіла спякоту, як яшчарка, любіла сонца і спёку, а на Ціме не было кашулі, і Цішш дзівілася на яго татуіроўку над левым саском — маленькі агеньчык з трыма язычкамі, і Янка таксама глядзела на гэты малюнак, а потым сказала:

— Твае кветкі завуцца амарылісы, і гэта самыя ўлюбёныя мае кветкі. Бачыш замак на ўзгорку? Я там жыву. Як сыдзе спякота, прынясі мне ўвесь кошык, я іх куплю.

І яна сышла — рудая, лёгкая, у белай сукенцы, і Цішш пацягнулася следам, адчуваючы, што Цім праводзіць іх вачыма.

Не, не іх. Толькі Янку. Ён не бачыў нікога акрамя Янкі. Яны, як кажуць, знайшлі адно аднаго.

Паветра было нібы наэлектрызаванае ў той дзень. Янка нервова хадзіла па пакоях і не адпускала Цішш ад акна. Ён прыйшоў позна ўвечары, і ніякіх кветак пры ім не было. Але Янка гэтага нават не заўважыла. Яны моўчкі сышлі наверх, і Цішш скрэбла кацялкі пяском, люта вазіла туды-сюды анучай, толькі б не чуць гэтай салодкай і такой крыўднай цішыні.

Так і павялося: Цім прыходзіў, падымаўся з Янкай у яе пакоі, а Цішш пачынала прыбірацца. Гэта дазваляла ёй не думаць пра тое, як цяпер наверсе Цім трымае Янку ў абдымках, і яго асмуглая скура туліцца да яе далікатна-ружовай. Янка рудая, у яе вельмі белая, нібы парцалянавая, скура, не тое, што ў Цішш. Ды і наогул у самой Цішш няма нічога асаблівага: шэрая сукеначка, мышыны хвосцік рэдзенькіх валасоў, невыразныя вочы. Яна магла б быць ценем Янкі — але, на жаль, нават цень больш арыгінальны.

Цішш часта думала пра тое, чаго не было ў яе самой. Напрыклад, пра тое, як людзі знаходзяць адзін аднаго, як яны жывуць разам. Адносіны некаторых падобныя на іголку з ніткай. Іголка ўтыкаецца ў тканіну, нітка паслухмяна паўзе следам па пракладзенай дарожцы і замацоўвае пачатае. Іншыя адносіны падобныя на кроплі, якія дзяўбуць камень, — там адзін увесь час спрабуе змяніць другога, і паступова яму гэта ўдаецца. А стасункі Янкі і Ціма падобныя на феерверк: яркі выбліск — а потым цішыня, пакуль нечая нябачная рука не запусціць наступную ракету.

Іх адносіны былі незразумелыя Цішш. Яны кахалі адзін аднаго, гэта было відавочна. Цішш падслухоўвала іх гутаркі — часам выпадкова, а часцей — знарок стаіўшыся на балконе ці за шырмай.

Не маючы сваёй любоўнай гісторыі, яна пільна сачыла за чужой, становячыся саўдзельнікам, гледачом і слухачом. Але тое, што яна бачыла і чула, прыводзіла яе ў неразуменне.

— Я кахаю цябе, як моцна я цябе кахаю, — казала Янка хрыплым шэптам.

Ён маўчаў.

— А ты? Ты кахаеш мяне? — пыталася яна.

Ён маўчаў.

Потым Цішш чула цяжкі ўздых — і ніколі не магла зразумець, чый…

— Табе час ісці, — з горыччу казала Янка.

— Чаму ты праганяеш мяне?

— А чаму ты хочаш застацца? — парыравала яна, з прагнасцю ўзіраючыся ў яго твар. Яна жадала пачуць толькі тры словы — але ён іх не казаў, ніколі не казаў.

— Таму што я хачу быць з табой… — адказваў ён.

— Але чаму? — упарцілася яна.

І ён зноў маўчаў.

— Можна, я застануся хоць да раніцы? — пытаў ён. — У цемры я не знайду дарогу дахаты.

— Не, сыходзь, — злосна казала Янка. — Сыходзь!

І ён сыходзіў — каб потым з'явіцца зноў. І ўсё паўтаралася нанова — шалёны танец кахання, стомленыя, бязрадасныя гутаркі — і нязменнае расставанне. Яны нібы ішлі адной і той жа дарогай, кожны раз адмаўляючыся з яе сысці, хоць абодва выдатна ведалі, што гэта дарога нікуды не вядзе.

Дзіўныя. Цішш не разумела іх.

Аднойчы, ратуючыся ад звонкай цішыні, якую ўмела ствараլі гэтыя двое, Цішш зноў увайшла ў кабінет Янкі. Яна змахнула пыл са стальніцы, а потым наштосьці пачала выцягваць скрыні. Ей раптам стала цікава, што можа захоўвацца ў нетрах пісьмовага стала, — бутэлечкі з чарнiламі, звязкі пёраў, завостраныя алоўкі, а можа быць, любоўныя лісты ці пляшка з каньяком? Але выявілася, што стол быў набіты скруткамі. Цішш адчыняла скрыню за скрыняй, і скруткі сыпаліся вонкі і разгортваліся, і яна сама не заўважыла, як апусцілася на калені і пачала чытаць…

Усё гэта былі казкі — пра прыгожую дзяўчыну, якая марыла сустрэць прынца, пра мужчыну, што прагнуў улады, пра бабульку, якая жадала выгадаваць лілею, што цвіла б вечна, пра падлетка, які марыў злавіць цмока за хвост… Дзіўна было тое, што ўсе казкі абрываліся на паўслове, ніводная не дабралася да канца. А потым Цішш наткнулася на казку, ад якой ёй стала раптам чамусьці вельмі холадна…

*«Жыла-была ў адным паўночным прыморскім мястэчку казачніца. Была яна вельмі бедная, нічога не мела акрамя капы рудых валасоў, старой сукенкі ды капелюша з пеўневым пяром. А яшчэ ў яе была галава, набітая казкамі. Гэтыя казкі і ратавалі яе, калі станавілася голадна і зябка. Заўсёды знаходзіліся ахвотнікі паслухаць прыгожыя гісторыі пра жар-птушак і лятучыя куфры, валавокіх прынцэс і мужных прынцаў, якія ссякаюць галаву вогненным змеям. За вытанчана сплеценую казку можна было атрымаць поліўку і начлег, а то і колькі медзякоў.*

*А калі станавілася зусім ужо цяжка і нікому не хацелася чароўных гісторый, казачніца ішла на рынкавую плошчу, потым — у завулак, потым — па прыступках уніз, і там, у падвале адной хаты, у волкасці і холадзе, яе заўсёды чакаў акраец хлеба і куча саломы, на якой можна было пераначаваць. Там жыў стары жабрак, які таксама любіў слухаць казкі, а часам і сам распавядаў — увесь час адну і тую ж гісторыю, пра Агеньчык…*

Агеньчык гэты паказваецца не ўсякаму, а толькі таму, хто ў роспачы, хто страціў сэнс жыцця. Тады полымя свечкі раптам успыхвае пурпурам і пачынае размаўляць, ці ў каміне ўскідаюцца іскрынкі, складаючыся ў прывабныя словы, ці вогнішча разгараецца ярка-ярка, і раздаецца спакуслівы голас, які суцяшае і абяцае ўсё, што ты толькі захочаш, усяго толькі з адной маленькай умовай. І не было яшчэ ніводнага чалавека, які б адмовіўся ад здзяйснення свайго запаветнага жадання.

*— Хоць, можа быць, і знайшоўся адзін, — казаў жабрак і хітра падморгваў, — усяго адзін, хто абраў волю, а не багацце і бесклапотнае жыццё…*

*І вось аднойчы, лютай зімовай ноччу, калі мястэчка замятала завея і нават мора замярзала ля берагоў, казачніца прыйшла ў склеп — але яе ніхто не сустрэў. Стары жабрак ляжаў на саламянай пасцелі адубелы, і вочы яго былі адкрытыя. Дзяўчына закрыла яго вочы — і падумала, што закрыла б і свае. Яна так стамілася змагацца за жыццё ў гэтым свеце, дзе нікому няма да яе справы і дзе ляжыць адзіны мёртвы чалавек, якога яна лічыла родным…*

*Ледзь цьмеў агеньчык апошняй свечкі, але калі казачніца працягнула да яго азяблыя рукі, раптам успыхнула яркае малінавае полымя, такое цёплае, такое добрае, і ці то здалося дзяўчыне, ці то папраўдзе чуліся ў халодным падвале невядома адкуль ідучыя словы:*

*— Не плач, мілая дзяўчына, не трэба плакаць. Усё можна паправіць, усё будзе добра. Скажы мне толькі — чаго ты жадаеш, і я выканаю любое тваё жаданне!*

*— Любое? — перапытала казачніца, і ў галаве яе закруціліся карагоды думак. Міска гарачага супу, новыя чаравікі, мяшок залатых манет, утульная цёплая хата…*

*— Не спяшайся, — цурчэў нябачны голас. — Думай як след. Гэтага жадання табе павінна хапіць на ўсё жыццё».*

Цішш падняла вочы і здрыганулася, таму што ў дзвярах кабінета стаяла Янка і неадрыўна глядзела на яе.

— Ну, як табе? — спытала Янка.

Цішш пацiснула плячыма.

Янка глядзела пільна, нядобра, і на імгненне Цішш стала страшна. Яна забылася пра сваю немату і падумала: цяпер мне адрэжуць язык…

Янка наблізілася да яе і рэзкім рухам вырвала з яе рук скрутак.

— Ніколі, — сказала яна, — ты чуеш, ніколі нічога не прасі ў Агеньчыка…

«А як папрасіць, калі не можаш вымавіць і слова», — думала потым Цішш. Ды і што прасіць?

Цішш не памятала, дзе яна нарадзілася, адкуль прыйшла ў замак на ўзгорку. Здаецца, яна заўсёды была тут, чысціла срэбра, аддзірала воск ад старых падсвечнікаў, націрала масцікай падлогу, чысціла чорныя замшавыя пантофлі гаспадыні.

Цішш не ўмела размаўляць і таму любіла слухаць. Яна ўмела чуць тое, на што іншыя не зважаюць, — як рыпаюць чыстыя талеркі, калі па іх праводзіш пальцам, як звініць пацiху цукар, калі насыпаеш яго ў цукарніцу, як храбусціць у арэхаколе карычневая шкарлупіна фундуку. Шамацела ў мяшэчку крупа, булькатала кіпячая вада ў чайніку, сквірчэла мяса на патэльні.

Кожная рэч у хаце мела голас — апроч самой Цішш. Цікаў гадзіннік, шапталі шаўковыя сукенкі, цурчэў у двары фантан. Шашаль тачыў ножку камоды. Матылёк стукаў крыльцамі ў шкло. А Цішш маўчала. Яе жыццё не было агучана.

«Вось што б я папрасіла, — падумала Цішш. — Голас».

Але наўрад ці ў Цішш з'явілася б магчымасць сустрэцца з Агеньчыкам. Бо ён з'яўляўся толькі тым, хто ў роспачы, хто страціў веру і надзею, не бачыў сэнсу жыць далей. А ў жыцці Цішш усё было проста і спакойна. Яна жыла па распарадку, які невядома адкуль узяўся ў яе галаве, яна ведала, што за чым стаіць ў жыцці і што яна павінна рабіць, а чаго не павінна.

Усё проста: яна рабіла тое, чаго хацела Янка.

Раніцу Янка не любіла. Толькі пасля поўдня яна званіла ў званок, каб Цішш прынесла халодную гарбату з цытрынай і пошту. Не адсоўваючы шторы, адкрывала лісты, і амаль не чытаючы, шпурляла іх на падлогу.

— Адно і тое ж, — казала яна, — адно і тое ж. Прываражыце каханага, пазычце грошай, будзьце маёй жонкай, выратуйце безнадзейна хворага…. Цішш, як ты думаеш, ёсць на зямлі людзі, якія нічога не жадаюць?

Цішш паціскала плячыма. Адкуль ёй ведаць?

Увесь дзень Янка піла халодную гарбату, чытала кнігі, драмала і зрэдку прымала наведвальнікаў. Госці прыносілі цукеркі, галінкі белых архідэй і плёткі. Часам заставаліся вячэраць, але часцей Янка выганяла ўсіх і замыкалася ў кабінеце, і Цішш са страхам прыслухоўвалася да рыпання белага пяра. А потым на рынку яна чула апошнія гарадскія плёткі — каго зганьбілі і кінулі перад вяселлем, хто памёр, неасцярожна трапіўшы ў сваім садзе ў свой уласны мудрагеліста пастаўлены капкан, а хто патанае ў грашовых пазыках, не здолеўшы суцішыць запал да гульні.

— Табе шкада гэтых людзей? — пыталася са здзіўленнем Янка. — Тых, хто дзеля забавы плюе дзяўчыне на новую спадніцу, хто штурхае нагой вулічнага ката, хто адмаўляецца ад родных дзяцей ці прадае ў ламбардзе любімае кальцо сваёй маці? Ты лічыш, іх трэба пашкадаваць і выбачыць? А мне вось іх не шкада. Калі чалавек здольны на малую жорсткасць, то рана ці позна ён здзейсніць і вялікае зло. А можа, і не здзейсніць, адвагі не хопіць, затое ўвесь час, дзень пры дні, будзе атручваць жыццё іншым людзям. Навошта такія злыдні на зямлі? Іх трэба давіць, як прусакоў.

Так проста — узяць тонкімі пальцамі белае пяро і ўпісаць імя ворага ў сваю новую чорную казку. Янка часта так рабіла. Яе баяліся. Калі яна ішла па вуліцы, захінуўшыся ў тонкую вышытую пашміну, прахожыя расступаліся: хто кланяўся, хто складаў дулю ў кішэні. А Янка ішла па горадзе, і пялёсткі акацыі сыпаліся да яе ног, і сонца прыглушала святло, хаваючыся за хмаркай, і дваровыя кошкі выбягалі вітаць яе.

За Янкай заўсёды ішла Цішш. Цягнула непад'ёмныя кошыкі з хурмой і пахлавой, пучкамі кінзы і саспелымі гранатамі, шарбетам і салодкай жоўтай дыняй. Янка любіла хадзіць на рынак. Не ў крамы, дзе прадаваўся антыкварыят, шаўкі і аксаміт, парцалянавы посуд ці кнігі, дзе стаялі мяккія канапы і наведвальнікам падносілі смачную чорную каву. Не, Янка любіла рынкавую таўкатню, любіла разглядаць пярэстыя хусткі, кошыкі з ежай, дзетак, якія трымаюцца за доўгія спадніцы матуль, жабракоў, што падбіралі гнілую садавіну і прасілі капеечку…

Цішш здзіўлялася, чаму чысценькая, грэблівая, акружаная бляскам і каштоўнасцямі Янка кожную нядзелю ранкам спускаецца з узгорка, каб асабіста абраць садавіну і зеляніну і перамовіцца парай слоў з рыбнай гандляркай, і прымерыць танныя рознакаляровыя шкляныя каралі, і купіць якую-небудзь цацанку ў старызніка, пакапаўшыся ў яго куфры. Янка пачувала сябе ў гэтым натоўпе, як рыба ў вадзе, быццам усё жыццё толькі і рабіла, што мела зносіны з падобнымі людзьмі. Цішш не магла падумаць, што так і было насамрэч.

Зусім іншы быў Цім. Ён жыў дзесьці ў гарах і зусім не нагадваў гараджаніна. Асмуглы, цёмнавалосы, са срэбнымі завушніцамі ў вушах, ён з'яўляўся аднекуль з кошыкам амарылісаў, такі нетутэйшы, непадобны да іншых, што часам ён здаваўся Цішш несапраўдным. Здавалася, Янка сама яго выдумала. Узяла ў левую руку белае пяро і прыдумала душнай летняй ноччу — крок за крокам — грук у дзверы і першы імбрычак гарбаты, выпіты не ў адзіноце.

Але Цішш ведала, што Цім сапраўдны. Інакш бы Янка не ўздрыгвала на кожны грук у дзверы і не глядзела б тужліва ў акно. Яна ніколі не ведала, калі Цім прыйдзе зноў, ды ён і сам, здаецца, не ведаў. Цішш здзіўлялася: што можа стрымліваць двух людзей, калі яны кахаюць адзін аднаго, што не пускае іх, не дае быць разам? Але яе справа была не думаць, а чысціць кацялкі ды абскубаць куранят, і яна руплива тузала пёркі, чакаючы моманту, калі пляснуць дзверы і з другога паверха данясуцца рыданні. Янка плакала кожны раз, як Цім пакідаў яе, і тады справай Цішш было несці

наверх напой з сардэчніка і маку, паіць Янку, укладваць яе ў пасцель і расчыняць больш шырока акно, упускаючы свежы вецер, што вымеце, знясе прэч нуду-смутак і дапаможа заплюшчыцца заплаканым павекам…

Хоць забі, Цішш не разумела, навошта Янцы так патрэбныя гэтыя словы кахання, калі Цім і так побач. Навошта словы, калі можна абхапіць рукамі, прытуліцца і ні пра што больш не думаць? Дзіўныя людзі гэтыя казачнікі, усё ім трэба прагаварыць услых, расставіць па месцах, кожную рэч і кожны рух назваць патрэбным словам. Пажылі б яны ў немаце — хутка б зразумелі, што словы не такія ўжо і важныя.

Але Янка не разумела гэтага. І адной гарачай ноччу, калі Цішш ужо не завіхалася ў хаце, а бяздумна сядзела пад дзвярыма гаспадарскай спальні і падслухоўвала — словы канчаткова нашкодзілі гэтым дваім.

— Чаму ты не можаш проста быць разам са мной? Навошта табе словы, пустыя словы, хіба ты не бачыш усе адказы на свае пытанні ў маіх вачах? Хіба не адчуваеш, калі я дакранаюся да цябе? — казаў Цім. — Давай сыдзем з гэтага велізарнага пустога замка, давай паселімся ў маёй хаце, там салодка пахнуць кветкі, там цішыня і спакой, там мы можам жыць разам, усё жыццё!

Янка маўчала. Цішш глядзела ў замочную шчыліну і бачыла, як гаспадыня круціць галавой, як блішчаць у лямпавым святле рудыя кудзеркі, спружыняць, паўтараючы зноў і зноў рэзкае «не».

— Значыць, мая хата табе не падыходзіць? — выгукнуў горка Цім. — Табе патрэбныя каміны, срэбра і ўся гэтая раскоша, сярод якой ты сама, як прыгожая лялька. Ці не выцірае прыслужніца кожным ранкам пыл і з цябе, калі праходзіць міма са сваёй пёравай шчоткай? Ты так залежыш ад слоў, а яны — усяго толькі пустыя гукі. Але калі яны для цябе важнейшыя за мяне самога… тады што ж.. так, я кахаю цябе, я кахаю цябе больш за жыццё, слухай гэта, раз табе так важна гэта ведаць — ведай, я кахаю адну цябе і буду кахаць заўсёды… але больш мы ніколі не ўбачымся, і ў гэтым вінаватая ты адна.

Наступіла цішыня. Колькі ні ўглядалася, Цішш не магла нічога разгледзець. Дзе ж Цім? Здаецца, ён проста знік. Пачуліся звыклыя Янчыны рыданні, і Цішш адчыніла дзверы, пачала звычайны рытуал. У яе і пітво для супакою было ўжо напагатове, стаяла побач на падносе, чакала, калі спатрэбіцца.

Цішш узбівала падушкі і адчыняла вокны, а Янка паўтарала прыглушана скрозь слёзы:

— Ён сышоў назаўжды… Ён не вернецца…

Пацягнуліся сумныя, аднастайныя дні. Кожны быў заняты справай: Цішш прыбірала, гатавала ежу, снавала з падносам наверх і назад у кухню, а Янка — тая проста чакала. То сядзела ля акна, гледзячы на дарогу, якая вядзе да замка, то ішла ў горад, блукала па вуліцах, спадзеючыся сустрэць Ціма і разумеючы, што не сустрэне. Цім таксама быў заняты справай, і яго справай была адсутнасць.

Зазірала Янка і на кветкавы рынак, але прадаўцы паціскалі плячыма. *Амарылісы*? Вы што, жартуеце? У нашым клімаце такія кветкі не растуць.

Неяк увечары, калі Янка плакала у сваёй спальні, Цішш зноў пракралася ў кабінет. Ёй не давала спакою тая казка, пра казачніцу і Агеньчык. Хацелася даведацца, што там далей.

Але скрутак знік. Дарма Цішш абшуквала адну скрыню за другой — там было досыць недапісаных гісторый — аб прынцэсах і тролях, жміндах і дабраках, бедных нявестах і прагных мачахах, але казка пра дзяўчыну ў капелюшы з пеўневым пяром кудысьці падзелася.

Раптам стукнулі дзверы. На парозе стаяла Янка, і слёзы яшчэ блішчалі на яе шчаках.

— Шпіёніш? — усміхнулася яна. — Капаеш, шукаеш, вынюхваеш? Не, тут адрэзаным языком не абысціся, прыйдзецца мне цябе атруціць і скінуць цёмнай ноччу ў студню.

Цішш перапалохалася, хоць і разумела, што гаспадыня жартуе. Янка любіла забаўляцца, кажучы падобныя злавесныя словы. Але калі яна кажа — гэта яшчэ не так страшна. Галоўнае, каб яна не пачала пісаць. Рыпучае пяро прадвяшчала каму-небудзь смерць, і Цішш кожны раз спадзявалася, што яе чарга яшчэ не надышла.

— Вось скарб, які ты шукаеш, — сказала Янка і зняла з кансолі цяжкую драўляную скрыначку, замкнутую на ключ. Адкрыўшы яе, яна дастала капялюш з пеўневым пяром і насунула яго на свае рудыя кудзеры. — Ну як, мне пасуе?

Цішш маўчала, не ведаючы, што трэба: кіўнуць ці пакруціць галавой.

Следам за капелюшом Янка дастала світак. Разгарнула, паглядзела задуменна.

— Гэта мая самая першая казка, — сказала яна ціха.

«Чаму яны ўсе недапісаныя?» — хацела спытацца ў яе Цішш. Але ж, зразумела, не магла…

Янка ўздыхнула, прабегла па світку вачыма і пачала чытаць услых, роўна з таго месца, дзе ў мінулы раз запнулася Цішш:

*«— Я жадаю, — сказала казачніца, і голас яе адужаў, — я жадаю, каб любая казка, якую я напішу, здзяйснялася. Каб напісанае станавілася явай.*

*— Ай, добра! — засмяяўся Агеньчык. — Люблю небанальныя жаданні! Ты мне падабаешся, дзяўчынка. Але правілы ёсць правілы. Я выканаю тваё жаданне, калі ты пагодзішся на адну маленькую ўмову. Умову гэтую я скажу потым, калі жаданне будзе выканана. Маленькі штрых да тваіх слоў, не больш.*

*— Я згодна, — выпаліла яна не разважаючы. Здавалася, нішто не магло сапсаваць той чароўнай ідыліі, у якой яна вось-вось апынецца.*

*— Дык вось, — сказаў Агеньчык. — Твае казкі будуць спраўджвацца. Усе і заўсёды. Але яны павінны заканчвацца дрэнна. Смерць, расстанне, расчараванне, няўдача — у цябе багатая фантазія, ты справішся. А як толькі завершыш хоць адну гісторыю чым-небудзь, накшталт: «і жылі яны доўга і шчасліва» — раз і назаўжды пазбавішся майго падарунка.*

*Агеньчык успыхнуў яркім малінавым полымем і згас.*

*Дзяўчына сядзела і глядзела на згасаючую свечку.*

*— Ну што ж, значыць, мае казкі не будуць заканчвацца зусім, — прагаварыла яна і пачала складаць першую — пра прыгожую і загадкавую рудавалосую казачніцу, якая жыве ў замку на ўзгорку на беразе цёплага паўднёвага мора…».*

— Таму я не ўсе казкі дапісваю, — сказала Янка. — Не хачу заканчваць дрэнна — вось і не заканчваю зусім. Пакідаю герояў пражываць зноў і зноў адзін момант свайго жыцця, хадзіць па крузе з нявырашанымі праблемамі. Яны сварацца, плачуць ці скараюцца і прыстасоўваюцца, але ніколі, ніколі не бываюць шчаслівыя. Таму, што як бы добра і светла я ні пісала, рана ці позна мне даводзіцца ставіць гэта праклятае АЛЕ, — Янка нявесела ўсміхнулася. — Бачыш, зусім, як у жыцці. Людзям часта бракуе адвагі штосьці змяніць, прыняць рашэнне, сказаць праўду… І тады яны звальваюць усю віну на нейкага неіснуючага казачніка, імя якому Лёс, нібы гэта ён вырашае ўсё за ўсіх.

Некалькі дзён пасля гэтай гутаркі Янка не набліжалася да кабінета, і белае пяро валялася без справы. І значыць, ніхто ў горадзе не зваліўся з даху, не атруціўся нясвежымі смаўжамі і не з'ехаў з глузду, выявіўшы шкілет у сямейнай шафе.

Цішш штораніцы хадзіла на рынак, звыкла напаўняючы кошык ежай, хоць Янка амаль перастала есці. Ну, ды ў Цішш справа маленькая: купіў, прынёс, прыгатаваў, выкінуў астылую ежу з талерак у памыйнае вядро…

Але неяк увечары Янка пазваніла ў званок неяк няўчасна. Звычайна гэтыя гадзіны яна праводзіла на кушэтцы з кнігай ці забаўлялася, разглядаючы горад з балкона у падзорную трубу, а Цішш тым часам начышчала мелам сталовае срэбра ці круціла ручку кавамолкі, атрымліваючы асалоду ад рэзкага паху кававых зерняў.

— У мяне для цябе важнае даручэнне, — пачула Цішш.

Янка трымала ў руках запячатаны ліст.

— Ты павінна знайсці Ціма і перадаць яму вось гэта.

«Але як жа я яго знайду?» — хацела б спытаць Цішш.

— Пра гэта я паклапачуся, — нервова сказала Янка і дастала з кішэні штосьці круглае. — Гэта чароўны клубок. Так, як у старых добрых казках. Назаві ці падумай імя таго, каго шукаеш, ды не губляй клубок з вачэй.

Цішш стаяла, злажыўшы рукі, і на твары яе відавочна чыталася нежаданне кудысьці ісці. Ёй было страшна. Яна ведала толькі адзін звыклы шлях — ад замка ў горад, на рынкавую плошчу, у кнігарню ды галантарэйную краму — звычайны маршрут прыслужніцы, якая спяшаецца выканаць даручэнні. Думка пра тое, што прыйдзецца пайсці новай, незнаёмай дарогай, а то і без дарогі зусім, спяшацца за чароўнай нежывой рэччу, у якой не зразумей што на розуме, — думка гэтая прывяла Цішш у жах. А раптам клубок завядзе ў багну ці загадае скокнуць у бездань? Хто ведае, на што здольныя гэтыя казачныя штукі…

— Выбару ў цябе ўсё адно няма, — спакойна сказала Янка. — Ды і ніколі не было. Успомні, ці здаралася табе хоць раз самой прымаць рашэнні? Ну, акрамя вечных падслухоўванняў за дзвярыма ды капання ў маіх асабістых рэчах? А? Ты жывеш, як механізм, па аднойчы і назаўжды заведзеным парадку, хіба ты не заўважала гэтага?

Цішш прыгнечана кіўнула.

— А ведаеш, чаму? — спыталася Янка. — Таму што ты — несапраўдны чалавек. Ты — усяго толькі персанаж адной з маіх казак, і ўся твая гісторыя займае радкоў пятнаццаць, не больш.

Цішш у жаху пакруціла галавой, вочы яе пашырэлі ад страху.

Не, толькі не гэта!

— Так, так, — кіўнула Янка. — Я магла б паказаць табе гэты скрутак, дзіўна, што ты сама на яго не наткнулася ў сваіх пошуках. Але няма патрэбы шукаць, я ведаю тваю гісторыю на памяць.

Яна ўсміхнулася і прадэкламавала:

*«Жыла-была на свеце дзяўчынка без голасу, і клікалі яе так, як шэпчуць, прыклаўшы палец да вуснаў, — Цішш! Была яна непрыкметная і шэрая, нічым не выдатная, і ўмела толькі адно — прыслужваць сваёй гаспадыні, хадзіць на рынак, трымаць хату ў чысціні, гатаваць смачныя стравы і — самае галоўнае — быць незаўважным ценем і не нагадваць пра сябе без патрэбы. Слухаючы спеў птушак і перастук дажджу, яна марыла калі-небудзь займець голас».*

Цішш стаяла нерухома, па яе шчаках цяклі слёзы.

Янка нахмурылася.

— І няма чаго раўці, — сказала яна. — Ты павінна быць удзячная, што наогул існуеш. Калі б не я, цябе б не было зусім! А так — ты дыхаеш, жывеш, глядзіш на гэты свет, і, напэўна, ён табе падабаецца….

Яна села ў крэсла і пакруціла галавой.

— Сусвет устроены гэтак жа, як і любы тэкст. Усё мае завязку — нараджэнне і фінал — смерць. А што будзе ў сярэдзіне жыцця, у адну старонку гэта выльецца ці ў дзесяць тамоў, тут ужо кожны вырашае сам. Кожны сам піша сваё жыццё. А некаторыя жыцці пішу я. Я магу прыдумаць чалавека,

апісаць яго, і праз хвіліну ён пастукаецца ў дзверы. А магу скласці казку пра любога, хто жыве па суседству ці за тысячы міль адгэтуль, абы мне было вядома яго імя — і гэты чалавек пачне жыць так, як я скажу, і рабіць тое, што я яму загадаю…

Янка памаўчала.

— Я раней не была такая, — прагаварыла яна ціха. — Я ўмела прабачаць, я не зважала на дробязі. А зараз я лёгка магу наклікаць няшчасце на чалавека толькі за тое, што ён абазваў мяне ведзьмай ці аблічыў на рынку. Гэта так павабна, так проста — узяць і адпомсціць, не брудзячы рук, забіць — усяго толькі росчыркам пяра. Я адчуваю сябе ўсемагутнай — але такой самотнай, Цішш, калі б ты толькі ведала! Я магу прымусіць любога чалавека пакахаць мяне, але мне хутка надакучыла прыдуманае каханне. І вось знайшоўся Цім. Ён кахае мяне — кахае проста так, не таму, што я дала яму гэтую ролю, а таму, што ён сам так вырашыў.

Я ўжо не раз хацела напісаць каму-небудзь шчаслівы фінал, адмовіцца ад свайго дару, стаць самай звычайнай — і сысці з Цімам, куды вочы глядзяць. Мне трэба было толькі адно — ведаць напэўна, што ён мяне кахае. Я была такая ідыётка, Цішш! Я патрабавала ад яго слоў — усяго толькі слоў — не заўважаючы ўсяго таго кахання, што ён дарыў мне, што свяцілася ў яго вачах, што пераходзіла ад яго скуры ў маю, калі мы былі разам.

А зараз ён знік. Я магу лёгка знайсці яго, ты ведаеш. Проста напісаць пару слоў у сваёй уласнай казцы, напісаць сабе трохі шчасця — але я больш не жадаю выдуманага жыцця, я жадаю сапраўднага. Таму на пошукі Ціма я пайсці не магу. Не. Хай вырашае сам, не бачачы мяне, не чуючы. Ты аднясеш яму гэты ліст — і што будзе, то будзе…

Яна апусціла галаву на рукі, і ў пакоі наступіла цішыня. Цішш пачакала яшчэ трохі і асцярожна выйшла.

Ліў дождж. Дарога ператварылася ў брудную калатушу, і чаравікі Цішш паразмакалі, поўныя халоднай вады. Прамок і ліст, чаму Цішш помсліва цешылася. Бо гэта не яна, гэта дождж, а яна зусім ні пры чым. Янка сама вінаватая, што выгнала Цішш з хаты ў такую непагадзь.

Цяпер бы сесці ля агню, развесіць плашч і панчохі, каб прасохлі, захутацца ў коўдру і выпіць гарачага віна… А Янка ў гэтыя хвіліны напэўна п'е халодную мятную гарбату, гультаявата гартае кніжку і глядзіць у акно, любуючыся навальніцай. Янка захапляецца кіпучай стыхіяй, гром і маланкі не палохаюць яе, а, наадварот, дораць нейкую асалоду, з якой потым атрымліваюцца страшныя чорныя казкі. А вось Цішш баіцца, яна ўздрыгвае пры кожных грымотах, пры кожным выбліску, і больш за ўсё на свеце марыць апынуцца пад дахам. Але чароўны клубок абыякава скача па лужынах, яму не скажаш «гэй ты, давай перачакаем дождж, спыніся!», яму не страшная вада, і прастуда не пагражае.

Цішш ішла ды ішла, не разбіраючы дарогі. Ужо і дождж прайшоў, і перастала крапаць з дрэў пры парывах ветру, наступіла глухая ноч, і толькі чароўны клубок слаба свяціўся ў цемры. Шкада, не свяціліся ўсе тыя ямы з граззю, у якія Цішш правальвалася па шчыкалатку, і ўсе тыя карані і сукі, аб якія яна спатыкалася. Калі б яна магла размаўляць, то чартыхалася б усю дарогу. А так толькі плакала ад злосці, калі ў чарговы раз зачапілася за нябачны сучок і парвала спадніцу. І калі клубок, падскочыўшы ў паветры, плаўна апусціўся на ганак нейкай хаты і замёр, Цішш не адразу паверыла сваім вачам. Няўжо так проста? Няўжо яна прыйшла?

Акенцы хаты слаба мігацелі, значыць, усярэдзіне хтосьці быў, і, напэўна, не спаў. Яна сунула клубок у кішэнь і нясмела пастукала. Дзверы адкрыў Цім.

— Ты?! — вымавіў ён здзіўлена.

Яна кіўнула. Змоклы ліст ляжаў у кішэні плашча, але Цішш не спяшалася яго даставаць. Спачатку яна жадала атрымаць хоць якую-небудзь узнагароду за сваё падарожжа. Пасядзець каля агню, сагрэцца і з'есці штосьці гарачае.

— Ды ты наскрозь прамокла! — Цім расчыніў дзверы. — Уваходзь хутчэй!

Праз хвіліну Цішш ужо сядзела на лавачцы ля агню, загарнуўшыся ў коўдру і сёрбаючы цёплае пітво. Цім важдаўся са шчэпкамі і паперкамі, раздзьмуваючы полымя, потым падкінуў некалькі дроўцаў. Раз-пораз ён паглядаў на Цішш, нібы чакаючы нейкага тлумачэння яе начному візіту. Цішш зразумела: ён і ведаць не ведае, што яна нямая. Дакладна, думаў увесь гэты час, што яна проста добрая прыслужніца, якая не ўступае ў гутаркі з гаспадарамі.

— Ты, напэўна, дзівішся, чаму я не хаджу больш да вас? — спытаў ён. — А я не магу. Я не магу знайсці дарогу.

Ён памаўчаў. Цішш глядзела ў агонь.

— Мая сям'я заўсёды жыла тут, у гарах. Быццам бы і блізка да горада, а быццам і самі па сабе. Ужо не ведаю, чаму мае продкі так не любілі гараджан, што пасяліліся тут. Але так павялося, і я застаўся тут, калі бацькі памерлі. Я не здолеў бы жыць у горадзе. Там трэба рабіць шмат бессэнсоўных рэчаў, каб цябе паважалі і мелі з табой зносіны. І дзяўчыны там… дзіўныя… Я не змог зблізіцца ні з адной. У нейкі момант мяне напаткала роспач. Я сядзеў каля агню і думаў, а ці не падпаліць халупу і ці не скончыць з усім гэтым. Маё жыццё здалося мне пустым і нікчэмным. Я вадзіў вострым нажом па запясці і змрочна разважаў, колькі ж ува мне крыві, цікава. І вось тады… тады паленне ярка ўспыхнула, і я пачуў голас …

Цішш здрыганулася. Цім зірнуў на яе і вырашыў, відаць, што яна ніяк не можа сагрэцца.

— Я таксама здрыгануўся, вось як ты, калі пачуў гэты голас. Ціхі, добры, такі суцешны. Ён лісліва прапанаваў выканаць любое жаданне ў абмен на маленькую агаворачку… Агеньчык — ён ведаў, калі з'яўляцца. Лавіў момант. І я сказаў: «Жадаю знайсці сапраўднае каханне, сустрэць тую, якая мне наканавана лёсам». Агеньчык успыхнуў яркім малінавым святлом і сказаў: «Цудоўненька, цудоўненька, ты сустрэнеш яе. Але як толькі ты прызнаешся ёй у каханні — страціш яе назаўжды».

Я думаў потым, што мне ўсё гэта прыснілася. Але наступнага дня скончылася соль у хаце, і я панёс на рынак ахапак нейкіх прыгожых кветак, што растуць тут паўсюль. І сустрэў Янку. Я адразу заўважыў яе. Яна адрознівалася ад астатніх гараджан не толькі белай скурай і рудымі валасамі, не. Ад яе як быццам зыходзіла ззянне, якога чамусьці ніхто не заўважаў, толькі я. І, здаецца, яна ўбачыла штосьці падобнае ўва мне, таму што нас адразу прыцягнула адно да аднаго.

Ён падкінуў яшчэ паленца ў агонь.

— Я імкнуўся рабіць яе шчаслівай, як мог. Але ёй патрэбныя былі гэтыя праклятыя словы. І я не вытрымаў яе сумнага позірку і сказаў, што кахаю яе. Тады я мігам апынуўся тут і зразумеў, што забыў дарогу ў горад. Я спрабаваў ісці ў розных кірунках, але нязменна трапляў у гушчар ці ў балота, ці выходзіў назад да сваёй хаты. Словы Агеньчыка здзейсніліся. Калі б тады, загадваючы жаданне, я ведаў, чым усё скончыцца, я бег бы ад Агеньчыка без аглядкі. Нікому не пажадаю сустрэчы з ім…

Ён правёў рукой па твары. «Няўжо плача?» — падумала Цішш. Ёй здавалася смешным і няправільным, калі мужчына плакаў з-за кахання. Плакаць і шкадаваць — гэта жаночая доля, а мужчыны проста ідуць далей, не азіраючыся, хіба не?

— Спушчуся ў падвал, пашукаю што-небудзь ядомае, — сказаў ён вінавата.

Калі яго крокі змоўклі, Цішш дастала з кішэні ліст. Мяты, волкі, з нейкімі важнымі словамі ўсярэдзіне. Цішш трымала яго ў руках і вельмі моцна жадала аднаго: узяць і кінуць гэтую паперку ў агонь, спаліць без следу, як быццам і не было.

Толькі яна так падумала, агонь успыхнуў ярчэй, як быццам працягнуў жоўтыя далоні да ліста. Аддай, аддай яго мне, як быццам шаптаў ён, ніхто не даведаецца, а ты вернешся дахаты і скажаш Янцы, што не знайшла дарогу.

Цішш уздыхнула і схавала ліст назад у кішэнь. І стала думаць пра тое, што адбудзецца далей. Яна аддасць ліст, Цім прачытае яго і ўжо абавязкова ўзрадуецца. Што-што, а пісаць Янка ўмее. Напэўна, ён напіша ёй адказ, растлумачыць, што трапіў у пастку Агеньчыка, як і сама Янка, бываюць жа такія супадзенні ў жыцці. І тады Янка, ужо вядома, схопіць белае пяро, макне ў чарніліцу і пачне выводзіць — слова за словам — шчаслівую развязку для іх любоўнай гісторыі. І хай яна страціць свой дар, што з таго, галоўнае — паспець напісаць якіх пяць слоў, накшталт: «ён знайшоў да яе дарогу».

А што будзе з Цішш? А нічога новага. Усё гэтак жа таўчы ў ступцы карыцу, выграбаць попел, заварваць гарбату, прыслужваць і дагаджаць, бо ўсё адно яна нічога больш не ўмее. Яе жыццё ўжо напісана за яе, і хай там усяго пара радкоў, ці ў сілах Цішш штосьці змяніць? Яна маленькая бездапаможная істота, і адзінае, што ёй застаецца, гэта пайсці і кінуцца галавой уніз з якой-небудзь абрывістай скалы. Чаго там, ніхто і не заўважыць…

— Ну што ты! Не трэба так адчайвацца! — сказаў раптам хтосьці мядовым галаском.

Яна здрыганулася і агледзелася, але Цім яшчэ не вярнуўся, і ў хату ніхто больш не ўваходзіў, яна была адна.

— Ды тут я, тут, — раздалося ад агню.

Яна павярнула галаву і ўбачыла маленькі малінавы Агеньчык, што прытанцоўваў на дагараючых палешках.

— Ты ж ведаеш, хто я? — сказаў ён задаволена. — Не чакала, так?

Ён быў круглы і віхрасты, гэты Агеньчык, з выгляду зусім не пякучы, яго так і хацелася патрымаць на далоні. Цішш з усмешкай глядзела, як ён змяняе колер ад залацістага да гарачага чырвонага, як ляцяць ад паленцаў іскры, паўзе нябачнае цяпло, саграваючы яе азяблыя ногі і рукі…

— Давай, дзяўчынка, смялей, — казаў ён, пабліскваючы. — Я ведаю тваё запаветнае жаданне. Я ведаю, як табе надакучыла быць Вухам, у якое ўсе, каму хочацца, распавядаюць свае гісторыі, а Вуха толькі слухае і не можа нічога адказаць. Як гэта крыўдна, а, Цішш, пачуваць сябе памыйным вядром, куды аблягчаюцца, адпраўляюць свае страхі, крыўды, плёткі і здагадкі? Я ведаю, колькі разоў табе хацелася закрычаць ім усім: «Замоўкніце, не жадаю вас больш слухаць!» — але ты маўчала, не адважвалася нават заткнуць вушы рукамі. Вуха. Не чалавек, а Вуха, вось хто ты. А я магу даць табе Голас — тое, што зробіць цябе асобай.

Ты здабудзеш Голас, свой, уласны, толькі падумай пра гэта! Зможаш напяваць, шаптацца і пляткарыць, аклікаць знаёмых, пытаць дарогу, прызнавацца ў каханні і праклінаць. Толькі падумай, дзяўчынка, я падару табе аксамітнае сапрана, а жадаеш — кантральта, твой голас будуць пазнаваць на вуліцы, цябе будуць прасіць, каб ты спела… Ніхто, ніхто не будзе больш казаць табе «Цішш!», у цябе з'явіцца прыгожае жаночае імя. Падумай, колькі часу можна быць бязмоўнай прыслужніцай? Ці не пара здабыць сваё ўласнае жыццё?

Агеньчык гутарыў так павабна, так салодка. Цішш уявіла сабе… Вось яна спявае калыханку дзіцяці, вось шэпча нешта мужу, а вось распавядае суседцы рэцэпт чарнічнага пірага. І ўсё гэта — усяго з адной маленькай агаворачкай? У яе перасохла ў горле. Здаецца, яна не здолела б вымавіць ні гуку, нават калі б магла размаўляць. Дрыжачымі рукамі Цішш узяла са стала кубак з вадой і адпіла трохі.

— І ўсё гэта толькі з адной маленькай умовай, — Агеньчык зіхацеў і пераліваўся. — Яна нікольні не перашкодзіць табе, вось убачыш. Кінь ліст у агонь, я знішчу яго, кінь чароўны клубок, ён больш табе не спатрэбіцца! Ты не вернешся ў замак, дзе была прыслужніцай, у цябе пачнецца новае жыццё! Табе дастаткова толькі кіўнуць! Кіўні — і дамовімся!

Яна глядзела на Агеньчык, любавалася ім.

Маленькі, гарачы, чароўны, ён так проста выконвае чужыя жаданні — ці насамрэч знішчае іх…

Цішш усміхнулася — і рэзка выліла ваду з кубка ў агонь.


Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

Калі Цім вярнуўся і пачаў выкладваць на стол нейкія скруткі і збанкі з кошыка, Цішш працягнула яму ліст.

— Гэта табе, ад Янкі, — хрыпла прагаварыла яна.

— Што ж ты маўчала ўвесь гэты час? — выкрыкнуў ён, вырываючы ліст з яе рук. Цішш усміхнулася. Хто ведае, мо аднойчы і яна стане такой парывістай і смешнай, калі закахаецца ў каго-небудзь, і ў яе пачнецца свая ўласная гісторыя.

Не ў сілах пераадолець сваю цікаўнасць, яна зазірнула Ціму праз плячо — і не змагла стрымаць уздых расчаравання, таму што Цім трымаў у руках зусім белы і чысты ліст. Літары не размоклі ад дажджу, не пацяклі, не. Іх проста не было. Ніводнага слова не напісала Янка ў сваім лісце. Цішш стала прыкра. Што ўсё гэта значыць? Навошта яна ішла сюды праз дождж, бруд, начную жудасць? Усё дзеля пустога кавалачка паперы?

Але Цім быў на дзіва задаволены. Ён усміхаўся.

— У гэтым яна ўся, — сказаў ён, размахваючы лістом. — Нельга было сказаць лепей.

— Сказаць што? — спытала Цішш, прыслухоўваючыся да гучання свайго голасу.

— Усё, што я жадаў бы пачуць, — загадкава адказаў ён. Потым усмешка сышла з яго твару. Цішш зразумела: ён успомніў пра агаворачку, пра тое, што не зможа ніколі вярнуцца ў горад да Янкі.

— Я напішу ёй адказ, — сказаў ён ціха. — Аднясеш?

— Няма патрэбы, — сказала Цішш. — Пайдзі і скажы ўсё сам.

— Ты ж ведаеш — не магу, не знайду дарогу…

— З гэтым — знойдзеш, — Цішш выпусціла з кішэні чароўны клубок, і ён закруціўся ля яе ног, гатовы пусціцца ў шлях. — Проста скажы ці падумай, што табе патрэбна Янка, і ён прывядзе…

— Такое хіба бывае? — недаверліва ўсміхнуўся Цім.

— Рознае бывае, — адказала Цішш, — проста трэба верыць.

— Тады пойдзем? — падхапіўся ён. Зразумела, яму не цярпелася сціснуць у абдымках сваю любую.

Цішш пакруціла галавой.

— Я пакуль што застануся тут, калі ты не супраць. Я больш не служу Янцы, — яна адкашлялася. — Ды і яе самой, хутчэй за ўсё, ужо няма ў замку. Але ты не бойся, клубок пакажа табе дарогу, дзе б яна ні была.

Цім паглядзеў на яе, нібы жадаў штосьці спытаць, але нецярпенне аказалася мацнейшым за цікаўнасць, і ён выскачыў за дзверы, не спускаючы з клубка вачэй.

Цішш зноў развяла агонь і ўзялася перабіраць ежу, што прынёс Цім. Яна рабіла гэта моўчкі, хоць магла б і напяваць. Але калі ў цябе ёсць голас, то не абавязкова ўвесь час пускаць яго ў ход. Хачу — спяваю, хачу — маўчу, думала яна. А яшчэ яна думала пра Янку. Пра тое, чаму Янка абрала менавіта яе, Цішш, казку. І пра тое, як доўга казачніца набіралася адвагі, каб узяць у рукі пяро і вывесці на паперы нешта, накшталт: «А потым здарыўся цуд, і дзяўчынка здабыла голас. І жыла яна доўга і шчасліва, але гэта ўжо зусім іншая гісторыя».

Мабыць, Янка шмат аб чым думала гэтай ноччу і шмат аб чым пашкадавала, калі — быццам як пакаранне — адняла гэта «доўга і шчасліва» ў сябе і падарыла самаму блякламу і сумнаму, самаму нікчэмнаму свайму персанажу. Нібыта зрабіла сабе на злосць. Так, падумала Цішш, у гэтым Янка ўся. Яна ненавідзела людзей — але ці любіла *сябе*? Хто ведае…

Цікава, што здарылася ў тое імгненне, калі словы былі напісаны? Ці грымнуў гром? Ці ўспыхнуў малінавым полымем скрутак з забароненымі шчаслівымі словамі? Ці ж, наадварот, зусім нічога не здарылася, проста адляцеў у нябёсы Янчын чароўны дар, і белае пяро стала самым звычайным пяром, не здольным больш нікога забіць ці стварыць?

Цішш так і бачыла, як Янка апранае свой стары капялюш з пеўневым пяром, перакідае торбу цераз плячо і выходзіць з замка прэч — кудысьці ў новае жыццё, дзе яна будзе зноў распавядаць свае казкі — такія, якія захоча, і дзе з часам, можа быць, яна здолее загладзіць усё тое зло, якое прычыніла людзям, — хай благім, злым, непрыемным, але ўсё-ткі не заслугоўвалі яны такіх жудасных жыццёвых фіналаў…

Цішш павесіла кацялок над агнём. Агледзелася.

Хата была старая, але дыхтоўная, сумленна пабудаваная. Для пачатку можна пажыць і тут. А далей — увесь свет да яе паслуг. Цішш ведала, што не прападзе. І ведала, што Цім знойдзе Янку, а ці будуць яны жыць доўга і шчасліва, залежыць толькі ад іх саміх.

Агеньчык жа па-ранейшаму будзе прыходзіць да людзей і прапанаваць ім павабную здзелку. Агеньчык любіць гуляць з людзьмі.

А людзі…

Людзі так любяць гуляць з агнём.



## Мікола Мятліцкі

**нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна. Паэт, перакладчык, публіцыст, журналіст. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013). Паэзія Міколы Мятліцкага перакладалася на рускую, балгарскую, сербскую, таджыкскую мовы.**



# На замчышчы старым…

***

Горад рассыпаўся на агні.
Вечар асенні.
Чорныя ночы. Змрочныя дні.
Вусціш і цені.

Б'ецца-трапечацца Вечны агонь.
Вуліц тунэлі.
Стукам абцасаў стагоддзі яго
Тут адгрымелі.

Зноў вечаровай парою суціх —
Барва неону.
Рэха пагаслае крокаў людскіх.
Неба прымглёна.

Зоркі не бачна жывой ні адной
Ў выстылай чэрні.
Чуйна працяты самотай скразной
Горад вячэрні.

***

Недзе Нарач пад сонцам, знаёмая мне,
Хваляй светлаю, чыстай блакіт варухне

І люстрэчаю воднай паміж берагоў
Будзе густа сінець аж да першых снягоў.

Ёсць на беразе траўным драўляны дамок,
Дзе на квортцы падаўна ржавее замок.

Гаспадыня, не ўзяўшы нічога з жытла,
Пад разгалыя сосны да мужа пайшла.

Сын малодшы за ёю падаўся туды.
Сад сямейны зарана зноў скінуў плады.

Промень зырка кранууўся аконнага шкла.
Цішыня на астылы парог узышла.

Пазабылася ўсё. І не ведае свет,
Што паэт напісаў тут апошні санет.

***

На замчышчы старым дубы ў пяць абхопаў,
Астача камяніц — сырая затхласць сцен.
І час прывёў сюды павечных далакопаў —
Нябачныя стаяць паблізу смерць і тлен.

Я ў летапісе дзён знайшоў пра замак звесткі,
Тут некалі былі ў гасцінах каралі.
У пыле на сцяне аскепак даўняй фрэскі,
Ён кажа мне, што ўсё мінецца на зямлі.

У рэзруху эпох ледзь кметна памяць тлее,
Цярусіцца скрозь час астачаю нямой.
Куды вядзе адсюль дубовая алея?
Брыдзе з вякоў сівых у дзень няўдзячны мой.

***

У Бесядзі на глейкім дне
Дубы-асілкі, таплякі,
Што палі ў змрочнай даўніне,
Ляжаць забытымі вякі.

Іх згубна гніль не закране,
Шліфуе-студзіць плынь камлі,
Знайшоўшы скарб на глейкім дне,
Наверх іх хвалі падналі.

Здалося: волаты да нас
З баёў вярнуліся — і спяць,
Каб з новай сілаю у час
За родную зямлю паўстаць.

Як здрыгануцца зноў вякі
Ад гулу-цокату падкоў —
Ударам цвёрдае рукі
Сустрэнуць грозных чужакоў.

***

Як ні сіліўся я даўняй школьнай парой,
Ды не здолеў давесці бабулі сваёй,
Што Зямля наша круглая; роўна за год
Вакол Сонца здзяйсняе арбітай аблёт,
А за суткі, узлёгшы ў палёце на бок,
Абарот робіць свой, як бабулін клубок.
Я стараўся давесці старой сяк і так,
Ды, напэўна, слабы быў у гэтым мастак.

Мне паверыць бабуля ніяк не магла,
Бо стаяла за ёю стагоддзяў імгла.
Калі б гэтак, казала, на свеце было,
Да суседняга б наша прыбіла сяло.
І што дзень наступае на змену начы,
І што зоркамі змрочнае неба зырчыць,
Дык заведзены Богам парадак такі,
Ўсё сыходзіць у свеце з Ягонай рукі.

Спіць бабуля мая, стала жменькай зямлі,
А ў нябёсы касмічныя мкнуць караблі…
Колькі новых планет нам яшчэ не відно?
Неба — быццам бабулінай хаты акно…

***

Ці помніш, плыткая рака,
Таго гарэзу-юнака,
Што на ўзбярэжжы ў звоне траў
Сваю нявесту цалаваў?
І зваў яго чароўны свет.
Сплыло нямала зім і лет.
Багата згінула травы…
Дык гэта ён, як лунь, сівы
Сюды прытэпаў без клапот,
Каб з твару змыць жыццёвы пот.

## Пасека

Як міргатлівая пацерка,
Ўецца над кветкай пчала.
Звонкая мёдная пасека
Сотняю вулляў гула.

Гожа ад ветру прыкрытая
Стойкай лясною сцяной,
Ў час медазбору спавітая
Дыму заслонай густой.

Статак на Вубедзі пасвячы,
Тут я не раз гасцяваў.
Дзядзька, разважлівы пасечнік,
Мёдам мяне частаваў.

Потым увечар да хаціны
Краўся, як скрытны зладзей.
Вусны дачкі яго — Каціны —
Мёду былі саладзей.

Вёснамі тымі спакуснымі
Сэрца адчула палёт.
Час прамінуўся, а вуснамі
Чую той слодычны мёд.

І ля знаёмае хаціны
З горкай тугой пастаю.
Дочкі павыраслі Каціны,
Ў кожнай — яе пазнаю.

***

У прысаку бульбу пяклі хлапчукі,
Вялі каля вогнішча шэптам гаворкі.
Разлеглася цемра ў чатыры бакі,
Блішчэлі ў нябёсах дрыготкія зоркі.

І фырканне коней начы супакой
Зрэдзь тузала чутна і біла па слыху.
Прыпаўшы да світкі азяблай шчакой,
Ляжаў і ад баек-страшылак ледзь дыхаў.

А потым, як золак прыкметна шарэў,
Прагнаўшы трывання начныя пакуты,
З бязмернаю радасцю лугам ляцеў,
Каб зноўку Буланага хвацка распутаць.

І нёсся галопам шалёным, ліхім,
Рукой, бы крылом, адбіваючы ўзмахі.
Буланы імчаў — і знікалі за ім
Бясконцай начы неймаверныя жахі.


Ілюстрацыя Надзеі Савельевай.

Валерый Гапееў

# Мая мілая ведзьма

## *Школьны раман*

*(працяг, пачатак у №2,3 за 2017)*

*Паважаныя чытачы!*

*З-за прыкрай недарэчнасці, выкліканай тэхнічным збоем, у папярэднім нумары «Маладосці» ў рамане была прапушчана частка тэксту. Яе кароткі змест такі: пасля таго, як Кір пабачыў на плячы Ядвісі радзімку ў выглядзе матылька, ён вырашыў запрасіць яе дадому. Адбываецца сустрэча, падчас якой Кір расказвае, што ў дзяцінстве ён, Уладзя і Юрась штогод адпачывалі ў адным летніку, а ў адзін год ля ручая, дзе бавілі час, вельмі моцна напалохалі дзяўчынку, кінуліся яе праганяць. Яна ўцякала ад іх, тады Кір і пабачыў на яе плячы ружовага матылька. Дзяўчынка звалілася з абрыву, моцна пабілася. Хлопчыкі спужаліся яе маці, якая ішла да капальні, і збеглі. Маці прынесла дзяўчынку ў летнік, адкуль яе забрала «хуткая». Хлопчыкі чакалі, што іх пазнае маці дзяўчынкі, хаваліся, але ўсё прайшло быццам бясследна для іх. Толькі Кіру пачаў сніцца матылёк. Ядвіся прызналася, што тады маці даведалася іх імёны і адкуль яны – важатыя расказалі, дзе бавіць час тройка сяброў. Ядвіся вельмі захварэла, не магла спаць, усё падала ў прорву, і яе бабульцы трэба было ведаць імёны вiноўнікаў, каб адшаптаць унучку ад перапалоху. Цяпер Ядвіся сама выбрала школу, каб сустрэцца з імі і зразумець: чаму так жорстка абышліся з ёй тады невядомыя хлопчыкі, а галоўнае, якімі яны сталі? Але помсціць яна не будзе.*

*Ядвіся расказала Кіру гісторыю кахання сваёй маці да журналіста раённай газеты, пра апошнюю іх сустрэчу, якую мужчына не змог запомніць, бо быў напоены зеллем, якое прыгатавала бабуля. Ядвіся нарадзілася з вялікай радзімай плямкай як аплатай за вядзьмарства. Кір быў вельмі ўзрушаны пачутым: як жа так, мужчына недзе жыве і нават не ведае, што ў яго ёсць дачка. Ядвіся ж адказала, што яна не вінаваціць бацьку, не асуджае маці – такі лёс…*

*Кір не расказвае ні Юрасю, ні Уладзю пра тое, што тая маленькая дзяўчынка, якая па іх віне звалілася з абрыву і пабілася, – Ядвіся.*

Юрась збіраўся павярнуцца, каб ісці, але голас Уладзі, настоены на адчаі і злосці, прымусіў яго (ды і нас з Ромкам) застыць на месцы:

— Я ведаю! Як ведаю і тое, што ты заходзіў на кухню ў кватэры Антося Сямёнавіча, там ты трымаў у руках запалкі, а пасля яны зніклі! Ведаю, сто разоў паказвалі ў фільмах пра жэрабя-фокус з дзвюма абламанымі запалкамі! Ведаю, што ты даўно вылічыў з матэматычнай дакладнасцю, як завесці Кіра, каб ён не кантраляваў сябе. Ты заўсёды  падстаўляў яго! З таго самага разу, там, у летніку. Ты, а не Кір, закрычаў «Лаві яе!», ты першы пабег за дзяўчынкай! Ты затросся ад страху, ты гукнуў нам «Уцякайма!» і першым кінуўся бегчы прэч. А мы маглі б… мы павінны былі скочыць і дапамагчы той жанчыне, паднесці дзяўчынку. А мы ўцяклі! І ты тады абвінаваціў Кіра, што ён арганізаваў пагоню, што ён таўхануў дзяўчынку з кручы! І цяпер ты зноў падставіў Кіра. Ты данёс на яго Ядвісі! Ты мне больш не сябра! Не сябра, чуеш!

Юрась прымружыў вочы, твар яго згубіў чырвань. Ён не ўсміхаўся, разгубленасць у вачах спакваля знікла, там запалала хцівасць і пагарда. Ён хмыкнуў і кінуў грэбліва:

— Дзіцячы сад, малодшая група… Ідзіце на… — і пакрочыў па калідоры.

Зазвінеў званок. Мы скіравалі ў клас, не прамовіўшы ні слова. Сядзелі на ўроках, я кідаў іншы раз крадком позірк на Уладзю. Так, уразіла яго «прызнанне ў любові» да Юрася. Але я быў літаральна шакіраваны іншым: ён да гэтага часу памятае, перажывае і не можа дараваць сабе тую пагоню за аголенай дзяўчынкай. Мы хавалі адзін ад аднаго сваю віну. Што сніцца яму? Як яна бясконца падае з пясчанай кручы? Ці сам ён падае і яго нясе на тыя камяні?

Калі б я прамаўчаў, хіба б я мог цяпер уважацца ягоным сябрам? Таму і запытаўся, як выйшлі са школы: што яму снілася?

— Мне нічога не снілася… — выдыхнуў Уладзя, але я адчуў, што ён зараз падзеліцца са мной самым патаемным, самым балючым. І не памыліўся, ён працягнуў напаўголаса: — Мяне грызла…

А праз год, помніш, упаў  на лецішчы. І калі ачуняў у бальніцы, калі пра зрок даведаўся — згадалася нечакана ўсё да драбніц, усплыло,  як тая дзяўчынка падала, як стукнулася аб каменне. А тут маці сядзіць, трымае за руку, усхліпвае і прыгаворвае: «А за што ж гэта, за якія грахі бяда такая?» Я плакаў тады сам — так сорам пёк, так балюча было, што маці лье слёзы, ды не ведае прычыны, а то ж мне адплата была! І далей вось цягнецца, вось жа жыву недарэкам, пасмешышчам, энцыклапедыяй хадзячай… Кір! Давай знойдзем яе, папросім прабачэння! — адчайна выгукнуў ён, зазірнуў мне просьбітна ў вочы.

Цяпер я упэўніўся, што зрабіў слушна, пачаўшы размову.

— Ніякі ты не недарэка, — з ушчуваннем заўважыў я. — І нічога не цягнецца — нармальна ж у цябе ўсё цяпер, вунь з Настачкай пасябраваў, ажыў сам, зусім іншы стаў. Ты ведаеш, яна ў цябе ад садка закаханая?

— Прызналася, —  ад непрамінулай  горычы Уладзева ўсмешка была больш грымасаю болю. — А я вось дурань… Кір, знойдзем?! З’ездзім у вёску…

— Не трэба нікуды ехаць. Не трэба яе шукаць, Уладзя. І не трэба прасіць прабачэння, — адказаў я на яго вокліч ціха, але цвёрда.

— Чаму? — ён, збянтэжаны, спыніўся.

Я таксама стаў насупраць і ,гледзячы проста ў яго зрэнкі за тоўстымі шкельцамі акуляраў, выдыхнуў:

— Таму. Яна нам прабачыла. Гэта Ядвіся.

Уладзя не міргаючы глядзеў на мяне. Потым скінуў заплечнік, кінуў яго на бардзюрыну і сеў зверху. Я зрабіў тое самае. Было напляваць, як мы выглядалі збоку: два дурні сядзяць, выцягнуўшы ногі ў сівую ад маразоў траву за тратуарам. Тут тратуар быў высокі, лужок ад яго збягаў долу, мы нібыта сядзелі на беразе ракі, што схавала свае воды ў густой някошанай траве, паніклай і звялай. Уладзя маўчаў. Я напаўголаса стаў казаць:

— Я запомніў, у той дзяўчынкі… такая радзімка была, мне падалося — мятлік на плячы сядзіць. І бег, не мог спыніцца, за тым мятлікам… Помніш, я пытаўся пра сон? Мне снілася… А калі Ядвіся з Віялетай стрыптыз паказвалі, то пабачыў таго мятліка… У Ядзі на спіне, ну, на лапатцы. Прызнаўся ёй. Мы пра ўсё паразмаўлялі… У мяне цэлы вечар сядзелі, я ўсё згадаў. І яна таксама. Нас тады важатыя здалі Ядвісінай маці, імёны, з якога горада, якая школа… Але нас не чапалі, нам прабачылі, дзеці ж, ды і назад нічога не вернеш, хоць нас саміх кінь з таго абрыву. Імёны патрэбныя былі бабульцы-шаптусе, каб пераляк з Ядвісі зняць… Вось так. Мне больш не сніцца, як я ганюся за мятлікам, а далей падаю  ў бездань… І ў цябе ўсё добра, сам прыкінь… Яна сапраўды нас прабачыла.

Паўз нас за нашымі спінамі праходзілі людзі, нехта нават буркнуў кшталту таго, што зусім моладзь разбэсцілася. Вось жа, хіба мы некаму замінаем?..

— Яна адмыслова ў нашу школу прыйшла?

— Ага.

Мы зноў маўчалі.

— Кір… табе варта падысці да Ядвісі і расказаць, як усё было… З Юрасём.

— Не, Уладзя… Яна сказала — ненавідзіць. І не прабачыць.

— Можна патлумачыць, яна ж — разумніца, мусіць зразумець.

— Ты дапяць не можаш пакуль, а да мяне дайшло. Мне Зіначка на развітанне ведаеш, што сказала? Пачуццям патрэбныя справы і ўчынкі, а не тлумачэнні. Здавалася, банальшчына, па вушах праехалася. А потым уявіў… Вось ты стаіш перад ёй, кажаш ёй разумныя, лагічныя, поўныя праўды словы, кажаш пераканаўча, горача… Але што толку з іх, калі яна цябе ненавідзіць? Калі ты ёй агідны? Яна ж проста не чуе, разумееш? Бо цяпер я нават не ў фрэндзоне, як ты!

— Здаецца, даходзіць... Тады я сам падыду.

Уладзя ўзняўся, падхапіў заплечнік.

— Ты гэтага не зробіш, — усміхнуўся я яму знізу, устаў.

— Чаму? — з выклікам спытаў Уладзя, быццам я засумняваўся ў яго смеласці.

— Бо я табе кажу не хадзіць. Я табе расказаў пра Ядвісю? Я даверыўся табе. Дык зрабі, як прашу…

— Ты псіх!

— Ідзі да д’ябла, — усміхнуўся я. — У тваёй Настачкі праз тыдзень дзень народзінаў. Падарунак выбраў?

— Не… — Уладзя скрывіўся ад сваёй разгубленасці ў гэтым, пэўна ж, важным для яго пытанні. — Не прыдумаю.

— Яна ж гатаваць любіць, паедзем посуд зірнём ці што яшчэ гаспадыні шукаюць, распытаем жанчын там…

— Такі падарунак? Я думаў нешта з сувенірчыкаў…

— Ты лох! — пакпіў я без злосці. — Уяві: яна гатуе пірог і ведае, што патэльню ёй падараваў ты! Там жа не пірог — такое смакоцце само атрымаецца!

— А ты шарыш, — здзіўлена працягнуў Уладзя, радасна гукнуў: — Паехалі зараз!

І мы павярнулі не дамоў, а да прыпынку аўтобуса, каб ехаць у цэнтр.

Дамоў вярталіся ў прыцемках. Раптам пасыпаў з чорнага неба дробны, але спорны дождж, вуліца — тратуар, дарога, самі людзі ў куртках і паліто — заблішчэла ў жоўтым святле аднавокіх ліхтароў, якое раптам ажыло, напоўнілася мільёнамі зіхоткіх кропелек. Ісці заставалася нядоўга, мы не пабеглі, пагатоў што пад нагамі зрабілася адразу коўзка — было трохі ніжэй за нуль, адчувалася. Людзей на тратуары раптоўна паменшала, іх як растварыў гэты нечаканы халодны дождж. І вуліца стала больш нашай.

Мы нічога не купілі, прыцэньваліся, разглядалі, нават папыталіся ў прадавачкі: што лепей. І тая катэгарычна нам параіла: спытаць у гаспадыні, бо, па-першае, у яе такое можа быць, а па-другое, яна можа хацець нешта канкрэтнае.

— Як баішся, дык я спытаю, — прапанаваў я Уладзю.

— Ды я не баюся пытацца. Баюся, што адмахвацца пачне, яшчэ пакрыўдзіцца. От, скажа, патэльню мне захацеў купіць! — засумняваўся раптам Уладзя ў мэтазгоднасці такога падарунка.

— Слухай… А ты пачні шчыра: учора базарыў з Кірам, ён спытаў, ці выбраў я табе падарунак, і прапанаваў купіць табе нешта на кухню, бо ты ж любіш гатаваць, дык каб была і памяць, і карыснае, — без крыўды, але жорстка закрыў я тэму. — Усё, разыходзімся! Так і пытай.

Маці сустрэла ў вітальні, трошкі ўсхваляваная.

— Вой, галава мокрая! Зараз рушнік дам, выцірайся хутчэй. Не змёрз? Мо пад душ гарачы?

— Ды не, усё добра.

— А ў нас госці — дзве мае аднакласніцы, уяўляеш, — усміхалася вінавата маці. — Мы там заселі на кухні, ты ўжо выбачай — ідзе перадача «Чакай мяне!», а там, уяві, наш аднакласнік знайшоў сястру! Так цікава… — маці прынесла ручнік, чакала, пакуль я вытру галаву. — Пайшлі, сынок, на хвілінку, я цябе пакажу сяброўкам.

Я уздыхнуў, але што зробіш? Зайшоў на кухню, павітаўся. Дзве цёткі сядзелі на канапцы за накрытым сталом, на выгляд — старэйшыя за маю маці. Адна — гэткая тоўстая, у джынсах, кофце ў абліпку, якую яна хіба знарок апранула, каб вось так, седзячы, дэманстраваць пяць таўсценных складак тлушчу і яшчэ там чаго ад шыі і да ног. Падстрыжаная зусім коратка, валасы выбеленыя, тонкія, бы поўсць нейкая. Але вось што незвычайна — твар яе быў прыемны: вочы вялікія, светлыя, глядзяць з жывой цікавасцю і зычліва, нос акуратны і вусны нятлустыя, прыгожыя. Яна ўсміхалася мне гэтак шчыра і радасна, рыхтык нязнама колькі гадоў чакала тут майго з’яўлення:

— А-ёй, Волечка, ды твой сын — вылітая ты! Ай, які прыгажун! Ну, сапраўдны мужчына!

Другая жанчына была станам падобная да маці: невысокая, не худая, але нейкая ўся вуглаватая: плечы вострыя. Чорныя, відавочна ж, пафарбаваныя валасы да плячэй падстрыжаныя гэтаксама — рэзкімі лініямі, і на лоб стрэшка падае строга наўскос, валасок да валаска. І твар… твар быў стары. Я нават падумаў, што маці нешта пераблытала: гэтая цётка, можа, іх настаўніца? Бо ж вакол вачэй — зморшчыны, зморшчыны па ўсім твары, з двух бакоў ад носа — тонкія складкі скуры, скулы рэзка акрэсленыя, мабыць, яна аднекуль з Усходу… татарка хіба…

— А вось вусны — бацькавы! — сказала яна, а голас быў нечакана тонкі і дзіцячы.

Не сказаць, каб мне было ўтульна стаяць перад двума парамі жаночых вачэй, ды яшчэ маці абдымала. Але трываў, адчуваў па лёгкім, ледзь улоўным трымценні далоняў маці на плячах, што ёй прыемна і хвалююча. І яшчэ мне было радасна ад думкі, што мая маці — такая прыгожая сярод сваіх аднакласніц!

— Смачна вам есці! — пажадаў я.

Мне хорам усе трое падзякавалі, маці замітусілася — пачала збіраць мне вячэраць:

— Сынок, я табе ў пакой прынясу, добра? Мы ўжо тут даглядзім, так цікава…

— Няма праблем, якія пытанні!

Жанчыны гучна гаманілі на кухні, і хоць маці прычыніла дзверы, я чуў і іх гамонку, і галасы, і музыку з тэлевізара. Бач, іх аднакласнік дзякуючы шоу адшукаў сястру. І радасць у людзей, цэлае шчасце. Для некага так важна знайсці сваіх… Калі б знайшоўся мой бацька, што б я адчуў? Хочацца, каб ён быў… чалавекам. Каб павініўся за ўсё — за тое, што кінуў нас з маці, за тое, што не з'яўляўся гэтулькі гадоў. Каб быў… ну, хай не заможны надта, але каб у яго было ўсё: кватэра, аўтамабіль… Маці ці б даравала яму? Мабыць, так. Хоць у яе зараз ёсць мужчына, але б у мяне з'явіўся бацька. І я з'ездзіў бы да яго ў госці, ці ён прыехаў на сваім аўто. Мы б размаўлялі з ім шчыра. Хіба я не зразумеў бы яго? Гэтулькі давялося ўсяго перацерці ў мазгах за гэты час, зразумеў бы…

А Ядвіся? Хіба ж яна не будзе шчаслівая, калі даведаецца, што яе бацька, да прыкладу, — вядомы паэт?

Я знайду Ядвісінага бацьку!

Ажно падскочыў з канапы і плюхнуўся ў крэсла ля компа.

«Пачуццям не патрэбныя тлумачэнні, адно учынкі і справы».

Я знайду бацьку Ядвісі.

Не праз гэты тэлевізар. Іншым шляхам. І тады… тады я змагу падысці да Ядвісі. Хіба ёй не будзе цікава: хто яе бацька, дзе жыве, кім стаўся? Тым больш яна ж кажа, што нарадзілася ад кахання, ні ў чым бацьку не вінаваціць, неяк па-асабліваму аберагае.

Я згадваў гісторыю Ядвісі, якую яна апавяла мне вось тут, седзячы на канапе. Яна казала, маці працавала ў школе, а жыла ў бабулі. І пазней Ядвіся была з бабуляй. Значыць, гэта тая вёска, якая стаяла блізу летніка. А ў якім раёне быў летнік? Што было яшчэ побач? Вось жа, не цікавіліся ніколі… Я пайшоў на кухню, пачакаў пад дзвярыма адноснай паўзы ў гутарцы, зайшоў, запытаўся ў маці. Яна здзіўлена заміргала, але я адно усміхнуўся: «Трэба». Маці назвала раён і найбліжэйшую вялікую вёску.

На мапах Гугла была і тая вялікая вёска, і летнік быў. І быў нават наш ручай! Але не было той вёсачкі. Угадаў месца колішняй капальні — лысы ўзгорак, бегла з яго нітка дарогі… да вёскі мусіла бегчы, але на мапе вёскі не было, і на спадарожнікавых здымках адно два шэрагі дрэў угадваліся. Ніводнай хаты. Трохі наўзбоч — роўны чатырохкутнік, засаджаны дрэвамі. Здагадаўся: тыя самыя могілкі, дзе ляжыць Ядвісіна бабуля…

Нічога, у нас ёсць райцэнтр. Сямнаццаць гадоў таму там працаваў па размеркаванні малады спецыяліст з Мінска. Якія праблемы? Вось табе і сайт раённай газеты. Вось тэлефоны… Ледзь утрымаў сябе, каб не набраць нумар, сам з сябе пасмяяўся — то ж рабочыя, зараз вечар…

Маці правяла сябровак, зайшла спытаць, як мае справы.

— Норм, мам! А як ты?

— Ды таксама ўсё добра. Пасядзелі вось, паўспаміналі… Нат не верыцца, што час так праляцеў… Некалі былі дзяўчынкамі…

— Мам, слухай, ты ў параўнанні з імі маладзейшая на дзесяць гадоў!

Маці ўсміхнулася неяк сумнавата, уздыхнула.

— Жанчыну не гады робяць старой… Таццяна, якая поўная… У яе дыябет, жыве на ўколах. Пасля родаў другога дзіцяці хварэла. Лячылі гарманальнымі пігулкамі, яе і разнесла страшэнна. І скінуць вагу не змагла потым, нешта там парушылася. Яна зычлівая, вясёлая і добрая. А Хрысціна… Двойчы была замужам, не магла зацяжарыць. Па дактарах ездзіла. Па манастырах і цэрквах, у паломніцтве была… Кажуць, усё добра, а дзіця займець не можа. Гэта яе і забівала. Зараз адна… Вось так…

Укладваўся спаць і думаў: колькі яшчэ разоў, колькі будзе выпадкаў наперадзе, калі я зноў лахануся так, што будзе пячы сорам за дурныя думкі?

Назаўтра заняткі цягнуліся як ніколі марудна. Я ёрзаў за сталом, нават Уладзя пацікавіўся: чаго мяне сёння носіць? Сам ён быў задаволены, нібы ўзяў незвычайна цяжкае і вырашальнае пытанне ў сваёй гульні — набраўся рашучасці, спытаў у Настачкі пра падарунак. Дарэчы, прызнаўся: пытаўся так, як я яго вучыў. Настачка, казаў, засаромелася напачатку, але папрасіла форму для выпечкі кексаў, нейкую адмысловую, мяккую, але тэмпературу трымае...

У сталоўку я зноў не пайшоў, падняўся на трэці паверх — ён самы пусты падчас вялікага перапынку, знайшоў зацішак, зрабіў выклік на нумар, які ўчора забіў у тэлефон.

— Слухаем вас! — адказаў прыемны жаночы голас.

— Раённая газета «Новы шлях»?

— Так.

— Выбачайце, калі ласка… Ці магу я даведацца пра імя аднаго былога вашага работніка?

— Работніка былога? Выбачайце, але хто вы? — насцярожыўся голас.

— Мой бацька… моцна захварэў. Ён меў сябра, журналіста. Яны разам вучыліся, потым іх шляхі разышліся. Яго сябра па размеркаванні з Мінску працаваў у вашай газеце. Бацька хоча яго знайсці, але цяпер… ён не памятае шмат, забыўся і імя свайго сябра…

Я фантазіраваў на хаду і сам дзівіўся той лёгкасці, з якой стваралася мая «легенда», бо ўчора нават не задумляўся над тым, што мяне могуць адразу, як на той мяжы, спыніць пытаннем: «А ты хто такі?» Мабыць, прыдумаў я добра, казаў перакануўча, бо на тым канцы пацяплела:

— Разумею, разумею… Але ж выбачайце, калі ваш бацька… То колькі гадоў таму было?

— Шаснаццаць-сямнаццаць.

— О, на жаль, наўрад ці мы вам дапаможам. Сёння ў нас няма ніводнага чалавека ў рэдакцыі, хто б працаваў гэтулькі, тут вялікая цякучка, людзі мяняюцца… І штогод у нас бываюць адзін ці два выпускнікі ўніверсітэтаў, якія адпрацоўваюць сваё размеркаванне і знікаюць. Бухгалтэрыя таксама не дапаможа, бо дакументы здадзеныя ў архіў, мяркую. Месяц таму звольніўся наш найстарэйшы карэспандэнт. Я магу даць вам яго тэлефон, ён, можа, успомніць тыя гады. Аднак тэлефануйце яму зранку, бо да вечара ён… можа быць на падпітку, — шчыра прызналася жанчына.

— Дайце, калі ласка, тэлефон…

Я запісаў нумар і нейкі час разгублена глядзеў у акно. Вось жа насамрэч, калі там тыя выпускнікі мяняюцца як пальчаткі, хто будзе памятаць некага асабліва? Але вырашыў патэлефанаваць адразу ж на дадзены мне нумар.

— Віктар Леанідавіч? Дзень добры!

— Ну, хай будзе добры твой дзень, дружа, — амаль што праспяваў мне ў адказ мужчынскі го-

лас. «П'яны», — варухнулася думка, але я вырашыў пытацца цяпер. Якая розніца? — Даруйце за пертурбацыю, Віктар Леанідавіч. Шаснаццаць ці сямнаццаць гадоў таму ў вашай рэдакцыі працаваў пасля ўніверсітэта журналіст… Ён з Мінска быў. Такі малады… Ён сябра майго бацькі, я яго шукаю.

— Дык зразумелая справа, што той журналіст быў малады! А як яго клікалі?

— Не ведаю імя…

— О, дружа, дык ты ведаеш, колькіх маладых я пабачыў на сваім вяку? Сто! Вось, дакладна, калі палічыць — сто! Яны прыходзілі і сыходзілі, як першы снег увосень — рабілі с..., а ты потым прыбірай…

— Тады даруйце, — вырашыў я завяршаць размову, бо добрага фіналу тут не прадбачылася. Потым вырашу, што рабіць далей. Яшчэ ж універсітэт ёсць. Там павінны недзе захоўвацца даныя…

— Не, хлопча, куды ж ты бяжыш, калі я табе яшчэ ніяк не дапамог? Ты не спяшайся, тут каб падумаць. Ведаеш, з гадамі… з гадамі ўсе мінулыя гады робяцца падобнымі адзін на другі. От спытай, што я рабіў пяць гадоў таму, — не адкажу! Бо рабіў адно і тое: рэпартаж, артыкул, нататка… І на тыя ж тэмы! Тут пасеялі, тут узаралі, а там ужо жнуць… Так, дружа… От я ўспамінаю, што хлопцаў да нас прыходзіла і няшмат, нешта дзеўкі паперліся ў журналістыку, але, я табе скажу, некаторыя пішуць… пішуць зубаста! Канечне, няма грунтоўнага мужчынскага падыходу, бо жанчына будзе жанчынай… Ага, значыць, хлопцаў у нас было небагата, але якраз дзесяць-пятнаццаць гадоў таму яны і прыходзілі. От каб твой сябра быў нечым адметны… Мо ён руды? Ці кучаравы? Мо ростам у два метры? Такі адзін быў — аловак у руцэ хаваўся. Але не ўмеў пісаць… дык твой знаёмы які?

Я выдыхнуў з палёгкай — урэшце скончыўся гэты маналог-разважанне, можна задаць пытанне ды выбачацца і адключацца — зараз грошай на рахунку не застанецца.

— Ён… ён пісаў вершы! — згадаў я дэталь з аповеду Ядвісі.

— О, дык гэта важкая дэталь! Важкая! І я ўспомніў! Быў такі! І ён гады тры таму прыязджаў у наш раён, завітаў да нас, сапраўдны паэт! Падараваў мне кнігу вершаў…

— А як яго імя?

— Не трэба перапыняць старэйшых, дружа, ты збіваеш мяне з думкі… Ён падараваў мне кнігу сваіх вершаў, казаў, кніга ў яго ці не трэцяя, вось як… Сам ездзіў у нейкую вёску… яе зараз ужо і няма, у нас многа вёсак знікла, што ж, невялічкія, не перспектыўныя. Людзі хочуць жыць з выгодамі, от ты б хацеў жыць у вёсцы, дзе ні газу, ні крамы, ні школы? От… А кніжку я згубіў. Вяртаўся з працы, сустрэў сябра, пасядзелі ў парку, у нас стары, прыгажэнны парк… Дамоў прыйшоў — кніжкі няма. А то б я табе сказаў імя, абавязкова сказаў. А так — не памятаю, ніякая памяць, ніякая… І назвы кніжкі не помню. Ніякая памяць…

— Дзякуй вам! Усяго найлепшага! — і я адключыўся.

Ледзь дачакаўся канца заняткаў, падганяў Уладзю, як ішлі дахаты. Муляла папытацца ў яго: як лепш шукаць, але раптам перадумаў: потым падключу сябра, пакуль сам. Пашукаю ў сеціве, павінны ж быць нейкія Вікіпедыі, усіх паэтаў, якія падыходзяць па ўзросце. Пачытаю біяграфіі. Не можа быць, каб не было напісана, дзе які распачынаў сваю працоўную дзейнасць!

Крадком спадзяваўся на халяву: раптам па запыце «пачынаў сваю працоўную дзейнасць у раённай газеце «Новы шлях» выскачыць нейкае імя. Не праскочыла халява. Мяняў словы ў запыце — нічога не дапамагло. Што ж, пачаў складаць спіс.

За два дні я назбіраў каля трох дзясяткаў паэтаў патрэбнага мне года нараджэння. Яшчэ дзень вышукваў біяграфіі тых, у каго заставаліся цьмяныя плямы ў пачатку працоўнай дзейнасці. Ні адзін не падышоў. Але ж заставаўся яшчэ ўніверсітэт, хоць цяпер, пасля званка ў рэдакцыю раёнкі, аптымізм мой зменшыўся : прыеду, што і дзе мне пытаць? І на якой падставе нехта пачне клапаціцца? Лягчэй жа проста сказаць: «Не можам» і паказаць на дзверы, хто будзе марнаваць свой час на патрэбу вучню?

Кволая надзея нечспадзявана варухнулася падчас урока літаратуры. Наша Яўгенія Львоўна прыйшла з навіной: з Новага года пачнецца конкурс «Спроба пяра», дык каб усе ахвотныя пісалі вершы і апавяданні. І надта ж прасіла не падвесці яе. Наколькі я ведаў, літаратурным талентам у нашым класе ніхто пахваліцца не мог. Настаўніца заахвочвала нас магчымасцю раскрыцца і творча расці — як, да прыкладу, Алеся Трында з паралельнага класа. Яна ўдзельнічае ўжо колькі гадоў, яе вершы нават друкаваў рэспубліканскі часопіс і маладзёжная газета…

І я падумаў, што яна можа некага ведаць.

Алеся меней за ўсё ўдавала на паэтку. Ростам вышэйшая за мяне і ў два разы таўсцейшая. Павольная такая. Ну, проста кабеціна, а не дзесяцікласніца. Пастаў спінамі яе і завуча, дык яшчэ ўгадай, хто з іх — вучаніца, хто — настаўніца. Але вось твар у яе зусім дзіцячы. Алеся з такой цікавасцю выслухвала маю праблему, бы я ёй вершы чытаў, далібог. І вось разумніца, адразу ж выдала:

— Я магу папытацца ў аддзеле паэзіі часопіса, каго яны ведаюць такога ўзросту. Але, скажу табе, сёння многія выдаюць свае кніжкі за свае грошы, паэтаў шмат, а чытачоў практычна няма. То і не ведаюць нават адзін пра аднаго. Ведаеш, варта табе лепш звярнуцца да старшыняў абласных аддзяленняў… і абодвух Саюзаў пісьменнікаў.

— Абодвух?

— Ну так, у нас два Саюзы пісьменнікаў.

— А што, у адным усім месца не хапіла?

Алеся паціснула плячыма.

— Я не ведаю, але два. Я маю іх тэлефонныя даведнікі, там усе-усе занатаваныя… Лепш старшыняў пытацца, яны ведаюць сваіх. Праўда, калі мінскія, гарадское ці абласное, дык яны надта вялікія, тут цяжэй…

— Нясі даведнікі, а я табе — шакаладку!

Алеся ўсміхнулася крыху сарамліва і нечакана выдала:

— Не хачу шакаладку. Тут уся школа кажа, што ты — вялікі прыдумшчык, цэлы сцэнар напісаў. Можна, я дам табе пачытаць сваё апавяданне? Я вырашыла пісаць прозу, бо вершы нікому не патрэбныя. І саромеюся дасылаць у рэдакцыю, раптам зусім нягегла…

— Мне? Пачытаць? — я ажно адступіў на крок. — Вось я выславіўся… ужо, як яго, крытыкам зрабіўся?

— Ну… мне здаецца, ты зразумееш… Дзе што не так. Дык я прынясу?

— Слухай, а калі мне не спадабаецца? Так і казаць?

— Кажы… Толькі патлумачыш, чаму. Каб я змагла выправіць… Калі можна будзе нешта выправіць.

— Ну, нясі… На паперы, не люблю на экране, добра?

Назаўтра Алеся прынесла мне невялічкія кніжачкі — тэлефонныя даведнікі і старонак дваццаць тэксту. Я цішком пацешыўся — не так і шмат. Тым вечарам не пачаў адразу пошукі — лёг чытаць раздрукаваны тэкст. Пачытаў. Здзівіўся. А класна ж! Думаў, будзе яна баяць пра нешчаслівае каханне, а яна пра тое, як качак у гарадской сажалцы карміла. Як зіма была, качкі па лёдзе хадзілі, а людзі кідалі ім ежу.  Неяк усё і проста, ды ўзнікала думка пра пэўную нелагічнасць такой карцінкі, і Алеся задумвалася над тым, чаму няправільна карміць качак узімку. Так, варта шкадаваць, але ж мы сваім шкадаваннем адвучылі птушак ад выраю, ад палёту. Сталі качкі утрыманцамі. І далей зусім такі нечаканы крок — да людзей. Людзі цяпер нават не імкнуцца ў неба — як мы качак гэтых лянотных, так і нас корміць нехта нябачны…

Нічога сабе ў яе думкі! Красава наўпрост, хіба што задоўгія сказы, на цэлы абзац, пакуль прадзярэшся да канца, дык забудзеш, з чаго пачынаў. Не стаў чакаць заўтра, патэлефанаваў Алесі. І сказаў, што думаў.

— Дзякуй, дарагі Кір! Дзякуй-дзякуй! — так узрадавана закрычала ў адказ яна, усё адно як я паведаміў пра публікацыю яе апавядання ў мажным часопісе. Ды яшчэ «дарагім» дражніцца…

— Ты там не ашалела? З чаго я табе дарагі? — засмяяўся я.

— Бо шчыра ўсё сказаў! Я так баялася, што мае думкі будуць недарэчныя…

— Нармалёвыя думкі і цікавыя… Пра сказы доўгія я табе сказаў. А, яшчэ ты напрыканцы наўпрост заклікаеш не спадабляцца гарадскім качкам. Мне не пакаціла. Навошта ў лоб вучыць іншых, як наш Швондзер? Хай самі думаюць, ты ж падказала. Ну, я так мяркую…

— Вой, Кір, які ты разумны! І праўда, навошта дыдактыка, ды яшчэ ад вучаніцы… Прыбяру, і сказы паразбіваю! Слухай, ты бяры сабе Саюз пісьменнікаў, каторы… ну, афіцыйны, а я — другі. Пачнём разам… давай з Берасцейшчыны, па алфавіце. Добра?

Ніяк не чакаў яе шчырай падмогі. Вось жа, падумаў бы раней на гэтую тоўстую няўклюду, што яна — такі добры чалавек? Усяго пачытаў ды выказаў свае думкі…

І яна, Алеся, знайшла. Праз дзень.

— Кір! Кір, ёсць! Адшукаўся твой паэт! Ён сапраўды пачынаў у газеце «Новы шлях», мае на сёння ўжо чатыры кніжкі. Праўда, імя зусім не гучнае, узровень абласнога. Запісвай: абласная газета… Тэлефоны… Я цябе віншую! І дзякуй табе яшчэ раз. Я ўсё выправіла!

— Табе дзякуй, дзіўная ты! — на пэўны час разгубіўся я — не верылася, што сапраўды пошукі скончыліся і скончыліся ўдала. Нават асаблівай радасці не было, не ведаю і чаму. Раптоўна захваляваўся. Ляжыць перада мной аркушык: Васіль Матыль, загадчык аддзела сацыяльных праблем абласной газеты. А што далей? Паехаць да яго ды ў лоб з парога: «Дзядзька, у цябе ёсць дачка»?

Карацей, я завіс.

Пачаўся снежань — сцюдзёнымі вятрамі, макрэддзю і поўнай адсутнасцю снегу. Маразоў не было, малыя на школьным двары гулялі ў хакей на асфальце. Сонца, здавалася, знікла назаўсёды за тоўстай шэранню нябёсаў. Няўтульна, холадна…

Але ж — у хуткім часе Новы год! Трэба ўсім ладзіць свята. Вось і загад дырэктара падаспеў: да 15 снежня каб кожны клас стварыў святочны настрой у сваім кабінеце і падзяліўся гэтым настроем з вуліцамі! Конкурс будзе, спецыяльнае журы ацэньвае… Нам шанцуе, як беднаму жаніцца: класны пакой на вуліцу і ажно на тры акны. Зноў пачнецца: выразанне сняжынак, маляванне дзеда Мароза і Снягуркі, развешванне гірляндаў… Ну, падумаць, дык з вуліцы ўвечары школа выглядае насамрэч трохі святочна. Але сэнс? У каго ў такі час уздымецца настрой ад гэтай вясёлкавай ілюмінацыі і вялізных папяровых сняжынак? Няма снегу… Маці абмовілася — выраслі цэны, бутэлька шампанскага за год падаражэла ўдвая, як і цукеркі, як мяса. Я раней і не задумваўся над коштамі, а тут атрымліваецца, яны ўплываюць на настрой людзей куды больш, чым размаляваны школьныя вокны…

Наталля Іванаўна, завуч, якая цяпер у нас за класную, зайшла на перапынку, павіталася.

— Так, сябры, засталося чатыры дні. Калі ласка, давайце прыдумляйце, каб наш клас быў не горшы за іншыя. Вы паказалі сваё майстэрства крэатыву, таму я чакаю.

І пайшла. У яе ж не адны мы, уся школа — тут не да агульнай распрацоўкі канцэпцыі, як кажа Ромка. Ён падышоў да мяне:

— А давай здзівім!

— Я заняты, праўда, Ромка. Справа з'явілася.

— Нарадзі ідэю!

— Я табе не жанчына.

— Ну, Кір, будзь чалавекам!

— Слухай, Ромка… Навошта? Які сэнс?

— Не хачу рабіць фігні, ты ж ведаеш! — і раздумліва, сур'ёзна дадаў: — Сапраўднае людзей яднае, а як абы з рук, дык потым разбегчыся хочацца ў розныя бакі і вочы іншых не бачыць. Ты ж сам адчуваеш — у класе зусім не так пасля здымак.

— Дык што ты хочаш?

— Халера ведае. Вось каб сапраўды нешта такое: ішоў чалавек паўз школу, зірнуў на нашы вокны і ўсміхнуўся, хоць крышачку яму пацяплела…

— Пацяплела?

Я знайшоў вачыма Ядвісю. Яна стаяла адна, ля акна, абхапіўшы сябе рукамі. Як жа захацелася падысці да яе, сказаць ціха і ўпэўнена: «Неўзабаве будзе вясна. І лелькі ажывуць…»

— Неўзабаве будзе вясна…

— Што? — Ромка адхіснуўся ў здзіўленні.

— Што чуў… Хутка вясна, патрывайце, людзі! — упэўнена паўтарыў я, і раптоўная карцінка склалася: — На ўсе тры акны робім з каляровай паперы краявід: зялёны луг, сіняя рэчка, блакітнае неба… Дзяўчына ў лёгкай чырвонай сукенцы выпускае з далоняў віхур ружовых і жоўтых матылёў. І словы: «Трывайце, людзі! Вясна хутка!»

Ромка раскрыў рот, заміргаў вачыма.

— Слухай, а гэта ж… гэта ж крута! А! Насамрэч кожны спыніцца! І ўсміхнецца! Пайшоў збіраць банду! Пасля ўрокаў застаемся на паўгадзіны?

— Ідзе... Стой! — імгненная думка пранеслася і прымусіла сэрца забіцца.

— Што? — Ромка нават спалохаўся майго рэзкага воклічу.

— Слухай… Я цябе папрашу: не напружвай Ядвісю. Ну… давай мы без яе.

— Не разумею, — Ромка глядзеў з жалем. — Досыць табе… Калі разам, ты ж ведаеш, дык…

— Ромка… тут іншае. Ты потым сам пабачыш, — і я ўсміхнуўся, не змог утрымаць радасць ад уяўлення таго, як аднойчы Ядвіся пабачыць наш «пейзаж», як знерухомее і будзе дзівіцца на матылькоў… — І галоўнае: не я, а ты прыдумаў. І кропка! Абяцай.

— Ат, добра! — Ромка хай і не зразумеў, але ўсміхнуўся ў адказ. — Я табе веру. Калі гэтак лепей — гэтак і зробім.

Пасля заняткаў у класе па просьбе Ромкі засталіся васьмёра, калі лічыць са мной. Ромка патлумачыў: вялікі кагал збіраць не варта, мітусня будзе. І выклаў ідэю. На яго спачатку глядзелі, як на ідыёта, і пачалі ржаць. Урэшце, паспрачаліся — а дзе ж тут Новы год, і вырашылі словы напісаць так: «Трывайце, людзі! Вясна (тут лічба наступнага года) хутка!». Саму лічбу робім вялікай — правіла выканана. Я прапанаваў зрабіць наш краявід двухбаковым — каб і з класа можна было бачыць не белую паперу, а таксама колер. Ну, працы шмат, затое ж і нам весялей! Пагадзіліся. А рабіць з простай каляровай паперы, якая сшыткамі прадаецца. Будзем клеіць на шкло чатырохкутнікамі, недзе падрэзаў — і склаўся малюнак. А яшчэ вырашылі зрабіць сапраўдную падсветку — каб у цёмны час быў відаць малюнак. І лямпачкі купіць адмысловыя, на халеру тыя гірлянды… Распачаць вырашылі пазаўтра — дзень на падрыхтоўку, ды і Міхал папрасіў: яму самую складаную карцінку рабіць — дзяўчыну, то трэба ж знайсці выяву, на нечым вялікім намаляваць, трафарэт зрабіць.

…Мы працавалі ў той дзень пасля заняткаў чатыры гадзіны. Ужо добра сцямнела, у класе было холадна — адчынялі вокны, каб замацаваць лямпачкі падсветкі, вывесці правады унутр. Мы не змаўляючыся ўсе адышлі да процілеглай сцяны. Стаялі і моўчкі глядзелі. Атрымалася. Было неяк цёпла ад нашага «трыпціха». Свой «лозунг» мы таксама напісалі двойчы, каб чыталіся словы і з класа.

— Файна выйшла — парушыла маўчанне стараста Света Шурко. — Каб толькі не прымусілі заўтра ўсё зняць, — і патлумачыла: — Дзеда Мароза няма, Снягуркі не відаць…

— Затое сёння людзі падзівяцца! — бестурботна гукнуў Ромка. — Захочуць яны — будзе Дзед Мароз, я сам намалюю тады… Вакульчык, урубай падсветку! Гасіце святло!

У класе запанавала цемра. А мы залезлі на сталы і праз вольныя ад нашага «краявіду» месцы ў шыбінах пачалі цікаваць за мінакамі.

Спынілася пара — мужчына і жанчына. Мы не бачылі іх твараў, але яны глядзелі на нашы вокны. Яшчэ спыніліся дзве дзяўчыны, і яны павярнулі галовы. І потым — яшчэ… А нам было радасна. Мы зрабілі для гэтых мінакоў нешта незвычайна прыемнае! Пасля і самі, калі выйшлі са школы, стаялі і разглядалі тое, што было колькі гадзін таму звычайнымі каляровымі лісткамі. Здалёк «краявід» наш глядзеўся як адно цэлае, на фоне іншых вокнаў са сняжынкамі, снежнымі бабамі і Дзедамі Марозамі, вокны нашага класа выглядалі сапраўднай карцінай — вясёлай, сонечнай, нечым незвычайна кранальнай: з рук дзяўчыны ўспырхвалі, ляцелі праз усе вокны залатыя, ружовыя матылі. І выява наступнага года чыталася нармалёва. Ну, абазначылі ж мы Новы год?

Назаўтра ў школе і тут, і там было чуваць: «Мацуйся, дружа! Вясна неўзабаве!». Я ішоў у клас разам з Уладзем, а ён не змаўкаў, узбуджана-вясёлы тараторыў:

— Вось дык маеш! Крута мы прыдумалі! Усім так цікава! Хоць нешта незвычайнае. Як ты думаеш, дырэктарка не прымусіць зняць?

— Яна, мабыць, ужо у класе, і Ромка стаіць перад ёй навыцяжку, — усміхнуўся я, а сам адчуваў здранцвенне ўнутры. Ядвіся… Як яна адрэагавала?

Ромка насамрэч стаяў амаль што навыцяжку, але не перад дырэктаркай — перад Ядвісяй. Ён зірнуў на нас, позірк быў жаласлівы і дакорлівы: «І як мне цяпер выкручвацца?» — чыталася ў яго вачах. Ядвіся перахапіла позірк Ромкі, павярнулася.

Я адвёў вочы.

Яна нічога ні  ў мяне, ні ва Уладзі не запыталася. І калі села за стол ззаду нас, пачала размаўляць з Юрасём. Дакладней, загаварыў Юрась:

— Дзіцячы сад, далібог, — хмыкнуў ён гучна, канечне ж, у разліку, каб пачулі мы. — Хацелася марнаваць час…

— Табе не спадабалася? — з лёгкім выклікам спытала Ядвіся.

— Ды норм, — замяўся Юрась. — Не разумею сэнсу гэтага дзяцінства. Сказалі зрабіць — рабі, як усе. Абавязкова каб вытыркнуцца, пахваліцца сваёй дасціпнасцю, крэатывам гэтым…

— А можа, проста зрабіць некаму прыемнае, — без пытання адказала Ядвіся, як ставіла кропку ў іх кароткім дыялогу.

І тут у клас зайшла Наталля Іванаўна.

Вось жа твар у яе — ну ніяк не вызначыш, што за настрой. Гэтак умее скласці вусны — ці то сапраўды ўсмешка, ці то насмешка, ці то ўхмылка. Падхапіліся, павіталіся. А яна прыпынілася на парозе, і вось тут не атрымалася ў яе схаваць пачуцці! — уражаная глядзела на «пейзаж». Мабыць, ніяк не чакала, што ён будзе і знутры такі ж, як і звонку. І цяпер ужо усміхнулася сапраўднай светлай усмешкай, падышла да стала.

— Не думаю, што вы зоймеце першае месца, — кіўнула яна на вокны. — Але ў настаўніцкай сёння пануе вясёлы настрой, адно размоў  пра вашы вокны. Ніяк не чакала, што вы звернецеся не толькі да тых, хто на вуліцы, але і да тых, хто ў клас будзе заходзіць. Што ж, незвычайна… Трошкі не па тэме, але ж цёпла і радасна. Малайцы, дзякуй! Сёння ўсе тут, Святлана? — запытала яна старасту, пачула станоўчы адказ, пайшла да дзвярэй.

І ўжо ля іх азірнулася, не утрымалася, мабыць, і дадала:

— Мне ўчора ўвечары патэлефанавалі. Кажуць, паўгорада сабралася перад вашай школай — там такое ў акне напісана! Мусіла ехаць. І сапраўды, дзясятка паўтара чалавек сабралася — хто падыходзіў, хто адыходзіў. Глядзелі, чыталі ўголас, усміхаліся і смяяліся. І, вось шчыра прызнаюся, мне было вельмі прыемна стаяць збоку, нікім не угаданай, нібыта выпадковай жанчынай, і ведаць, што я — завуч гэтай школы, што мае вучні штукавалі… Здагадваюся, чыя ідэя.

*працяг у наступным нумары...*





## Мімеі Агава

**Мімеі Агава (1882—1961) — заснавальнік сучаснай японскай дзіцячай літаратуры. Часта яго называюць японскім Хрысціянам Андэрсенам.**
**Кожнаму ў дзяцінстве чытаюць казкі, але не ўсе і не заўсёды могуць зразумець іх. Казкі Мімеі Агавы зачаравалі мяне. Прыгожая лаканічнасць, лёгкая недаказанасць, глыбокі змест і таемныя знакі зрабілі іх асаблівымі. У кожнай — нотка самоты, вельмі ўласцівая японскай літаратуры.**
**Дарослыя і сур’ёзныя, мы звычайна забываем пра казкі, замяняючы іх цяжкімі мудрагелістымі кнігамі. Але часам варта адпачыць за такім чытаннем, як раблю гэта я за чытаннем казак Мімеі Агавы.**

*Хрысціна Ахрыменка*

# Дзве казкі

## Двойчы вандроўнік не прыходзіць

У адным тужлівым месцы паміж гор стаяла сіратлівая хатка. Тут, каля бурнага мора, з вёскі ля падножжа гор вяла малаходжаная сцежка, якая адкрывала выйсце да мора. Калі ў летнюю пару яшчэ здаралася бачыць людзей, што праходзілі паўз яе, то ўжо позняй восенню, як толькі дзень рабіўся карацейшы і вецер зносіў лістоту з дрэў у даліне і гарах, сцежка зусім дзічэла.

На захадзе сонца неба афарбавалася ў жоўты колер, навеўшы на людзей страх. Так неба выглядае толькі перад штормам. Калі надышла ноч, як і прадбачылася, на зямлю абрынуўся дождж. Насельнікі самотнай хаты прыслухоўваліся да страшных гукаў, якія чуліся за зачыненымі дзвярыма.

— Цяпер, хутчэй за ўсё, пойдзе снег… — грэючыся каля вогнішча, час ад часу шапталі яны, асцерагаючыся, што моцны вецер знясе хату цалкам і кіне яе на дно глыбокай цясніны.

— А-а-а, дрэнна, у горле перасохла, дайце вады… — прагучаў голас дзяўчыны, якая ляжала ў пакоі.

Трывожны твар маці павярнуўся ў яе бок. Бацька і сын працягвалі гаварыць, прыкінуўшыся, што не пачулі просьбы.

— Мама… прынясі вады! — прасіла, прачнуўшыся, дачка.

— Але ж пасля вады табе стане горш, пацярпі, калі ласка! — адказала маці.

Твары бацькі і сына скрывіліся.

— А-а-а, дрэнна, брацік, прынясі вады! — звярнулася дзяўчына з маленнем да брата.

— Калі піць ваду, то табе стане горш! Нельга, сказаў, нельга! — прыстрашыў яе брат.

Дзяўчына паслухалася і на некаторы час сціхла. Гукі шторму паступова ўзмацняліся. Здавалася, што вецер, які б'е ў дзверы, вось-вось раскідае аднапавярховую хатку.

— Добры вечар! Добры вечар! —пастукаў нехта.

— Хто гэта ў такі час? — у хаце здзіўлена пераглянуліся.

Усё таму, што тут, сярод гор, у гэты сезон ніхто не ходзіць. Да таго ж голас быў зусім незнаёмы.

— Добры вечар! Добры вечар! — зноў прагучаў нечы голас.

— Ц-с-с-с… Прытворымся, што усе ўжо спяць, — прашаптаў бацька.

— Сапраўды, лепш прамаўчаць, — пагадзіўся сын.

Гукі шторму, ні на секунду не змаўкаючы, узмацняліся.

— Тук-тук-тук… Добры вечар, добры вечар… — даносіўся голас у прамежках між парывамі ветру.

Усе ў хаце маўчалі, зрабіўшы выгляд, што спяць.

— Нехта прыйшоў! І стукаецца ў дзверы ў такі час! — прагучалі словы хворай дзяўчыны.

— Нічога не кажы, маўчы! — падышоўшы да ўзгалоўя ложка, гыркнула на дачку маці.

Тут жа мужчына, які стаяў за дзвярыма, узмаліўся:

— Хто-небудзь, адчыніце дзверы... Калі гарыць агонь, значыць, яшчэ не спяць… Хто-небудзь. прыадчыніце дзверы, калі ласка! — прасіў вандроўнік.

Бацька і сын пагл

ядзелі адзін на аднаго.

— Не ведаю, хто гэта, лепш праверу, — прамовіў бацька, і з сынам, які ўзяў у рукі тоўстую палку, яны асцярожна падышлі да дзвярэй.

— Я не ведаю, хто ты і па якой справе ў такі час! — сярдзіта сказаў гаспадар хаты.

— Я не хачу вас трывожыць! Прабачце мне, прыадчыніце трошкі дзверы, калі ласка! — з маленнем у голасе прасіў незнаёмы мужчына.

— Што за глупства ты кажаш! У такі шторм адкрыць дзверы?! Нават калі ёсць справа, усё адно будзеш стаяць за дзвярыма, — адказаў бацька.

Сын мацней сціснуў палку.

— Я вандроўнік, ішоў з боку мора па горнай дарозе і ў шторм заблудзіў. Да таго ж цемра, ні кроку ступіць. Ці маглі б вы даць мне прытулак на адну ноч у вашай хаце?

— Нельга, нельга. Чужых людзей не пускаю нанач. Калі крыху пройдзеш — будзе дарога да вёскі, там і прасі начлег, — адмовіў бацька.

Пачуўся цяжкі ўздых. Праз некаторы час мужчына працягнуў жаласліва:

— Я ўпершыню на гэтай дарозе, і мясціны мне зусім незнаёмыя. У хаце цяпер добра, пусціце мяне схавацца ад ветру і дажджу, — прасіў вандроўнік.

— Што за назола! — сын аж закалаціўся ад гневу.

Невядомы мужчына працягваў:

— Нічога не зробіш… Тады ці маглі б вы мне дазволіць выпіць толькі адзін кубак вады? Мне палепшае, і я пайду.

Бацька і сын пераглянуліся. Бацька пакруціў галавой, потым крыкнуў:

— Я не магу даць вам вады. У мяне хворая дачка, яе мучыць смага. Калі пап'е, то памрэ. Я не магу нават узяць чарпак, бо яна пачуе гук вады. Таму ўсё ж ідзіце па ваду ў вёску.

Гэтыя словы пачула дзяўчына.

— Тата, у горле зусім перасохла, мне дрэнна. Прынясі вады… вады. Яе ж — колькі заўгодна! Дай вады і таму чалавеку, што просіць, — сказала дачка.

Чалавек, які стаяў на вуліцы, пачуў надрыўны голас дзяўчыны.

— У вас нехта хворы? У мяне ёсць з сабой добрыя лекі, бо я падарожнічаю, магу набываць іх у месцах, дзе бываю. Падзялюся з вамі, адчыніце, калі ласка, дзверы, — сказаў вандроўнік.



Бацька і сын зноў паглядзелі адзін на аднаго.

— Як ты думаеш, гэтыя лекі дзейсныя? — раіўся бацька з сынам.

Зноў за дзвярыма:

— Ні ў якім выпадку я не патурбую вас. Калі ласка, толькі прыадчыніце трошкі дзверы, каб я мог даць вам лекі, — маліў вандроўнік.

Бацька хацеў выратаваць дачку, нягледзячы на тое, што вясковы лекар лічыў дзяўчыну безнадзейна хворай. Бацька вельмі любіў яе, таму з асцярожнасцю ўсё ж такі прыадчыніў дзверы.

Вандроўнік ледзь-ледзь працiснуў руку і даў бацьку пяць ці шэсць таблетак. Той, атрымаўшы лекі, адчуў згрызоты сумлення, што ў адносінах да незнаёмца паводзіў сябе так непрыязна, і вырашыў пусціць яго ў хату.

Але постаць ужо знікла ў змроку.

— Тата, давай прынясём яму вады, — прапанаваў сын.

Бацька выскачыў за дзверы, аднак моцны шторм не пусціў яго рушыць следам.

Тады бацька і сын вырашылі вярнуцца да вогнішча.

— Якім жа бескарыслівым аказаўся незнаёмец: падзяліўся лекамі, хоць не прынялі яго на начлег і нават вады не прынеслі, — сказала маці.

— Я першы раз бачу такія лекі, — прамовіў бацька, які таксама не мог паверыць у шчодрасць вандроўніка.

Вецер і дождж барабанілі ў дзверы, і гук іх быў па-ранейшаму страшны.

Праз некаторы час сын успомніў пра незнаёмца.

— Што цяпер з гэтым мужчынам? Ці дабраўся ён да вёскі?

Бацьку таксама грызла сумленне, бо ён таксама ўспомніў пра бессардэчнасць, з якой яго сям’я паставілася да вандроўніка. Гаспадар хаты глядзеў на вогнішча і цяжка маўчаў.

Дзяўчына гэтай ноччу моцна пакутавала ад смагі. На наступны дзень у яе не было сіл нават папрасіць што-небудзь.

Пасля шторму неба рэзка праяснілася, і было так холадна, што, здавалася, вось-вось пойдзе снег. Лісце з дрэў ужо цалкам апала, агаліўшы крыштальна чыстае неба над вяршынямі гор.

Сын па парадзе бацькоў пайшоў у вёску, каб выклікаць лекара. З-за таго, што стан хворай рэзка пагоршыўся, у клопатах аб ёй пра начнога візіцёра забыліся. Лекар прыйшоў неадкладна і агледзеў дзяўчыну:

— Мяркуючы па ўсім, яна не дажыве да канца дня, — сказаў ён і праз некаторы час пайшоў.

— Што ж рабіць? Мабыць, трэба паспрабаваць тыя лекі, што уночы нам даў вандроўнік, — вагалася маці.

— Вып'е яна іх ці не — нічога не зменіцца, — вырашыў бацька, але панёс паднос з лекамі да дачкі.

Словы вандроўніка не былі хлуснёй. Таблеткі падзейнічалі. Пад вечар дачка прыўзнялася на ложку, агледзелася і, убачыўшы твар маці, злёгку ўсміхнулася.

На наступны дзень дзяўчына адчувала сябе ўжо лепш. Мiналі дні — і яна паступова выздараўлівала. Неяк непрыкметна і зусім паправілася. Калі вёска даведалася пра гэта цуда, у хатцы зноў згадалі незнаёмца, захопленага штормам. У тую ноч, казалі ў вёсцы, ніякі вандроўнік тут не начаваў.

— Відаць, гэта быў нейкі святы! У наш час усе сталі чэрствыя і перасталі верыць у святасць, таму ён прыйшоў, каб паказаць сваю моц. Магчыма, некалі ён вернецца і забярэ з сабой дзяўчыну, — шапталіся вакол.

Пасля гэтага дзіўнага выпадку бацька доўга ўпікаў сябе за бессардэчнасць. Ён вырашыў, што цяпер, калі хто-небудзь папросіцца начаваць, ён сустрэне яго як мага болей ветліва.

Дачка ўсё харашэла і стала самай прыгожай дзяўчынай у наваколлі. З розных вёсак прыязджалі прасіць яе рукі. Яна зусім разгубілася, але з усіх выбрала лепшага і жыла з таго часу ў дастатку. У гаспадара хаткі нарадзіліся цудоўныя ўнукі. Калі дзядуля чуў, як яго клічуць: «Дзеда, дзеда!» — то ўспамінаў, што ўсім сваім шчасцем ён абавязаны вандроўніку. І сын, і маці, як і бацька, памяталі пра сваю бяздушнасць у адносінах да гэтага чалавека.

— Калі так здарыцца, што нехта папросіцца пераначаваць, як гэта было некалі даўняй ноччу, прымем яго з адкрытым сэрцам, — казалі ў хаце.

Мінула шмат часу: былі дні з ветрам, дні з дажджом і са снегам, але ніхто больш не спыняўся на начлег у гэтай самотнай хаце.

## Дзікая ружа

Суседнічалі дзве краіны: адна велізарная, а другая ў параўнанні з ёю — маленечкая. Адносіны паміж краінамі былі цёплыя, панаваў мір.

Гэта адбылося на мяжы, далёка ад сталіц абедзвюх дзяржаў. Кожная адправіла толькі аднаго салдата са свайго боку ахоўваць мяжу, на якой стаяў каменны абеліск. Ад вялікай краіны салдат быў стары, а ад маленькай — юнак.

Адзін нёс варту на левым, другі — на правым баку абеліска. Месца іх службы знаходзілася ў пустынных гарах, і вандроўнікі тут з'яўляліся рэдка.

Першыя часы салдаты не ведалі адзін аднаго, моўчкі прыглядаліся, вырашаючы, хто той іншы: вораг ці свой? Урэшце абодва вартаўнікі сталі добрымі прыяцелямі. Туга па душэўных гутарках і да таго ж цёплыя доўгія летнія дні паспрыялі іх знаёмству.

Акурат на мяжы сам па сабе вырас густы куст дзікіх руж. На досвітку вакол кветак круціліся меданосныя пчолы. Праз сон абодва салдаты чулі іх гудзенне.

— Ці не пара ўставаць? Пчолы ўжо гудуць! — як змовіўшыся, прачнуліся ў адзін час вартаўнікі. Калі яны выйшлі са сваіх хат, то ўбачылі, што сонца ўжо асвятліла верхавіны дрэў. Кожны прапаласкаў рот і памыўся вадой з ручая, які браў свой пачатак у гарах.

— Гэй, добрай раніцы! Цудоўнае надвор'е, ці не так?

— І праўда, надвор'е выдатнае, з такім надвор'ем пачуваешся бадзёрым!

Перакінуліся вітаннямі, падняўшы галовы, пачалі разглядаць навакольныя краявіды. Здавалася б, адзін і той жа краявід, але дзень за днём яны знаходзілі ў ім штосьці прыемнае сэрцу.

Спачатку малады салдат не ведаў, як гуляць у сёгі[1], але яго навучыў старэйшы напарнік. Прыкладна пад поўдзень яны сустракаліся і ціха гулялі, перастаўляючы фігуры на дошцы. Спачатку стары не даваў паслаблення, але паступова стаў здаваць пазіцыі. Юны і стары, салдаты гэтыя былі вельмі шчырымі і добрымі людзьмі. Хоць абодва страшна сварыліся за дошкай у сёгі, але былі заўсёды сумленныя адзін з адным.

— Няўжо я прайграю, куды мне бегчы? У сапраўднай вайне гэта было б цяжкім выпрабаваннем, — смяяўся стары.

Бачачы свой шанец на перамогу, твар хлопца ззяў ад радасці, а вочы гарэлі ліхаманкавым бляскам у прадчуванні пагоні за каралём.

На верхавіне дрэва спявала прыгожа маленькая птушачка. Адчуваўся пяшчотны водар белых руж.

Настала зіма. Пахаладала, і стары салдат пачаў сумаваць па поўдні. Там жыў яго сын і ўнукі.

— Эх, хутчэй бы мяне вызвалілі, хачу вярнуцца дахаты, — казаў стары.



[1] Японская настольная лагічная гульня шахматнага тыпу.



— Калі вы вернецеся, на ваша месца прышлюць незнаёмца. Будзе файна, калі трапіцца добры чалавек, а калі чалавек з думкамі, кшталту: «ты мне вораг ці свой?» — гэта можа быць праблемай. Застаньцеся, хутка і вясна прыйдзе.

Зіма адступіла, і надышла вясна. У гэты час дзяржавы пачалі вайну за эканамічную выгаду.

Цяпер двое, што жылі душа ў душу, сталі ворагамі. Гэта здавалася дзіўным.

— Што ж, з гэтага дня я і ты — ворагі. Ты можаш атрымаць павышэнне па службе, забраўшы з сабой галаву старога маёра, таму забі мяне, — сказаў стары.

Пачуўшы гэтыя словы, хлопец ашаломлена адказаў:

— Чаму вы мне вораг? Мой вораг не тут! Цяпер вайна разгараецца на поўначы! Я паеду туды ваяваць… — сказаўшы апошняе слова, малады салдат пайшоў, пакінуўшы свайго старэйшага напарніка.

На мяжы застаўся толькі адзін салдат. З таго часу стары праводзіў дні сумна. З самай раніцы да канца дня над квітнеючымі ружамі круціліся пчолы. Вайсковыя дзеянні адбываліся далёка адсюль, як ні прыслухоўваўся стары, як ні ўзіраўся ў неба, каб пачуць гукі стрэлаў і ўбачыць дымавыя аблокі, — нічога не чуў і не бачыў. Дні міналі ва ўспамінах пра малодшага таварыша.

Аднойчы сюды дайшоў вандроўнік. Стары салдат спытаў яго пра вайну. Той паведаміў, што маленькая краіна вайну прайграла, што вайна скончылася, бо не засталося больш салдат.

Ці жывы быў яго прыяцель? У такіх думках стары прысеў каля абеліска, апусціў галаву, і яго агарнула дрымота. Яму здалося, што дзесьці далёка шло войска, якім кіраваў, седзячы на кані, яго малады сябар. Войска прайшло міма амаль нягучна. Урэшце малады афіцэр апынуўся перад старым, моўчкі пакланіўся яму і ўдыхнуў водар дзікіх руж.

Стары захацеў звярнуцца да юнака, але прачнуўся. Потым, праз месяц, дзікая ружа завяла. А стары восенню вярнуўся ў сваю хату на поўдні.

*Крыніца:*「小川未明童話集　出版社　　新潮社　１９８１年発行

*Пераклад з японскай мовы Хрысціны Ахрыменка.*

*Ілюстрацыі Хрысціны Ахрыменка.*


гэтыя вароты адчыняе чароўнае слова сябар скажы і ідзі
вароты і чары за імі стварыў Джон Рональд Руэл Толкін

# Дж.Р.Р. і Ко

# Дж. Р. Р. — штрыхі біяграфіі

**3 студзеня 1892** — нарадзіўся ў сям'і Артура і Мэйбл Толкінаў у Блумфантэйне (зараз тэрыторыя ПАР).

**люты 1896** — маці з двума сынамі вяртаецца ў Англію, у хуткім часе пасля гэтага ў Афрыцы памірае бацька.

**1900** — Рональд паступае ў школу караля Эдварда, дзе пачынае вывучаць старажытнаанглійскую, валійскую, фінскую, гоцкую, старажытнанарвежскую мовы.

**1904** — ад дыябету памірае Мэйбл Толкін.

**1908** — сустрэча з Эдыт Брэт, будучай жонкай.

**1915** — з адзнакаю закончыў універсітэт, у хуткім часе быў прызваны на службу ў арміі.

**22 сакавіка 1916** — Эдыт і Рональд пабраліся шлюбам.

**ліпень-лістапад 1916** — бітва на Сомме, у якой удзельнічаў Толкін (служыў сувязістам). Быў паранены, пасля захварэў на «акопную ліхаманку».

**1919** — дэмабілізаваны Толкін далучаецца да работы над «Оксфардскім слоўнікам англійскай мовы» (у якасці лексікографа).

**1920** — становіцца самым маладым прафесарам Лідскага ўніверсітэта.

**1925—1945** — прафесар англасаксонскай мовы Пембракскага каледжа.

**1926** — закончаны пераклад паэмы «Беавульф».

**1937** — надрукаваны «Хобіт».

**1945—1959** — прафесар англійскай мовы ў Мертан-каледжы (Оксфард).

**1945** — апублікавана апавяданне «Ліст работы Нігля».

**1945** — надрукаваны «Спеў пра Аотру ды Ітрун».

**1947** — выйшла апавяданне «Фермер Джайлз з Хэма».

**1948** — закончана праца над «Уладаром Пярсцёнкаў».

**1954—1955** — публікацыя рамана (падзеленага выдаўцом на асобныя кнігі) у Англіі.

**1960-я** — талкіністычны бум у ЗША (пасля выхаду кнігі ў ЗША).

**1962** — паэтычны зборнік «Прыгоды Тома Бамбадзіла і іншыя вершы з Пунсовай кнігі».

**1967** — зборнік «Дарога йдзе далей, далей» («The Road Goes Ever On»).

**1967** — «Каваль з Вялікага Вутана».

**1971** — памірае Эдыт. Толкін вяртаецца ў Оксфард.

**2 верасня 1973** — памірае.



**Святлана Курганава**

# Мазаіка з лістоў

Толкін. Для большасці — хто ён? Пісьменнік, які стварыў «Уладара Пярсцёнкаў» і «Хобіта».

Для меншай колькасці людзей — аўтар «Сільмарыліёна».

Для яшчэ вузейшага кола — стваральнік цэлага міфалагічнага эпасу, так званых «Страчаных паданняў».

Але для каго ён — проста чалавек?

Чалавек, захоплены сваёй справай, чалавек з дзіўным (і дзівацкім) пачуццём гумару, чалавек, у якога былі сябры, дзеці, любімая жанчына.

Як даведацца пра такога Толкіна? Біяграфія, напісаная Хамфры Карпентэрам, — сапраўды каштоўная крыніца. Ды хто можа лепш расказаць пра сябе, чым сам чалавек? Асабліва калі ён не ведае, што на яго ўважліва глядзяць у дадзены момант.

Ад «Лістоў» Толкіна, з якіх склалі падборку і якія выдаў біёграф і любімы сын Крыстафер Толкін, немагчыма адарвацца, таму што гэтыя лісты паказваюць той бок асобы пісьменніка, пра які мы не ведалі.

Я паспрабавала скласці вобраз незнаёмага нам Прафесара з урыўкаў ягоных лістоў.

Знаёмцеся — *Джон Рональд Руэл Толкін*.

***

Сам Толкін заўсёды казаў, што не ўмее маляваць, і яго карцінкі — гэта «лухта» і «дробязі». Але ён склаў і праілюстраваў кароценькую дзіцячую казку пад назвай «Містэр Бліс». І малюнкі да яе нечакана (для Толкіна) прынялі.

А потым пісьменнік сам ілюстраваў свайго «Хобіта».

**З ліста № 010. Да Ч. А. Фёрта, «Allen & Unwin»**

*Глыбокапаважаны сэр!*

*«Містэр Бліс» удачна прыбыў. Магу толькі сказаць, што быў вельмі здзіўлены, атрымаўшы на наступную раніцу ваш ветлівы ліст. Я і ўявіць не мог, што ён [«Бліс»] варты такіх клопатаў. На мой погляд, гэтыя карцінкі галоўным чынам даказваюць, што маляваць аўтар не ўмее. Але, калі ваша выдавецтва сур'ёзна лічыць, што трэба апублікаваць «Бліса», я паспрабую спрасціць ілюстрацыі і зрабіць іх больш прыдатнымі для перадрукоўкі.*

*Зразумела, мне б вельмі дапамагло, калі б Вы і сапраўды былі так ласкавы, што зазірнулі да мяне і далі параду-другую.*

***

Толкін для вучонага свету перш за ўсё — Прафесар: чалавек, які займаецца сур'ёзнымі навуковымі даследаваннямі.

Тыя кнігі, якія зрабілі яго вядомым ва ўсім свеце, многія яго калегі лічылі марнаваннем часу, несур'ёзным заняткам, «дзівацтвам» навукоўца.

**З ліста 017. Да Стэнлі Анвіна, дырэктара «Allen & Unwin»**

*Мяне ўвесь час пытаюцца, як там мой хобіт. Прычым (як я і прадбачыў) не без здзіўлення і нават крыху жалю. Мой родны каледж, як мне падаецца, расшчодрыўся асобнікаў на шэсць хоць бы для таго, каб было чым мяне дражніць.*

*Пасля рэцэнзіі ў «Таймс» двое-трое маіх больш паважных калег вырашылі, быццам могуць, калі ўжо так, без шкоды для сваёй акадэмічнай годнасці прызнацца, што знаёмыя з маёй «фантазіяй» (чытай: **неразумнасцю**).*

*Прафесар візантыйска-грэцкай мовы купіў сабе асобнік, «бо першаавыданні «Алісы» цяпер каштуюць нямалых грошай». Па чутках, за чытаннем «Хобіта» бачылі прафесара каралеўскай кафедры сучаснай гісторыі.*

*Кніга выстаўленая ў «Паркерз» (кнігарні «Паркерз» на Броўдзі-Стрыт у Оксфардзе), а больш, здаецца, нідзе.*

***

Толкін ахвотна мог тлумачыць некаторыя моманты ў сваіх кнігах. Ён любіў казаць пра тое, што піша. Усе яго лісты ў зробленай падборцы так ці інакш датычацца яго творчасці.

Адзін з чытачоў Толкіна (які падпісаўся *Хабіт*) адправіў ліст з пытаннем у газету «The Observer», у якім «пытаецца, ці не пагадзіўся б Толкін «распавесці падрабязней пра імя і паходжанне такога інтрыгуючага героя сваёй кнігі ... гэта так палегчыць жыццё даследчыкам наступных пакаленняў».

Супрацоўнікі рэдакцыі перанакіравалі ліст Толкіну, і ён на яго ахвотна адказаў.

**З ліста 025. Рэдактару газеты «The Observer»**

*Сэр!*

*Угаворваць мяне не трэба: я ласы на лісліваць, што той Цмок, ахвотна пахвалюся брыльянтавай камізэлькай і нават паразважаю пра яе паходжанне, калі ўжо містэр Хабіт (яшчэ больш дапытлівы, чым хобіт) не толькі выказвае мне сваё захапленне, але яшчэ і пытаецца, адкуль такі скарб.*

*Але ці не здаецца Вам, што ў адносінах да даследчыкаў гэта трошкі несумленна? Палегчыць ім жыццё азначае пазбавіць іх сэнсу існавання.*

...

*І нарэшце, дам будучаму даследчыку невялікую задачку.*

*Аповесць пісалася з двума перапынкамі, кожны даўжынёй прыблізна ў год: адгадайце, у якіх месяцах праца прыпынялася?*

*Зрэшты, гэта мусіць выявіцца ў любым выпадку. Але мне тут раптам успомнілася: калі Цмок паддаўся ліслівым гаворкам, хобіт падумаў: «Стары дурань!»*

*Баюся, што містэр Хабіт (і Вы) ужо падумалі нешта падобнае.*

*Але, пагадзіцеся, спакуса была вялікая.*

***

Гэты нявінны жарт меў, аднак, працяг для Толкіна.

**З ліста 026. Да Стэнлі Анвіна**

*Не ведаю, ці трапляўся Вам на вочы доўгі і дурны ліст у «The Observer» за 20-е лютага, і калі так, ці не палічылі Вы, што я раптам з'ехаў з глузду.*

*На мой погляд, рэдактар абышоўся са мной проста несумленна. У студзені газета апублікавала ліст за подпісам «Хабіт» (аўтар ліста пытаўся, ці не падказаныя хобіты лекцыямі Джуліяна Хакслі на тэму пухнатых афрыканскіх пігмеяў і шмат чаго іншага).*

*Я даслаў у рэдакцыю свой жартоўны адказ, прыклаўшы чысты канверт з маркай для перадачы Хабіту; а таксама і кароткі, цалкам разумны каментар, прызначаны для публікацыі. На працягу месяца зусім нічога не адбывалася, а потым у адзін цудоўны дзень я прачнуўся, каб дазнацца, што мой неабдуманы жарт займае амаль цэлую калонку!*

***

Толкін заўсёды ганарыўся сваім нямецкім прозвішчам, пра што неаднаразова казаў, і ў той жа час — заставаўся сапраўдным англічанінам. Змагаючыся на баку Вялікабрытаніі, ён удзельнічаў у Першай сусветнай вайне.

А ягоныя дзеці (трое сыноў і дачка) пасталелі якраз напярэдадні Другой сусветнай. Таму фашызм прынёс Толкіну і ўсёй яго сям'і шмат болю і пакут.

Але нават тады ён быў глыбока абураны, калі — пасля капітуляцыі Германіі — нямецкія гарады працягвалі бамбіць, і абурана пісаў пра гэта ў 1945 годзе.

Толкін дзіўным чынам спалучаў гуманізм і рэдкую грамадзянскую мужнасць (па ягонай версіі, праўда, неіснуючую).

У 1938 годзе пісьменнік хацеў апублікаваць нямецкі пераклад «Хобіта», але з-за палітычных установак у Германіі таго часу выйшла наступнае:

**З ліста 029. Да Стэнлі Анвіна 25 ліпеня 1938**

*Трэба сказаць, прыкладзены ліст ад «Rütten and Loening», што называецца, хапіў цераз край. Хацелася б ведаць, праз што такая няласка: ці то праз маё нямецкае прозвішча, ці то праз іх ідыёцкія законы, якія патрабуюць сертыфікат «арыйскага» паходжання ад любога жыхара любой краіны?*

*Асабіста я схільны адмовіцца даваць якое б там ні было* **Bestätigung** *[Пацверджанне] (хоць, між іншым, магу) і пасляць нямецкі пераклад куды падалей.*

*У любым выпадку, я рашуча выступаю супраць таго, каб падобныя заявы з'яўляліся ў друку. Я зусім не лічу, што адсутнасць яўрэйскай крыві (магчымая) — гэта абавязкова падстава для гонару; у мяне нямала сяброў-яўрэяў, і я вельмі б не хацеў ствараць уражанне, быццам падтрымліваю гэтую ў вышэйшай ступені згубную і антынавуковую расавую тэорыю.*

***

Кажуць, што Толкін апісаў сваю жонку ў гераіні «Сільмарыліёна» — эльфійскай прынцэсе Люцыэн. Ці так гэта?

Уласна, пра сваё каханне да Эдыт Брэт Толкін можа сказаць і сам.

**З ліста 340. Да Крыстафера Толкіена 11 ліпеня 1972**

*Нарэшце заняўся мамінай магілай... Мне б хацелася зрабіць наступны надпіс:*

***Эдыт Мэры Толкін***
***1889-1971***
***Люцыэн***

*Коратка і суха, за выключэннем Люцыэн, а гэта імя значыць для мяне болей, чым незлічонае мноства слоў; бо яна была* ***маёй Люцыэн*** *(і ведала пра гэта).*

*13 ліпеня. Скажы, што думаеш, шчыра пра гэты дадатак.*

*Я пачаў ліст у глыбокім узрушэнні, пад уладай моцнага перажывання і гора, — і ў любым выпадку час ад часу на мяне находзіць (з нарастаючай сілай) усепаглынальнае пачуццё страты. Мне неабходная парада. І аднак я спадзяюся, што ніхто з маіх дзяцей не палічыць выкарыстанне гэтага імя сентыментальным дзівацтвам.*

*Як бы там ні было, з ужываннем ласкальных мянушак у некралогу яно і ў параўнанне не ідзе. Я ў жыцці не называў Эдыт «Люцыэн» — але менавіта яна дала пачатак легендзе, што з часам стала цэнтральнай часткай «Сільмарыліёна».*

*Упершыню гэтая легенда з'явілася на невялікай лясной палянцы, зарослай балігаловам, пад Русам, у Ёркшыры (дзе я нядоўгі час камандаваў аванпастом Хамберскага гарнізона ў 1917 годзе, і яна мела магчымасць жыць там са мной).*

*У тыя дні валасы яе былі як воранава крыло, скура — аксамітная, вочы ззялі ярчэй, чым калі-небудзь на тваёй памяці, і яна ўмела спяваць — і танчыць.*

*Але легенда сказілася, я — пакінуты, і мне не дадзена прасіць за яе перад няўмольным Мандасам.*

***

Што такое папулярнасць? Пакланенне пры жыцці? Хутчэй процьма праблем, калі ты хочаш проста жыць і рабіць тое, што табе падабаецца, а табе замінаюць.

**З ліста 336. Да сэра Патрыка Браўна 23 мая 1972**

*У тым, каб стаць культавай фігурай яшчэ пры жыцці, баюся, прыемнага мала. І тым не менш я не знаходжу, што гэта спрыяе зазнайству; сам я адчуваю сябе жудасць якім маленькім і нікчэмным.*

*Але нос нават самага сціплага з ідалаў (маладзейшы, чым Чу-Бу, і крыху старэйшы за Шыміша) ніяк не можа не паказытаць салодкі водар фіміяму!*

Напрыклад, паводле «летапіснай» часткі легендарыума, плямёны эльфаў, якія некалі ўтваралі адзін народ, падзяліліся. Адпаведна падзяліліся і іх мовы, што разам узыходзяць да адной агульнай. У розных мясцовасцях узнікалі свае дыялекты, тым больш не падобныя адзін да аднаго, чым меней стасункаў было паміж рознымі плямёнамі. На пэўных этапах гісторыі да існавання моў падключаецца і палітычны фактар — ужыванне мовы канкрэтнага народа магло быць забаронена. Напрыклад, як гэта адбылося ў Дорыяце, дзе кароль афіцыйна забараніў сваім падданым размаўляць на ***квенья*** (літаральна перакладаецца як «мова», а саманазва эльфаў — *квендзі* — «тыя, што размаўляюць»).

Мова магла ўжывацца — у якасці «мовы мудрасці» (як лаціна) — у іншых народаў. Так, для людзей Нуменора квенья стала цырыманіяльнай мовай, прыкметай вытанчанасці, а яшчэ — мовай, на якой каралі Нуменора атрымлівалі падчас каранацыі квенійскае імя. Тут мы зноў сутыкаемся з палітычным фактарам: людзі імкнуліся і наладзіць сувязі з эльфамі, і як бы стаць да іх падобнымі — скажам, такімі ж бессмяротнымі.

У выніку, вядома, гэта ні да чаго добрага не прывяло, і цэлы кантынент патануў. Таму што гэта тая мараль, што вынікае з «Сільмарыліёна»: з эльфамі лепш не звязвацца.

Распрацоўваючы летапісную гісторыю Арды «з эльфійскага пункта гледжання», Толкін надаваў большую увагу менавіта эльфійскім мовам. Аднак некаторыя захады былі ім зроблены і адносна моў іншых народаў — напрыклад, гномаў.

Мова апошніх, ***кхуздул*** (літаральна «гномская»), якую Толкін распрацоўваў на базе моў семіцкай групы (арабская або ідыш), валодае надзвычайнай якасцю — сталай семантычнай напоўненасцю каранёў слоў. Мы можам толькі выбудоўваць тэорыі, але, верагодна, для гномаў іх мова была нечым накшталт агромністай энцыклапедыі пра ўсё на свеце. Магчыма, сам акт гаварэння і пісання на ёй, *называнне* жывога і нежывога сакралізавалася; прынамсі, гэтак можна растлумачыць нежаданне гномаў знаёміць са сваёй мовай прадстаўнікоў іншых народаў. Асабліва — эльфаў (за двума-трыма выключэннямі). Таму што з эльфамі лепш не звязвацца.

Зрэшты, пра мовы ў Толкіна можна размаўляць бясконца. Не ў апошнюю чаргу таму, што, ствараючы іх, ён працаваў сістэмна. І нават калі дзе-небудзь ёсць прабелы, іх можна запоўніць, кіруючыся зразумелай, зададзенай логікай, ведаючы іншыя дэталі.

Прастора для філалагічных фантазій тут папраўдзе бясконцая. Напрыклад, можна задумацца пра форму адзіночнага ліку ад зборнага назоўніка «khazad». Або паспрабаваць прасачыць шлях запазычанняў з адной мовы ў другую, абазначыўшы абавязковыя фанетычныя змены. Або паразважаць над сістэмай асабістых імён. Бясконцыя, бясконцыя магчымасці!

У такой стараннай дэталізацыі, напэўна, і хаваюцца чары свету Толкіна. Таму што дэталі, шматлікія дробныя мазкі, гульня святла і ценю — усё гэта надае жыццё агульнай вялікай карціне.

У дэталях — цэлы свет.

У дэталях — душа стваральніка гэтага свету.

А ў каранях слоў водзяцца драконы.

Ніжэй мы прыводзім сціслы беларуска-эльфійскі (дакладней, квенійскі) слоўнічак.

На ўсялякі выпадак.

Таму, што з эльфамі… ну, вы ведаеце.

*Aiya!* — Прывітанне!

*Ma istal quet' Eldarin?* — Размаўляеце на эльфійскай мове?

*Lá istan quet' Eldarin.* — Я не размаўляю па-эльфійску.

*Istan quet' Eldarin.* — Я размаўляю па-эльфійску.

*Ma istanyel*? — Мы знаёмыя?

*Man esselya ná*? — Як тваё імя?

*Nánye* (імя). — Мяне завуць (імя).

*Elen síla lúmenn omentielvo.* — Зорка ззяе над нашай сустрэчай. (спосаб паказаць прыязнасць)

*Hantanyel.* — Дзякуй.

*Alassenyan.* — Калі ласка.

*Náto.* — Так.

*Lá.* — Не.

*Namárie!* — Бывай!

*Mára mesta!* — Добрага падарожжа!

**Дж. Р. Р.: некаторыя факты**

- *У 1961 годзе сябар Толкіна Клайв Льюіс рабіў захады для таго, каб Дж. Р. Р. атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Шведскія акадэмікі, аднак, у наміраванні адмовілі, заўважыўшы, што «кнігі Толкіна нельга назваць прозай вышэйшага класа».*
- *Шмат твораў Толкіна пабачыла свет пасля яго смерці — дзякуючы намаганням ягонага малодшага сына Крыстафера Толкіна.*

Юры Пацюпа

# Дзве паэтыкі: Уладзімір Дубоўка і Уладзімір Жылка

## (Да праблемы архітэктонікі лірычнага тэксту)

### 0.0. Перадгісторыя

У гэтага прымеркавання ёсць невялічкая перадгісторыя з больш як дваццаціпяцігадовай барадою, дзе сплялося шмат выпадковага і канечнага. У 1988 годзе ў часопісе «Беларусь» Ірына Багдановіч з нумара ў нумар стала публікаваць анталогію беларускай паэзіі 1920-х гадоў. І вядома ж, найярчэйшымі зоркамі ў тым сузор'і былі два Уладзіміры — Дубоўка і Жылка. Яны на мяне, яшчэ студэнта і літаратарапачаткоўца, зрабілі найбольшае ўражанне. А з іх падборак асабліва запомнілася па адным тэксце: «Цішыня... галасы... разнабой» Дубоўкаў і «Я — грамнічная свечка прад Богам» Жылкаў. На доўгія гады гэтыя вершы, не сама вядомыя, дый не сама адметныя, але надзвычай глыбокія і, без усякага сумневу, адны з найхарашэйшых і найхарактэрнейшых у абодвух паэтаў, сталі для мяне эталонамі іх творчасці. Міналі гады, а ўва мне цеплілася ідэя прымеркаваць абодва вершы, каб у кожным, як у кроплі вады, убачыць цэлага паэта.

### 0.1. Праблема архітэктонікі лірычнага тэксту

Сам факт існавання лірычнага тэксту для мяне заўсёды быў загадкаю. Не толькі тое, *што* дазваляе тэксту быць паэтычным, але і тое, *як* ён можа арганізоўвацца як цэлае. Гэта мяне вабіла не толькі як літаратуразнаўцу, але і як практыка, так ці інакш прыналежнага да паэтычнага цэха. Паэзія і проза — як дабро і хараство. Ніхто не дзівіцца, чаму дабро — гэта дабро, і таму не тлуміцца пытаннем, што гэта такое. А вось пытанне, *што такое хараство*, не дае спакою. Сама магчымасць хараства здаецца парадаксальнай. Як, якім спосабам нешта можа быць прыгожым? Гэтаксама мы не тлумімся і тым, як створаны празаічны тэкст. Трэба толькі расказаць цікавую гісторыю, а ўжо як яе аформіць — пытанне чыста тэхнічнае. А што такое верш? Як трэба гаварыць, каб казаць паэзію? Я не сцвярджаю, што проза, як і дабро, больш зразумелая за паэзію і хараство, тым больш не сцвярджаю, што такая аналогія карэктная. Я проста звяртаю ўвагу на тое, што бываюць з'явы больш відавочныя і менш відавочныя. І, мабыць, толькі зразумеўшы невідавочныя, мы адкрываем: дык жа відавочныя не менш парадаксальныя і таксама вымагаюць разгадвання.

Калі я гавару пра арганізацыю паэтычнага тэксту, то маю на ўвазе не памер і не рыфму, а нешта большае, перадусім — счапленне сэнсаў паміж сабою і перацяканне сэнсаў аднаго ў другі. Перш чым патлумачыць гэтую праблему, звярнуся да народнай паэтыкі. У свой час Валеры Брусаў прапанаваў стылёвую тэорыю народнага верша: «*Мера верса — вобраз. Велічыня верса вызначаецца колькасцю змешчаных у ім вобразаў… Вымярэнне верса лікам доўгіх і кароткіх галосных, ці проста лікам складоў, ці лікам націскаў — толькі дапаможны сродак*» [3, с. 9—10]. Вядома, структурай вобразаў нельга падмяніць структуру складоў і націскаў, як і сістэму коланаў. Але тут, у нерэлевантным сцвярджэнні, схопленая сама істота народнай паэтыкі: паслядоўнае супадзенне коланаў з сінтагмамі. Значыць, ужо ў народным вершы паралельна з фанетычнымі паўторамі існуюць паўторы семантычныя. Адны з другімі могуць супадаць і не супадаць. Калі праўдзіў Брусаў, то ў народным вершы супадзенні характэрныя на ўсіх роўнях паэтыкі, а ў літаратурным вершы, для якога ўласцівыя анжамбеманы, гэтыя супадзенні сістэматычна парушаюцца. Але, як бы там ні было, семантычныя элементы, калі хочаце, семантыч-

Паэзія і проза — як дабро і хараство. Ніхто не дзівіцца, чаму дабро — гэта дабро, і таму не тлуміцца пытаннем, што гэта такое. А вось пытанне, што такое хараство, не дае спакою. Сама магчымасць хараства здаецца парадаксальнай

Бываюць з'явы больш відавочныя і менш відавочныя. І мабыць, толькі зразумеўшы невідавочныя, мы адкрываем: дык жа відавочныя не менш парадаксальныя і таксама вымагаюць разгадвання

ныя кванты, арганізуюцца ў асобную сістэму і іх дынаміку нельга звесці да дынамікі фанетычных элементаў — радкоў і коланаў.

Слова, як той Месяц да Зямлі, увесь час павернута да нас адным бокам — фанетычным. А каб убачыць неназіраную старану слова, як і адваротны бок Месяца, трэба прыкласці намаганні. Невідочная — семантычная — старана лірычнага тэксту амаль не даследавалася. Было некалькі спроб даследаваць кампазіцыю лірычнага тэксту: у рускім кантэксце гэта зрабіў В. Жырмунскі [4], а ў беларускім — І. Шпакоўскі [7]. Але абедзве спробы мяне не здаволілі, бо не схаплялі галоўнага, да логікі і сістэмы значэнняў так і не даходзіла — усё замыкалася на вонкавым, фанетычным ці сінтаксічным, аспекце. Як казаў М. Бахцін у палеміцы з фармалістамі, да якіх, дарэчы, прымыкаў і В. Жырмунскі, трэба ўрэшце адрозніваць кампазіцыю і архітэктоніку [гл.: 1; 2]. Пад апошняй ён разумеў нутраную арганізацыю тэксту, адрозную ад кампазіцыі — вонкавай арганізацыі. У свой час я ўжо спрабаваў выбудаваць тэорыю архітэктонікі лірычнага тэксту, дзе параметры тэкстаў апісваліся пры дапамозе сістэмы палярных апазіцый: архітэктоніка тэксту — *лінейная/цыклічная*, кампазіцыя тропаў — *паслядоўная/паралельная*, праекцыя пісьма — *ад пачатку/ад канца* [6]. Сума вобразаў тэксту, калі карыстацца паняткамі матэматыкі, разглядалася як адкрытае або як закрытае мноства. Выходзячы з гэтых палажэнняў, я і паспрабую даследаваць архітэктоніку вершаў абодвух паэтаў.

## 1. 1. Вонкавая адрознасць і падобнасць

Рабіць аналіз нутраной структуры, абстрагаваўшыся ад вонкавай, было б аднабакова і не вельмі прадукцыйна. Можа, я таму і звярнуў увагу на гэтыя тэксты, што яны, пры ўсіх адрозненнях, шмат у чым падобныя, і асабліва кідаецца ў вочы вонкавае падабенства. І Дубоўкаў, і Жылкаў вершы напісаныя аднолькавым памерам — трохстопным анапестам. Гэты памер у 1920-я гады, час напісання вершаў, быў даволі папулярны ў рускай літаратуры: ім карысталіся сімвалісты і постсімвалісты, у прыватнасці Аляксандр Блок і Сяргей Ясенін — у значнай ступені арыенціры маладой беларускай літаратуры. Менавіта з рускай традыцыі і вынікаў гэты памер. У XIX стагоддзі сустрэць яго ў айчынным пісьменстве амаль немажліва (ёсць колькі спроб у Ф. Багушэвіча), дый у нашаніўцаў ён быў не самы папулярны. Прыкладна ў 1920-я гады трохстопны анапест заваёўвае сабе месца як характэрны памер беларускай лірыкі. Менавіта з ім звязаныя найбольш пранікнёныя лірычныя выказы. Даўжыня радка трохстопнага анапеста 9-10 складоў — на 1-2 склады больш, чым у сілабічным 8-складовіку (чатырохстопным харэі) — памеры ўсіх часоў і народаў. Прыблізна столькі, колькі ў сілабічным 10-складовіку і чатырохстопным ямбе — спецыфікаваных, але папулярных памерах. Іншымі словамі, даўжыня радка трохстопнага анапеста блізкая да аптымальнай, а парадак націскаў — гістарычна спецыфікаваны, форма — лакалізаваная ў часе.

Можна было б сказаць, што гэтыя вершы напісаныя адным памерам. Але рытм заўжды вызначаецца не толькі метрам, яшчэ і характарам клаўзул, іх спалучэннем — чым даўжэйшая клаўзула, тым павольнейшы рытм, чым карацейшая, тым дынамічнейшы рытм. У Дубоўкавым вершы чаргуюцца мужчынскія клаўзулы з жаночымі — адваротны альтэрнанс, а ў Жылкі ўсе клаўзулы жаночыя — нулявы альтэрнанс. Адпаведна рытм Дубоўкавага верша няўлоўна-кантрасны, пераменлівы, а Жылкавага — больш роўны, крыху манатонны. Можна было б сказаць, што Дубоўка пільнуецца класічнага правіла альтэрнансу, а Жылка парушае, але ў цэлым Дубоўкаў верш больш мадэрны, а Жылкаў больш класічны. Асабліва добра згледжваецца гэта на прыкладзе рыфмаў, якія ў Жылкі ў меру кананічныя і ў меру багатыя сугуччамі, як правіла, дакладныя: *Богам — дарогу, плесня — прадвесні, глыбока — прарока, вялікай — аблікам, ніцым — навальніцы* і г. д. А тым часам

у Дубоўкі рыфма моцна «палявела», апрача класічных: *разнабой — табой, пануе — такую, зямлі — жылі, лягла — імгла, пачалося — сугалоссі*, сустракаем і новыя ўзоры: *сваім — спаліў, пальцы — смяяцца, слодыч — лёду, прыйшла — шлях, высып — выспы, сум — красу, змрок — зарой*, сярод якіх ёсць і недакладныя, і глыбокія. Аднак рыфмоўка ў абодвух паэтаў перакрыжаваная — найпапулярнейшая ў сучаснай літаратуры і ў меру складаная, якая дазваляе вольна выказвацца, не канцэнтруючы ўвагі на экзатычнай форме.

Такім парадкам, мы можам канстатаваць значнае вонкавае падабенства вышэйназваных вершаў. Асноўныя вызначальнікі рытму ў іх супадаюць, а другасныя — адрозніваюцца. Гэтыя вершы нельга назваць лірычнымі мініяцюрамі — у іх сярэдні, ці нават большы за сярэдні, аб'ём тэксту ў прымеркаванні да нормаў, якія ўсталяваліся ў XIX—XX стагоддзях. Праўда, Дубоўкаў верш крыху даўжэйшы — 12 чатырохрадкоўяў, Жылкаў карацейшы — 9 чатырохрадкоўяў. Як бачым, вонкавая падстава для параўнання ёсць. Параўнаем цяпер нутраныя асаблівасці.

## 1. 2. Нутраная адрознасць і падобнасць

Каб належна зразумець і ацаніць мастацкі твор, трэба мець уяўленне пра яго жанравую прыналежнасць, але ў сучаснай лірыцы як родзе літаратуры вельмі няпроста вылучыць нейкі від ці падвід, прытым без нацяжак часцей за ўсё не абыходзіцца. Абодва тэксты, азначаныя вышэй як лірычныя, пры больш пільным разглядзе можна аднесці да элегій. Праўда, у Дубоўкі ў элегічны настрой замешваюцца адычныя ноткі.

Апрача агульналітаратурных жанраў у генераванні мастацкага тэксту бяруць удзел рознага кшталту моўныя жанры — як гутарковыя, так і кніжныя. У гэтым плане Жылкаў тэкст адназначна можа быць расцэнены як верш-малітва. З азначэннем Дубоўкавага тэксту крыху складаней, фактычна гэта верш-роздум, верш-рэфлексія.

Істотныя адрозненні паміж вершамі назіраюцца як у суб'ект-аб'ектных адносінах, так і ў адрасацыі. Калі ў Жылкі і тут усё больш-менш ясна: паэт звяртаецца да Бога з малітваю за свой народ, то ў Дубоўкі лірычны герой прамаўляе як бы з-за кадра, мы не ведаем, хто ён і дзе абарачаецца, выглядае так, быццам ён у дарозе і назірае наваколле, раз за разам мяняюцца кадры, але гэта толькі здагадка. Жылкаў верш хоць і пачынаецца з «я», часцей у ім гучыць «мы», аднак, нягледзячы на гэта, верш глыбока асабовы. У Дубоўкі фармальна тэкст таксама вядзецца ад першай асобы, але адрасат яе ўвесь час мяняецца, падобна, што ў першай страфе герой звяртаецца да сябе самога як да «ты», потым з'яўляецца «мы» безасабовае, потым зноў «ты» ў якасці «я», а сканчаецца верш зваротам да «мы» канкрэтнага, дзе «я» — адзін з многіх. Такое ўражанне, што той няпэўны лірычны герой страціў свайго адрасата, ён не ведае, да каго звяртацца з пачуццямі, пра што гаварыць. Як такое магло адбыцца? Чаму? Нічога падобнага не назіраецца ў Жылкі, дзе ўсё цэльнае і мэтнае. Вось якраз у гэтым пункце мы і падышлі да галоўнай праблематыкі нашага даследавання: што арганізуе лірычны тэкст?

Калі праўдзіў Брусаў, то ў народным вершы супадзенні характэрныя на ўсіх роўнях паэтыкі, а ў літаратурным вершы, для якога ўласцівыя анжамбеманы, гэтыя супадзенні сістэматычна парушаюцца

## 2. 1. Разгортванне вобразнай масы

З гледзішча архітэктанічнага цэлага абодва тэксты трэба разглядаць як адкрыты лінейны шэраг. Фармальна яны могуць разгортвацца бясконца, фіналь і ў аднаго, і ў другога не зводзіцца да парадоксу і нечаканай высновы. У агульных рысах тэксты можна лічыць структурна тоеснымі. Але ёсць у іх і прынцыповыя адрозненні, аналіз якіх варта пачаць з Дубоўкавага верша як больш анамальнага, мяркуючы з усяго вышэйсказанага.

Архітэктоніку Дубоўкавага тэксту можна акрэсліць як «слоены пірог». Такая архітэктоніка, паводле маіх назіранняў, з'явілася толькі ў 1920-я гады і была вельмі папулярная ў гэты перыяд, а потым — раптоўна заняпала, знікла. Архітэктоніку «слоенага пірага» часта ўжываў папулярны рускі паэт Сяргей Ясенін, можна сустрэць яе ў ранняга Паўла Васільева. Аднак

Слова, як той Месяц да Зямлі, увесь час павернута да нас адным бокам — фанетычным. А каб убачыць неназіраную старану слова, як і адваротны бок Месяца, трэба прыкласці намаганні. Невідочная — семантычная — старана лірычнага тэксту амаль не даследавалася

пры ўсім тым, што беларуская маладнякоўска-ўзвышаўская паэзія актыўна наследавала Ясеніна, у Дубоўкі слядоў наследавання не заўважаецца, тут трэба шукаць прычыну ў іншым. Такая архітэктоніка невыпадковая, гэта вынік механічнага злучэння дзвюх эстэтык: рамантычнай традыцыі і савецкай прагматычнай эстэтыкі, якая вымагала ад паэта «ідэйнасці» ды «грамадзянскасці». Савецкі паэт «абавязаны», «мусіць» раскрываць сацыяльна-філасофскія праблемы. Але тады верш будзе голым, малапаэтычным разумаваннем. А тым часам Дубоўка — сапраўдны паэт, лірык, і ён не можа не быць песняром прыроды, красы. На гэтым разломе, гэтай супярэчнасці і ўзнікае кампрамісная форма «слоены пірог» — механічнае чаргаванне дыскурсаў.

Калі ўзяць канкрэтны верш, то першае чатырохрадкоўе — *Цішыня… галасы… разнабой…* — пейзажная замалёўка, падсвечаная суб'ектыўнай пачуццёвасцю, — *Пралятаюць яны над табой…* Наступныя тры катрэны *Свет не створаны планам адным…* — гэта зарыфмаванае разумаванне на агульную экзістэнцыйна-філасофскую тэму. Далей ідуць два радкі эмацыйнага дыскурсу: *Карагод непазбыўных часін…* Потым — два радкі псіхалагічнага параўнання. Шосты катрэн — зноў пейзаж, сёмы, восьмы і дзявяты — чаргаванне пейзажу і эмоцый, дзясяты — працяг разумавання, адзінаццаты — зарыфмаваны лозунг, а завяршаецца верш паралелізмам пейзажу і лозунга:

У даліны звіваецца змрок,
быццам кужалем выслана поле.
Пазлацістай убраны зарой
не зацьміцца штандар наш ніколі.

Заўважым, пуантаванне верша адбываецца мякка, без эфектнай фіналі: колер сцяга як метафара-намёк нібыта «прасвечвае» ў даляглядзе пейзажу.

Разам паслядоўнасць дыскурсаў — пейзажнага: **П**, разумавальнага: **Р**, эмацыйнага: **Э** і лозунгавага: **Л** — можна запісаць у выглядзе сінтагматычнай схемы строф: [4П] + [4Р] + [4Р] + [4Р] + [2Э2П] + [4П] + [2Э2П] + [2Э2П] + [2Э2П] + [4Р] + [4Л] + [2П2Л]. Асобныя тыпы дыскурсаў лагічна і сюжэтна амаль не лучацца паміж сабою, лучнасць, якая ўзнікае паміж імі, умоўна-асацыятыўная, слаба матываваная імаверным плывам свядомасці лірычнага героя, таму і застаецца эфект механічнай звязанасці, эфект «слоенага пірага». Можна казаць, што ў адзін тэкст укладзена некалькі вершаў, кожны з якіх «вылушчваецца» як асобны больш-менш самастойны і завершаны.

Пейзажны верш:

Цішыня... галасы... разнабой...
Смех і слёзы у песні звіліся.
Пралятаюць яны над табой
і цяпер, як даўно, як калісьці...

У паветры зімовым лягла
надзвычайная нейкая сіла.
Можа, сілаю гэтай імгла
наваколле усё напаіла.

І такая надзея ў грудзёх,
і такая бадзёрасць і слодыч.
Мо затым, што снягі на палёх,
а рака пад скляпеннямі лёду.

Філасофскі верш:

Свет не створаны планам адным:
разнастайнасць навокал пануе.
Мо прыгожае самае ў тым,
што знаходзім мы долю такую?

Вельмі сумна было б на зямлі,
каб адно на адно наганяла.
Вось цяпер: паглядзець, як жылі,
як жывуць — дык і часу замала.

Той здаволены лёсам сваім,
на другіх паглядае праз пальцы.
А другі — ўсе жаданні спаліў
і не ведае: плакаць, смяяцца...

Пазнаюць тут і радасць, і сум,
за свет цэлы хварэе хто-небудзь.
Набываюць і трацяць красу
на спажытак і глебе, і небу.

Верш-лозунг:

Новы дзень нас наперад заве
паглыбляць адраджэнне краіны.
Пераможа усё чалавек
пры змаганні упартым, няспынным.

Аднак рознасць пунктаў гледжання не прыводзіць да энтрапіі, а ставарае стэрэаскапічны эфект і надае вершу асаблівую глыбіню насуперак штучнасці і механічнасці самога прыёму. Калі ўспомніць Дубоўкавы паэмы-камбайны, можна сказаць, што тая самая мастацкая ідэя рэалізуецца і тут — перад намі верш-камбайн. Цікава звярнуць увагу на некаторыя псеўдалагічныя звязкі — *мо, мо затым*, — якія імітуюць сінтаксічнае адзінства тэксту, але не будзем спыняцца на лінгвістычных тонкасцях.

Зусім іншае ўражанне пакідае Жылкаў верш: ён бачыцца цэласным, аднародным, лагічна звязаным і архітэктанічна завершаным. Хоць насамрэч поўнай аднароднасці і тут няма, проста каталог вобразаў-радкоў матывуецца адным тэлеалагічным заданнем — зваротам да Бога, што і пакідае ўражанне цэласнасці і знітаванасці. Калі ж уважліва прыгледзецца, то ў Жылкі першае чатырохрадкоўе малітоўнае, у ім два радкі — прадстаўленне суб'екта малітвы, і два радкі — знаёмства з аб'ектам малітвы. Другі катрэн — сама малітва, зварот да адрасата. Трэці катрэн і палова чацвёртага — метафарычнае апісанне сацыяльнай гісторыі аб'екта, потым — зноў два радкі звароту, пяты катрэн — характарыстыка дзеяння суб'екта і два радкі малітвы. У шостым і сёмым чатырохрадкоўях апісваецца пейзаж як аб'ект, але не аб'ектывізавана, а ў саборным тэлеалагічным памкненні з лірычным

Савецкі паэт «абавязаны», «мусіць» раскрываць сацыяльна-філасофскія праблемы. Але тады верш будзе голым, малапаэтычным разумаваннем. А тым часам Дубоўка — сапраўдны паэт, лірык, і ён не можа не быць песняром прыроды, красы. На гэтым разломе, гэтай супярэчнасці і ўзнікае кампрамісная форма «слоены пірог» — механічнае чаргаванне дыскурсаў

героем — суб'ектам. І, нарэшце, восьмы і дзявяты катрэны камбінуюць самаазначэнні суб'екта з малітоўнымі зваротамі. На першым плане ў Жылкі вялікая панарама жыцця, дзе прыродны пейзаж і гістарычны экскурс ствараюць адзінства беларускага космасу, усеабдымную перспектыву, пры гэтым няма ніводнай карціны, якая б існавала сама праз сябе без тэлеалагічнага задання.

Калі Дубоўкаў лірычны герой уяўляецца ў дарозе, у змене ўражанняў і карцін, то Жылкаў — узіраецца як бы з завоблачнай вышыні ці з узвышша, ён застыў, не раўнуючы як Хрыстос у Гафсіманскім садзе. Калі Дубоўкаў тэкст выглядае «слоеным пірагом», то Жылкаў можна параўнаць з ніццю, на якую нанізваюцца вобразы-пацеркі.

Наймацнейшым месцам у Жылкавым вершы варта лічыць пачатак з рухомай шматслойнай метафарай, як казаў у «Ключах Марыі» Сяргей Ясенін, — «карабельны вобраз»:

Я — грамнічная свечка прад Богам.
Ціхай, ціхай згараю малітвай.

Пуантаванне ж, як і ў Дубоўкі, дасягаецца мяккім сродкам — няўлоўным зрухам сэнсу:

Няхай будзе і праўда, і воля,
Твая Воля на роднай зямліцы!

Слова *воля* як эквівалент прасторы раптам замяняецца *Воляй* як чыннай праявай Бога-адрасата, інакш кажучы, паэтычная катэгорыя становіцца катэгорыяй тэалагічнай, у вобразе свету прасвечвае слова канона.

Падсумоўваючы вынікі параўнання архітэктонікі двух вершаў, можна канстатаваць страту цэласнасці лірычнага дыскурсу раннесавецкай паэзіі на фоне несавецкай. Гэтая страта, мне здаецца, тлумачыцца стратай Бога як імпліцытнага адрасата ўсёй традыцыйнай лірыкі, незалежна ад таго, называўся ён ці не называўся ў вершах, верыў рэальны паэт у Бога ці звяртаўся да яго як да ўмоўнага вобраза. Казус Жылкі і казус Дубоўкі — гэта толькі канкрэтныя выпадкі, скрайнасці, за якімі бачыцца заканамернасць.

У 1930-я гады савецкая паэзія ўсё ж дасягае пэўнай цэласнасці дыскурсу, але дарагой цаной: за кошт поўнай страты лірызму, замены яго рыторыкай, лозунгамі або эпічным пачаткам, пра што ёміста сказана ў А. Кушнера:

*«Пераважную большасць у нашай паэзіі доўгі час складалі паэты, якія працуюць па-за… сусветнаю традыцыяй. Гэта апавяданнікі ў вершах, фельетаністы, аўтары вершаваных анекдотаў і павучанняў. Свае вершы яны ўзрошчвалі на пустым грунце, уважаючы, што можа быць асаблівая, савецкая паэзія, якая стаіць наўзбоч… сусветнае. Часам гэтая паэзія азначвала сябе яшчэ вузей, прыкладам, як камсамольская»* [5, с. 129].

Пра такую традыцыю трэба гаварыць асобна, на іншых прыкладах.

## 2. 2. Сетка мікраструктур

Уяўленне пра сэнсавую структуру вершаў Дубоўкі і Жылкі будзе не зусім поўнае, калі не паказаць тыя мікраэлементы, якія выяўляюцца ў целе тэксту і ўтвараюць складаную сетку парадыгматычных дачыненняў. Гэтыя элементы — лексічныя адзінкі самых розных семантычных палёў і кантэкстаў — належаць як тэксту, так і інтэртэксту. У разгляданых вершах вылучаюцца як мінімум дзве інтэртэкставыя перспектывы: нацыянальна-беларуская і ўласна літаратурная, лірычна-жанравая. Мікраэлементы нельга разглядаць як адзінкі аднаго плана. Яны складаюць пэўнага кшталту іерархію і толькі такім спосабам могуць быць зразуметыя ў якасці знакаў тэксту і інтэртэксту.

Перадусім варта вылучыць **катэгорыі** — найбольш семантычна ёмістыя словы-абагульненні, на якіх і трымаецца каркас сэнсу. Ніжэйшую прыступку займаюць **апазіцыі** — словы-кантрапункты, дзе канкрэтызуюцца ўяўленні пра дабро і зло, негатыў і пазітыў, відаць антаганістычнасць або рэлятыўнасць іх дачыненняў. На гэтай жа ступені абагульнення размяшчаюцца і **канцэпты** — пэўныя абстракцыі разумовага або эмацыйнага плана, якія могуць належаць як да паэтычнага тэзаўруса, так і брацца звонку. Апазіцыі і канцэпты розняцца толькі тым, што першыя фігуруюць у адзінстве са сваімі антыподамі. Трэцюю ступень абагульнення займаюць **вобразы** — словы-рэчы, найменні канкрэтных аб'ектаў рэчаіснасці, ужытыя ў метафарычным або сімвалічным значэнні. Гэта базавыя, прынцыпова важныя складнікі паэтычнага дыскурсу. Без вобразаў, хоць яны і занялі трэцюю прыступку, не ўяўляецца паўнавартасны лірычны тэкст. Тым часам катэгорыі і канцэпты — з'явы факультатыўныя — гэта або тыя самыя вобразы, узведзеныя на найвышэйшую ступень абагульнення, або абстракцыі. Ужытыя ў малой колькасці, яны паглыбляюць сэнс верша, а ў вялікай — дэпаэтызуюць твор.

**Катэгорыі.** Асноўнай катэгорыяй, якая лейтматывам праходзіць і праз Дубоўкаў, і праз Жылкаў верш, будзе бадай што слова ***шлях***: *У бясконцасці траціцца шлях* (Дубоўка); *Пацямнеў цёмны шлях наш цярновы* (Жылка). Гэта базавая катэгорыя беларускага нацыянальнага інтэртэксту, слоўны эквівалент і вобразнае ўвасабленне нацыянальнай ідэі (у Жылкі сінонім — ***дарога***.) Не будзем заглыбляцца ў тэму і пералічваць усе факты, нагадаю толькі некалькі характэрных мастацка-філасофскіх увасабленняў гэтай катэгорыі: «Шляхам жыцця» Янкі Купалы, «Адвечным шляхам» Ігната Абдзіраловіча і «Млечны шлях» Кузьмы Чорнага. Менш адметнае месца займае катэгорыя паэтычнай самарэфлексіі: ***песні*** — Дубоўка і ***вершы*** — Жылка, агульна-паэтычная і экзістэнцыйная катэгорыя ***сэрца***, а ў Дубоўкі як варыянт — ***грудзі***. Дубоўка часцей звяртаецца да катэгарыяльнай лексікі, у яго можна вылучыць і знакі нацыянальнай экзістэнцыі: ***доля***, ***лёс***, а таксама ўсе тры беларускія найменні галоўнай эстэтычнай катэгорыі: ***хараство***, ***краса*** і ***прыгожае***. Гэта толькі пацвярджае традыцыйнасць Жылкавага верша і пэўную долю рэзанёрства ў Дубоўкавым. Аднак у апошняга азначэнне паэтычнага прадукту як *песень*, а не проста вершаў, сведчыць пра пэўную прыўзнятасць ягонага стылю.

**Апазіцыі.** На роўні апазіцый сітуацыя крыху мяняецца. Скразная вобразна-канцэптуальная пара, якая шматкроць паўтараецца ў Дубоўкі, засланяючы глыбінны лейтматыў шляху, — гэта апазіцыя *смех* і *слёзы* (*плакаць* і *смяяцца*, *радасць* і *сум*, *набываць* і *траціць*). Можна сказаць, перад намі своеасаблівае дыялектычнае адзінства, дзе адно дапаўняе другое. Гэты прынцып узаемадапаўняльнасці сцвярджае трагічнае светаўспрыняцце, мужную любоў да жыцця як хараства з усімі яго стратамі і набыткамі, пэўны дуалістычны стаіцызм. Калі *шлях* — жыццё, то *смех* і *слёзы* — праявы жыцця. Крыху іншыя апазіцыі знаходзім у Жылкі — гэта *вера* і *слова* як каардынаты чалавечага быцця і *праўда* і *воля* як праявы боскасці. Тут няма месца Дубоўкавай эмацыйнасці і суб'ектыўнасці. Жылкавы *праўда* і *воля* хутчэй эквівалент Дубоўкавай *долі*, чым *смеху* і *слёз*. І ў гэтым моманце як нідзе яскрава назіраецца ператварэнне бязбожнасці ў фаталізм. І Дубоўка, і Жылка — стоікі, але Жылкаў стаіцызм хрысціянскі, сэнсоўны, дадзены звыш і — саборны, а Дубоўкаў — фаталістычны, абсурдны, у духу Камю, з пэўнай доляй эпікурэйства і — індывідуалістычны. У Жылкі таксама ёсць слёзы (заўважым, разлітыя ў прыродзе), але ў іх няма апазіцыі — смеху. Яшчэ адна апазіцыя, якая аб'ядноўвае паэтаў, — *глеба* і *неба* ў Дубоўкі (нітуецца рыфмаю), *неба* і *рытвы* 'няроўнасці рэльефу' — у Жылкі. Вылучэнне катэгорый верху і нізу паказвае, што паэты мадэлююць тэксты як космас, і вершы абодвух маюць светапогляднае значэнне.

**Канцэпты.** Звяртаючыся да канцэптаў, хацелася б зазначыць, што я ўжываю гэты тэрмін у даўнейшым, лагічна-філасофскім, значэнні[1]. Дубоўка ў свой верш даволі смела ўводзіць адцягненыя словы: *план*, *разнастайнасць*, публіцыстычныя паняцці: *змаганне*, *адраджэнне*, а побач ужывае азначэнні эмацыйнага стану: *турботы*, *хварэць*. Жылка ж практычна не выходзіць па-за межы эмацыйнага, таго, што дазваляла сабе лірыка папярэдніх стагоддзяў, што не пагражала стратай паэтычнасці: *жальба, гора, енкі, туга, смага*. Як бачым, адзінства стылю і традыцыйнасць Жылкавага верша падтрымваецца і на лексічным роўні, а ў Дубоўкі — тыя самыя тры несумяшчальныя планы, балансаванне на мяжы дазволенага і недазволенага. Філасафічнасць у яго прасталінейная, разумавальная, сілагістычная і толькі вонкава аздобленая і зацененая карцінамі прыроды. Тым часам у Жылкі зусім няма разумавання, ягоная філасафічнасць як бы разлітая ў вобразнай тканіне, яна — у падтэксце, у сімволіцы, у невымоўнасці. Дубоўка разважае на дзяржаўным, грамадскім і нацыянальным роўні: Беларусь (а можа быць і СССР) для яго — *краіна*, а Жылка мысліць на лакальным, прыватным і этнічным роўні: Беларусь у яго — *зямліца*, праз памяншальна-любосную форму назоўніка дасягаецца асаблівая інтымізацыя аб'екта паэтычнай рэфлексіі.

Жылкавы праўда і воля хутчэй эквівалент Дубоўкавай долі, чым смеху і слёз. І ў гэтым моманце як нідзе яскрава назіраецца ператварэнне бязбожнасці ў фаталізм

**Вобразы.** Сістэма вобразаў абодвух вершаў мае некалькі планаў: план атмасферы, ландшафта і план флоры, фаўны.

Уладзімір Дубоўка:

— атмасфера: *цішыня, галасы, паветра, імгла, снягі, змрок, зара*;

— ландшафт: *палі, шлях, рака, выспы*;

— флора: *бярозы, асіны, лісцё*.

Уладзімір Жылка:

— атмасфера: *хмары, сухавея, туман, дажджы, досвіткі, ціша*;

— ландшафт — *нівы, рытвы, дарога, бездарожжа, балота, аблогі, стаў, крыніца*;

— флора: *бадыльнік, чарот*;

— фаўна: *кароўка, авечка, каняка*.

Не цяжка заўважыць, што сістэма вобразаў абодвух паэтаў як быццам бы ў роўнай ступені перадае беларускую прыроду. Нават нямала паўтораў. Але ў цэлым выбар аб'ектаў дыяметральна супраціўны. Калі ў Дубоўкі ствараецца шэраг для прыўзнятага, аптымістычнага настрою, то ў Жылкі ўзнікае шэраг дэпрэсіўнага, прыгнечанага стану. Яшчэ яскравей гэта ўбачым, калі пакажам, як вобразы рэалізуюцца ў кантэксце, і прымяркуем кантэксты паэтаў у выглядзе табліцы:

[1] Сучасная кагнітыўная лінгвістыка неапраўдана пашырыла тэрмін «канцэпт», практычна скасаваўшы вобраз і пры гэтым часам паўтараючы памылкі і супярэчнасці сярэднявечнай гнасеалогіі рэалізму.

| *Ракурсы* | **У. Дубоўка** | **У. Жылка** |
|---|---|---|
| *Мадэль свету* | Свет не створаны планам адным:<br>разнастайнасць навокал пануе. | Мы абвеяны злой сухавеяй,<br>І балот душыць ліпкая плесня. |
| *Мадэль шляху* | У бясконцасці траціцца шлях,<br>пры шляху незлічоныя выспы. | Ў бездарожжы зблудзілі глыбока,<br>Пацямнеў цёмны шлях наш цярновы... |
| *Трансцэндэнтнае* | У паветры зімовым лягла<br>надзвычайная нейкая сіла. | Расчашы ты сівізну туману,<br>Празіяй жыватворным аблікам! |
| *Экзістэнцыя* | І такая надзея ў грудзёх,<br>і такая бадзёрасць і слодыч. | Маё гора усёды, усёды:<br>Мае слёзы — ў дажджох навальніцы, |
| *Настрой героя* | Карагод непазбыўных часін,<br>хараство тваё сэрцам вітаю! | Цішу досвіткаў цьмяных<br>Абуджаю жальбою вялікай: |
| *Настрой прыроды* | Падарожнаму вецер пяе. | І туга мая — з ветрам на полі. |
| *Перспектыва* | Пераможа усё чалавек. | Узгляніся!.. Злітуйся над ніцым!.. |

Калі абагульніць усё разгледжанае ў некалькіх словах, то Дубоўкаў шлях — гэта ***бясконцасць***: *У бясконцасці траціцца шлях*, а Жылкаў — ***бездарожжа***: *Ў бездарожжы зблудзілі глыбока*; Дубоўку суправаджае ***надзея***: *І такая надзея ў грудзёх*, а Жылку — ***гора***: *Маё гора усёды, усёды*. Але нельга спрошчана меркаваць, быццам Дубоўка аптыміст, а Жылка песіміст. Жылкаў лірычны герой шчыра верыць у Бога і просіць за іншых людзей, а не за сябе, яго гора, перажытае як асабістае, мае прыроду не ў ім самым, а ў горы народа. Для хрысціяніна ж, як вядома, песімізм немажлівы, гэта вялікі грэх, насамрэч Жылкаў лірычны герой, як і Дубоўкаў, жыве спадзяваннем. Так, характар іх перажыванняў адрозны, але існасць шмат у чым падобная. Дубоўкаў індывідуалізм таксама няпросты, ён вылучаецца ўсёразуменнем і плюралізмам. Яго лірычны герой верыць у чалавека і ўсе цяжкасці ўспрымае як часовыя. Гуманізм — вось той супольны грунт, які яднае Дубоўку і Жылку.

Абодва аўтары не проста спазіраюць прыроду і свет як феномены, ім, бы сапраўдным паэтам, за відомымі рэчамі адкрываецца другая перспектыва — трансцэндэнтнае, якое надае змадэляванаму імі космасу паэтычнае і філасофскае вымярэнне. Свет паглыбляецца, напаўняючыся *надзвычайнаю нейкаю сілай* — у Дубоўкі, ціззяючы *жыватворным аблікам* — у Жылкі. Чаго тут больш, супольнага ці адрознага? Напачатку, калі разглядаліся вонкавыя параметры, тэксты выглядалі вельмі падобна, у канцы, калі мы ўгледзеліся ў змест, адкрываецца ўсё больш і больш адрозненняў. Але, каб не было супольнага, не было б і падставы для параўнання. Цяпер, для падсумавання, паспрабуем убачыць паэтаў у гістарычнай перспектыве.

## 3. Гістарычная перспектыва

Паводле легенды Дубоўка, ужо вярнуўшыся з лагера, казаў: *«А ўсё-ткі Цішка Гартны быў нацдэмам»*. Не стану гадаць, што падштурхнула зламанага і змучанага паэта так казаць, а паспрабую павярнуць сказанае да яго самога, і тады лагічна выйдзе: *«А ўсё-ткі Уладзімір Дубоўка быў савецкім паэтам»*. Мы прывыклі лаяць савецкасць як заганнасць і баімся пакрыўдзіць Дубоўку. Але праз 100 - 200 гадоў людзям будзе ўсё роўна, хто да якой партыі належаў, а паэзія застанецца.

Дубоўкава савецкасць вельмі сімпатычная, у ёй шмат жывога, здаровага і непаўторнага. Калі паставіць сябе на месца людзей 1920-х гадоў, якія толькі што скінулі ярмо сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту і былі поўныя гістарычнага аптымізму, веры ў чалавека, то мы зразумеем, якімі пачуццямі жывіўся паэт. Гістарычны аптымізм, якім сілкуецца ягоная лірыка і сёння для нас як глыток жывой вады. Так, паэт не толькі цешыцца, ён і смуціцца, бо ён паэт, бо ідэал ніколі не ўвасабляецца ў жыццё, але Дубоўка пера-

кананы, што ліха — часовае. З гэтым смуткам ён не мог бесканфліктна ўвайсці ў наступнае дзесяцігоддзе, калі патрабавалася толькі апяванне.

На фоне Дубоўкі вельмі добра відаць, што Жылка — паэт несавецкі і ягонай музе ўжо дакладна не было месца ў 1930-я гады. Менавіта на Жылку як на паэта-дэкадэнта напісаў злую карыкатуру Андрэй Александровіч у сваёй паэме-даносе «Цені на сонцы».

У вершах абодвух паэтаў апрача тэкставага слоя ёсць інтэртэкставы. І калі мы зазірнём за кулісы тэксту, то ўбачым, што Жылкаў верш апелюе да нашаніўскай традыцыі «забранага краю», а Дубоўкаў — да маладнякоўскай школы, якая дакарала нашаніўцаў за ныццё, за «плач і стогны». Але абодва тэксты ёсць узвышэнне над папярэдняй традыцыяй. Яны пераадольваюць адпаведна нашаніўства і маладнякізм праз філасофскую рэфлексію. Тое, што для традыцыі, з якой паэты выраслі, было жыццём — для іх літаратура, грунт. І, стоячы на гэтым грунце, кожны будуе свой гмах: Дубоўка распрацоўвае ідэю «ажыўленства», узвышаўскую версію віталізму, а Жылка заняты рэлігіяй хараства.

Пакуль пішуцца вершы, будуюцца замкі з аблокаў — паэты не ведаюць, што з імі адбудзецца, яны жывяцца вераю — кожны сваёй.

## Уладзімір Жылка

* * *

Я — грамнічная свечка прад Богам.
Ціхай, ціхай згараю малітвай
За блакітную к небу дарогу,
За ўзрунелыя зелена рытвы.

Ўсемагутны! Вось сэрца паэты —
За народ твой крывіцкі ахвяра!
Дым кадзільны — жар вершаў — прад светам
Да цябе узнашу па-над хмары.

Мы абвеяны злой сухавеяй,
І балот душыць ліпкая плесня,
І дарма зацвіталі надзеяй,
І дарма снілі сны на прадвесні.

Ў бездарожжы зблудзілі глыбока,
Пацямнеў цёмны шлях наш цярновы...
Не адмоў нам паслаці прарока
З цвёрдай верай і словам агнёвым!

Цішу досвіткаў цьмяных
Абуджаю жальбою вялікай:
Расчашы ты сівізну туману,
Празіяй жыватворным аблікам!

Да цябе уздыхаюць са мною
Капытом здратаваныя нівы,
На аблогах — бадыльнік з лазою
І чарот па-над ставам шумлівым;

Уздыхае кароўка-худоба,
І авечка на голым папары,
І каняка схіляе з жалобай
Галаву пад нязменным цяжарам.

Узгляніся!.. Злітуйся над ніцым!..
Маё гора усёды, усёды:
Мае слёзы — ў дажджох навальніцы,
Мае енкі — у стогне народу.

І туга мая — з ветрам на полі,
Мая смага — гаючай крыніцы: —
Няхай будзе і праўда, і воля,
Твая Воля на роднай зямліцы!

*1925*

## Уладзімір Дубоўка

* * *
Цішыня... галасы... разнабой...
Смех і слёзы у песні звіліся.
Пралятаюць яны над табой
і цяпер, як даўно, як калісьці...

Свет не створаны планам адным:
разнастайнасць навокал пануе.
Мо прыгожае самае ў тым,
што знаходзім мы долю такую?

Вельмі сумна было б на зямлі,
каб адно на адно наганяла.
Вось цяпер: паглядзець, як жылі,
як жывуць — дык і часу замала.

Той здаволены лёсам сваім,
на другіх паглядае праз пальцы.
А другі — ўсе жаданні спаліў
і не ведае: плакаць, смяяцца...

Карагод непазбыўных часін,
хараство тваё сэрцам вітаю!
Як лісцё ці з бяроз, ці з асін,
дні кунежаць, ігліняць, злятаюць.

У паветры зімовым лягла
надзвычайная нейкая сіла.
Можа, сілаю гэтай імгла
наваколле усё напаіла.

І такая надзея ў грудзёх,
і такая бадзёрасць, і слодыч.
Мо затым, што снягі на палёх,
а рака пад скляпеннямі лёду.

Распрастайцеся плечы мае!
Яшчэ толькі жыццё пачалося!
Падарожнаму вецер пяе,
з палазамі у тон сугалоссі.

Адпачынку пара не прыйшла,
ў снег сцюдзёны турботы ўсе высып.
У бясконцасці траціцца шлях,
пры шляху незлічоныя выспы.

Пазнаюць тут і радасць, і сум,
за свет цэлы хварэе хто-небудзь.
Набываюць і трацяць красу,
на спажытак і глебе, і небу.

Новы дзень нас наперад заве
паглыбляць адраджэнне краіны.
Пераможа усё чалавек
пры змаганні упартым, няспынным.

У даліны звіваецца змрок,
быццам кужалем выслана поле.
Пазлацістай убраны зарой
не зацьміцца штандар наш ніколі.

*22/I — 28*

ЛІТАРАТУРА


1. Бахтин, М. Проблема содержания, материала и формы в словесном художественном творчестве / М. Бахтин // Бахтин, М. Вопросы литературы и эстетики: исследования разных лет / М. Бахтин. — М.: Художественная литература, 1975. — С. 6—71.
2. Бердник, Е. С. Корреляция понятий «композиция» и «архитектоника / Е. Бердник // Universum : Филология и искусствоведение [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://7universum.com/pdf/philology/2(4)/Berdnyk.pdf. — Дата доступа: 17.06.2015.
3. Брюсов, В. О русском стихосложении / В. Брюсов // Добролюбов, А. Собрание стихов / А. Добролюбов; предисл. Ив. Коневского и В. Брюсова. — М.: Скорпион, 1900. — С. 8—14.
4. Жирмунский, В. Композиция лирических стихотворений / В. Жирмунский // Жирмунский, В. Теория стиха / В. Жирмунский; подгот. Н. А. Жирмунская; послесл. В. Е. Холшевников. — Л.: Советский писатель, 1975. — С. 433—536.
5. Кушнер, А. Заметки на полях / А. Кушнер // Вопросы литературы. — 1990. — № 4. — С. 129—158.
6. Пацюпа, Ю. Пралегамены да фармальнага пазнання лірыкі / Ю. Пацюпа. // Arche. — 2007. — № 12. — С. 179—227.
7. Шпакоўскі, А. Прынцыпы і формы лірычнай кампазіцыі / І. С. Шпакоўскі // Пытанні паэтыкі / В. Жураўлёў, Я. Шпакоўскі, А. Яскевіч. — Мінск : Навука і тэхніка, 1974. — С. 163—220.

# Уладзімір Дубоўка пра Сцяпана Злобіна

**Прадстаўленыя тут паштоўкі, надпісаныя рукой Уладзіміра Дубоўкі, прызначаліся ўдаве расійскага празаіка Сцяпана Злобіна. Размова ў іх ішла пра ўспаміны Дубоўкі пра Злобіна, створаныя па-руску. На мове арыгінала друкуюцца тут гэтыя ўспаміны.**

## Тридцать лет и три года…[1]

**1**

Во время своей длительной творческой командировки на Дальний Восток я видел очень много интересного и поучительного. Но, пожалуй, самое интересное там — природа. Взять хотя бы сопки. Их там тысячи. Как будто кто-то, какой-то сверхбогатырь взял и разорвал горные цепи и разбросал по безграничным просторам отдельные горы и горки. Вот они и называются сопками. Большинство из них покрыто растительностью самой разнообразной. На них, кроме лиственных и хвойных деревьев, пышно разрослись актинидии, лимонник, дикий виноград. Всё вместе взятое напоминает на первый взгляд тропические леса, знакомые нам всем по многочисленным запискам путешественников. Но вот содержимое этих сопок, «начинка» — поистине чудо. Представьте себе, что в одной сопке — простой бутовый камень. Во второй, рядышком — мрамор, в третьей — гранит, в четвёртой — точильный камень, дальше — олово. Когда изыскатели трассы Известковая — Ургал впервые проходили по этим местам, в одной из таких «обыкновенных» сопок они обнаружили необыкновенное богатство: олово.



11

18 июня 197…

Дорогая Виктория Васильевна!

Посылаю Вам краткие воспоминания о незабвенном Степане Павловиче. Если Вам что-либо не понравится, можете спокойно [illegible] второй экземпляр и возвратить мне. [illegible] у Вас в качестве [illegible]. Возможно, что [illegible] Вас [illegible] исправлю. Мне надо знать, когда и что Вы [illegible] с воспоминаниями: [illegible] в какое [illegible] буду благодарен Вам, если Вы об этом мне скажете. А попутно [illegible] Вам в [illegible].

Сердечный привет Вашей семье.

С большим, искренним уважением и приветом Ваш Вл. Дубовка

Прошло десять лет. Возвращаясь из своей поездки по железной дороге Ургал — Известковая, построенной нашими руками, приблизительно на уровне курорта Кульдур я увидал отсветы города, различил гирлянды огней, бегущих вдоль улиц. С удивлением я спросил у своего спутника по вагону: «А это что за город? Вроде и не видел его раньше».

— Это прииск Оловянный, — ответил мне сосед. — Лет десять назад здесь обнаружили богатые залежи руды и вот... Возведён город, жилые дома, театры, предприятия...

Десять лет. Казалось бы, что такое десять лет по сравнению с возрастом нашей планеты, исчисляемым миллиардами лет. А вот — глядико-ся...

Нечто подобное получилось у меня и в отношении моего знакомства со Степаном Павловичем Злобиным. Впервые в жизни я встретился с ним в стенах Высшего литературно-художественного института им. В. Я. Брюсова на Поварской улице, в дальнейшем переименованной в улицу В. Воровского (В настоящее время в этом здании размещён Союз писателей СССР). Произошло это в 1921 году, а в 1924 году мы расстались буквально на тридцать лет и три года, т.к. опять нас свела судьба только в 1958 году.

[1] Расійскі Дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва. 2175.5.101, л. 1-10 (без адв.).

Таким образом, проучились мы вместе полных три года. Встречались ежедневно, готовились вместе к экзаменам и к зачётам. В нашу группу по этой подготовке входили Э.Бер, Н.Жаркова, В.Безуглова, Н.Сафонов, К. Яковчик. Сейчас для некоторых будет не совсем понятно, какая необходимость была в такой группе именно для подготовки к зачётам. Дело в том, что в 1921—1924 гг. ощущался большой недостаток учебной литературы. Особенно для такого вуза, как наш, не имевшего аналогов в прошлом. Вот и пользовались случайно приобретаемыми на книжных толкучках пособиями. Потом их штудировали, конспектировали и докладывали на таких групповых собраниях.

После окончания института, как я уже говорил, мы расстались со Степаном Павловичем. Он уехал в Башкирию. Спустя несколько лет уехал и я, но значительно дальше.

Встретились мы с ним опять лишь в 1958 году. В общей сложности я не видел его тридцать лет и три года. Разница между нами и былинным богатырём Ильёй Муромцем большая: богатырь сиднем сидел этот срок, а мы беспрерывно двигались и беспрерывно работали. Результаты замечательные: за эти годы Степан Павлович стал одним из лучших советских писателей, автором «Салавата Юлаева», «Степана Разина», романа «Пропавшие без вести».

Поскольку я за эти годы ни с кем не переписывался, ничего не читал, не знал я и о таком замечательном творческом росте Степана Павловича. Возвратившись в Москву, я даже навёл справки: тот ли это Степан Злобин, которого я знал когда-то или это кто-то иной. Оказалось, что именно он, мой старый знакомый. К моему огорчению оказалось также, что он лежит в постели, болеет. Но Виктория Васильевна, его верный друг и заботливый врачеватель, сказала, что Степан Павлович требует, чтобы я немедленно к нему явился.

После сибирской тайги попасть в поднебесное высотное здание на Котельнической набережной и ориентироваться в нём для меня было большим событием и, я сказал бы, делом далеко не лёгким. Всё же, изучив на практике, где «восточный корпус», где «западный», я нашёл квартиру своего старого друга. Отлёживался он в своём кабинете на диване и встретил меня строчками из моего юношеского белорусского стихотворения «Ноч наплакалі бярозы»:

Ані слова, ані гуку
не чутно ў адказ.
Шле зязюля «Ку-ку, ку-ку»
ў засмучоны час...

На моём лице отразилось такое изумление, что и Виктория Васильевна, и Степан Павлович рассмеялись.

— Не удивляйся! Не хвастаюсь своей памятью, но помню пару твоих стихотворений того периода до сего дня...

В дальнейшем мы встречались со Степаном Павловичем довольно редко, по важным датам: моё новоселье, его день рождения... Дело в том, что мы оба усиленно работали. Я занят был навёрстыванием своего вынужденного прогула в литературе, а он —подготовкой новых работ к печати. Особенно много сил и здоровья забрал у него роман «Пропавшие без вести». Получилось так, что он перерабатывал его буквально от корки до корки не менее трёх раз, не считая обычной авторской работы над улучшением текста.

Не случайно в начале своего воспоминания упомянул я о дальневосточных сопках. Триста пятьдесят человек были приняты на первый курс Брюсовского института, а закончили его в первом выпуске — двадцать шесть человек. Не во всех, значит, сопках были подспудные рудные жилы. Некоторые оказались бесплодными. Некоторые товарищи убедились, что их призвание на ином поприще, и вовремя ушли в иные вузы. Степан Павлович своим неустанным трудом, своим талантом создал прекрасные произведения, которые будут жить до тех пор, пока будет жить русский народ, а это значит — вечно.

**2**

Чтобы убедиться в том, как упорно работал Степан Павлович над созданием и отделкой своих произведений, достаточно просмотреть однудве страницы во всех их вариантах. Всё же я буду говорить не об этом. Мне хочется поделиться своими впечатлениями о Степане Павловиче за время нашей совместной учёбы в Брюсовском институте.

Первый и второй годы мы, что называется, осваивались с литературой. Доставали все новинки, внимательно их читали и обсуждали. Регулярно посещали лекции, конспектировали их, т.к. ни в каких учебниках не смогли бы прочесть сказанное здесь. Посещали все диспуты, литературные вечера, особенно «чистки русской поэзии», проводившиеся В. Маяковским в Политехническом музее. Встречали и провожали друг друга строками любимых поэтов. Слушали выступления своих товарищей по Институту в аудиториях и коридорах, а иногда — выступления С. Есенина с балкона Института.

Пестрота в одежде была невероятная. Очень многие ходили в старых красноармейских шинелях, перешитых френчах, а были и в изысканных костюмах и платьях, сшитых лучшими портными того времени. Степана Павловича обычно звали Стенькой Разиным, хотя тогда он и не помышлял, вероятно, о написании романа под этим названием. Больше того — писал он тогда стихи. В Институте он появлялся часто в каком-то бунтарском вязаном колпаке, под которым скрывались дивные длинные, зачёсанные кверху светло-льняные волосы. Нередко, при хорошем настроении, его встречали песней:

Из-за острова на стрежень,
на простор речной волны
выплывают расписные
Стеньки Разина челны...

Нравились такие встречи Степану Павловичу, нравились они и нам.

Вероятно, очень глубокие причины и глубокие раздумья привели впоследствии Степана Павловича к теме Степана Разина. Но да простится такое замечание: в какой-то степени подсознательно его направляли по такому пути и воспоминания студенческого периода... Не зря товарищи-студенты нарекли его Стенькой Разиным. Много бунтарского было в его натуре, много бесшабашной удали. Даже в быту, даже в выборе песен. Он, например, очень любил петь «Варшавянку», и мы нередко исполняли её вместе. Не думаю, чтобы исполнение наше вызывало восхищение у слушателей, но пели мы со всей душой...

Проявлялось его бунтарство в оценке произведений своих товарищей, да и авторитетов. Но, что меня всегда удивляло в Степане Павловиче,

это — быстрота реакции. Возможно, потому, что сам я обладаю несколько замедленной реакцией. Иногда, правда, Степан Павлович попадал впросак, но в большинстве случаев делал молниеносно совершенно правильные заключения. Я нисколько не был удивлён, узнав, что во время нахождения в немецком плену именно Степан Злобин стал вожаком группы наших военнопленных и проводил с ними большую работу. Даже в таких тяжёлых условиях его неукротимый дух вёл к смелым и правильным решениям. О его работе этого периода говорит его роман «Пропавшие без вести». А я, для иллюстрации к словам о его способности к молниеносной реакции, приведу такой, как мне кажется, любопытный факт.

У нас в Брюсовском институте было принято раз в неделю в присутствии В. Я. Брюсова читать свои произведения (стихи, небольшие рассказы либо отрывки из крупных прозаических произведений). Это — независимо от курсовой принадлежности, т.е. мог читать своё стихотворение студент выпускного курса и вслед за ним студент первого курса. После прочтения слушатели высказывались «за» и «против». Обычно по одному. Окончательную оценку давал Валерий Яковлевич. Происходило всё это обычно в большой аудитории (ныне конференц-зал Союза писателей СССР). И вот на одном из таких вечеров попросил прочесть своё стихотворение студент старшего курса П. З. Я сейчас не смогу воспроизвести всё прочитанное им стихотворение, но хорошо помню, что оно заканчивалось строкой:

И ты падёшь, подлец Париж.

Читал П. З. как то «по-дьячковски», монотонно, но последнюю строчку он выделил повышением голоса, особенно подчёркивая звук «П»:

И ты Ппадёшь, ППодлец ППариж.

Закончив чтение, он с победоносным видом посмотрел на аудиторию и приготовился выслушивать высказывания товарищей по поводу прочитанного. Против обыкновения Валерий Яковлевич обратился к студентам с вопросом:

— Кто, товарищи, будет читать ещё?

Мы все, правду говоря, удивились и не удивились тому, что Валерий Яковлевич не ставит на обсуждение труд товарища П. З. Но сам П. З. был буквально ошарашен.

— Как это читать ещё, — спросил он, — а моё стихотворение не будет обсуждаться?

— Нет чего обсуждать! — ответил Валерий Яковлевич.

— Что значит «нет чего»! — не сдавался П. З. — Вы обратите внимание, какая звукозапись дана мною! — и он повторил заключительную строчку своего опуса.

— Вот именно звукозаписи то и нет. Есть примитивная алитерация типа «Вечер, взморье, вздохи волн»... Кто, товарищи, будет читать ещё? — повторил он свой вопрос, полагая, что «инцидент исчерпан».

Но не тут-то было. Упрямый П. З. «закусил удила».

— Понятно. Понятно. Вам не понравилось, что я ваш любимый Париж назвал подлецом...

Мы, откровенно говоря, растерялись. Подумайте сами: поэту мировой славы, ректору Института, носящего его имя, и в то же время — чуткому, внимательному, заботливому старшему товарищу, поощрявшему малейшее проявление подлинного таланта, П. З., по существу графоман, наносит оскорбления. Мы, участники многих литературных битв и схваток, растерялись. Подобного ещё не было.

И вдруг прозвучала звонкая реплика Степана Павловича:

— А не этот ли «подлец» совершил две революции и дал миру Парижскую Коммуну?!

Валерий Яковлевич моментально подхватил эту реплику и дал такой ответ:

— Мы можем неприязненно относиться к Парижу французских королей, к Парижу пресыщенной и жадной французской буржуазии, ко всем этим Пуанкаре и подобным им, но мы всегда будем преклоняться перед Парижем величайших мыслителей, поэтов, художников и композиторов, перед Парижем-революционером, перед Парижем-коммунаром... Надеюсь, товарищ З., вы нас оставите в покое?!

— Нет! — ответил П. З., достойная копия жюльверновского Карабана. — Нет! Что иное я мог услышать в Институте по поводу своего революционного произведения, когда над головой ректора висят церковные иконы...

— Это ещё что за чепуха? — вскипел В. Брюсов.

— А вот, полюбуйтесь! — и П. З. показал рукой на левый угол зала.

Можете представить себе, что действительно в этом углу под высоким потолком находилась миниатюрная иконка, размером четыре на три сантиметра. Мы, проучившись здесь три года, ни разу не обратили внимание на неё, ибо она была не различима на такой высоте.

Степан Павлович опять отреагировал быстрее всех. Он вскочил, пододвинул в угол небольшой столик.

— Мы её сейчас снимем.

Но ему не позволил сделать это В.Я. Брюсов.

— Поскольку такое серъёзное обвинение брошено мне, вашему ректору, я сам и сниму икону.

Как следует установили стол, на стол поставили прочный стул, на всё это сооружение, поддерживаемый с одной стороны Степаном Павловичем, а с другой — нами, поднялся Валерий Яковлевич и снял иконку. С этой высоты сказал:

— Отдавая должное зоркому глазу, я считаю нужным заявить, что поскольку ваш последний аргумент бит, вы всё же оставите нас в покое?

После этого П. З. изволил отбыть из нашей аудитории...

Много можно было бы вспомнить интересных случаев из нашей совместной учёбы, оценки отдельных лекций, весёлых похождений Степана Павловича, но об этом пусть скажут те товарищи, которые не расставались с ним на тридцать лет и три года, как я, грешный. Я добавлю только одно. Человек с чистым благородным сердцем, не терпевший, не переносивший проявлений подхалимства, выслуживания, заискиваний перед сильными мира сего, человек, готовый всегда, в любую минуту придти на помощь униженным и оскорблённым, — таким был и навсегда останется в моей памяти Степан Павлович Злобин, замечательный, выдающийся Художник Слова.

18 июля 1971 г.
Владимир Дубовка

*Публікацыя Зміцера Давідоўскага.*

18 июня 1971 г.

Дорогая Виктория Васильевна!

Посылаю Вам краткие воспоминания о незабвенном Степане Павловиче. Если Вам что-либо не понравится, можете спокойно поставить надлежащие пометки во втором экземпляре и возвратить мне. Первый — будет у Вас в качестве залога. Возможно, не дождавшись от Вас замечаний, я сам кое-что временно исправлю. Мне надо знать, когда и что Вы намерены делать с воспоминаниями: сдавать ли их в печать, передать ли в какой мемориал. Буду благодарен Вам, если Вы об этом мне скажете. Я попробую позвонить Вам в воскресенье.

Сердечный привет Вашей семье.
С большим, искренним уважением и приветом, Ваш Вл. Дубовка.

8 августа 1971 г.

Дорогая Виктория Васильевна!

Простите великодушно за задержку материала. Ничего не делал, но езжу ежедневно на дачу и никак не мог собраться переписать воспоминания. Ваши поправки — замечательные. Вы, оказывается, прекрасный редактор. Буду рад, если придётся «попасть» под Ваш карандаш ещё когда-нибудь в будущем.

Приветствует Вас Мария Петровна. Нежно кланяюсь Вам.

Сердечный привет
всей Вашей семье.
С искренним уважением,
Ваш Вл. Дубовка.

*Да 100-годдзя з дня нараджэння сына Якуба Коласа Г. К. Міцкевіча*

**Вера Міцкевіч**

# Юнацтва зорныя агні

1 мая 2017 года спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння сярэдняга сына беларускага песняра Якуба Коласа. Георгій (Юрый) Канстанцінавіч Міцкевіч пражыў 24 гады. Як і многія равеснікі Кастрычніка, ён быў выхаваны на сацыялістычна-патрыятычных ідэалах, выявіў падчас Другой сусветнай вайны і назаўжды застаўся на яе крывавых палях. Пра Юрку, менавіта так звалі хлопца ў сям'і, з павагай успаміналі яго сябры, аднакурснікі і аднапалчане, з любоўю — родныя і блізкія. Больш за 30 гадоў таму на старонках «Маладосці» (1985, № 5) пісаў пра брата Юрку Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч, разгорнуты і перапрацаваны артыкул друкаваўся у часопісе «Беларусь» (1996, № 8) і пазней увайшоў у кнігу «Любіць і помніць: успамінае сын Якуба Коласа» (2000). Шчымлівы і хвалюючы «Ліст наўздагон» малодшага брата — Міхася Канстанцінавіча — чытаецца на адным дыханні ў зборніку пра Юрку «Апалены золак» (2013). Якуб Колас да канца жыцця насіў у сваім сэрцы нявыказаны боль пра загінуўшага сына і заўчасна памерлую жонку:

*І вас цяпер няма са мною!*
*О, хоць бы вам пачуць мой сум,*
*Зірнуць у вір гаротных дум*
*З яго бяздоннай глыбінёю* [2, т. 10, с. 167].

Відаць, ніхто лепей за бацьку і братоў не зможа сказаць ці напісаць пра роднага чалавека. Але праз прызму вяртання да лёсу Георгія Міцкевіча хочацца нагадаць, асабліва сучаснай моладзі, што мы жывём і працуем на роднай зямлі дзякуючы таму пакаленню хлопцаў і дзяўчат, народжаных на пачатку мінулага стагоддзя, якія выстаялі, вынеслі ўвесь цяжар ваеннага ліхалецця і выпрабаванні наступных гадоў. Многія з іх, у тым ліку і сын Якуба Коласа, аддалі самае дарагое — сваё жыццё.

У апошнія гады выяўлены новыя архіўныя дакументы і звесткі пра Юрку. Яны прадстаўлены ў гэтым артыкуле.

Георгій Канстанцінавіч Міцкевіч нарадзіўся 1 мая (18 красавіка па ст. ст.) 1917 года ў Пярмі, калі Якуб Колас служыў у запасным палку камандзірам роты ў чыне падпаручніка. Сям'я пражывала на вуліцы Манастырскай (цяпер вул. Арджанікідзе), дом № 80, які выходзіў на Слудскую плошчу: *«Мінуўшы Слудскай плошчы рог, // Ступае ён на свой парог»,* — так пісаў паэт пра галоўнага героя ў паэме «На шляхах волі» [2, т. 11, с. 44]. У Дзяржаўным архіве Пермскага краю захаваўся метрычны запіс аб нараджэнні дзіцяці. Хроснымі бацькамі Георгія пазначаны родная бабуля Марыя Цімафееўна Каменская і, хутчэй за ўсё, саслужывец Коласа прапаршчык Мікалай Фоціевіч Уладзіміраў. Запіс быў выяўлены сяброўкай сталічнага Коласаўскага музея вучоным сакратаром Літаратурна-мастацкага музея Марыны і Анастасіі Цвятаевых (г. Аляксандраўск Уладзімірскай вобласці, РФ) Эльвірай Барысаўнай Калашнікавай у 2013 годзе. Яна перадала ў Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа афіцыйна завераную даведку архіва, адсканаваны метрычны запіс, а таксама адсканаваныя фотаздымкі, паштоўкі, планы з выявамі тагачаснай Пярмі, Слудскай плошчы і Свята-Троіцкай (Слудскай) царквы, дзе Міцкевічы пахрысцілі сына.

Першыя дзіцячыя гады Юркі прайшлі на Куршчыне. Рэвалюцыя, грамадзянская вайна, голад, хваробы, нястача — вось што ён бачыў у маленстве. У аўтабіяграфічным апавяданні Коласа «Туды, на захад!» Юрка — прататып маленькага Жоржыка. З 1921 года сям'я Міцкевічаў стала жыве ў Беларусі. Пяцігадовы Юрка ўпершыню адлюстраваны на фотаздымках у фальварку вучэбнай фермы «Сёмкава», дзе Якуб Колас з сям'ёй летаваў і адначасова працаваў. Па ўспамінах родных Юрка рос гарэзлівым, бойкім, непаседлівым хлопчыкам. Яго любілі ўсе, хто бываў у сям'і Міцкевічаў, асабліва цётка Уладзя, Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, і Янка Купала. Яны заўсёды прыходзілі з падарункамі — цукеркамі, пячэннем для дзяцей, а Юрку Янка Купала падараваў цудоўны альбом з малюнкамі жывёл. Спачатку ён вучыўся ў 13-й сямігадовай мінскай школе, з трэцяга класа — у 21-й доследнай школе-сямігодцы, дзе, па ўспамінах старэйшага брата Данілы, вучыліся дзеці вядомых дзеячаў Беларусі —



Канстанцін Міхайлавіч, Даніла, Юрка, Марыя Дзмітрыеўна Міцкевічы. 1924 год. *З прыватнага архіва.*

Чарвякова, Лёсіка, Жылуновіча, Чарнушэвіча, Каранеўскага. 8—10 класы — у 20-й школе-дзесяцігодцы, што знаходзілася паблізу стадыёна «Дынама».

Летнія адпачынкі сям'я Коласа праводзіла ў маляўнічых мясцінах пад Мінскам і на Пухавіччыне. Канстанцін Міхайлавіч, Марыя Дзмітрыеўна, сыны любілі хадзіць у лес, збіраць грыбы. Як успамінаў Даніла Канстанцінавіч, вудзіць рыбу Юрку не ставала цярпення, а вось плаваць ён навучыўся рана, плаваў выдатна. Будучы на канікулах у роднага дзядзькі ў Нікалаеве (Украіна), Юрка пераплыў ліман Паўднёвага Буга шырынёю каля трох кіламетраў. З 17 гадоў хлопец захапіўся паляваннем. У 1934 годзе Якуб Колас пісаў у лісце да швагра М. Д. Каменскага ў Клязьму (цытуем на мове арыгінала): «*Юрка у нас большой спортсмен. Вчера он развивал перед матерью теорию о том, что мы не умеем жить, много тратимся на всякие, как он сказал, благотворительные цели, в результате чего ни у Даника, ни у него ничего нет. Нет велосипедов, нет охотничьего ружья*» [2, т. 18, с. 120]. У тыя гады набыць такія рэчы было няпроста, і Колас прасіў швагра дапамагчы. Нарэшце, Канстанцін Міхайлавіч купіў Юрку стрэльбу-дубальтоўку 12 калібру фірмы «Заўэр», у 1935 годзе ў Маскве яшчэ адну, тульскую — 16 калібру, а таксама пензенскі ровар. Гэта былі вырабы савецкай прамысловасці, якія дазволілі набыць па сабекошце дэлегатам VII Усесаюзнага з'езда Саветаў.

На Пухавіччыне, у Тальцы, Юрка пазнаёміўся з мясцовым хлопцам Алесем Мурачам. Яны пасябравалі, хадзілі на паляванне за качкамі і зайцамі. Разам рыхтаваліся да паступлення ў Белдзяржуніверсітэт.

У 1935 годзе Георгій Міцкевіч паступіў на геалагічны факультэт БДУ. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца справа Ю. К. Міцкевіча на трох лістах [3]. Яна складаецца з заявы ў прыёмную камісію, анкеты для паступаючых і карткі іспытаў (экзаменацыйнага ліста. — *В. М.*) з фотаздымкам.

Абітурыенты здавалі шэсць экзаменаў: прыродазнаўства, фізіку, грамадазнаўства, а матэматыку, беларускую мову і літаратуру, рускую мову і літаратуру як у вуснай, так і ў пісьмовай

форме. Усе ўступныя экзамены Юрка здаў з адзнакай «добра», толькі пісьмовую рускую мову — на «здавальняюча». 15 жніўня 1935 года Юрка быў залічаны на I курс геафака БДУ.

Спецыяльнасць геолага хлопцу падабалася, вучоба давалася лёгка, але часам не хапала ўседлівасці, самадысцыпліны, таму спачатку вучыўся няроўна, адзнакі бывалі розныя. Падчас вучобы ў БДУ Юрка Міцкевіч і Алесь Мурач бралі актыўны ўдзел у секцыі паляўнічых, якой кіраваў загадчык заалагічнага музея Анастас Васілевіч Вязовіч[1]. Па ўспамінах аднаго з сакурснікаў сябры-паляўнічыя дзяліліся ўражаннямі на лекцыях па кліматалогіі; падчас лабараторных работ па якасным аналізу «пераадкрывалі» хімічныя элементы ў падфарбаванай вадзе, а ў выцяжной шафе заводзілі на патэфоне кружэлку «Неапалітанскія ночы». Ва ўсіх студэнтаў у групе былі мянушкі: Юрка Міцкевіч — братка Воўк, Алесь Мурач — Дзежачка, Віктар Мікалаеў — Пясец і Смятанін, Вера Шапціцкая — Ліса і г. д. Часта рыхтаваліся да лекцый і экзаменаў у Юркі дома, на Вайсковым завулку. Маці Юркі Марыя Дзмітрыеўна частавала сакурснікаў сына смачнымі абедамі. Многія з іх былі ўдзячныя ёй, бо жылі сціпла, на стыпендыю, у інтэрнаце. Новы 1937 год другі курс геафака адзначаў у доме Юркі Міцкевіча з дазволу і з падтрымкай яго бацькоў, што запомнілася студэнтам на ўсё жыццё.

Групавое фота. II выпуск 7 класа 21-й школы. Менск. 1932 год.
1-ы рад знізу: другая справа — Зося Чарвякова. 3-і рад знізу: першая злева — Галя Жылуновіч, трэці справа — Юрка Міцкевіч. 4-ы рад знізу: другі справа — Ігар Рыдзеўскі, чацвёртая справа — Ніна Самахвалава (траюрадная сястра Юркі Міцкевіча), першая злева — Тамара Каранеўская. *З прыватнага архіва.*




[1] Вязовіч, А. В. (1907—1944), заолаг, скончыў БДУ у 1930 г. Да вайны — асістэнт БДУ і дырэктар музея заалогіі ўніверсітэта. За некалькі дзён да вызвалення Мінска быў пакараны фашыстамі смерцю.

Геолага-глебава-геаграфічны факультэт БДУ быў ператвораны ў геаграфічны ў 1937 годзе. Юрка марыў стаць геолагам, таму напрыканцы таго ж года перавёўся з БДУ у Ленінградскі дзяржаўны ўніверсітэт на геолага-глебавы факультэт. Жыў ён у сям'і Прозаравых, знаёмых Міцкевічаў з 1932 года па адпачынку ў вёсцы Прылучкі (Забалаць) паблізу Воўчкавіч, на рацэ Пціч. Тады там летавалі сем'і Міцкевічаў, Чакалінскіх, Прозаравых, дзеці якіх пазнаёміліся і пасябравалі. Сёстры Таісія (Туся) Мікалаеўна Ганчарова (у дзявоцтве Прозарава) і Маргарыта (Мака) Мікалаеўна Прозарава былі пагодкамі, на 1—2 гады старэйшыя за Юрку. У адным з апошніх лістоў да Данілы Міцкевіча Т. М. Ганчарова пісала пра ленінградскі перыяд жыцця Юркі: «*Слаўны быў хлопец Юрка — добры, чулы. Усё ходзіць да нас «сватацца» па чарзе: то да Макі, то да мяне. Надзене ручнік праз плячо, возьме каравай хлеба, зверху паставіць сальніцу і ідзе «сватацца» — спачатку да Макі ў маленькі пакойчык, а яна яго турне: «Юрка, заўтра мне аўтамат па правазнаўстве здаваць, а ты са сваімі розыгрышамі прыстаеш». Тады ідзе да мяне ў вялікі пакой з тым жа караваем, а мне супрамат трэба здаваць, прычым мы вучыліся на пяцёркі, каб атрымліваць павышаную стыпендыю, таму што на яе жылі. Потым ідзе да нашай маці на кухню і кажа: «Валянціна Цімафееўна! Гарныя ў Вас дочкі, але злыя, як ведзьмы». Маці была дыпламатам і кажа: «А ты б пачытаў свае канспекты», а ён у адказ: «Я і так усе лекцыі памятаю. Давайце, я за хлебам збегаю ці за бульбай». А маці яму ў адказ: «Давай, лепш я табе варанай капустыналью». Юрка доўга адмаўляецца, маўляў, ён паабедаў ва Універсітэце, але потым з задавальненнем есць. У яго была вельмі добрая памяць, таму ён не пісаў ніякіх канспектаў і казаў: «А навошта? Я і так усе лекцыі памятаю, хочаце — перакажу*» [4, ліст Ганчаровай Т. М. да Міцкевіча Д. К. ад 01.04.1986 г.].

Юрка Міцкевіч правучыўся ў Ленінградзе паўгода, відаць, засумаваў па родных, сябрах, паляванню. Ленінград яму не спадабаўся: «*Што за горад — сабак паляўнічых трымаць няма дзе. На паляванне трэба ехаць некуды за горад і то па паляўнічым білеце*» [4, ліст Ганчаровай Т. М. да Міцкевіча Д. К. ад 01.04.1986 г.]. Ды і гады насталі цяжкія, самы разгул сталінскіх рэпрэсій. У лютым

> Ва ўсіх студэнтаў у групе былі мянушкі: Юрка Міцкевіч — братка Воўк, Алесь Мурач — Дзежачка, Віктар Мікалаеў — Пясец і Смятанін, Вера Шапціцкая — Ліса

1938 года быў арыштаваны родны дзядзька Юркі па лініі маці — Аляксандр Дзмітрыевіч Каменскі (гл. «Маладосць», 2016, № 11). І Юрка вярнуўся ў Мінск у БДУ на свой курс, які быў надзвычай дружны.

Хлопец узяўся за навуку, стаў вучыцца толькі на добрыя і выдатныя адзнакі, раўняўся на старэйшага брата Данілу, які вучыўся ў аспірантуры і ўжо працаваў на хімфаку БДУ, і на малодшага брата Міхася — выдатніка ў школе. Як успаміналі знаёмыя, сябры, аднакурснікі, Юрка быў добры, чулы, шчыры, храбры, вынослівы, свой у дошку хлопец. Не цярпеў хлусні, фальшу, подласці, не даваў крыўдзіць слабейшых, мог пастаяць за сябе. Займаўся стэндавай стральбой, любіў фатаграфаваць, яшчэ ў 1935 годзе Якуб Колас прывёз з Парыжа фотаапарат нямецкай фірмы. Калі сёстры Прозаравы гасцілі ў Міцкевічаў улетку 1938 года на Пухавіччыне, шмат фатаграфаваліся. Гэтыя фотаздымкі з Юркам захаваліся ў Макі і Тусі.

Паляванне ж заставалася самым вялікім захапленнем юнака. З ліста Юркі Міцкевіча да Маргарыты Прозаравай у лютым 1939 года: «*Са сваімі залікамі я пасняхова ўправіўся. Вольны час прысвячаю паляванню… Забіў безліч зайцоў, лісіц і іншага звяр'я. Увесь час улюбляюся, але, на жаль, цярплю фіяска. Да гэтага я ўжо прызвычаіўся і гераічна пераношу. Насуперак усім я знайшоў, што я папрыгажэў… Прымі гэта пад увагу*» [4, копія ліста Міцкевіча Г. К. да Прозаравай М. М., люты 1939 г.].

Юрка падабаўся многім дзяўчатам. Але ён быў закаханы ў сваю аднакурсніцу і аднагодку Веру Шапціцкую, ураджэнку Гомеля. Адразу пасля

> Новы 1937 год другі курс геафака адзначаў у доме Юркі Міцкевіча з дазволу і з падтрымкай яго бацькоў, што запомнілася студэнтам на ўсё жыццё



Міцкевіч Георгій (Юрый) Канстанцінавіч. 1935 год. З фондаў Нацыянальнага архіва РБ. Друкуецца ўпершыню.

Перамогі, у ліпені 1945 года, Вера Іванаўна, калі ўжо даведалася пра гібель Юркі, напісала Якубу Коласу ліст з аповедам пра свой лёс. Спроба эвакуацыі ў першыя дні вайны не ўдалася. З Юркам, які заходзіў да яе па дарозе з Мінска напрыканцы чэрвеня 1941 года, яна размінулася. У горадзе Чэрвень, дзе працавала перад вайной, падчас акупацыі сышлася з настаўнікам школы, у жніўні 1942 года ў іх нарадзіўся сын. Праз год яе муж загінуў падчас спробы бегства з канцлагера. Вера Іванаўна з сынам знаходзіліся ў партызанскай зоне. Яна пісала народнаму паэту: «*Я баялася, што Вы скажаце, што я занадта легкадумная, таму так склалася маё жыццё… На самай справе я проста няшчасная*» [1, воп. 99, КП-15854/Аа-4252]. На сямідзесяцігадовы юбілей песняра В. І. Шапціцкая даслала Якубу Коласу фотаздымак «незабыўнага нашага паляўнічага» Юркі, датаваны 1937 годам. Канверт ліста мае памету, што Якуб Колас адпісаў адрасату.

Пасля заканчэння БДУ у 1940 годзе, як і іншыя выпускнікі, Г. К. Міцкевіч быў прызваны ў Чырвоную Армію. Ён служыў у конным артылерыйскім палку ў мястэчку Ставіскі пад Ломжай, на Беласточчыне, на самай мяжы з акупаванай фашыстамі Польшчай. Служба была не з лёгкіх: штодзённая фізічная падрыхтоўка, частыя маршы, асваенне новай ваеннай тэхнікі, здача экзаменаў. Трэба было капаць акопы, траншэі, будаваць казармы, жылыя і гаспадарчыя пабудовы. Юрка быў загартаваны: яшчэ ў студэнцкія гады з вясны да пачатку зімы спаў на неацепленай верандзе, займаўся спортам, таму і цяжкасці вайсковай службы пераносіў лягчэй. Вайскоўцы, з якімі ён служыў і пазней ваяваў, лічылі яго надзейным і верным таварышам, гатовым заўсёды прыйсці на дапамогу.

У кастрычніку 1940 года Якуб Колас удзельнічаў у сесіі Акадэміі навук БССР у Беластоку і праведаў сына ў часці. Падчас службы Юрка Міцкевіч некалькі разоў прыязджаў у Мінск з даручэннямі па набыцці канцылярскіх рэчаў, мастацкай літаратуры для воінскай часці, на спаборніцтвы па стральбе.

У сярэдзіне чэрвеня 1941 года ў Мінску пачаліся рэспубліканскія спаборніцтвы па стэндавай стральбе, у якіх прымала ўдзел каманда стралкоў Заходняй асобай ваеннай акругі. Яфрэйтар Георгій Канстанцінавіч Міцкевіч уваходзіў у яе склад і паспяхова прымаў удзел у спаборніцтвах. Малодшы брат Міхась зрабіў тут апошнія фотаздымкі Юркі.

22 чэрвеня 1941 года. Вайна! Юрка адразу пайшоў у мінскую вайсковую камендатуру. Яму і ў галаву не магла прыйсці думка, каб застацца з сям'ёй, уратавацца. Зразумела, бессэнсоўнае патрабаванне камендатуры тэрмінова вярнуцца ў сваю воінскую часць не магло быць выканана. Яшчэ на пачатку чэрвеня артполк, дзе служыў Юрка, быў пераведзены ў летні лагер за 50-60 км ад мястэчка, а склады снарадаў засталіся ў Ставісках. Вайсковыя часці з вялікімі людскімі стратамі адыходзілі на ўсход.

Юрка, Даніла, Міхась выкапалі каля свайго дома дзве траншэі, у якіх ратавалася сям'я Якуба Коласа падчас страшэннай бамбёжкі Мінска 24 чэрвеня. Удзень родныя развіталіся з Юркам назаўжды. Малодшаму брату Міхасю ён даручыў захаваць свае стрэльбы і фотаапарат. Калі Юрка вярнуўся з камендатуры, дом на Вайсковым завулку, дзе жыла сям'я, ужо дагараў, увесь раён быў у пажарах. Сям'і Якуба Коласа з цяжкасцямі ўдалося выбрацца з палаючага горада і дабрацца да Масквы. Пасля была эвакуацыя ў Ташкент. Праз швагра пісьменніка, клязьменскага дзядзьку Міхаіла Дзмітрыевіча Каменскага ў жніўні наладзілася кароткая перапіска з Юркам. Усяго некалькі лістоў, баявых па духу і такіх сардэчных вестачак, атрымалі родныя ад яго. З пісем вядома, што Юрка ваяваў у 49-м корпусным

артылерыйскім палку (КАП), 3-м дывізіёне, 8-й батарэі, удзельнічаў у гераічнай абароне Смаленска. Напрыканцы верасня 1941 года 49 КАП займаў пазіцыі на ўскраіне горада Ярцава. Гэта была невялікая перадышка на фронце перад наступленнем фашыстаў на Маскву, якое пачалося 30 верасня. Апошні ліст сына на імя маці быў датаваны 20 верасня 1941 года. Больш ніякіх вестак ад яго не прыходзіла, а лісты родных да Юркі вярталіся з паметай: адрасат выбыў з часці. І па сённяшні дзень няма пэўных даных, колькі савецкіх салдат загінула і трапіла ў палон у бітвах на подступах да сталіцы савецкай дзяржавы. Не будзе памылкай, калі назавём лічбу — мільён. Удумайцеся! Мільён чалавечых жыццяў, надзей, мар, радасцей, памкненняў:

*Многа без часу палегла сыночкаў,*
*Многа павяла, бы кветак, дачок.*
*Дзе іх магілы? Дзе згаслі іх вочкі?*
*Дзе прытуліў іх жвіровы пясок?* [2, т. 3, с.109]

Якуб Колас з жонкай і сынамі чакалі, хваляваліся, перажывалі за Юрку разам і кожны паасобку, сам-насам з балючымі думкамі. Канстанцін Міхайлавіч скупа занатоўваў у дзённіках, тужыў у лістах, сумаваў у вершах:

*Вецер павее ці ўранку ці ўвечар,*
*Месяц тужлівы зірне з-за аблок.*
*Думка памкнецца далеча-далеча.*
*Хто нам адкажа, дзе ён, наш сынок?* [2, т. 3, с. 109]

Пераможны і стратны май 1945 года. У маскоўскай бальніцы ад цяжкай хваробы на 55-м годзе жыцця памерла Марыя Дзмітрыеўна. У савецкіх лагерах згінуў яе брат Аляксандр Каменскі, любімы пляменнікамі «дзядзька Саша». Не вярнуўся з вайны Юрка. Сям'я народнага паэта асірацела.

Апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця Якуб Колас часта пісаў лісты сёстрам Прозаравым. Іх няхітрая перапіска была для Канстанціна Міхайлавіча аддушынай, напамінкам пра самых дарагіх людзей, нябачным мастком у шчаслівыя па-свойму хвіліны жыцця. Колькі разоў у пісьмах ён згадваў, як аднойчы Туся пераплыла Свіслач, каб забраць з другога берага ракі газету, скінутую з самалёта знаёмым лётчыкам. Таісія Ганчарова пісала ў адказ, што за гэты «подзвіг» з газетай



Фотаздымак з аўтографам Якуба Коласа на адвароце: «Юрка на ганку свае кватэры». Прыблізна 1934-1935 гады. З фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Друкуецца ўпершыню.

Юрка жартам «*нават прапаноўваў адліць мне чугунны медаль вагою ў два пуды, каб у наступны раз ён мяне пацягнуў на дно*» [1, воп. 43, КП-15109 / Аа-1383]. А Маргарыта Прозарава ў 1952 годзе прыгадвала: «*…з задавальненнем успамінаю гады, праведзеныя ў Балачанцы, Вусці і яшчэ раней у Воўчкавічах, дзе мы жылі на сенавале. Вельмі добра памятаю, як Юрка, аматар да ўсялякіх выдумак, пужаў нас вечарам гнілушкамі*» [1, воп. 100, КП-11809 / Аа-4291].

Час няўмольна крочыць наперад, усё далей адыходзяць ад нас падзеі мінулага стагоддзя, мяняюцца пакаленні. Георгій (Юрый) Канстанцінавіч Міцкевіч назаўжды застанецца ў памяці нашчадкаў маладым жыццярадасным чалавекам. Памяць пра яго вось ужо 70 гадоў ахоўвае дуб-асілак, пасаджаны роднымі на пасляваеннай сядзібе. А Юркавы рэчы-спадарожнікі, сведкі яго юнацкіх захапленняў — стрэльба і фотаапарат — экспануюцца ў музеі песняра.

**Літаратура**:

1. Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. — Асабісты архіў Якуба Коласа.
2. Колас, Я. Збор твораў у 20 т. / Я. Колас. — Мінск : Беларуская навука, 2007—2012.
3. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. — Фонд 205. — Воп. 4. — Адз. зах. 1226.
4. Прыватны архіў Д. К. Міцкевіча.

# Зацемкі пра Эдуарда Зубрыцкага

**Эдуард Зубрыцкі — аўтар вершаў, балад і паэм. Выдадзена дзесяць яго кніг. Апошняя — «Восень над вогнішчам» — збор выбраных твораў, выйшла ў 2011 годзе, пасля смерці паэта. У прадмове да яе Васіль Макарэвіч, лаўрэат літпрэміі імя Аркадзя Куляшова, адзначыў, што «маючы вялікі жыццёвы вопыт, Зубрыцкі ў паэтычных радках дзеліцца з чытачамі пражытым і перажытым», што творчасць яго «ёмістая і каларытная», што ў ёй «можна ўбачыць навізну і глыбіню думкі, філасофскія разважанні».**
**Паэт нарадзіўся 17 красавіка 1942 года ў вёсцы Шклянцы Докшыцкага раёна. «Пачынаецца там радзіма, дзе маленства прайшлі гады», — памятаецца, пісаў ён. Успамінамі пра агульнае на дваіх дзяцінства, як штрышкамі да партрэта, дзеліцца брат паэта Станіслаў Зубрыцкі.**


Эдуард Зубрыцкі.

Наша дзяцінства было гаротнае, галоднае і горкае, як шчавук на полі. Але з якой ахвотай мы разам з маці збіралі яго, той шчавук, а потым яна выпякала шчавуковы хлеб, які быў самы смачны ў свеце.

Вясной на бульбянішчы збіралі мёрзлую бульбу, ці, як яе ахрысцілі аднавяскоўцы, «лапуны». Выпечаныя маці аладкі з «лапуноў» мы елі гарачымі, проста з патэльні.

Наша маці, Ядзвіга Адольфаўна, працавала даглядчыцай на калгаснай ферме, што знаходзілася за два кіламетры ад хаты. Уставала рана — у чатыры гадзіны, бегла на працу праз лясны ўзгорак, каб накарміць жывёлу. Платай за працу былі «палачкі», якія ўносіліся ў ведамасць, а ў канцы года за тыя «палачкі» (рысачкі на паперы) выдавалі некалькі кілаграмаў зерня. На гэтае зерне жыла наша сям'я. Нягледзячы на такі цяжкі лёс, мацярынскае сэрца поўнілася гарачай любоўю — і да дзяцей, і да жыцця.

Яна таксама ў душы была паэтам. Вельмі любіла расказваць розныя аповеды, часцей у вершаванай форме. Хаця мела толькі два класы адукацыі. Малы Эдзік часта прасіў маці прачытаць «паэму» пра Янку і Карла, у якой ёсць такія радкі:

Янка і Карла суседзі былі,
Ды розныя сцежкі іх да шчасця вялі:
Янка вучыўся дабро здабываць,
Карла імкнуўся людзей забіваць…

Не ведаю, можа, гэта былі творчыя словы маці-паэтэсы, але вершаваныя радкі вельмі хвалявалі Эдуарда. Ці не ад маці ў душы брата з'явілася любоў да беларускага слова?

Эдзік вучыўся ў Бярозаўскай сярэдняй школе. Настаўнікі добра ведалі захапленні вучня. Ён часта выступаў на школьных вечарах са сваімі вершамі. «Наш Панчанка» — такую мянушку далі яму ў школе.

Як старэйшы, я дапамагаў Эдзіку развіваць яго паэтычныя здольнасці. Помніцца, наладзіў сустрэчу з паэтам-земляком Юрасём Свіркам. Гэта

была радасная падзея для брата. Свірка яшчэ студэнтам стаў аўтарам кнігі вершаў «Шэпчуцца ліўні». І вось мы прыехалі ў госці да Свіркі ў вёску Маргавіца. Маці Юрася завіхалася, помню, ля печы. З таго дня Эдуард і Юрась пасябравалі на ўсё жыццё.

Эдуарда вельмі цікавілі ўспаміны маці пра Петруся Броўку, нашага блізкага сваяка. Яго сястра Феня была замужам за братам нашай маці Стасем Гінтаўтам. Калі ў іх сям'і здарылася бяда (згарэла хата), нашы бацькі прытулілі пагарэльцаў. У Шклянцах з намі жыла Каця, дачка Фені і Стася, пляменніца Петруся Броўкі. Дзяўчынка ні на крок не адыходзіла ад Эдзіка. Праз некаторы час сям'я Гінтаўтаў пераехала жыць на станцыю Неманіца каля Барысава. Каця выйшла замуж і жыла ў Мінску.

Кацярына Станіслаўна, калі я гасцяваў у яе, згадвала розныя выпадкі са свайго дзяцінства, праведзенага ў Шклянцах. Успаміната, як да іх прыязджаў Пятрусь Броўка. Расказвала, што ён быў сціплы, дапамагаў іх сям'і матэрыяльна. Балюча было слухаць яе расповеды пра апошнія дні паэта.

Згадваючы некаторыя фрагменты з жыцця Эдуарда Зубрыцкага, я знарок не хачу рабіць ацэнку твораў паэта. Урэшце, гэта справа літаратараў і крытыкаў. Толькі адзначу факт поўнай самаадданасці гэтага творцы. Ён прызнаецца:

Мой белы ліст,
Я вязень твой,
Я ўвесь з табою
Да ўздыху цяжкага
Самотніцы-сасны…

Высокая грамадзянская пазіцыя, любоў і трывога за лёс роднай мовы («Баліць душа за слова») і краіны («Дзякуй, Белая Русь, што жывеш ты на свеце») — гэта галоўныя рысы яго творчасці. І словы, як прысяга:

З-пад бяроз і пунсовых рабін
Наплывае — плыве заклінанне
Да скanання Радзіму любіць,
Берагчы ад пакут да скanання.



Маці паэта Ядзвіга Адольфаўна

Вельмі цёпла ставіўся да Эдуарда Зубрыцкага пісьменнік і выдавец Кастусь Цвірка. З яго благаслаўлення ў выдавецтве «Кнігазбор» ўбачылі свет кнігі паэта. Аднойчы Кастусь Цвірка патэлефанаваў у Верхнядзвінск Эдуарду і сказаў: «Браце Эдзік, рэдагую твой зборнік «Сцяблінка баравая». Не адарвацца, дачытаў да канца. Стаўлю цябе побач з Генадзем Бураўкіным як паэта-лірыка». Такая ацэнка вельмі натхніла брата.

Эдуарда Зубрыцкага зараз няма сярод нас, але яго слова па-ранейшаму вабіць — праўдзівасцю, эмацыянальнымі ўсплёскамі і любоўю людзей да Айчыны.

*Падрыхтавала да друку Алена Кахноўская.*

# Старонкі ліста, адпраўленага з пасёлка Гудагай адразу пасля наведвання тамтэйшай школкі

Перадам табе тут з нагоды сваю думку пра беларускія школкі, вясковую адукацыю і тое, як нечакана і непрадказальна размяркоўваецца па краіне энтузіязм.

Пачну, як, ведаючы мяне, ты можаш здагадацца, з апошняга — з энтузіязму. Хто не вельмі спрактыкаваны ў падарожжах па гарадах і «глыбінках» (вось жа слова прыдумалі, не люблю яго), не абабіты ў назіраннях за жыццём люду розных мясцовасцей, так бы мовіць, знутры, не вельмі пранiклівы з-за сядзення пераважна на адным месцы (на якім ён дзёўбае па клавіятуры з ранку да вечара, а ў перапынках п'е каву, або займаецца нечым іншым, але ўсё роўна на адным месцы (і ўсё роўна дзёўбае па клавіятуры), знаходзіцца ў стане безапеляцыйнай (і гэтым ужо заняпалай) упэўненасці ў адным абсалютнейшым глупстве, якое ў кароткай форме выказаць можна так: чым далей ад сталіцы, тым усё больш занядбана і абыякава.

Насамрэч адбываецца парадаксальнае несупадзенне ўяўлення і рэчаіснасці. Тое, што я раскажу пра мясцовую школку, далей за якую няма куды ехаць у гэты бок, акрамя як ужо за мяжу, абвяргае згаданае сцвярджэнне. Але што тут увогуле дзіўнага, калі сцвярджэнне бязглуздае. Далёка ад сталіцы ці блізка, у любым кутку з аднолькава непралічанай верагоднасцю можна сустрэць і абыякавасць, і апантанасць. Геаграфія і адміністрацыйная тэрытарыяльнасць на гэтыя з'явы ўплываюць не больш, чым аблокі на тэарэму Віета. Але канстатую як факт, тлумачэння якому пакуль што не маю таксама: вельмі часта на перыферыі (зноў слова не да месца, так любяць у нас недарэчныя азначэнні) школьная адукацыя такая, што тамтэйшы выпускнік-«серадначок» смела паспрачаецца за ўзровень ведаў са сталічным задавакай-выдатнікам. Паспрачаецца і пераможа. І выхаванне ў школах правінцыі сягае настолькі наперад, што шмат каму з неправінцыі яго ўвогуле не дагнаць. Ды што адукацыя з выхаваннем… Часам яны не галоўнае. Як казаў бацька вучэння пра дамінанту спадар Аляксей Ухтомскі, выдатны фізіёлаг, ажно акадэмік, ёсць такая з'ява, якая прымушае думку зноў і зноў вяртацца да адной тэмы. Кажучы іншымі словамі, млын моцны вадою, а чалавек — ежаю. Выпускнікі Гудагайскай сярэдняй школы шмат што і каго ўспамінаюць добрымі словамі, але найпершы ўспамін — пра сталоўку і смачную ежу.

Уяві сабе, прыехалі мы, супрацоўнікі рэдакцый «Маладосці» і «Бярозкі», у Гудагайскую школку. Першае, што з намі тут «зрабілі», — накармілі дасыта. Дранікі з мясам былі шчодра аблітыя смятанай, салата з капусты і морквы была запраўленая нечым спрэс незвычайным, што дало ёй смак непаўторны і апетытны, а да духмянай гарбаты падалі шакаладны пірог. Можна было падумаць, што гэта *нас* так частавалі, гасцей. Але не, тыя самыя дранікі з мясам значыліся ў меню для ўсіх — аднолькава сакавітыя, пульхныя, вабныя.

Трошкі зманіла. Частаванне — не першае, што з намі «зрабілі». Першае — нас сустрэлі і павіталі. Узорнай лінейкай кадэтаў як ганаровых гасцей. Тут і раскажу табе, што ў Гудагайскай сярэдняй школе, дзе вучацца амаль трыста дзяцей, створана адразу некалькі профільных класаў.

Па-першае, прававы. Гэты профіль, з'яўляючыся вынікам пагаднення з Акадэміяй МУС, існуе з 2013 года. Вучняў тут скіроўваюць на веданне асноў права, прафесійна і ідэалагічна арыентуюць іх да будучай працы ў гэтай галіне. Ну, і зразумела само па сабе, што калі ў школе існуе прававы клас, з правапарушэннямі тут сітуацыя ніякая або блізкая да такой.

Па-другое, ваенна-патрыятычны. Мэтанакіраваная праца па грамадзянска-патрыятычнаму выхаванню вучняў вядзецца ў супрацоўніцтве з вайсковай часткай № 2044 Смаргоні, аддзелам пагранічнай службы «Гудагай», пагранзаставай «Лоша». Любоў да Радзімы, што і складае паняцце «патрыятызм», тут, пэўна, не гучныя словы пра буслоў і матчыну мову, а тое, што ўвогуле не словы, а справы. Трошкі ніжэй раскажу табе пра іх. У прыватнасці, пра тутэйшы гісторыка-

краязнаўчы музей, экскурсіі ў які ладзяць школьнікі, і пра тэатралізаваныя знаёмствы з побытавымі рэчамі мінулых часоў.

Па-трэцяе, спартыўны, лёгкаатлетычны. У гэтым класе вучацца ўдзельнікі і прызёры спаборніцтваў розных узроўняў па спартыўнай хадзьбе і бегу на кароткія і доўгія дыстанцыі. Тры разы на тыдзень з дзецьмі займаецца трэнер Астравецкай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы.

Па-чацвёртае, педагагічны. Вучні педкласа — не толькі будучыя настаўнікі. Яны ўжо і сёння могуць правесці ўрок у малодшых школьнікаў, а таксама лепш разумеюць сваіх настаўнікаў і больш ведаюць вучэбныя прадметы, бо ніхто не адменіць правіла: лепшыя веды мае той, каму трэба іх перадаць іншым. Выдатная ідэя, цудоўная знаходка, вельмі патрэбная ініцыятыва і вельмі карысная перспектыва — педагагічныя класы і ўвогуле рух, створаны ў краіне па іх інтэграцыі з педагагічнымі ВНУ. Нечым гэта добрым адгукнецца, вось пабачыш, і ўжо хутка. Але пра гэта напішу калі мо асобна: тэма заслугоўвае вялікай увагі.

Цяпер жа не праміну паведаміць, што першы стэнд, які я ўбачыла на сцяне вестыбюля школы, прысвечаны тым настаўнікам, якія самі вучыліся тут. Такіх настаўнікаў шаснаццаць. Ты ведаеш хоць яшчэ адну такую школу, у якой паўтара дзясятка настаўнікаў памятае, як самі тут жа, у гэтых сценах і свавolілі, і чыталі на памяць вершы, і рашалі задачкі, і скакалі цераз казла, і плакалі, і смяяліся, і біліся ў снежкі, і марылі, і елі дранікі са смятанай?.. Раней Ірынкі, Тані, Анечкі, Галінкі, Святланка, Ядзечка, Гражынка, Юля, Леначкі і Наташа, цяпер… Цяпер Ірына Мікалаеўна Жалток выкладае беларускую мову і літаратуру, Таццяна Уладзіміраўна Грыва дае ўрокі абслугоўваючай працы, Таццяна Станіславаўна Азацян захапляе вучняў біялогіяй, Святлана Станіславаўна Пілецкая і Наталля Аляксандраўна Хадоркіна вучаць рускай мове і літаратуры, Ганна Іосіфаўна Кандратовіч і Таццяна Станіславаўна Тарашкевіч — англійскай мове, Галіна Уладзіміраўна Клімянок і Алена Генрыхаўна Кошчыц — інфарматыцы і фізіцы. Настаўніцамі пачатковых класаў працуюць Ірына Станіславаўна Шукель, Ядзвіга Антонаўна Дарашкевіч і Галіна Сяргееўна Нядвецкая, педагогам-псіхолагам — Ганна Віктараўна Сальмановіч, педагогам-арганізатарам — Гражына Віктараўна Кручынская, музычным кіраўніком —Юлія Віктараўна Герасім, намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце — Алена Уладзіміраўна Шымковіч. Ведаю, што пералік прозвішч, калі яны табе незнаёмыя, выглядае настолькі ж цікава, наколькі цікава праглядаць альбом сям'і, да якой табе няма ніякай справы, ды і сама я не паспела, безумоўна, пазнаёміцца з усімі настаўнікамі, але прывяла тут імёны, імёны па бацьку (бо настаўнікі, так патрэбна) і прозвішчы — з той неабвержна правільнай думкай, што настаўнік заслугоўвае друкаванага тыражу свайго прозвішча не менш і нават больш, чым які артыст ці пісьменнік. Іх жа, артыстаў і пісьменнікаў, усіх да аднаго вучылі настаўнікі, і кім бы сталі першыя, калі б не апошнія?..

Выкажу тут, пакуль размова ідзе пра настаўнікаў, яшчэ адну неспакойную думку, а ты ўжо мяркуй пра яе грунтоўнасць. Прыехалі мы двума складамі — прадстаўнікі рэдакцый двух часопісаў, «Маладосць» і «Бярозка». Прыехалі не таму, што ад няма чаго рабіць пазіралі на карту краіны і выбіралі, куды б паехаць. Прыехалі таму, што нас за-пра-сі-лі. А запрасілі чаму? Таму што нашы легендарныя часопісы, два «зубры» маладзёжнай літмастперыёдыкі па-беларуску тут, у Гудагайскай СШ, выпісваюць і чытаюць. Адразу скажу, што выпісваюцца яны і чытаюцца шмат яшчэ дзе, і гасцюем мы ў школах нярэдка, але вось мая неспакойная думка: ці правільна, што нікольki не сорамна тым настаўнікам мовы і літаратуры, якія не маюць пад рукой кожны нумар гэтых выданняў, без якіх я не ведаю, як можна праводзіць урокі сучаснай беларускай літаратуры і пазакласнага чытання, я не ведаю, як расказваць пра Панчанку і Дубоўку, я не ведаю, як прывіваць любоў да сваёй культуры. Я нават не ведаю, як без іх, «Маладосці» і «Бярозкі», можна атрымаць дыплом настаўніка-філолага. Ці правільна, што ў бібліятэках тых школ, дзе выкладаюцца мова і літаратура (усіх да адной школ краіны, якіх у нас больш за тры тысячы), хаця б у адзінкавых экзэмплярах нашы часопісы не ляжаць, не стаяць на палічках, не чакаюць, што вось празвініць званок на перапынак, і дзесяцікласнікі, якім задалі толькі што Караткевіча, прыбягуць па сакавіцкую «Бярозку», каб там у рубрыцы «Бел.літ.» прачытаць артыкул «Ідэнтыфікацыя «…Стаха» ці пагар-

тацць новую «Маладосць», у якой (яны гэта добра ведаюць, настаўніца распавядала) друкаваўся першы раз «Жураўліны крык» Быкава і «Чорны замак Альшанскі» таго самага Караткевіча, працаваў Міхась Стральцоў, Леанід Дайнека, Раіса Баравікова, Яўгенія Янішчыц, Васіль Зуёнак, Анатоль Грачанікаў, Генадзь Бураўкін… Што ні практыкаванне па беларускай мове — абавязкова прозвішча з «Маладосці» знойдзецца ў дужках пасля сказа, а мо і не адно. Дык ці можна так заўзята гэтыя часопісы ігнараваць? Ці можна пра іх не ведаць настаўнікам-літаратарам, ці не злачынства супраць культуры краіны і яе юнага пакалення не гаварыць пра іх на ўроках і класных гадзінах і не мець у школьных бібліятэках?

Ты гэты мой ліст не хавай, прачытаўшы. Ты дай яго пачытаць розным людзям. Асабліва настаўнікам, не падобным на тых, якія выкладаюць у Гудагайскай СШ. А ім, гудагайскім, — дзякуй і нізкі паклон, і павага, і гонар, і слава.

Гісторыка-краязнаўчы музей, пра які я ўжо пачынала расказваць, мае больш за дзесяць гадоў уласнай гісторыі. Хросным бацькам яго лічыцца Адам Мальдзіс, які ў Гудагайскай школе вучыўся непрацяглы час і цяпер з'яўляецца ці не самым жаданым госцем. Музей гэты не сказаць каб быў проста музей, якіх мноства. Звычайны пакой на чвэрць сотні квадратных метраў — не адно толькі экспазіцыйная зала, але і памяшканне для правядзення заняткаў, і тэатральная студыя.

Заняткі тут праводзяцца ў дзвюх экскурсійных групах — малодшай, якая працуе (прымае гасцей, прапануе экскурсіі) першы год, і старэйшай, якая існуе другі год і мае, як кажа гаспадыня музея Марыя Карлаўна Васілёнак, напрацаваны голас. Дарэчы, пра Марыю Карлаўну. Здзівішся, калі напішу, што ёй у красавіку спаўняецца 64 гады, бо ўбачыш на фотаздымку маладую асобу з усмешкай і чорцікамі ў вачах. Марыя Карлаўна гасцюе цяпер у сына, а як прыедзе, то будуць яе ў школе віншаваць з днём нараджэння. «Маладосць» і «Бярозка» далучаюцца да гэтых віншаванняў. Але паслухаем яе выхаванцаў. Бо ўжо пачынаецца экскурсія.

— Шаноўныя госці! Мы вельмі рады бачыць вас у сценах нашага школьнага музея «Зямля гудагайская: матэрыяльнае і духоўнае». Экспазіцыя нашага музея складаецца з некалькіх раздзелаў, з якімі можна пазнаёміцца самастойна: інфармацыя размешчана на стэндзе. Але яна мінімальная, і зразумела, што падчас экскурсіі можна даведацца значна больш. Аднак мэта сённяшняй экскурсіі — «Пазнаем свой край — пазнаем свет» — паказаць, якія шырокія магчымасці мае нават школьны музей у фарміраванні светапогляду чалавека, — гаворыць вучаніца Арына Лаўрэцкая.

Ці шмат ты ведаеш экскурсаводаў, словы якіх праходзяць не толькі праз вушы? Ці шмат ты ведаеш вучняў, якія так добра ведаюць гісторыю сваёй зямлі?

— Сённяшні пасёлак Гудагай узнік дзякуючы чыгунцы. Менавіта тады, калі паблізу пралажылі першую каляю Любава-Роменскай, пачалі тут асядаць першыя пасяленцы. Упершыню пасёлак згадваецца ў 1874 годзе. Досыць вядомая і вёска Гудагай, слаўная цудатворным вобразам Маці Божай Гудагайскай, ад яго і была запазычана назва чыгуначнай станцыі.

Далей Арына Лаўрэцкая расказвае пра сённяшні дзень пасёлка, супрацоўніцтва школы з пагранічнай камендатурай і будаўніцтва паблізу Беларускай АЭС.

— Наступны раздзел экспазіцыі прысвечаны гісторыі школы, якая пачынаецца з 1925 года, — распавядае экскурсавод Анжэліка Гурштын. — Кожная старонка яе гісторыі напісана людзьмі, якія тут працавалі або вучыліся, але сёння мы звернем увагу на адзін толькі факт. У будынку Гудагайскай школы-сямігодкі з 1941 года размяшчаўся лагер Шталаг 342. Сем гадоў таму мы ўпершыню прачыталі прозвішчы рускіх ваеннапалонных — вязняў лагера ў Гудагаі. Больш за тое, убачылі карткі, запоўненыя з вядомай нямецкай акуратнасцю на кожнага з іх. Мы даведаліся даты нараджэння і смерці, род заняткаў, імёны бацькоў і месцы жыхарства кожнага, хто апынуўся ў палоне, што дазволіла пачаць пошукавую працу. Напісана нямала пісем да іх родных, і атрыманы адказы.

Бачым, гэта не проста экскурсія, не проста музейная праца па захаванні, а праца пошукавая, то бок, навуковая. І гэта — сіламі вучняў. Экскурсаводы старэйшай групы, яны ж даследчыцы — Таццяна Рагаўцова (раздзел «Нумізматычны збор музея»), Арына Лаўрэцкая (раздзелы «З гісторыі зямлі гудагайскай» і «Этнаграфічны збор»),

Анжэліка Гурштын (раздзелы «З гісторыі Гудагайскай школы» і «Імёны, вернутыя з небыцця») і Анастасія Шынкевіч (раздзелы « Знакамітыя людзі – нашы землякі» і «Мастакі зямлі гудагайскай») — вучаніцы 10-га педагагічнага класа. У малодшай групе займаюцца пяцікласніцы Юльяна Лапшэвіч (староста гуртка «Нашчадкі», арганізаванага тут, пры музеі), Стэфанія Козіч і Дар'я Пукшта. Яны «загадваюць» аддзелам «Праз іх жыццё прайшоў Афганістан».

Вось абаяльная Юльяна Лапшэвіч бярэ ўказку ў руку і працягвае распавядаць. Новая старонка гісторыі мясцовасці — вайна ў Афганістане:

— … Ён нарадзіўся першага студзеня 1951 года. Яго тату звалі Канстанцін Васільевіч, а маці — Зоя Пятроўна. У іх было пяцёра дзяцей. Разам яны дапамагалі дарослым. Аднойчы летам старэйшая сястра і Славік зарабілі немалыя грошы, калі пракладвалі лінію электраперадач у Гудагаі. Яны чысцілі пад слупы бярвенне ад кары. За гэтыя грошы купілі сабе і сёстрам школьныя прылады, а маме — дыванок за 59 рублёў. А летам яны хадзілі на рыбалку са сваімі сябрамі, а потым гулялі ў футбол і валейбол, каталіся на матацыкле…

Слухаю і зайздрошчу таленту стварэння аповедаў. Дзяўчаткі самі пішуць тэксты сваіх экскурсій.

— …Уся сям'я любіла хадзіць у кіно, білет каштаваў пяць капеек. Пасля прагляду некалькіх фільмаў яму захацелася стаць лётчыкам. У школе ён вучыўся добра і хацеў паступіць у Харкаўскае вышэйшае авіяцыйнае вучылішча, але адразу не паступіў, толькі на другі год, і атрымаў спецыяльнасць лётчык-інжынер…

Юльяна расказвае пра земляка, ваеннага лётчыка Вячаслава Голубева так, як мо ніхто іншы, ніякі дыпламаваны экскурсавод не расказаў бы.

— …А сёмага ліпеня 2007 года ён памёр, — завяршае яна.

І знікае на час, каб быць заўважанай потым у зусім іншым вобразе — як акторка.

А пра тэатральную студыю я згадала таму, што этнаграфічны збор музея прадстаўлены нетрадыцыйна: яго супрацоўнікі (пераважна, разумееш, асобы юныя) напісалі і паставілі побытавую сцэнку, у якой прадметы штодзённага вясковага ўжытку 1950-х гадоў, варункі і клопаты таго часу паказаны праз дзеянні і дыялогі герояў. Ці шмат



Песня «Дзень добры сонцу!» у выкананні музычнага квартэта ў складзе Кацярыны Маргуж, Яны Алёкса, Дар'і Пясляк, Анжэлікі Гурштын адкрыла сустрэчу ў актавай зале.



Агнеса Кошчыц у ролі маці (прасуе бялізну драўляным прасам), Аляксандр Жалток у ролі бацькі (з цыркулем), Мікіта Вішнеўскі — дзядуля (са ступкай), Вераніка Лапшэвіч — бабуля (з маслабойкай), Вікторыя Мілешка — малодшая дачка Тэнька (з лялькамі), Павел Казлоўскі — старэйшы сын Раман (з каромыслам), Юльяна Лапшэвіч — старэйшая дачка Галінка (чытае кніжку).





Кацярына Захарэвіч, галоўны рэдактар часопіса «Бярозка», расказвае пра гэта выданне, прызначанае спецыяльна для такіх апантаных школьнікаў.



Намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце
Жанна Леанардаўна Янцэвіч, калі была школьніцай,
друкавалася ў часопісе «Бярозка». Пра тое і расказвае.

ты ведаеш музеяў, якія да такога дадумаліся? А тут за літаральна імгненне прастора кабінета-музея ператварылася ў сцэну і гля-дзельную залу. І вось Агнеса Кошчыц у ролі маці прасуе бялізну драўляным прасам, Аляксандр Жалток у ролі бацькі цыркулем штось вымярае, Мікіта Вішнеўскі — дзядуля — таўчэ ў ступцы зерне, Вераніка Лапшэвіч — бабуля — узбівае масла, Вікторыя Мілешка — малодшая дачка Тэнька — гуляе з самаробнымі лялькамі, Павел Казлоўскі — старэйшы сын Раман — уваходзіць у хату з каромыслам, а вядомая ўжо табе як экскурсавод Юльяна Лапшэвіч — старэйшая дачка Галінка — чытае, разумнічка, кніжку. І ўсе за штодзённымі клопатамі, спрэчкамі і капрызамі (Тэнька — шкодніца і зайздросніца) абмяркоўваюць блізкае вяселле. Марыя Карлаўна кажа, што побытавая сцэнка «Вясковая сям'я ў зімовы вечар» можа выкарыстоўвацца настаўнікамі ўстаноў адукацыі Астравецкага раёна, а таксама суседніх Ашмянскага і Смаргонскага для знаёмства з мясцовымі традыцыямі, хатнім убраннем і асаблівасцямі ранейшай тутэйшай мовы — ад дыялектаў да спосабу вымаўлення імён.

Пасылаю табе стосік здымкаў, з якіх ты можаш атрымаць яшчэ большае ўяўленне пра тое, што тут адбываецца, калі сюды трапляюць госці, і што тут адбываецца ўвогуле. Мне спадабалася, то і табе, мяркую, сумна за праглядам не будзе. Як, спадзяюся, не было сумна за прачытаннем гэтага мо трошкі блытанага ліста, які я паспяшалася напісаць, пакуль уражанні мае яшчэ свежыя.



Намеснік галоўнага рэдактара «Маладосці»
Дзмітрый Шулюк чытае свае вершы





Урок у кадэцкім класе правяла галоўны рэдактар «Маладосці» Святлана Воцінава.





Прыгожыя, захопленыя, уважлівыя, апантаныя, зацікаўленыя, разумныя, удумлівыя, натхнёныя, летуценныя…
Для вучняў Гудагайскай СШ эпітэтаў не шкада.



Урок у педагагічным класе. За настаўніка — Дзмітрый Шулюк. Свой урок скончыў самым апошнім з наваяўленых настаўнікаў: вучні завалілі пытаннямі.



Жанна Леанардаўна Янцэвіч і Дзмітрый Шулюк, Святлана Воцінава, Кацярына Захарэвіч, Ганна Мечыславаўна Капцюг і вучні Гудагайскай сярэдняй школы.



Хросным бацькам музея лічыцца Адам Мальдзіс, які ў Гудагайскай школе вучыўся непрацяглы час і з'яўляецца цяпер ці не самым жаданым госцем.



Марыя Карлаўна Васілёнак, гаспадыня школьнага музея.



Экскурсаводы старэйшай групы Таццяна Рагаўцова (раздзел «Нумізматычны збор музея»), Арына Лаўрэцкая (раздзелы «З гісторыі зямлі гудагайскай» і «Этнаграфічны збор»), Анжэліка Гурштын (раздзелы «З гісторыі Гудагайскай школы» і «Імёны, вернутыя з небыцця») і Анастасія Шынкевіч (раздзелы «Знакамітыя людзі – нашы землякі» і «Мастакі зямлі гудагайскай»), вучаніцы 10-га педагагічнага класа.

*P. S.* Рэдакцыі часопісаў «Бярозка» і «Маладосць», а таксама Досця Звяздоўская выказваюць падзяку за шчырае запрашэнне, цёплы прыём, душэўную шчодрасць і натхненне на працу дырэктару Гудагайскай сярэдняй школы Ганне Мечыславаўне Капцюг, намесніку дырэктара па вучэбнай рабоце Жанне Леанардаўне Янцэвіч, кіраўніку школьнага музея Марыі Карлаўне Васілёнак, абсалютна ўсім вучням, якія бралі ўдзел у сустрэчы, а таксама супрацоўнікам школьнай сталоўкі і Віктару Яўгенавічу Янцэвічу, які выконваў для нас у той дзень ролю вадзіцеля, мяняючы машыны як пальчаткі. Навошта нам спатрэбіліся машыны? Нас звазілі ў блізкія адсюль Гервяты, дзе Наталля Аляксандраўна Бялячыц, загадчыца аддзела культуры і вольнага часу аднайменнага аграгарадка зладзіла для нас экскурсію ў Траецкі касцёл — мясцовую ўвасобленую ў камені казку пра добрых і захопленых справай людзей, пакаянне і дараванне, пакору і Божую ласку, перамогу любові над смерцю. Акрамя таго, мы з'ездзілі ў Астравец — у Інфармацыйны цэнтр Беларускай АЭС, дзе начальнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязей Беларускай АЭС Эдуард Іванавіч Свірыд распавёў нам пра тое, як будуецца і будзе працаваць наша «атамка». Так шмат вакол атамнай энергетыкі памылковых меркаванняў і рознага кшталту наўмыснасцей, што атрыманне аб'ектыўнай інфармацыі робіцца справай павышанай неабходнасці, таму і быў створаны такі цэнтр. Між іншым, не наша ён вынаходніцтва, а звычайная з'ява для розных краін. Пра гэта чытай у красавіцкай «Бярозцы».

Развітваюся з табой, жадаючы простага чалавечага шчасця.

Твая Досця.

А фотаздымкі зрабіла Кацярына Захарэвіч, хоць некаторыя ўзяты з сайта Гудагайскай СШ.

Годныя нарысы пра навучальныя ўстановы вартыя такіх нарысаў

Ад Досці Звяздоўскай
з любоўю і творчым натхненнем

Чакаем прапаноў ад школ, гімназій, ліцэяў, каледжаў, кафедр і факультэтаў, інстытутаў, універсітэтаў і акадэмій

на vdsd@tut.by і 8-017-284-85-24

**Вітаўт Чаропка**

# Старадаўні і былы. Старонкі мінскай гісторыі

**Паважаны юбілей — цудоўная падстава перагартаць старонкі мінскай гісторыі, каб не забывацца, што было ў гэтым горадзе і як гэта было.**

## Княжацкі горад (працяг)

Князь Рагвалод-Васіль, які пачаў княжыць у Полацку пасля выгнанага палачанамі князя Расціслава Глебавіча, імкнуўся падначаліць Менск. У 1159 годзе Рагвалод-Васіль сабраў вялікае войска, у якое апроч палачан уваходзілі смаленская, наўгародская і пскоўская дружыны. Але і з такімі сіламі ён быў бяссільны перад высокімі сценамі Менска. Прастаяўшы каля горада дзесяць дзён, Рагвалод-Васіль так і не асмеліўся на штурм. Пасля гэтага Расціслаў Глебавіч вярнуў узяты палачанамі Ізяслаўль і паланіў там полацкіх стаўленікаў князёў Валодшу і Брачыслава. Зноў Рагвалод-Васіль рушыў у паход на Менск. На гэты раз яго войска ўмацаваў атрад сцепнякоў-торкаў у 600 чалавек, прысланы кіеўскім князем. Шэсць тыдняў асаджваў Рагвалод-Васіль Менск. Ад бяскорміцы ў торкаў падохлі коні, і саюзнікі, не дачакаўшыся штурму, пехатой адправіліся назад. А Рагвалод-Васіль заключыў мір з Расціславам Глебавічам, і той вызваліў з няволі Валодшу і Брачыслава.

Нічога не дамогся полацкі князь і ў чарговым паходзе на Менск у 1161 годзе і «…възвратися въсвои». У 1162 годзе Рагвалод-Васіль з полацкімі ваярамі зноў пайшлі на Менск. Менскім князем на той час стаў брат Расціслава Валадар Глебавіч, рашучы і хітры чалавек. Ён ноччу таемна выйшаў з горада на чале дружыны-літвы і нечакана напаў на полацкі стан. Шмат палачан загінула, яшчэ больш трапіла ў палон. Рагвалод-Васіль уцёк у Слуцк і адтуль паслаў у Полацк паведамленне пра адрачэнне ад полацкага княжання. Палачане выбралі сваім князем Усяслава Васількавіча, які памірыўся з Валадаром. Аднак Валадар адчуваў сваю сілу і імкнуўся да першынства ў Полацкай зямлі.

> Знаходзячыся ў цэнтры Вялікага Княства Літоўскага, Менск на доўгі час пазбавіўся варожай небяспекі. А паколькі нічога адметнага тут не адбывалася, дык летапісы і не згадвалі пра яго. Хто правіў у Менску, што адбывалася тут — невядома

Зрэшты ў 1167 годзе менскі князь пайшоў раццю на Полацк. Ён разбіў дружыну Усяслава Васількавіча і заняў горад. Толькі прыкрая недарэчнасць перашкодзіла яму стаць полацкім князем. Падчас паходу на Віцебск апоўначы ўзнялася страшэнная бура. Ваяроў Валадара, частку якіх складалі літвіны, ахапіў жах, і яны палічылі, што гэта перапраўляецца цераз Дзвіну варожае войска. Па іх патрабаванні Валадар адступіў ад Віцебска і вярнуўся ў Менск. Ні адзін з бакоў не дамогся свайго, і на гэтым змірыліся.

З таго часу згадкі пра Менск на доўгі час знікаюць з пісьмовых крыніц. Гэта не значыць, што горад занядбаў і страціў сваё палітычнае значэнне. Жыццё па-ранейшаму стварала ў Менску сваю гісторыю. Проста звесткі пра яе не дайшлі да нас. Хоць рускі гісторык Васіль Тацішчаў згадвае пад 1182 год пра вайну менскага князя Уладзімірка Валадаравіча з драгічынскім князем Васількам за Бярэсце і Падляшша. Драгічынскі князь паклікаў на дапамогу палякаў і мазураў. На рацэ Буг войска Уладзіміркі было разбіта войскам Васількі. Уладзімірка мусіў пакінуць Падляшша і Бярэсце. Гэтыя падзеі апісаныя і ў польскай «Вялікай хроніцы», у якой распавядаецца, як польскі кароль Казімір у 1182 годзе захапіў Бярэсце і «паставіў у ім свайго чалавека начальнікам». Значыць, звесткі Тацішчава грунтуюцца на сапраўдных падзеях. Сам факт, што менскі князь (заваёўніцкія планы якога ўжо не абмяжоўваліся суседнімі землямі, а пашыраліся ажно да Буга) змагаўся за Бярэсце, паказвае моц Менска. Ужо тады Менск выконваў сваю ролю ў аб'яднанні старажытнабеларускіх земляў і меў для гэтага не толькі падставы, але і сілы.

Мяркуючы па археалагічных знаходках — бронзавых фібулах, металічных паясных накладках, спражках, бісерных перлінах, срэбных кол-



Рэканструкцыя гарадскіх варот Менска XI стагоддзя.

тах, бронзавых і залатых бранзалетах, шкляных пацерках — жылі тут даволі заможна дзякуючы развіццю рамёстваў і гандлю. Знаходкі пісалаў (завостраны металічны стрыжань з плоскай лапаткай на адным канцы) для пісьма на пакрытых воскам дошчачках і берасце сведчаць аб распаўсюджанні граматнасці. Знойдзеныя і шахматныя фігуркі, груба зробленыя з дрэва, што паказвае на захапленне шахматамі простым людам. У горадзе квітнеў гандаль. З паўднёвых краёў у Менск прывозілі ў амфарах віно і алей, а з Балтыкі — бурштын. Як бачым, мяняне маглі дазволіць сабе раскошу.

## Вялікакняжацкае ўладанне

Наступная згадка пра Менск ў летапісах прыпадае пад 1326 год. Тады менскі князь Васіль разам з полацкім князем Воінам і смаленскім князем Фёдарам Святаславічам ад імя вялікага князя літоўскага Гедыміна заключылі мір з Ноўгарадам. Значыць, да гэтага часу Менск увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Пэўна, перад пагрозай татара-мангольскага заваёвання, не жадаючы плаціць ардынскім ханам даніну, мяняне прызналі вярхоўную ўладу вялікіх князёў літоўскіх, якія ў адрозненне ад рускіх князёў Рурыкавічаў не залежалі ад ханскай улады.

Знаходзячыся ў цэнтры Вялікага Княства Літоўскага, Менск на доўгі час пазбавіўся варожай небяспекі. А паколькі нічога адметнага тут не адбывалася, дык летапісы і не згадвалі пра яго. Хто правіў у Менску, што адбывалася тут — невядома. Толькі 28 красавіка 1387 года вялікі князь Ягайла, які зрабіўся польскім каралём, перадаў свайму брату Скіргайлу «на Рускай жа старане горад Менск, што княству Літоўскаму належыць, з усімі людзьмі, зямлёю, з пошлінаю і прыбыткамі». Апроч таго Скіргайла атрымаў з былога Менскага княства Свіслацкую і Лагожскую воласці. Яшчэ раней, у 1345 годзе, іншую Менскую воласць — Заслаўль — атрымаў звергнуты Альгердам і Кейстутам былы вялікі князь Яўнута. Нашчадкі Яўнуты пачалі тытулавацца князямі Заслаўскімі. Жыццё некаторых з іх было звязана таксама з Менскам. Іван Яўнутавіч быў менскім намеснікам у 1468-1484 гг., а яго сын Юрый — у 1489-1529 гг.

Менск нейкі час з'яўляўся рэзідэнцыяй князя Скіргайлы. Напрыклад, першую палову 1393 года той пражыў у Менску. Сюды ў красавіку да князя прыязджаў рыжскі

прадстаўнік Герман Дасберт. 30 мая 1393 года ён паручыўся за семярых падданых Скіргайлы. Пазней, 6 чэрвеня 1393 года, у лацінскай грамаце Дасберт прасіў Скіргайлу выпусціць з няволі лівонскіх купцоў у Полацку. У граматах было ўказана, што яны выдадзеныя ў «Menske».

Скіргайла нядоўга валодаў Менскам, бо ў 1394 годзе яго атруцілі ў Кіеве, і Менск перайшоў да новага вялікага князя Вітаўта, які прызначыў у горад свайго намесніка. З гэтага часу Менск і стаў вялікакняжацкім уладаннем. Пад 1408 год у свіце князя Свідрыгайлы Альгердавіча згадваецца князь Урустай Менскі, які выехаў у Маскоўскае княства. Невядома, ці быў ён нашчадкам ранейшай менскай дынастыі Глебавічаў ці паходзіў з іншага роду. З 1413 года Менская воласць разам з Менскам увайшлі ў створанае Віленскае ваяводства.

Размяшчэнне Менска ў цэнтры дзяржавы абумовіла яго асаблівае значэнне. Горад зрабіўся перавалачным пунктам. У ім спыняўся Вітаўт падчас паходаў на усход (у 1392 і 1395 гадах — на Віцебск, у 1395-м, 1401-м і 1405-м — на Смаленск) і на поўдзень ці падчас паездак. У 1427 годзе князь прымаў у Менску татарскіх паслоў, сюды да яго прыязджалі з дарамі і падуладныя князі.

Падчас міжусобнай вайны ў 1432—1437 гадах паміж вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Кейстутавічам і вялікім князем рускім Свідрыгайлам Альгердавічам Менск прызнаў уладу першага. Таму Свідрыгайла зімой 1433 года, вяртаючыся ў Полацк з няўдалага паходу на Вільню, спаліў Менск і вывеў у палон шмат людзей. Аднак, верагодна, замак ён не ўзяў. Горад неўзабаве адрадзіўся. З цягам часу Менск стаў адным з буйнейшых гарадоў ВКЛ, пра што сведчыў вялікі князь Казімір Ягайлавіч у 1444 годзе.

Межы горада выйшлі за сцены замка, які акружылі пасады. На левым беразе Свіслачы — на Траецкай гары — узнікла аднайменнае прадмесце, так яно называлася з-за Траецкай царквы. Тут знаходзіўся Узнясенскі манастыр. Дата «1000 год», напісаная на каменных плітах, умураваных у манастырскія сцены, сведчыла пра старажытнасць манастыра (калі гэта не выдумка праваслаўных ідыёлагаў XIX стагоддзя). Да Траецкага прадмесця, на ўскраіне якога

Пад 1408 год у свіце князя Свідрыгайлы Альгердавіча згадваецца князь Урустай Менскі, які выехаў у Маскоўскае княства. Невядома, ці быў ён нашчадкам ранейшай менскай дынастыі Глебавічаў ці паходзіў з іншага роду

знаходзілася Барысаўская застава і абарончы рэдут святой Тройцы, сыходзіліся дарогі з Лагожска, Полацка, Барысава, Смаленска і Вільні. Праз Хлусаў (ці Ніжні) мост цераз Свіслач Траецкае прадмесце злучалася з Ніжнім рынкам (каля замкавай брамы ў сутоках Нямігі і Свіслачы). Тут вёўся гандаль аж да XX стагоддзя. На гары каля Ніжняга рынку размясцілася прадмесце Высокі рынак. Археалагічныя раскопкі сведчаць: ужо ў XII—XIII стагоддзях частка Высокага рынку ў раёне вуліц Герцана, Кірылы і Мяфодзія, Музычнага завулка і ўсходняй часткі плошчы Свабоды была заселена. Ракаўскае прадмесце ўзнікла ўздоўж Ракаўскага тракта ў XV стагоддзі. А ў наступным стагоддзі тут фарміруюцца вуліцы Няміга, Ракаўская, Уваскрасенская, якая вяла на поўнач да Пятніцкага канца, названага паводле царквы Параскевы Пятніцы, што знаходзілася тут.

Мяняне жылі ў невялікіх драўляных хатках з адным памяшканнем плошчай 19—25 квадратных метраў з глінабітнай печчу на драўляным падмурку. Печ палілася па-чорнаму, дым выходзіў ці праз нізкія дзверы, ці праз маленькае акно. На знешнім рагу печы ставіўся высокі слуп, да якога пад вуглом сыходзіліся брусы, на іх клалі палаці, часта ў два ярусы. Уздоўж сцен рабіліся лавы на калодах, а на покуці стаяў стол. Вуліцы, якія вялі да замка, мелі драўляны насціл. У замку жыло гарадское начальства. Тут знаходзіліся дамы камendanта (кашталяна), вялікакняжацкага намесніка, гарадскога суддзі і багатых гараджан. Жыхары горада займаліся рамёствамі і гандлем, многія — земляробствам, таксама гадавалі жывёлу і птушку.

І вось 14 сакавіка 1499 года вялікі князь Аляксандр Ягелончык надаў Менску гэтак званае Магдэбургскае права, «абы люди наши, там мешкаючыи, через врад добрый и справедливый были



Чаканшчыкі. Сярэднявечная гравюра.



Цырульнік. Сярэднявечная гравюра.

размножены». Цяпер мяняне выбіралі гарадскую раду з 12 радцаў на чале з войтам і 2 бурмістрамі. Гарадская рада, ці магістрат, кіраваў жыццём горада, вырашаў надзённыя патрэбы месцічаў, якія вызваляліся ад шэрагу павіннасцей і падлягалі суду толькі свайго горада. Мянянам дазвалялася браць дрэвы «паводле даўняга звычаю» на будаўніцтва дамоў і на дровы на тры мілі вакол. Яны маглі пасвіць сваю жывёлу на гарадскім выгане, ім дазвалялася будаваць гарадскую лазню і млын, а таксама ратушу. Усё гэта павінна было спрыяць развіццю горада. І горад спакваля ўзрастаў.

«Мінск — вялікі драўляны горад, — пісаў у другой палове XVI стагоддзя італьянец Аляксандр Гваніні, — замак яго зроблены з дубу, размяшчэнне яго і форма спрыяльныя для абароны: замак абкружаны глыбокім ровам і ракой, на якой ёсць некалькі грэбляў». Замкавыя сцены абаранялі гараджан ад ворагаў. Летам 1506 года замак вытрымаў аблогу крымскіх татараў на чале з ханам Махмет Гірэем, а ў 1508 годзе — двухтыднёвую аблогу атрадаў мяцежнага князя Міхайлы Глінскага і маскоўскіх войск. Падыход да горада войска вялікага князя Жыгімонта Казіміравіча прымусіў заваёўнікаў уцякаць на Оршу. Менскія ваяры (менская шляхта) праславіліся ў славутай Клецкай бітве 5 жніўня 1506 года, калі разам з гарадзенскай шляхтай першымі пераправіліся цераз Лань і прынялі на сябе татарскі ўдар, даўшы магчымасць пераправіцца астатняму войску ВКЛ. Падчас аблогі ў 1508 годзе атрадамі Міхайлы Глінскага і двума маскоўскімі палкамі Менскі замак абараняла толькі 30 нанятых жаўнераў, а галоўную сілу складалі месцічы і мясцовая шляхта. Гэтую баявітасць менскіх месцічаў адчувалі і гарадскія ўлады, і самі месцічы, калі біліся паміж сабой з-за веры. Яе, баявітасць, адзначыў у 1602 годзе пасол Святой Рымскай імперыі Георг Тэктандэр фон дэр Ябель, які накіроўваўся праз Беларусь у Персію: «Мы прыбылі ў горад, збудаваны ўвесь з дрэва, званы Мінскам… жыхары якога люд да таго злачынны і неўтаймаваны, што нельга і выказаць». Вытрымаў замак аблогу маскоўскіх войск у 1519 годзе пад кіраўніцтвам ваявод Шуйскага, Гарбатага і Курбскага. Восенню 1534 года Менск спрабавалі

захапіць войскі ваявод Гарбатага і Абаленскага. Але небяспека з'явілася не звонку, а знутры — ад пажараў. У 1547 годзе амаль увесь горад і замак згарэлі. Было вырашана перанесці цэнтр горада на Высокі рынак (цяпер плошча Свабоды). Тут і пачынае складвацца на працягу XVI—XIX стагоддзяў маляўнічы архітэктурны ансамбль.

Росту горада спрыяла стварэнне ў 1565 годзе Менскага ваяводства, у якое ўваходзілі 60 местаў і мястэчак. А з 1580 года ў Менску праводзіў паседжанні вышэйшы суд дзяржавы — Трыбунал Вялікага Княства Літоўскага. Гэта сталася дзякуючы намаганням менскага кашталяна Яна Глябовіча (каменданта замка), асветніка і палітычнага дзеяча. Гэта ён разам з падканцлерам Львом Сапегам дамогся ад караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта Вазы зацверджання трэцяга Статута ВКЛ 1588 года. Ён жа пабудаваў у Заслаўі прыгожы храм, які і цяпер радуе нас сваім хараством. Шмат парупіўся Ян Глябовіч і для развіцця Менска. Пры ім у горадзе з'явілася пратэстанцкая абшчына і быў пабудаваны пратэстанцкі збор, паводле якога атрымала назву вуліца Зборавая (цяпер Інтэрнацыянальная).

На пасяджэнні Трыбунала з'язджалася процьма паноў і шляхты. Горад ажываў, бурліў страсцямі. Нарэшце, 12 студзеня 1591 года Менск атрымаў герб Багародзіцы ў атачэнні 2 анёлаў і 2 херувімаў ад караля Жыгімонта III, які адлюстроўваў яе ўзнясенне ў рай і сімвалізаваў яе апеку над горадам, «…ку оздобе и учтивому захаванью того места нашого Меньского». Пэўна, гэтай сімволіцы спрыяла наяўнасць славутага цудадзейнага абраза Мінскай Багародзіцы. На падставе даўнішняга герба быў створаны сённяшні. Так праявілася пераемнасць гісторыі і сучаснасці.

## Горад майстроў

На працягу XVI — пачатку XVII стагоддзяў у Менску пражывала каля 3-4 тысяч чалавек. Свабодныя месцічы падначальваліся гарадскому магістрату, а тыя, што жылі на царкоўных або феадальных землях, залежалі ад іх уладальнікаў. Свае зямельныя ўчасткі (плацы) і дамы ў горадзе мелі прадстаўнікі панскіх родаў Глебавічаў, Валадковічаў, Завішаў, Зяновічаў, Пацаў, Салагубаў, Сапегаў, Слушкаў, Тышкевічаў і іншых, княжацкіх родаў Радзівілаў, Крошынскіх, Саламярэцкіх,

Праз Хлусаў (ці Ніжні) мост цераз Свіслач Траецкае прадмесце злучалася з Ніжнім рынкам, што знаходзіўся каля замкавай брамы ў сутоках Нямігі і Свіслачы. Тут вёўся гандаль аж да XX стагоддзя

Друцкіх-Горскіх, Талачынскіх. Вядомы ў гісторыі гетман вялікі літоўскі Канстанцін Астрожскі меў таксама плац і дом у Менскім замку. Менск зрабіўся важным пунктам абароны Вялікага Княства Літоўскага ў войнах з Вялікім Княствам Маскоўскім. Тут звычайна збіралася паспалітае рушэнне для паходаў супраць маскоўскіх войск, і гетманы падоўгу жылі ў Менскім замку. У 1535 годзе вялікі гетман Юрый Радзівіл некалькі месяцаў збіраў у горадзе войска для вайны з Масковіяй. Наступным 1536 годам ён на чале паспалітага рушэння выступіў з Менска ў свой знакаміты Старадубскі паход, калі быў вызвалены Гомель. У 1508 і 1514 гадах горад наведваў кароль польскі і вялікі князь літоўскі і рускі Жыгімонт Казіміравіч, каб узначаліць войска супраць ворага, у прыватнасці, на Аршанскую бітву.

Якраз тады бурна забудоўвалася Новае месца на правабярэжжы Свіслачы. Тут узвялі драўляную царкву св. Казьмы і Дзям'яна і ратушу (упершыню згадваецца пад 1582 год). У ратушы засядаў «урад места Менскага права майдэборскага» у складзе войта, бурмістраў, радцаў, лаўнікаў

На левым беразе Свіслачы — на Траецкай гары — узнікла аднайменнае прадмесце, так яно называлася з-за Траецкай царквы. Тут знаходзіўся Узнясенскі манастыр. Дата «1000 год», напісаная на каменных плітах, умураваных у манастырскія сцены, сведчыла аб старажытнасці гэтага манастыра (калі гэта не выдумка праваслаўных ідыёлагаў XIX стагоддзя).



Меднікі. Сярэднявечная гравюра.



Абутнікі. Сярэднявечная гравюра.

Археалагічныя раскопкі сведчаць: ужо ў XII—XIII стагоддзях частка Высокага рынку ў раёне вуліц Герцана, Кірылы і Мяфодзія, Музычнага завулка і ўсходняй часткі плошчы Свабоды была заселеная з «паспольствам мяшчанамі». Тут, у ратушы, «у дзень судовы суботні» войт чыніў суд справядлівасці «кожнаму укрывжанаму». Менскі магістрат зрабіўся органам карпаратыўнага кіравання горадам мяшчанскай алігархіяй. Бедныя месцічы, ці «людзі худыя», не маглі трапіць у магістрат, бо туды выбіралі заможных і паважаных людзей — багатых гандляроў і рамеснікаў. Апошнія і пераважалі ў горадзе.

У першай палове XVII стагоддзя ў Менску адбываецца ўздым рамесніцкай вытворчасці. Яшчэ ў 1591 годзе менскія рамеснікі, а менавіта — злотнікі, кавалі, катлаўнікі, латуншчыкі, слесары, гадзіншчыкі, збройнікі і гарбары — падалі ў магістрат скаргу на тое, што ў горадзе «насуперак тутэйшых гарадскіх правоў і вольнасцей не дазволены і не створаны цэх зазначаных рамёстваў, з прычыны чаго ў іх у гэтых рамёствах адбываюцца вялікія хваляванні». Для прадухілення гэтых схваляванняў» рамеснікі прасілі магістрат дазволіць ім стварыць агульны для іх цэх, устанавіць адзіныя сходы, мець цэхмістраў і кіравацца ва ўпраўленні прывілеямі і статутам цэха іх рамёстваў на прыкладзе Віленскага цэха. «Мы ж, разгледзеўшы, прачытаўшы і добра ўсвядоміўшы сабе яго (статут Віленскага цэха. — *В. Ч.*), загадалі ўсе неабходныя ім артыкулы ўпісаць у гэтую нашу грамату», — сказана ў магістрацкай грамаце ад 2 снежня 1591 года. Магістрат дазволіў стварыць у горадзе цэх апрацоўшчыкаў метала, ці, як яго назвалі, цэх сосмю рамёслаў». Прывілей караля Жыгімонта III Вазы ад 20 лістапада 1592 года зацвердзіў статут гэтага цэха.

Пасля ўзніклі цэхі краўцоў (зацверджаныя каралеўскім прывілеем ад 20 лістапада 1592 года), шаўцоў і асобна злотнікаў (зацверджаныя 20 лютага 1609 года), рымароў (зацверджаны магістратам 21 мая 1622 года), ганчароў,

муляроў і цесляроў (зацверджаныя каралём Уладзіславам IV Вазай ад 21 красавіка 1636 года), цесляў (зацверджаныя ім жа 14 ліпеня 1636 года), кушнераў, чапнікаў і балтушнікаў (зацверджаныя 21 красавіка 1636 года). Асобна трэба сказаць пра цэх цырульнікаў (медыкаў), зацверджаныя Уладзіславам IV 27 лютага 1635 года. Цырульнікі мелі адметнае адзенне, каб у крытычны момант кожны месціч мог адшукаць іх на вуліцы ці на рынку для аказання медыцынскай дапамогі. З'яўленне на людзях у іншай вопратцы цырульнікам забаранялася і каралася штрафам.

Рамеснікі аднаго цэха звычайна сяліліся на адной вуліцы. Па назве цэхаў называліся і вуліцы, напрыклад, Рымарская ці Музычны завулак, якія захаваліся да нашага часу. Вольныя рамеснікі, г. зв. «партачы», праследаваліся цэхамі і магістратам. Каб унікнуць рэлігійных звадак, рамеснікі выбіралі аднолькавую колькасць цэхмістраў «рускай» і «польскай» веры.

Такім чынам, Менск зрабіўся горадам майстроў. Цэхавыя статуты значна ўплывалі на ўклад жыцця месцічаў-рамеснікаў і на само жыццё горада. Цэхавыя святы сталі агульнагарадскімі. Кожны цэх і яго сябар абавязаныя былі падчас вайны абараняць горад і з'яўляцца са зброяй на вызначаныя яму месцы абароны. Цэхі мелі свае харугвы, барабаны і нават гарматы. Гэтая агульная для ўсіх гараджан задача — абараняць свой горад — аб'ядноўвала іх, нягледзячы на рэлігійную і маёмасную рознасць.

Уяўленне пра жыццё заможных месцічаў дае раскапаная археолагамі ў 1994 годзе сядзіба XVI стагоддзя на месцы, дзе пазней быў пабудаваны корпус базыльянскага манастыра. Сядзіба складалася з вялікага дома, двара і гаспадарчай пабудовы і была абнесена мураванай агароджай. Цагляны дом меў два прасторныя пакоі, адзін з якіх — памерам 3.40х3.25м. Падлога была драўляная, печы аздоблены паліхромнай кафляй з гербамі (у дадзеным выпадку гербам «Слепаўрон»). Пакоі сядзібы ўпрыгожваў дарагі распісны керамічны і шкляны посуд: келіхі, шкляніцы і чашы для віна. Не ўсякі месціч мог дазволіць сабе жыць у такім прыстойным жытле, але яны існавалі, і пэўна, іх было шмат.

Разам з гербам у 1591 годзе Менск атрымаў ад караля Жыгімонта III права праводзіць два

Цырульнікі мелі адметнае адзенне, каб у крытычны момант кожны месціч мог адшукаць іх на вуліцы ці на рынку для аказання медыцынскай дапамогі. З'яўленне на людзях у іншай вопратцы цырульнікам забаранялася і каралася штрафам

кірмашы: першы — на дзень св. Іллі, другі — на свята Трох каралёў. Гэта права было дадзена для «запоможенья места того Менского», бо месцічы вельмі цярпелі ад пастояў жаўнераў, службовага люду, літвінскіх і маскоўскіх паслоў, што «великие трудности им задавал, для чого на маетностях своих знищенье не малое прыняли», — гаварылася ў каралеўскім прывілеі ад 12 студзеня 1591 года. Ратуючыся ад пастояў і пабораў, яны пераходзілі са сваімі дварамі пад «моц и послушенство князей, панов духовных и шляхты» і не плацілі падаткаў, аб чым у 1589 годзе пісаў менскаму старасце Марціну Тышкевічу-Лагойскаму Жыгімонт III. З-за гэтых пераходаў адбывалася «немало розниц и кривд от панов, шляхты, яко тому месту нашому, так и шкод скарбовы нашому». Для высвятлення становішча кароль нават паслаў у Менск рэвізора Дзмітрыя Скуміна. Вось, пэўна, той і прыйшоў да высновы ладзіць у Менску кірмашы, што, зразумела, паспрыяла развіццю горада.

Мянянам дазвалялася браць дрэвы «паводле даўняга звычаю» на будаўніцтва дамоў і на дровы на тры мілі вакол. Яны маглі пасвіць сваю жывёлу на гарадскім выгане, ім дазвалялася будаваць гарадскую лазню і млын, а таксама ратушу. Усё гэта павінна было спрыяць развіццю горада. І горад спакваля ўзрастаў

## Менскія святыні *(пачатак)*

**Калі вырасла значэнне горада, дык месцічаў ужо не задавальняў яго непрыглядны выгляд. Імкненне мянян да «параднага будованьня домов» заахвоціла іх да ўзвядзення велічных мураваных храмаў.**

У 1612—1620 гадах на Ніжнім рынку на Юр'еўскай вуліцы на сродкі праваслаўнага брацтва была пабудавана мураваная Свята-Петра-Паўлаўская царква. Зямельны ўчастак для будаўніцтва «аж до озера реки Свислочи прилеглый» у 1613 годзе падаравала на «вечные времена» княгіня Аўдоцця Друцкая-Горская, удава маршалка гаспадарскага Багдана Статкевіча, вядомага фундатара Куцеінскай лаўры каля Воршы. Сродкі на будоўлю далі яшчэ 52 месцічы. Для кіраўніцтва будоўляй з Вільні прыбылі некалькі манахаў Віленскага Свята-Духава манастыра. Кіраўніцтва ўзначаліў ігумен Павел Дамжава. Праца ішла дружна і мірна, і неўзабаве Свята-Петра-Паўлаўская царква была пастаўлена, набажэнствы ў ёй паводле некаторых звестак праводзіліся ўжо напрыканцы 1613 года, а да 1620 года яна была дабудавана.

Свята-Петра-Паўлаўскае брацтва, якое ўзнікла пры царкве, разам з жаночым манастыром (заснаваным у 1624 годзе) былі прыпісаны да Віленскага Свята-Духаўскага манастыра, які знаходзіўся ў прамой юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха. Свабоднае ад апекі епархіяльных улад брацтва самастойна вызначала свае справы. Першай і важнай справай братчыкаў стала адкрыццё школы пры манастыры. У ёй выкладаў знакаміты царкоўны дзеяч і пісьменнік Мялецій Сматрыцкі. У Менску ён напісаў свой славуты твор «Трэнас, або Лямант Усходняй царквы», які надрукавалі ў 1610 годзе. Кніга выклікала хвалю абурэння сярод католікаў. Кароль Жыгімонт III загадаў спаліць увесь тыраж кнігі і зняволіць аўтара. Але яго не маглі знайсці, бо Сматрыцкі выпусціў кнігу пад псеўданімам. Праваслаўныя вернікі беражліва захоўвалі як скарб «Трэнас», прызнавалі яго нараўне з творамі святых айцоў.

Услед за Свята-Петра-Паўлаўскім брацтвам узніклі Уваскрэсінскае і Крыжаноснае брацтвы, брацтвы святога Міхаіла, святога Мікалая, святога Іаана Хрысціцеля, святой Ганны. Усяго на той час у Менску дзейнічала 13 праваслаўных цэркваў, але драўляных, і пры кожнай існавала сваё брацтва. Праваслаўныя вернікі пераважалі ў горадзе. А першае брацтва ў Менску, якое ўзнікла яшчэ ў 1592 годзе ў замку пры Саборнай царкве Нараджэння Багародзіцы, адкрыла школу і шпіталь, зацверджаныя каралеўскім прывілеем 11 верасня 1592 года. Братчыкі не толькі абаранялі сваю веру, але вялі шырокую культурна-асветніцкую дзейнасць.

Пасля заключэння 6 кастрычніка 1596 года ў Бярэсці царкоўнай уніі паміж каталіцкай і праваслаўнай цэрквамі ў Менску паступова пачало пашырацца ўніяцтва. Уніяты завалодалі Казьмадзям'янскай царквой на Новым месцы (раён сучаснага Свята-Духаўскага сабора) і Узнясенскім манастыром (знаходзіўся на месцы будынка штаба Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь). Асабліва было горка і крыўдна праваслаўным месцічам, што ўнію ўводзіў мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсея Русі Міхаіл Рагоза, які некалі з 1576 па 1582 год служыў архімандрытам ва Узнясенскім манастыры. Праваслаўныя вернікі, як маглі, супраціўляліся ўвядзенню ўніі. 7 снежня 1609 года яны нават захапілі ўніяцкую царкву Нараджэння Багародзіцы на вуліцы Няміга. Магістрат, у які ўваходзілі праваслаўныя, аддаў царкву захопнікам.

Буйное выступленне праваслаўных месцічаў адбылося 24 жніўня 1616 года, якіх («амаль увесь горад») падбухторыў бурмістр Іван Пілацік і яго паплечнікі Іван Орлік і Іван Лукошка. Яны напалі на ўніяцкі манастыр Святога Духа, разбурылі манастырскія пабудовы, а невялікія будынкі расцягнулі дарэшты. Пазней названыя асобы падгаварылі нейкіх бадзяг падпаліць царкву Святога Духа, а 4 кастрычніка «падасланы з ратушы зброд» уварваўся на царкоўную званіцу, пераламаў на ёй дошкі і нарабіў дзірак. У сваю чаргу і ўніяты адказвалі ваяўнічасцю: нацкоўвалі вучняў уніяцкіх школак на праваслаўных вучняў, ды і самыя дарослыя вернікі кулакамі адстойвалі паміж сабой святасць сваёй канфесіі.

**Кірыл Мяцеліца**

# У чарадзейным княстве

Інфармацыю пра чорную магію, злых чарадзеяў і бязлітасных інквізітараў мы часцей суадносім з Заходняй Еўропай, чым з нашай мінуўшчынай. Забываем, што на беларускай зямлі жылі самыя сапраўдныя чараўнікі і ведзьмы.

Дзякуючы гісторыку Уладзіміру Лобачу мы ведаем, што ў 1691 годзе ў Гародні разглядалася судовая справа жыхара маёнтка Коханава Максіма Знака, якога абвінавачвалі ў чарадзействе. Падставай была скарга гарадзенцаў Сымона Юхальскага з жонкай, якія валодалі шынком. Гэтыя людзі абвінавачвалі Максіма Знака ў тым, што той наклаў чары на «асоб з дзецьмі вышэйпамянёных і цэлага дому». Знак, у сваю чаргу, прызнаваў за сабой знахарскія здольнасці, але абвінавачванні ў чарадзействе адмаўляў. Аднак падчас катавання няшчасны прызнаўся ў тым, што сапраўды наклаў чары на шынок Юхальскіх. Высветлілася: чарадзей дзейнічаў па замове адной з канкурэнтак істцоў, яна таксама валодала шынком. Акрамя таго, каты даведаліся ад Знака яшчэ пра дзевяць чараўнікоў, сярод якіх былі знахары, шкоднікі і нават тыя, хто быццам меў здольнасць лётаць. Пасля катаванняў падазронага, які прызнаў сваю віну, прыгаварылі да спалення на вогнішчы.

У гісторыі гарадзенскага чарадзея асаблівую цікавасць уяўляе колькасць названых ім навакольных чараўнікоў, якая сведчыць аб тым, што калісьці заняткі чараўніцтвам не былі такой ужо рэдкай з'явай на тэрыторыі ВКЛ. Магчыма, прычыны гэтага неабходна шукаць у тым, што доўгі час на беларускіх землях хрысціянства суіснавала з паганскімі культамі. Але не трэба думаць, што праслаўутае дваявер'ства было ўласціва выключна нашым продкам — праз гэта ў свой час прайшлі ўсе народы, якія прынялі хрышчэнне. Нават у V стагоддзі сярод сялян Візантыі захоўваліся культы Дыяніса і Пана. Больш за тое, ледзь не да самага падзення Канстанцінопаля ў 1453 годзе мясцовыя святары карысталіся рознымі заклінаннямі, з дапамогай якіх выганялі злых духаў, лячылі хваробы і г. д. Што датычыцца нашых продкаў, то аўтар Першапачатковага

Са з'яўленнем на палітычнай карце Еўропы Вялікага Княства Літоўскага склалася сітуацыя, калі ў адной дзяржаве апынуліся балцкія паганцы і славянскія «фармальныя» хрысціяне. Зразумела, што гэта не спрыяла знішчэнню веры ў чарадзейства

летапісу адкрыта пісаў пра людзей той эпохі, што яны «поганьски живуще». Пасіўная і схільная да кампрамісаў з праявамі архаічных традыцый праваслаўная царква наўпрост не магла «пераварыць» такую колькасць паганцаў. Некаторыя гісторыкі далучаюць да такіх паганцаў і самага вядома беларускага чарадзея — полацкага князя Усяслава, якога маці нібыта нарадзіла «от волъхвования». Самі валхвы пачалі знікаць у XIII стагоддзі, але абрадавая магія засталася.

Са з'яўленнем на палітычнай карце Еўропы Вялікага Княства Літоўскага склалася сітуацыя, калі ў адной дзяржаве апынуліся балцкія паганцы і славянскія «фармальныя» хрысціяне. Зразумела, што гэта не спрыяла знішчэнню веры ў чарадзейства. На фоне Еўропы і рускіх княстваў, дзе, пачынаючы з XIII стагоддзя, сталі пашырацца рэпрэсіі супраць ведзьм і чараўнікоў, ВКЛ лічылася сапраўднай краінай чарадзеяў. Аб гэтым шмат пісалі тагачасныя вандроўнікі. Узяць, напрыклад, Сігізмунда Герберштэйна, які ў сваіх «Запісках аб Масковіі» апісаў мноства дзіўных для тагачаснага еўрапейца рытуалаў ліцвінаў. Ды і гісторыя пра пана Твардоўскага, да якога, згодна з вядомай легендай, страціўшы сваю Барбару, звярнуўся няшчасны Жыгімонт Аўгуст, з'явілася не на пустым месцы. Схільны

Яшчэ ў першай палове XVII стагоддзя выхадцы з ВКЛ успрымаліся ў Маскве як патэнцыйныя магічныя шкоднікі. І гэта пры тым, што па ўзроўню цемрашальства Масковія пераўзыходзіла іншыя еўрапейскія краіны раннемадэрновага часу

Каб пацвердзіць ці абвергнуць абвінавачванні, патэнцыйным ведзьмам і чараўнікам даводзілася прайсці дзікі з нашага пункта гледжання іспыт вадой. Падазроных звязвалі і кідалі ў ваду. Калі тыя патаналі, то з іх здымаліся ўсе абвінавачванні. Тых жа, хто заставаўся на паверхні, чакала вогнішча…

да містыцызму манарх, як і яго дзед Ягайла, акружыў сябе living рознымі чараўнікамі, знахарамі і прадказальнікамі. Па некаторых сведчаннях некалькі літвінскіх чараўнікоў прысутнічала нават пры двары імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Рудольфа II, таго самага, што глядзіць на нас са знакамітага партрэта Джузэпэ Арчымбольда.

Калі ў Еўропе цікавіліся нашымі чарадзеямі, то ў Масковіі іх шчыра пабойваліся. У дзяржаве Раманавых увогуле да літвінаў ставіліся, як да людзей, якія «нешта ведаюць», маючы на ўвазе веды магічныя, таямнічыя. Зараз у гэта цяжка паверыць, але яшчэ ў першай палове XVII стагоддзя выхадцы з ВКЛ успрымаліся ў Маскве як патэнцыйныя магічныя шкоднікі. І гэта пры тым, што па ўзроўню цемрашальства Масковія пераўзыходзіла іншыя еўрапейскія краіны раннемадэрновага часу. Напрыклад, кожны царскі слуга павінен быў даваць клятву «*лиха никакого не учинити и не испортити, и зелья лихого и коренья не давати, людей своих с ведовством, да со всяким лихим зельем и со кореньем не посылати, и ведунов и ведуний не добывати, следу всяким ведовским мечтанием не испортити, по ветру никакого лиха не насылати, и следу не вынимати*». За чарадзейства ў Маскве каралі спаленнем. Апошнім расійскім чараўніком, якога прыгаварылі да такога пакарання, быў нейкі Андрэй Казіцын з Ярэнска. Гэта адбылося ў 1762 годзе. Ад смерці яго выратаваў толькі ўведзены за чатыры гады да гэтага маратoрый на смяротнае пакаранне.

У ВКЛ чарадзейства таксама лічылася крымінальнай справай. Паколькі выпадкі «шкоднай магіі» часцей за ўсё фіксаваліся ў сельскай мясцовасці, то няма нічога дзіўнага ў тым, што разглядаліся яны копнымі судамі. Часцей за ўсё, каб пацвердзіць ці абвергнуць абвінавачванні, патэнцыйным ведзьмам і чараўнікам даводзілася прайсці дзікі з нашага пункта гледжання іспыт вадой. Падазроных звязвалі і кідалі ў ваду. Калі тыя патаналі, то з іх здымаліся ўсе абвінавачванні. Тых жа, хто заставаўся на паверхні, чакала вогнішча… Справа ў тым, што згодна з архаічнымі ўяўленнямі вада як стыхія чысціні не можа прыняць нешта злое. Падобныя іспыты былі звычайныя і для Заходняй Еўропы. Увогуле, судовыя працэсы над заходнееўрапейскімі і нашымі чараўнікамі праходзілі па адным алгарытму. Розніца была толькі ў тым, што ў ВКЛ сям'я чарадзея не несла ніякага пакарання і, акрамя таго, маёмасць яго не канфіскоўвалася.

У другой палове XVII стагоддзя ў сувязі з наступам каталіцызму судовыя працэсы над чарадзеямі ў ВКЛ станавіліся ўсё больш падобнымі да тых, што праводзілі інквізітары ў Еўропе — катаванні, катаванні і яшчэ раз катаванні. Цяпер падазронаму ўжо мала было проста прызнаць сваю віну, ад яго патрабавалі назваць імёны іншых чараўнікоў. Прыкладам тут можа быць згаданая ў самым пачатку справа Максіма Знака. Але бывалі выпадкі, калі людзей, што падазраваліся ў чарадзействе, забівалі без суда. Гэта датычылася ў першую чаргу прыгонных сялян, з якімі феадал мог расправіцца з-за аднаго толькі падазрэння. Адзін з самых дзікіх выпадкаў адбыўся ў 1758 годзе, калі аканом графа Тышкевіча паведаміў свайму пану, што спаліў шэсць чараўніц. Гэта быў не адзінкавы выпадак. На жаль, XVIII стагоддзе вельмі багатае на падобныя гісторыі. На нашых землях крымінальная адказнасць за чараўніцтва была скасаваная толькі ў 1776 годзе.

Судовыя працэсы над заходнееўрапейскімі і нашымі чараўнікамі праходзілі па адным алгарытму. Розніца была толькі ў тым, што ў ВКЛ сям'я чарадзея не несла ніякага пакарання і, акрамя таго, маёмасць яго не канфіскоўвалася

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

# праект «ВАРШТАТ»

**Стагоддзе:** XVI, XVII, XVIII

**Падзея:** Статут ВКЛ

**Акалічнасці:** «Вертаград душэўны» Фікары Святагорца, пропаведзі архімандрыта Лявонція (Карповіча), «Апраўданне нявіннасці» Мялеція Сматрыцкага і іншае з друкарні віленскага брацтва

**У выпуску:**

- Алесь Суша. Статут Вялікага Княства Літоўскага ў кантэксце кніжнай культуры Беларусі
- Таццяна Карнілава. Брацкае кнігадрукаванне — выдавецкая дзейнасць праваслаўных брацтваў у XVI-XVIII стагоддзях. (***Артыкул-канспект)***



ѵчхбзд нхсяце пафы

**Алесь Суша**

# Статут Вялікага Княства Літоўскага ў кантэксце кніжнай культуры Беларусі

Выданне Статута Вялікага Княства Літоўскага ў трэцяй рэдакцыі з’яўляецца вельмі важнай падзеяй для беларускай культуры. Прычым культуры ў цэлым, а не толькі асобных яе сфер, як, напрыклад, прававой і кніжнай культуры, культуры маўлення і літаратурнай творчасці. Менавіта таму нашай важнэйшай мэтай з'яўляецца сабраць спецыялістаў розных галін ведаў, якія займаюцца вывучэннем Статута — кнігазнаўцаў, правазнаўцаў, гісторыкаў, культуролагаў, лінгвістаў, літаратуразнаўцаў, супрацоўнікаў бібліятэк і музеяў, навучальных і навуковых устаноў Беларусі і сумежных краін. Менавіта такі падыход дазваляе разгледзець канкрэтны помнік культуры шматаспектна, комплексна.

У той жа час даводзіцца канстатаваць, што айчыннае кнігазнаўства істотна саступае свае пазіцыі іншым галінам навуковых ведаў. Так, ужо даволі даўно правазнаўцы не толькі здолелі грунтоўна разгледзець Статут ВКЛ як канкрэтны нарматыўны прававы дакумент, але і далі яму ацэнку ў адпаведнасці з яго сацыяльнай значнасцю як помніка прававой культуры. Мовазнаўцы не толькі прааналізавалі мову гэтага дакумента, але і акрэслілі яго важнасць у кантэксце моўнай сітуацыі адпаведнага перыяду, выявілі яго значэнне для далейшага развіцця беларускай мовы. Гісторыкі таксама не толькі вывучылі час, месца і абставіны стварэння Статута, апісалі ўдзел у гэтым працэсе канкрэтных гістарычных асоб, але і вызначылі яго ролю ў гістарычным развіцці нашага народа.

Кнігазнаўцы ж даволі часта абмяжоўваюцца звычайнай фіксацыяй вынікаў сваіх даследаванняў адносна характару таго ці іншага выдання: надрукавана ў такім і такім населеным пункце, такім выдаўцом і друкаром, на такой паперы, з выкарыстаннем такіх і такіх шрыфтоў, гравюр, з такімі і такімі сігнатурамі, філігранямі і г.д. На вялікі жаль, на гэтым аналіз нават самых каштоўных рукапісных і друкаваных кніг часта заканчваецца, не дасягаючы аксіялагічнага ўзроўню абагульненняў і высноў пра сацыяльную і агульнакультурную значнасць таго ці іншага твора.

У выніку ў свядомасці грамадства Статут ВКЛ успрымаецца найперш як помнік прававой культуры, важная крыніца па гісторыі беларускай мовы, сведчанне і гарантыя яе высокага развіцця, гістарычны помнік, які дазволіў нашай даўняй дзяржаве захаваць сваю незалежнасць у складзе канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай і паспрыяў нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

У апошнюю чаргу можна згадаць: гэта яшчэ і помнік кніжнай культуры, што абсалютна заслужана. Іначай незразумелым было б імкненне беларусаў набыць арыгінальныя выданні Статута ВКЛ, вярнуць іх на Радзіму або атрымаць хаця б іх лічбавую копію. Бо для даследчыкаў яго як помніка айчыннай прававой культуры і гісторыі беларускай мовы няма ніякай патрэбы ў працы з арыгіналам — ім дастаткова наяўнасці факсімільнага ўзнаўлення і апублікаваных

**Пра незразумелыя літаркі на вокладцы праекта «Варштат»**

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур’ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца абракадабра?!*

*Ніякая не абракадабра, а… арбадакарба. Бааракадрба. Аьматацаьма. F,hfrflf,hf. Бвсблбебвсб. Што мы выкарысталі для зашыфроўкі такога простага слова «абракадабра» — тарабарскую грамату, мудрую літарэю, шыфр пад назвай ROT1, іншыя перастановачныя ключы?*

*На вокладцы нашага праекта размяшчаецца не абракадабра, а зашыфраваная частка выказвання. Займець цэлы зашыфраваны выраз магчыма толькі пры чытанні ўсіх нумароў «Маладосці» за год. Сабраўшы часткі ў парадку, які супадае з нумарацыяй часопіса, знайшоўшы ключ і расшыфраваўшы выказванне, можна атрымаць ад «Маладосці» шыкоўны прыз!*

*Месца выдачы прызоў — рэдакцыя «Маладосці». Тэрмін выдачы: 25—31 снежня 2017 года.*



за апошнія гады тэкстаў гэтага дакумента на арыгінальнай старабеларускай мове і ў перакладах на іншыя. Імкненне атрымаць арыгінал сведчыць пра разуменне важнасці кожнага канкрэтнага асобніка Статута ў яго матэрыяльным увасабленні і з сваім уласным шматвекавым лёсам.

Як вядома, Статут ВКЛ **неаднаразова выдаваўся**. Першыя тры выданні (1588, каля 1592—1593, каля 1600) былі апублікаваны на старабеларускай мове ў віленскай друкарні Мамонічаў. Прычым усе тры выйшлі пад аднымі выхаднымі дадзенымі — 1588 год, што таксама мае пэўнае значэнне для даследчыкаў кніжнай культуры Беларусі.

Першае выданне мела загаловак «Статут Великого Князства Литовского // от наясне/й/шого г/о/с/по/д/а/ра короля его м/и/л/о/сти // Жикимонъта третего на коронацыи // в Кракове выданый року // 1588. // Друковано в великом месте Виленьском, // в друкарни дому Мамоничов. // З ласки и прывилья короля его м/и/л/о/сти//». На вялікі жаль, не захавалася ні аднаго яго поўнага асобніка: усе з захаваных — дэфектныя. У поўным асобніку павінна быць каля 317 аркушаў (40 ненумараваных аркушаў і 554 нумараваныя старонкі), з улікам памылак у пагінацыі (адсутнічаюць старонкі 42, 460—479, двойчы пранумараваныя старонкі 271, 279, 498) — 308 аркушаў. У некаторыя экзэмпляры першага выдання ўключаныя дадаткова 2 старонкі папраўленых друкарскіх памылак — «Омылки, которыи трафилися в друку. Так собе читай и розумей». Фармат аркушаў — 2 з наборам 225x140 мм. Тут маюцца таксама кустоды, літарныя сігнатуры. Ужо ў гэтым першым асобніку для лепшага візуальнага ўспрыняцця друк ажыццяўляўся ў дзве фарбы — чорную і чырвоную.

Другое і трэцяе выданні маюць нязначныя адрозненні ад першага ў афармленні тытульнага аркуша (напрыклад, у другім выданні герб Вялікага Княства Літоўскага змешчаны пад каронай, а не пад пер'ямі, дададзеная цытата з Бібліі, ёсць памылка ў прозвішчы выдаўцоў), а таксама ў наборы тэксту. У цэлым яны падобныя да першага: тытульны аркуш, дадаткі, рэестр або змест, асноўны тэкст.

Першыя выданні Статута ВКЛ на польскай мове пабачылі свет у друкарні Мамонічаў у 1614, 1619 і каля 1623 года, прычым у апошнім з іх былі захаваны выхадныя дадзеныя папярэдняга (з датай «1619»). Яны мелі новыя тытульныя аркушы, прысвячэнні, алфавітныя рэестры, складзеныя С. Галянскім. Імя аўтара гэтага перакладу невядома. Першы пераклад на польскую мову быў зроблены яшчэ ў 1580-я гады, але да выданняў XVII стагоддзя яго значна перапрацавалі. У выданнях 1619 і 1623 гадоў прысутнічаюць супастаўленні кожнага артыкула з нормамі кароннага права паводле Статута Гербурта або сеймавых канстытуцый. У гэтыя кнігі таксама ўнесеныя пранумараваныя параграфы, што рабіла больш зручным практычнае карыстанне дакументам. Гэта праца (як і складанне супастаўленняў) выканана правазнаўцам Б. Гаўлавіцкім.

Наступныя польскамоўныя выданні Статута пабачылі свет у варшаўскай каралеўскай друкарні П. Элерта ў 1648 годзе (з прысвячэннем каралю





Уладзіславу IV), у віленскай акадэмічнай друкарні (1693, 1744, 1780 (апошняе з датай «1744»)), акадэмічнай друкарні ў Познані (1786) і друкарні А. Марцінoўскага ў Вільні (1819). Надзвычай каштоўны таксама і падрыхтаваны варыянт выдання Статута ВКЛ ў двух частках ў Санкт-Пецярбургу паралельна на польскай і рускай мовах (1811). Што характэрна, пераклад на рускую мову рабіўся не са старабеларускіх выданняў канца XVI стагоддзя, а з пазнейшых, крыху зmененых польскамоўных выданняў віленскай акадэмічнай друкарні XVIII стагоддзя.

На працягу перыяду афіцыйнага дзеяння Статута яго асобнікі актыўна выкарыстоўваліся. Трэба адзначыць, што як звод законаў гэты дакумент дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі і некаторых сумежных краёў не толькі ў перыяд існавання Вялікага Княства Літоўскага, але і пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі і захоўваў сваю правамоцнасць ў Віцебскай і Магілёўскай губернях да 1831 года, а ў Віленскай, Мінскай і Гродзенскай — да 1840 года.

Вялікую каштоўнасць маюць таксама тыя выданні Статута, якія пабачылі свет ужо пасля спынення яго дзеяння. Напрыклад, рэдкім і важным з'яўляецца адно з іх, апублікаванае ў Маскве на мове арыгінала — старабеларускай — Імператарскім Маскоўскім таварыствам гісторыі і старажытнасцей расійскіх (1854). Вялікае значэнне мае нават адносна сучаснае выданне, падрыхтаванае выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя» ў 1989 годзе і прысвечанае 400-годдзю Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Гэта кніга стала першай на Беларусі поўнай публікацыяй Статута. Выданне ўключае нарыс «Сацыяльна-гістарычныя ўмовы ўзнікнення Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года», факсімільнае ўзнаўленне яго тэксту, а таксама арыгінальны тэкст і пераклад на рускую мову, энцыклапедычны даведнік з 820 артыкулаў, паартыкульны каментарый, тэрміналагічны і імянны паказальнікі. Сярод іншага там былі змешчаны артыкулы пра крыніцы Статута і іншыя прававыя акты і дакументы XV—XVI стагоддзяў, пра гісторыю яго падрыхтоўкі і выдання, паліграфічныя і мастацкія асаблівасці. Шэраг артыкулаў прысвечаны выкарыстанню, захоўванню і гісторыі даследавання Статута.

Яшчэ адным важным аспектам вывучэння Статута 1588 года з'яўляецца даследаванне **кантэксту яго ўзнікнення,** параўнальны аналіз (не толькі ў прававым, але і ў кнігазнаўчым аспекце) з папярэднімі і наступнымі рэдакцыямі статутаў, канстытуцый і іншых прававых зводаў. Як вядома, гэты Статут нярэдка называюць Трэцім, паколькі ён меў сваіх папярэднікаў — Статут 1529 года (Першы Статут) і Статут 1566 года (Другі Статут), якія не былі апублікаваны і выкарыстоўваліся ў рукапіснай форме.

Статут ВКЛ 1529 года быў складзены камісіяй на чале з канцлерам ВКЛ А. Гаштольдам (некаторыя даследчыкі мяркуюць, што ў яго падрыхтоўцы і рэдагаванні прымаў удзел Ф. Скарына) на аснове кадыфікацыі і сістэматызацыі норм мясцовага звычаёвага права, пастаноў судовых і дзяржаўных устаноў, Судзебніка 1468 года («Судзебніка Казіміра»), розных прывілеяў. Дакумент меў 13 раздзелаў і 244 артыкулы. Пазней у яго былі ўнесены дапаўненні, у выніку чаго колькасць артыкулаў павялічылася да 283. Вядомыя пераклады Статута 1529 года на лацінскую (1530) і польскую (1532) мовы.

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 года меў сваімі асноўнымі крыніцамі агульназемскія і абласныя прывілеі, Судзебнік 1468 года, Статут ВКЛ 1529 года і некаторыя нормы звычаёвага, а таксама царкоўнага (і каталіцкага, і праваслаўнага) права. У ім спалучаліся таксама тэарэтычныя распрацоўкі мясцовага права з вынікамі практычнай дзейнасці і тэарэтычнымі асновамі рымскага і заходнееўрапейскага права. Для падрыхтоўкі гэтага дакумента ў 1551 годзе меркавалася стварыць камісію з 10 чалавек (5 католікаў, 5 праваслаўных), якую, магчыма, у іншым складзе, узначаліў канцлер М. Радзівіл (Чорны). У асноўным была захавана структура Статута 1529 года (367 артыкулаў Статута 1566 года былі аб'яднаны ў 14 раздзелаў). Напісаны на беларускай мове, ён быў перакладзены таксама на лацінскую і польскую.

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года меў у сваёй аснове Статуты 1529 і 1566 гадоў, сеймавыя пастановы 1566, 1569, 1571, 1573, 1578, 1580 і 1584 гадоў, прывілеі, пастановы павятовых сеймікаў. Ён быў падрыхтаваны на высокім тэарэтычным узроўні кваліфікаванымі правазнаўцамі пад кіраўніцтвам канцлера ВКЛ А. Валовіча і падканцлера Л. Сапегі. Гэты статут мае 14 раздзелаў і 488 артыкулаў. У плане паліграфічнага афармлення выкарыстоўваліся таксама ўзоры выданняў прававога характару, якія пабачылі свет у суседняй Польшчы і некаторых іншых еўрапейскіх краінах, хаця, безумоўна, больш заўважным быў уплыў мясцовай кірылічнай рукапіснай традыцыі.

Урэшце, меў месца і адваротны эфект: з'яўленне Статута 1588 года істотна паўплывала ў далейшым на развіццё прававой і кніжнай культуры, прычым не толькі Беларусі, але і далёка за яе межамі. Так, напрыклад, гэты дакумент скарыстоўваўся пры кадыфікацыі прускага права ў канцы XVI стагоддзя, складанні Сабornага ўлажэння 1649 года ў Расіі. У заканадаўстве і судах Польшчы, Латвіі, Эстоніі ён ужываўся як дадатковая крыніца. Статут 1588 года быў галоўным пісьмовым зводам дзеючага права на Украіне (у Кіеўскай, Падольскай і Валынскай губернях дзейнічаў да 1840 года).

Вартая асобнага разгляду практыка **перакладу** яго на замежныя мовы, якая, з аднаго боку, сведчыла пра шматмоўнасць інтэлектуальнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, а, з іншага боку, падкрэслівала інтэнсіўнасць міжкультурных і міжнародных кантактаў краіны, высокі ўзровень яе прававой культуры. У XVI—XIX стагоддзях Статут быў перакладзены на польскую, лацінскую, рускую, украінскую, нямецкую, французскую мовы і пашыраны на тэрыторыі ўсёй Еўропы. Напрыклад, у сярэдзіне XVII стагоддзя быў зроблены пераклад яго на рускую мову. Нямецкі пераклад (1632), які ўпамінаў у сваіх даследаваннях І. М. Даніловіч, захоўваўся ў бібліятэцы Дэрпцкага (Тартускага) універсітэта і, на думку І. І. Лапо, прызначаўся для той часткі Ліфляндыі, якая ў першай палове XVII стагоддзя належала Вялікаму Княству Літоўскаму.

Сёння важнай задачай з'яўляецца **выяўленне ўсіх захаваных асобнікаў Статута** — друкаваных і рукапісных, на старабеларускай мове і перакладных, якія знаходзяцца ў дзяржаўных і прыватных зборах Беларусі і замежных краін.

Друкаваныя выпускі захаваліся ў большай колькасці, чым рукапісныя. Аднак, нягледзячы нават на гэта, у Беларусі няма ніводнага асобніка першага друкаванага выдання Статута, падрыхтаванага Мамонічамі ў 1588 годзе. Большасць захаваных асобнікаў сёння можна знайсці ў дзяржаўных зборах Расіі (Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы, Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, бібліятэцы Расійскай акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу, навуковай бібліятэцы Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта) і Украіне (у Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя У. І. Вярнадскага, Львоўскай нацыянальнай навуковай бібліятэцы імя В. Стэфаніка, Нацыянальным музеі імя А. Шаптыцкага ў Львове, навуковай бібліятэцы Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя І.Франка, Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Харкаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя В.Н. Каразіна). Некаторыя экзэмпляры выяўленыя таксама ў Літве (у бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта), Латвіі (Нацыянальнай бібліятэцы Латвіі), Польшчы (у бібліятэцы Ягелонскага ўніверсітэта і Курніцкай бібліятэцы), Швецыі (бібліятэка Упсальскага ўніверсітэта).

Прыблізна такая ж сітуацыя назіраецца з другім выданнем, якое пабачыла свет каля 1592—1593 гадоў. Яно захоўваецца ў дзяржаўных зборах Расіі, Украіны, Польшчы. Трэцяе выданне



A.

Actio *perſonalis*, to ieſt oczywiſta rozprawa w rzeczach krwawych, gdzie o gardło idzie, *Rozd.* 4. *art.* 30. § 3. *art.* 57. § 1. *Actus perſonalis* za zapiſem, albo kiedy co komu przeciw liſtowi ſwemu mowić potrzeba; *Rozd.* 4 *art.* 57. §. 1. *Rozd.* 7. *art.* 7. §. 1. *Actus perſonalis euictionis in cauſa exceſſûs* y innych ſprawach *Rozd.* 4. *art.* 55. §. 1. *vid. tit. Euictio Euictor Nro.* 1. 2. *vid. tit.* Zapis anteceſſora *Nro* 24. 25. *vid. tit.* Zaſtępca *Nro* 1. *vid. tit.* oſobiście *Nro* 1.

Agenci za ſzranki przeſtępować nie powinni, *excepto* tylko kancellaryi trybunalſkiey, ze wſzelką gotowością y dokumentami przychodzić; doſkonale wiedzieć, iakie *in anteceſſum* zażywane były dylacye od pryncypałow, aby onych *ſecundario* nie pretendo-

A

Actio

Статута (1600) таксама знаходзіцца ў фондах бібліятэк і архівах Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, а таксама ў некаторых прыватных зборах. Што тычыцца пазнейшых выданняў на польскай мове, то іх паўнацэнны улік яшчэ чакае свайго часу.

Вядома, што да Другой сусветнай вайны ў зборах Дзяржаўнай бібліятэкі БССР (сёння — Нацыянальная бібліятэка Беларусі) захоўвалася адно з першых кірылічных выданняў Статута, атрыманае ад вядомага беларускага гісторыка А. Сапунова. Падчас апошняй сусветнай вайны гэта кніга была вывезена за межы Беларусі, але не страчана. Сёння яе можна ўбачыць у зборы Беларускай бібліятэкі і музея імя Ф. Скарыны ў Лондане. У выніку да нядаўняга часу ў дзяржаўных зборах нашай краіны не было ніводнага кірылічнага выдання Статута. Толькі ў 2012 годзе, дзякуючы намаганням устаноў культуры і прыватных арганізацый, а таксама беларускай грамадскасці для збораў Музея гісторыі горада Магілёва было набыта адно з іх.

Важна, што ўпершыню ў беларускай гісторыі супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі **паспрабавалі сабраць разам** і прадставіць шырокай грамадскасці найбольш каштоўныя выданні Статута. Гэта ідэя была рэалізавана ў час арганізацыі выставы «Вялікі Статут Вялікага Княства», адкрытай у межах IX Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў. На экспазіцыі, створанай на аснове фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Музея гісторыі горада Магілёва, былі прадстаўлены фактычна ўсе выданні Статута ВКЛ, якія ёсць у нашай краіне. Перспектыўным напрамкам працы ў гэтым кірунку з'яўляецца максімальна поўны бібліяграфічны ўлік усіх яго асобнікаў, якія захаваліся да нашых дзён. Гэта праца павінна быць выканана ў межах рэалізацыі Праграмы развіцця нацыянальнай бібліяграфіі Беларусі. Яшчэ адным напрамкам з'яўляецца «віртуальнае збіранне» поўных электронных копій захаваных экзэмпляраў Статута і іх канцэнтрацыя ў пэўнай паўнатэкставай базе даных, відавочна, гэта павінна быць зроблена ў кантэксце стварэння Нацыянальнай электроннай бібліятэкі Беларусі.

Даследчыкам кніжнай культуры важна працягваць вывучэнне **ўладальніцкіх пазнак** на захаваных асобніках гэтага кніжнага помніка, што таксама дазваляе зрабіць пэўныя высновы пра яго бытаванне, выкарыстанне, стаўленне да яго з боку прадстаўнікоў розных пластоў грамадства. Шырокае распаўсюджанне Статута ў асяроддзі шляхты, мяшчан, духавенства ВКЛ тлумачылася практычнымі патрэбамі. Можна сказаць, што мала якое іншае беларускае выданне XVI—XVIII стагоддзяў карысталася такой папулярнасцю. Пра гэта сведчаць сярод іншага і шматлікія надпісы на старонках рукапісных спісаў і выданняў Статута, якія дасюль недастаткова даследаваныя. Мноства памет у тэксце, каментарыі прававога характару на палях, спасылкі на новыя заканадаўчыя акты

і «паправы» сведчаць, што кнігі былі ў службовым карыстанні. Некаторыя экзэмпляры Статута належалі некальким уладальнікам.

Сёння па ўладальніцкіх пазнаках добра вядома, што друкаваныя і рукапісныя асобнікі гэтага дакумента найбольш актыўна выкарыстоўваліся ў XVI—XIX стагоддзях на землях Беларусі, Літвы і Украіны, у меншай ступені — у суседніх Польшчы і Расіі. Яны зберагаліся як у бібліятэках буйных манастыроў (Жыровіцкага, Пінскага Богаяўленскага, Віленскага Траецкага, Мілецкага і інш.), навучальных устаноў (Віленскага ўніверсітэта, Слуцкай езуіцкай калегіі), дзяржаўных структур (канцыляры падстолія віцебскага і старосты смаленскага, Маскоўскага галоўнага архіва Міністэрства замежных спраў Расійскай Імперыі), іншых арганізацый (Маскоўскай сінадальнай друкарні, Эрмітажа, шматлікіх судовых устаноў, вялікакняжацкай і іншых канцылярый), буйных магнатаў (Сапегаў, Радзівілаў, Замойскіх, Залускіх, Трызнаў, Чапскіх, Шэметаў і інш.), шляхцічаў і дваран (А. Бельскага, Я. Журакоўскага, Л. Кіркілы, І. Лысакоўскага, К. М. Паца, І. Поляка, В. Савіча, Г. Сакалінскага, С. Сулімы, Г. Чарчыцкага), святароў (І. Ячынскага), пісараў і адвакатаў (С. Манкевіча, В. Усовіча), пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў (С. Мядзведзева), даследчыкаў (праф. К. Яблонскіса) і інш. У XIX—XX стст., пасля забароны на выкарыстанне Статута на землях колішняга Вялікага Княства Літоўскага, большасць гэтых кніг разышлася па бібліятэках, архівах і музеях замежных краін.

Асобная ўвага павінна быць таксама звернута на тое, разам з якімі яшчэ выданнямі **перапляталіся ў агульны канвалют** выданні Статута. Гэта можа даць дадатковую інфармацыю пра характар яго ўжывання, пра неабходнасць паралельнага выкарыстання яго з іншымі прававымі актамі, гістарычнымі хронікамі, нават літаратурнымі творамі.

Напрыклад, Альшэўскі спіс Статута 1529 года ўключае таксама пашыраную рэдакцыю «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», юрыдычныя акты 1530—60-х гадоў і іншыя матэрыялы. Значная колькасць друкаваных кніг суправаджалася выданнямі «Трыбунала абываталям Вялікага Княства Літоўскага», «Канстытуцый» вальных сеймаў Рэчы Паспалітай і іншымі. Так, у польскамоўным экзэмпляры Статута 1614 года са збораў Цэнтральнага дзяржаўнага архіва старажытных актаў Расійскай Федэрацыі ў канцы ўплеценага «Трыбунала...» 1586 года унесена кароткая гістарычная хроніка, якая ахоплівае шэраг памятных падзей 1535—1645 гадоў.

Недастаткова даследаваным застаецца аспект **мастацкага аздаблення** выданняў Статута ВКЛ. А між тым мастацкае афармленне гэтых кніг варта ўвагі да сябе.

Так, тытульныя аркушы ўжо першых кірылічных выданняў Статута (1588, 1592/93, 1600) маюць прыгожае графічнае аздабленне. У іх верхняй частцы разам з дэкаратыўным раслінным абрамленнем выгравіраваны вяззю загаловак кнігі — «Статут Великого Князства Літовского». У цэнтры старонкі — адбітак дзяржаўнага герба ВКЛ у абрамленні гірлянды з лісця. Знешнім выглядам тытульны аркуш нагадвае тытул больш ранняга выдання Мамонічаў (1586) — «Трыбунала абываталям Вялікага Княства Літоўскага», дзе загаловак кнігі заключаны ў такую ж гірлянду, але цэнтральная ксілаграфія больш складаная, трохчасткавая, уключае выявы двух гербаў — Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, над якімі ўзвышалася асобна выгравіраваная каралеўская карона. Тытульны аркуш Статутаў мае больш складаную гарманічную мастацка-графічную кампазіцыю, асноўным цэнтрам якой з'яўляецца герб «Пагоня».

На адваротным баку тытульнага аркуша першых выданняў надрукавана гравюра на ўсю старонку — паясны «Партрэт Жыгімонта III». Адным з найбольш заўважных мастацка-дэкаратыўных элементаў гэтых кніг з'яўляецца гравюра з выявай герба Л. Сапегі. Раздзелы Статута вылучаны буйнейшым радковым шрыфтам і калонтытуламі, артыкулы — шрыфтам і загалоўкамі.

Мастацкае аздабленне першага выдання, акрамя вялікіх гравюр, уключае адну застаўку (з выявай вазы ў цэнтры) у пачатку прысвячэння Жыгімонту III. Гэта новая ксілаграфія, як устанавіла А. С. Зёрнава, з'яўляецца копіяй застаўкі выданняў кракаўскага друкара Л. Андрысовіча. Тут у канцы кнігі выкарыстаны таксама канцоўкі ў выгля-дзе разгорнутай кветкі і дзве прамавугольныя застаўкі як падвойная канцоўка ў канцы зместу. Аналагічныя

STATUT
WIELKIEGO KSIĘSTWA
LITEWSKIEGO,
TREŚCI KONSTYTUCYI PRZYZWOITYCH.
CZĘSC DRUGA
W SANKT-PETERSBURGU,
W DRUKARNI RZĄDZĄCEGO SENATU.
1811.




застаўкі ёсць у «Астрожскай Бібліі» (1581) І. Фёдарава. У другім варыянце першага выдання Статута ў канцы рэестра надрукавана адна канцоўка. Арнамент застаўкі — раслінны, канцовак — раслінна-геаметрычны. З сямі дошак надрукаваныя сем вялікіх ініцыялаў. Загаловак усёй кнігі і першага раздзела выканаⁿы вяззю. У канцы раздзелаў 6—13 выкарыстаны літы наборны арнамент у выглядзе крыжоў, квадрацікаў, галінак, стручкоў. Падобныя дробныя аздобы сустракаюцца і пасля загалоўкаў раздзелаў. У другім і трэцім выданнях Статута ў арнамент унесены некаторыя


...ТУТЪ
...КНЯЖЕСТВА
...ВСКАГО
...ВВЕДЕНІЕМЪ
...ТАХЪ ССЫЛКИ НА КОНСТИТУЦІИ,
...СОДЕРЖАНІЮ ОНАГО.
...СЪ ПОЛЬСКАГО.
1965 г.
...ВТОРАЯ
...РАЗДѢЛА ДО КОНЦА
Библиотека Ниссона Марковича ХАЗАНОВА.
...КТПЕТЕРБУРГѢ.
...ВИТЕЛЬСТВУЮЩЕМЪ СЕНАТѢ
...1811 г.

змены: ужыты новыя канцоўкі (5 адбіткаў з 3 дошак), наборныя ўпрыгожанні ў выглядзе аднагаловых арлоў (ненумараваны аркуш 40). Трэцяе выданне адрозніваецца ад папярэдніх неаднаразовымі адбіткамі плеценай канцоўкі з дэфектам справа. Дадатковае візуальнае ўражанне стварае выкарыстанне разнастайных шрыфтоў. Напрыклад, у даволі кароткім тэксце прывілея, дадзенага падканцлеру Л. Сапегу Жыгімонтам III на права выдання Статута на польскай і «рускай» (старабеларускай) мовах, можна ўбачыць адразу шэсць шрыфтоў, а таксама  ініцыялы ў рамцы. У кнізе ўжываецца асноўны курсіўны шрыфт, які ўтварае ўражанне рукапіснага пісьма. Гэты шрыфт у 1582 годзе быў адліты для друкарні Мамонічаў Грынем Івановічам, вучнем Фёдарава. Значна радзей для загалоўкаў у Статуце выкарыстоўваўся паўустаў з рысамі курсіўнага пісьма. Двухколерны друк ужыты для вылучэння асобных радкоў на тытульным аркушы ўсіх трох кніг.

Гравюры, змешчаныя ў розных выданнях Статута, адрозніваюцца між сабою і з'яўляюцца важным фактарам іх ідэнтыфікацыі. Напрыклад, на тытульным аркушы другога выдання герб ВКЛ змешчаны пад каронай, а не пад пер'ямі, як у першым. Партрэт караля Польшчы і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III Вазы ў другім выданні паказвае яго больш маладым, чым аналагічны партрэт у трэцім. Польскамоўныя кнігі з друкарні Мамонічаў адрознівае выкарыстанне гатычных шрыфтоў, іншага арнаменту, новых свецкіх ілюстрацый-гравюр (пасяджэнне сейма, радаводнае дрэва). У выданні 1648 года тэкст быў аздоблены гравюрамі з выявай Уладзіслава IV, фамільных гербаў Радзівілаў і Сапег (гравёры В. Гондзіус і І. Лампе).

Мастацкае аздабленне Статутаў ВКЛ адлюстравала характэрныя рысы многіх вялікіх стыляў і культурных эпох еўрапейскага мастацтва. У выданнях на беларускай мове канца XVI стагоддзя можна назіраць рэнесансныя рысы: у кампаноўцы старонак, гармоніі шрыфтоў, сціпласці ці адсутнасці дробных дэкаратыўных элементаў і выкарыстанні вялікіх гравюр. Гатычныя рысы відавочныя ў польскамоўных Статутах з друкарні Мамонічаў першай чвэрці XVII стагоддзя: шрыфты, застаўкі, канцоўкі, афармленне тытульнага аркуша і інш. Барочная пышнасць, якая заўважалася ўжо і ў выданнях гэтай друкарні, асабліва ярка прадстаўлена ў мастацкім аздабленні выданняў гэтага дакумента другой паловы XVII — першай паловы XVIII стагоддзя. Класіцыстычныя строгасць і стройнасць, лаканічнасць мастацкага афармлення можна ўбачыць у выданнях канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Урэшце, як уплыў рамантычных настрояў у грамадстве XIX стагоддзя, узрастання інтарэсу да ўласнага мінулага можна ўспрымаць перавыданне Статута ў 1854 годзе, ужо пасля спынення яго дзеяння, Імператарскім Маскоўскім таварыствам гісторыі і

старажытнасцей расійскіх, прычым на мове арыгінала — старабеларускай. У той жа час мастацкае аздабленне Статутаў Вялікага Княства Літоўскага аказала істотны ўплыў на развіццё кніжнага мастацтва свайго часу.

Праведзены аналіз дазваляе ўпэўнена сцвярджаць, што Статут ВКЛ з'яўляецца надзвычай каштоўным помнікам айчыннай кніжнай культуры. Ён не толькі аказаў вялікі ўплыў на развіццё прававой думкі Беларусі і ўсяго ўсходнееўрапейскага рэгіёна, стварыў спрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай дзяржаўнасці, стаў важным дасягненнем у працэсе развіцця беларускай пісьмовай мовы, але таксама істотна паўплываў на развіццё беларускай кніжнай традыцыі.

Можна выказаць меркаванне, што даследчыкам беларускай кнігі неабходна не толькі звярнуць большую ўвагу на глыбокія навуковыя даследаванні канкрэтных кніжных помнікаў, але на іх падставе больш актыўна рабіць высновы і абагульненні, аксіялагічны аналіз асобных твораў, іх комплексаў і кніжнай спадчыны Беларусі ў цэлым. Тым больш, што ўсё ляжыць, як кажуць, пад рукамі. Кнігазнаўства ў прынцыпе можа быць названа абагульняючай дысцыплінай, паколькі для аналізу кнігі неабходна выкарыстоўваць вынікі даследаванняў і мовазнаўцаў, і літаратуразнаўцаў, і гісторыкаў, і тэолагаў, і правазнаўцаў, і мастацтвазнаўцаў, і іншых спецыялістаў.

Напрыклад, без вывучэння гістарычных рэалій часта складана датаваць твор, устанавіць яго выдаўца ці нават аўтара. Літаратуразнаўчы аналіз помнікаў прыгожага пісьменства, правазнаўчы аналіз даўніх юрыдычных дакументаў, багаслоўскі аналіз твораў царкоўных дзеячаў дазваляе паўнацэнна атрыбутаваць гэтыя творы і вызначыць іх структуру. Мовазнаўчыя даследаванні тэксту часам з'яўляюцца адзіным спосабам вызначэння часу і месца стварэння помніка. Мастацтвазнаўчая характарыстыка графічных элементаў друкаванай ці рукапіснай кнігі таксама з'яўляецца абавязковым элементам яе паўнацэннага апісання. Хімічны аналіз паперы і пергаміну дазваляе зрабіць дакладную дацыроўку неідэнтыфікаваных іншым шляхам рукапісных твораў.

Для многіх навук такой вялікай патрэбы ў інтэграцыі вынікаў даследаванняў іншых навук няма ці, прынамсі, яна істотна меншая. Такім чынам, кнігазнаўства выступае ў ролі комплекснай, інтэгратыўнай навукі і прадугледжвае шматаспектны аналіз кніжных помнікаў. Таму паўнацэнны аналіз кніжнай спадчыны павінен завяршацца не толькі канстатацыяй канкрэтных фактаў з «біяграфіі» асобных выданняў, але таксама і высновамі пра іх значэнне для культуры нашай краіны, а часам і свету.

**Спіс выкарыстаных крыніц**


Ptaszycki, S. Nieco o Trzecim Statucie Litewskim i normach prawnych po nim na Litwie / Stanislaw Ptaszycki. — Lwow: Ossolineum, 1925. — 19 s.

Бардах, Ю. Литовские Статуты — памятники права периода Возрождения / Ю. Бардах // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в.: сб. ст. / пад. рэд. Б. А. Рыбакова — М., 1976. — 360 с. — С. 71—93.

Басюк, І. А. Праблема зацвярджэння Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года соймам Рэчы Паспалітай / І. А. Басюк // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 4, Правазнаўства. Псіхалогія. — 2008. — № 2. — С. 67—70.

Занеўскі, С. В. Лёс Статута Вялікага Княства Літоўскага 588 г. (1772—1840 гг.) / С. В. Занеўскі // Леў Сапега (1557—1633 гг.) і яго час: зб. нав. арт. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы; рэд.: С. В. Марозава і інш. — Гродна, 2007. — С. 346—350.

Карнацкая, В. І. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года — выдатны помнік прававой і палітычнай культуры беларускага народа: метад. рэкамендацыі / В. І. Карнацкая. — Мінск: МДМІ, 2000. — 13 с.

Кніга Беларусі (1517—1917) = Книга Белоруссии (1517—1917): зводны каталог / склад.: Г. Я. Галенчанка і інш., нав. рэд.: С. Х. Александровіч і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 614, [1] с.

Лазутка, С. Лев Сапега и Третий Литовский Статут / С. Лазутка // Леў Сапега (1557—1633 гг.) і яго час: зб. нав. арт. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы; рэд.: С. В. Марозава і інш. — Гродна, 2007. — С. 79—85.

Праневіч, Г. М. Леў Сапега і Берасце: нараджэнне Літоўскага Статута 1588 года / Г. М. Праневіч // Веснік Брэсцкага універсітэта. Серыя філалагічных навук. — 2009. — № 2. — С. 43—51.

Пташицкий, С. Л. К истории литовского права после третьего статута / С. Л. Пташицкий. — Санкт-Петербург: Типография В. С. Балашева и К°, 1893. — 31 с.

Статут Великаго княжества Литовскаго с подведением в надлежащих местах ссылки на конституции,приличныя содержанию онаго / Пер.с пол. В. Г. Анастасевич. — СПб., 1811. — Ч.1-2.

Статут Великого Княжества Литовского 1529 года / Академия наук Белорусской ССР, отдел правовых наук. — Минск: Издательство Академии наук БССР, 1960. — 253 с.

Статут Великого князьства Литовского 1588 года — Москва: б. и., 1854? — [4], XII, 24, 382 с., [1] л. факсим.

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі — Мн.: Бел. сав. энцыкл. імя П.Броўкі, 1989. — 570, [3] с.

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529 года — падмурак развіцця беларускай дзяржаўнасці і канстытуцыяналізму (да 480-годдзя прыняцця): зб. нав. арт.; пад рэд. С. А. Калініна і інш. — Мн.: РІВШ, 2009. — 139 с.

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 года / Т. І. Доўнар, У. М. Сатолін, Я. А. Юхо. — Мінск: Тэсей, 2003. — 250, [1] с.

Цітавец, А. І. Невядомы спіс Трэцяга статута Вялікага Княства Літоўскага / А. І. Цітавец // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі: зб. нав. прац; адк. за выпуск Суша К. В. — Мінск, 1995—2010. — Вып. 12. — С. 6—13.

Чудаков, М. Ф. Становление и развитие конституционного процесса в Беларуси (1447—1996 гг.): автореф. дисс. доктора юрид. наук: 12.00.02 / М. Ф. Чудаков — Минск, 2009. — 40 с.

Юхо, І. А. Крыніцы беларуска-літоўскага права / І. А. Юхо. — Мінск, 1991. — 236, [2] с.

Юхо, Я. А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі: вучэб. дапаможнік. — Мінск: Універсітэцкае, 1992. — 270 с.

Юхо, Я. А. Статуты Вялікага княства Літоўскага / Я. А. Юхо // Полымя. — 1966. — № 11. — С. 125—137.

**Таццяна Карнілава**

# Брацкае кнігадрукаванне — выдавецкая дзейнасць праваслаўных брацтваў у XVI-XVIII стагоддзях

***Артыкул-канспект***

Пасля Люблінскай уніі 1569 года асабліва актуальнай стала праблема захавання беларускай культуры. Пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года абвастрылася рэлігійная палеміка. У барацьбе за рэлігійныя і сацыяльныя інтарэсы праваслаўныя гараджане аб'ядноўваліся ў царкоўныя брацтвы, якія з цягам часу станавіліся асяродкамі патрыятычных сіл. Брацтвы складаліся ў асноўным са свецкіх людзей і звычайна ствараліся пры цэрквах ці манастырах, а фінансавыя сродкі атрымліваліся імі з уступных і членскіх узносаў. Ужо ў канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя брацтвы існавалі ва ўсіх значных гарадах. Іх дзейнасць была накіравана супраць акаталічвання, уніі і пратэстантызму.

**Стварэнне Віленскага брацтва**

Віленскае брацтва першапачаткова называлася Свята-Троіцкім. Яго стварэнне было звязана з перадачай у 1584 годзе каралеўскай граматай віленскага ў імя Святой Троіцы мужчынскага манастыра пад апеку праваслаўных чальцоў Віленскай гарадской рады. У 1587 годзе мітрапаліт Анісіфар блаславіў пры царкве Святой Троіцы «братство церковное иметь». Канстанцінопальскі патрыярх Іерамія II, калі ў чэрвені 1588 года наведаў Вільню, замацаваў уласнай пячаткай «Чын» брацтва. У гэтай грамаце братчыкам загадвалася мець друкарню і школу з вывучэннем моў. Польскі кароль Жыгімонт III Ваза ў 1589 годзе зацвердзіў карпарацыю братчыкаў і даў ёй права самакіравання, а праз тры гады вызваліў ад выплаты гарадскіх павіннасцей і падаткаў брацкую школу.

Пытанні, звязаныя з арганізацыяй брацкага кнігадрукавання, разглядаліся на Брэсцкіх царкоўных саборах (1590, 1591, 1594). Праваслаўным брацтвам удалося адстаяць магчымасць выдаваць кнігі рознага зместу.

**Склад і маёмасць**

Першапачаткова большую частку братчыкаў складалі рамеснікі, пазней жа сюды ўваходзілі і дваране. Па «Рэестры» 1584 года віленскае брацтва налічвала 371 чалавека. У 1591 годзе яно набыло дом і атрымала ў якасці ахвяравання ад мяшчаніна Кандратовіча суседні будынак. Дзве пабудовы злучылі, а потым адкрылі школу. У 1593 годзе князь А. Палубенскі адпісаў брацтву «на вечные времена» дом і надзел зямлі. Яшчэ адзін будынак яно атрымала па завяшчанні купца П. Сніпкі. У гэтых памяшканнях абсталявалі лякарню, багадзельню і друкарню.

**Выкладчыкі**

У 90-я гады XVI стагоддзя ў школе працавалі знакамітыя браты Лаўрэнцій і Стэфан Зізаніі (Стэфан быў яе рэктарам да 1596 года і прапаведнікам), а таксама вядомы багаслоў і філосаф Кірыл (Транквіліён-Стаўравецкі). Выкладчыкам латыні і грэчаскай мовы быў Логін Лявонцій (Карповіч). Ён жа працаваў у брацкай друкарні друкаром і карэктарам, з 1614 года стаў архімандрытам Свята-Духавага манастыра.

За адносна невялікі перыяд (1595—1596) пад кіраўніцтвам Стэфана Зізанія друкарня выпусціла не менш як адзінаццаць выданняў. Сярод іх наступныя: «Казанье Кирилла, патриарха иерусалимского, об антихристе» (1596), «Грамматика словенска» Л. Зізанія (1596), «Наука ку читаню и розуменю писма словенского…» (Азбука) Л. і С. Зізаніяў (1596), а таксама «Книга о вере» (1596), «Молитвы повседневные» (1596), Псалтирь (2 выданні, 1595, 1596), Часоўнік (1596), Часоўнік з Букваром (1596), Новы Запавет с Псалтыром (каля 1596).

**Выданні**

У друкарні актыўна выдаваліся кнігі братоў Зізаніяў. «Казанье Кирилла, патриарха иерусалимского, об антихристе» (1596) — палемічны твор Стэфана Зізанія. У аснову тэкста пакладзена павучанне Кірыла Іерусалімскага, айца царквы, які жыў у IV стагоддзі, з каментарыямі аўтара. У творы, які неаднаразова перавыдаваўся ў Маскве і быў асабліва папулярны сярод старавераў.

У наступных выданнях выкарыстоўваліся дошкі віленскай друкарні Францыска Скарыны (застаўкі, ініцыялы ў рамках). Гэта, напрыклад,



арыгінальны твор братоў Зізаніяў «Наука ку читаню и розуменю писма словенского…» (Азбука) (1596). Асноўныя раздзелы кнігі — Азбука і Лексіс (слоўнік з перакладам царкоўнаславянскіх слоў на «простый русский диялект») і кароткі Катэхізіс. Арнаментыка Скарыны ўжывалася таксама ў кнізе «Молитвы повседневные» (1596), што змяшчаюць асноўныя малітвы, правілы да прычашчэння, канон Андрэя Крыцкага, малітвы на ўвесь тыдзень Кірылы Тураўскага, саборнік.

Пасля Брэсцкай уніі 1596 года большасць архірэяў Кіеўскай мітраполіі перайшла ва ўніяцтва, уніяцкімі сталі таксама прыхадскія цэрквы. Па распараджэнні уніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея ў кастрычніку 1599 года быў закрыты прыдзел Троіцкага храма, які належаў віленскаму брацтву. У 1597 годзе братчыкі

**Перамены пасля Брэсцкай уніі**

пабудавалі недалёка ад гэтага храма драўляную царкву ў гонар Сашэсця Святога Духа. Каля 1600 года Свята-Духаў храм стаў брацкім, і брацтва з таго часу называлася Свята-Духавым.

Іншая частка братчыкаў прыняла уніяцтва, якое было зацверджана каралём 20 студзеня 1608 года. Яны атрымалі ўсю брацкую маёмасць і засталіся ў Троіцкім манастыры.

Да 1609 года ўсе праваслаўныя храмы Вільні, за выключэннем Свята-Духава, перайшлі ва

**«Адказ на з'едлівае складанне…»**

ўніяцтва. Адным з накірункаў дзейнасці віленскага брацтва было процістаянне уніі. У 1608 годзе ім быў апублікаваны ананімны твор на польскай мове «Αντίγραφη, albo Odpowiedź na script uszczupliwy, przeciwko ludziom starożytney religiey graeckiey od apostatów Cerkwie Wschodniey wydany» («Адказ на з'едлівае складанне, надрукаванае адрачэнцамі ад Усходняй Царквы супраць народа старой грэцкай веры»). У выданні аспрэчваліся дзве брашуры, выдадзеныя прыхільнікам уніі Іпаціем Пацеем супраць віленскага брацтва і праваслаўных людзей.

У 1610 годзе ў друкарні быў выдадзены антыкаталіцкі і антыўніяцкі твор Мялеція (Сматрыцкага) «Θρήνος, to jest Lament, iedyney ś. powszechney apostolskiey Wschodniey Cerkwie, z obiaśnieniem dogmat wiary» («Плач адзінай святой саборнай апостальскай царквы, з тлумачэннем дагматаў веры»).

**Перамены пасля 1610 года**

У друкарні правялі вобыск, знішчылі шрыфты, Лявонцій (Карповіч) і некаторыя друкары былі адпраўлены ў турму. На нейкі час дзейнасць друкарні спынілася, але затым князь Б. Агінскі, адзін з чальцоў брацтва, перанёс яе ў свой маёнтак Еўе (сучасны Вевіс, Літва). У 20-я гады XVII стагоддзя брацкая друкарня ў Вільні аднавіла сваю дзейнасць.

**Выданні Еўя і Вільні**

У 10—30-я гады XVII стагоддзя ў друкарнях Еўя і Вільні выдавалася літургічная, павучальная і вучэбная літаратура: Новы Запавет з Псалтыром (Еўе, 1611; Вільня, 1623), Малітвы паўсядзённыя (Еўе, 1615), Малітвеннік, або Трэбнік (Вільня, 1618), Псалтыр (Вільня, 1621, 1623, 1627, 1631), Паўустаў, або Трэбнік (Вільня, 1622; Еўе або Вільня, 1637-1640), Трэбнік (Вільня, 1624, 1628), Анфалагіён (Еўе, 1613) і інш.

Брацтва выпусціла найбольш поўную граматыку царкоўнаславянскай мовы «Грамматики славенския правилное синтагма» (Евье, 1619). Выходзілі спецыяльныя кнігі для манастырскай брацііі — «Кінавіён» (Еўе, 1618) і «Вертаград душэўны» (Вільня, 1620).

**Фікара Святагорац і «Вертаград душэўны»**

«Вертаград душэўны» («Сад душевный») па сваім змесце — вытрымкі з твораў святога Яфрэма Сірына, якія дапаўняюцца асабістымі разважаннямі інака Фікары Святагорца. Сюды акрамя малітваў увайшлі «Канон Параклiта» і «Малітва Святому Духу Максіма Грэка». Фікара Святагорац — загадкавая постаць, манах гары Афон, імя якога амаль нідзе не ўжываецца. Кніга пачынаецца прадмовай «К праверному читателю от архимандрита Леонтия Карповича». Выданне аздоблена гравюрай з выявай свяціцеля Васілія Вялікага, тытульным лістом з выявамі прарока Іллі і Іаана Хрысціцеля, Сашэсця Святага Духа, Успення Багародзіцы. У паказальніку «Кніга Беларусі» ўлічана 16 яго асобнікаў. Пазней гэта віленскае выданне ўвайшло ў састаў Брашна духоўнага (Куцейна, 1639). Сама кніга Фікары Святагорца перавыдавалася ў 1899 годзе ў Маскве, а таксама друкавалася праваслаўнымі выдавецтвамі ў сучаснай графіцы ў XXI стагоддзі.

У Еўі выдаваліся знакамітыя пропаведзі архімандрыта Лявонція (Карповіча): «Казание двое: одно на Преображение Господа Бога и Спаса нашего Исуса Христа, другое на Успение Пречистое и Преблагословенное Владычицы нашое Богородицы Приснодевы Марии» (Еўе, 1615).

У 1620 годзе патрыярх Іерусалімскі Феафан IV аднавіў заходнерускую праваслаўную іерархію. Сярод кандыдатаў на пасаду архірэя быў і архімандрыт Лявонцій Карповіч. Аднак з-за хваробы ён не паехаў у Кіеў, а пазней спачыў. У архіепіскапа Полацкага быў пасвячоны Мялецій Сматрыцкі. У лістападзе 1620 года ён узначаліў віленскае брацтва. Служыў у манастыры, пасвячаў сяшчэннікаў і дыяканаў, што выклікала пратэсты з боку ўніятаў. 22 сакавіка 1621 года быў выдадзены каралеўскі універсал супраць новапастаўленых праваслаўных епіскапаў. У апраўданне праваслаўных архіепіскап напісаў сачыненне «Veryficatia niewinności» («Апраўданне нявіннасці»), якое было выдадзена брацтвам у 1620 годзе. Пачалася актыўная палеміка на рэлігійнай глебе. Пазіцыю праваслаўнага боку абараняў архіепіскап Мялецій. З 1623 года віленскае брацтва ўзначаліў рэктар брацкай школы Іосіф (Бабрыковіч).

**«Апраўданне нявіннасці»**

У 1648 годзе брацкая друкарня спыніла сваю працу, а праз сто гадоў, у 1749 годзе, згарэла царква ў гонар Святога Духа і карпусы брацкай школы. Пасля гэтай сумнай падзеі заняткі ў школе ўжо не аднавіліся. Пасля Трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Вільня ўвайшла ў склад Расійскай імперыі, і Віленская губерня стала часткай Мінскай епархіі. Мінскі архіерэй прыняў Свята-Духаў манастыр пад сваё кіраванне. Віленскія братчыкі палічылі, што гэта ўшчымляе іх правы. Яны звярнуліся са скаргай у Свяцейшы Сінод, але яна не была задаволеная, і брацтва перастала існаваць.

**Спыненне дзейнасці**

У сувязі з неабходнасцю ўмацавання праваслаўя мітрапалітам Літоўскім Іосіфам (Сямашкам) брацтва было адноўлена ў 1865 годзе. Чальцамі яго сталі праваслаўныя архірэі, прадстаўнікі ўлады, а таксама расійскія дзяржаўныя і грамадскія дзеячы. У канцы 1894 года быў зацверджаны новы статут арганізацыі. Старшынёй рады і апекуном брацтва з'яўлялся кіруючы архірэй Літоўскай і Віленскай епархіі. 20 студзеня 1895 года адбылася значная падзея — адкрыццё брацкай друкарні. Да 1909 года ў ёй было выдадзена больш за сто кніг. У 1907—1916 гады два разы на месяц выходзіў «Вестник виленского Свято-Духовского братства».

**Аднаўленне дзейнасці**

Апошнім апекуном і старшынёй рады брацтва быў архіепіскап Літоўскі, будучы патрыярх Маскоўскі Ціхан.

## Літаратура

Кніга Беларусі (1517—1917) = Книга Белоруссии (1517—1917): зводны каталог / склад.: Г. Я. Галенчанка, Т. В. Непарожная, Т. К. Радзевіч ; нав. рэд.: С. Х. Александровіч, Н. Б. Ватацы, І. П. Хаўратовіч. — Мінск : БелСЭ, 1986. — 614 с. — С. 17.

Шлевис, Г. П. Виленское православное Свято-Духовское братство / Г. П. Шлевис // Православная энциклопедия: в 43 т. / под ред. Патриарха Московского и всея Руси Алексия II. — М.: Православная энциклопедия, 2000. — Т. 8: Вероучение — Владимиро-Волынская епархия. — 2004. — С. 480.

Кніга Беларусі (1517—1917) = Книга Белоруссии (1517—1917): зводны каталог / склад.: Г. Я. Галенчанка, Т. В. Непарожная, Т. К. Радзевіч; нав. рэд.: С. Х. Александровіч, Н. Б. Ватацы, І. П. Хаўратовіч. — Мінск : БелСЭ, 1986. — 614 с. — С. 74.

Шлевис, Г. П. Виленское православное Свято-Духовское братство / Г. П. Шлевис // Православная энциклопедия в 43 т. / под ред. Патриарха Московского и всея Руси Алексия II. — М.: Православная энциклопедия, 2000. — Т. 8: Вероучение — Владимиро-Волынская епархия. — 2004. — С. 481.

Кніга Беларусі (1517—1917) = Книга Белоруссии (1517—1917): зводны каталог / склад.: Г. Я. Галенчанка, Т. В. Непарожная, Т. К. Радзевіч; нав. рэд.: С. Х. Александровіч, Н. Б. Ватацы, І. П. Хаўратовіч. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 614 с. — С. 94.

Шлевис, Г. П. Виленское православное Свято-Духовское братство / Г. П. Шлевис // Православная энциклопедия: в 43 т. / под ред. Патриарха Московского и всея Руси Алексия II. — М.: Православная энциклопедия, 2000. — Т. 8: Вероучение — Владимиро-Волынская епархия. — 2004. — С. 482.

**Анатоль Галушка**

# Трымайся, чаромха…

Спачатку пачуў, а потым і ўбачыў шпака.

Ён сядзеў ля старой шпакоўні, чорна-ліловы, бліскучы, і асцярожна, няўпэўнена падбіраў мелодыю.

І сэрца забілася часцей, заспявала, засвістала і зацвіркала яму ў падтрымку.

«Вясна-а-а-а-а-а-а! — хацелася крыкнуць ва ўсе грудзі. — Людзі, спыніцеся, азірніцеся, вясна ж прыйшла!»

А людзі бягуць, спяшаюцца па сваіх справах, і здаецца, зусім не бачаць, не адчуваюць гэтага харaства, не чуюць гэтай песні.

А можа, і чуюць, бачаць, радуюцца. Ды спыніцца няма калі — справы, турботы…

Кожны год, кожную вясну пад маім акном зацвітае чаромха. І кожны раз я радуюся гэтаму відовішчу, як дзіця радуецца, атрымаўшы новую прыгожую цацку, як быццам бачу гэта ўпершыню.

І нічога, што чаромха старая і крывая, што на месцы зрэзанай некалі галіны з'явілася цёмная пашча дупла. Нічога. Гэта бачна толькі тады, калі пажухне і абляціць апошні лісток.

А калі яна зацвітае, становіцца маладой прыгожай нявестай, якая да таго ж надушылася дарагой французскай парфумай і сама радуецца сваёй захапляльнай прыгажосці.

Убачыш, удыхнеш — і адыходзяць, знікаюць некуды праблемы, крыўды, сум. І хочацца быць, жыць, радавацца і дзяліцца гэтай радасцю з усімі…

А гэтай вясной у дупле чаромхі пасяліліся шпакі.

І не высока зусім, і дарога побач, а іх гэта не спыніла, не напалохала.

Мая чаромха, некалі даўно пасаджаная маімі рукамі, стала родным домам, жыллём для цэлай шпачынай сям'і.

Вось і адцвіла чаромха, сняжынкамі абсыпаліся белыя пялёсткі кветак, але цяпер, толькі расплюшчыўшы вочы, я пачынаю сачыць за дуплом.

І радуюся, усміхаюся кожны раз, калі прылятае ліловы шпак і корміць некага з дзюбы, глыбока ныраючы ў дупло…

Трымайся, чаромха, бо з гэтага часу ў цябе з'явілася яшчэ адна місія на гэтай зямлі!

Ілюстрацыя Надзеі Савельевай.



**Айцец Аляксандр Богдан**

# Ці старамодная цнатлівасць?



Падчас навучання ў семінарыі мы, студэнты, арганізавалі для выхаванцаў аднаго дзіцячага дома двухдзённы лагер у лесе ў намётах. Адным ранкам я прыйшоў у лагер, і семінарысты, якія перадавалі мне дзяжурства, прызналіся, што недагледзелі. Не ўсачылі за тым, як адна дзяўчынка схітрылася з адным хлопчыкам «пераспаць».

Мяне гэта шакіравала. Пасля я перадаў свае абурэнні аднаму студэнту:

— Ды як яны так могуць? Проста, як жывёлы!

— А паспрабуй ім, не спасылаючыся на Евангелле і святых айцоў, патлумачыць, што так рабіць не варта.

Адказаць мне тады не было чаго.

Сапраўды, ідзе ж масавая прапаганда свабоды «кахання». Навязваецца яно і праз СМІ, і праз песні, і праз кіно, і іншымі спосабамі.

Гэта ўсё ўжо не новае. На пачатку мінулага стагоддзя, адразу пасля рэвалюцыі, карысталася вялікай папулярнасцю тэорыя «шклянкі вады». Сутнасць яе ў тым, што заняцца сексам гэтаксама натуральна, як выпіць шклянку вады. Праз нейкі час савецкія ідэолагі заўважылі, што такі светапогляд не тое што не карысны, але і шкодны для дзяржавы і грамадства. Ленін, да прыкладу, так выказваўся: «Канечне, смага патрабуе наталення. Але хіба нармальны чалавек пры нармальных умовах ляжа на вуліцы ў бруд і будзе піць з лужыны? Або нават са шклянкі, краі якой заплямленыя дзясяткамі вуснаў?» Тады вярнуліся да разумення здаровай сям'і і да таго, што секс магчымы толькі паміж мужам і жонкай.

Сучасная моладзь, канечне, не можа памятаць таго, што было стагоддзе таму. Маладому чалавеку хочацца паспрабаваць у жыцці ўсё. У выніку ён наступае на тыя ж самыя граблі, на якія і продкі. І вось перад людзьмі старэйшага пакалення ўзнікае пытанне: як пакаленню падрастаючаму растлумачыць, што цнатлівасць зусім не старамодная з'ява?

Мне ўспомніўся ўрывак з фільма «Адвакат д'ябла». Там д'ябал кажа галоўнаму герою: «Ваш Бог здзекуецца над людзьмі. Ён даў вам палавы інстынкт і кажа, што нельга. Ён глядзіць на вас і смяецца». Быццам лагічна і правільна.

Прыцягненне да асобы супрацьлеглага полу закладзена ў нас Богам, і Ён жа даў нам запавет: «Не пралюбадзейнічай». Але ці сапраўды Бог смяецца?

Уявіце некалькі дзяцей адной маці. У старэйшага дзіцяці дзень нараджэння, прыйшлі госці, прынеслі вялізны торт. Ніхто не здагадаўся, што ў малодшага дзіцяці цукровы дыябет. Маці строга забараняе яму есці торт. Хіба мама кажа яму гэта, каб пасмяяцца? Так і Бог — ведае, што нам будзе больш карысна, калі мы не будзем сляпа падпарадкоўвацца інстынкту. Толькі Бог у адрозненне ад маці з прытчы даў нам яшчэ і волю свае інстынкты кантраляваць.

На самай справе сляпое падпарадкаванне сексуальнаму прыцягненню ў моладзі ідзе часцей ад бездухоўнасці (не блытайце духоўнасць з рэлігійнасцю). Вельмі добра прыкмеціў свяшчэннік Аляксандр Яльчанінаў, які жыў на мяжы XIX — XX стагоддзяў: «Пры наяўнасці багатага псіхічнага жыцця сексуальная сфера ў значнай ступені ператвараецца ў энергію эстэтычнага, маральнага і іншага парадку. Але калі няма гэтага, як у большасці еўрапейскай моладзі, дык застаецца чыстае свінства, якое само, наадварот, паглынае нават слабыя іскры іншых, больш высокіх праяў».

Мы ж не імкнёмся пазбавіць нашу моладзь нейкіх радасцей і задавальненняў. Тым больш ніхто не заклікае ўсё жыццё берагчы нявіннасць. Проста хочацца засцерагчы маладых ад памылак, якія яны могуць зрабіць ад нявопытнасці.

Жыццё можна параўнаць з дарогай, якая не заўсёды гладкая шаша, яна можа быць і горнай камяністай сцежкай. І як пераход цераз горы лепш ажыццяўляць з правадніком, так і па жыцці больш надзейна ісці, прыслухоўваючыся да тых, хто крочыць наперадзе.

Няхай для моладзі ні Біблія, ні святыя айцы, ні проста свяшчэннікі не маюць асаблівага аўтарытэту. Але мо ўсё ж варта прыслухацца да тых, хто не проста прайшоў шлях, але годна яго прайшоў? Дэмакрыт, да прыкладу, казаў: «Горшае, што нясе маладосць, — легкадумнасць. Бо апошняе нараджае тыя задавальненні, з якіх вырастае загана». Сухамлінскі папярэджваў: «З гадамі ўтвараецца пустата і расчараванне ў тых маладых людзей, дзяцінства і сталенне якіх было бяздумным задавальненнем патрэб». Кант пісаў: «Малады чалавек, палюбі працу; адмаўляй сабе ў задавальненнях не для таго, каб адмовіцца ад іх назаўсёды, але для таго, каб больш мець іх у перспектыве! Не затупляй успрыманне іх дачаснай асалодай!»

Калі ж моладзь палічыць гэтых людзей бязглуздымі, вырашыўшы, што яны не пакаштавалі сексуальнай разнастайнасці, застаецца яшчэ адзін козыр. Давайце паслухаем, што кажа чалавек, дасведчаны ў сексе. Прапаную звярнуцца да прастытутак. Адна з іх вядзе дзённік у інтэрнэце. Вось што яна там піша: «Секс, нават самы ашаламляльны, ніколі не заменіць нам гарачых абдымкаў раніцай і халодных пятак у цёплым ложку перад сном. Ніколі не заменіць ранішняй кавы, зваранай каханым чалавекам, і пацалунка ў нос пасля працы. Не заменіць халоднага ручніка на гарачым ілбе падчас грыпу і цёплых рукавічак, у якія можна засунуць яшчэ адну руку. Не заменіць клопатаў і цёплых шчырых усмешак. Секс — гэта проста секс, а выпадковы каханак раз на месяц — гэта нават не сябра, гэта так, неабходны для падтрымання жыццёвага тонусу элемент, кшталту аспірынавай таблеткі ў час пахмелля. Ён быццам аблягчае нам жыццё ў зусім ужо цяжкія моманты, але ніколі не робіць нас больш шчаслівымі».

Мяркую, многія маладыя людзі дазволілі пераканаць сябе ў тым, што сексуальная стрыманасць шкодная для здароўя. Тут трэба ўспомніць Зыгмунда Фрэйда. Ён вучыў не толькі таму, што сексуальная энергія назапашваецца ў падсвядомасці і патрабуе выйсця, але і пра тое казаў, што яе можна сублімаваць у сацыяльна-прымальныя формы. Адзін з відаў сублімацыі — праца, як фізічная, так і інтэлектуальная. Недарэмна Кант заклікаў палюбіць працу…

Чаму я напісаў гэты артыкул? Бо мне не без розніцы, якая наша моладзь. Мне зусім не падабаецца, калі маладым людзям паказваюць чорнае і называюць яго белым. Лічу, што калі па вуліцы ідзе голы кароль (як у казцы Андэрсена), то і трэба казаць, што ён голы.



**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Віцебская вобласць, Сенненскі раён, вёска Пламя.
Сядзібны дом Свяцкіх, 1816 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

## ТолкІНфаграфік

**1** каханне на ўсё жыццё: сустрэўшыся з Эдыт Брэт у 16 гадоў, зразумеў, што знайшоў сваю адзіную

**2** сусветныя вайны перажыў – і ўсёй душой ненавідзеў войны

**3** студзеня святкуе дзень нараджэння

**4** дзяцей выхаваў – траіх сыноў і дачку

**5** балаў (дакладней, «чыстую альфу», г.зн. «выдатна») Дж.Р.Р. атрымаў па параўнальным мовазнаўстве ў Оксфардзе

**6** месца займае ў спісе «50 лепшых брытанскіх пісьменнікаў з 1945 года» (па версіі газеты The Times)

**7** гадоў прайшло паміж задумай «Хобіта» і выхадам кнігі

**∞** таямніц у яго кнігах




